XXI стагодзьдзе

бібліятэка Свабоды

Юры Дракахруст

# сем худых гадоў




радыё свабода

**Юры Дракахруст. СЕМ ХУДЫХ ГАДОЎ.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2014. 406 с.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*

Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

Кнігу складаюць 63 блогі аналітыка Радыё Свабода Юрыя Дракахруста, якія зьявіліся на сайце svaboda.org у 2008–2014. Гэтыя тэксты – хроніка бягучых падзеяў і адначасна — спроба разгадаць загадкі беларускай будзённасьці, вызначыць сэнсы таго, што адбываецца, прадбачыць трэнды пераменаў. Да большасьці блогаў дададзеныя дыскусіі, якія вяліся зь іх нагоды наведнікамі сайту Свабоды, а таксама — пазьнейшая ацэнка прагнозаў аўтара.


FOL
ISBN 978-0-929849-68-3

# Зьмест

## Без варажбы

Жанр гэтай кнігі Юры Дракахруст вызначыў як «будучыня ў мінулым». Ня менш дакладнай будзе і адваротная формула, мінулае ў будучыні, якое аўтар шукаў у беларускай будзённасьці апошніх сямі гадоў.

Клясычнае вызначэньне жанру гэтай кнігі — палеміка. Гэта асьвечаны традыцыяй эўрапейскай крытычнай думкі пошук не кансэнсусу ці перамогі, а ісьціны, калі ініцыятыва ў выбары тэмы, навязваньне свайго сцэнару, месца і часу спрэчкі завяршаецца доказным, як тэарэма, і нечаканым, як гіпотэза, аргумэнтам.

Нобэлеўскі ляўрэат фізык Нільс Бор, які цытуецца ў кнізе, казаў, што экспэрт — гэта чалавек, які зрабіў усе магчымыя памылкі ў нейкай вузкай галіне ведаў.

Юры Дракахруст — не экспэрт. Ня толькі таму, што галіны яго ведаў пры ўсім жаданьні не назавеш вузкімі, ад альгебры і францускай палітычнай думкі да беларуска-расейскага *schadenfreude* і ўкраінскай трагедыі, якая разгортвалася адначасна з напісаньнем першай часткі гэтай кнігі.

Мы маем справу з унікальным выпадкам экспэрымэнтальнай паліталёгіі, калі кожнае дасьледаваньне завяршаецца бязьлітасным позіркам у люстэрка рэальнасьці. Гэта можна зрабіць толькі калі падзеі вычарпалі сваю непасрэдную лёгіку і формы мінулага становяцца бачнымі. Так пішуцца энцыкляпэдыі, бібліі і іншыя практычныя дапаможнікі.

Кожны блог у кнізе сканчаецца постскрыптумам «Хто меў рацыю»: 21 раз аўтар, 8 апанэнты, у 34 выпадках вынік яшчэ не вядомы ці невядома, што лічыць вынікам.

Нільс Бор выказаў гіпотэзу «дадатковых велічыняў» у дачыненьні да пазнаньня жывых арганізмаў і сыстэмаў: чым больш дакладна вымяраецца адна зь іх, тым больш няпэўнай становіцца другая. Чым больш дакладна мы намагаемся ўведаць, як жыве арганізм, тым больш разьбіраем цэласны фэномэн на асобныя элемэнты і ў выніку губляем сам прадмет.

Аўтар «Сямі худых гадоў» выпрабоўвае рэчаіснасьць на цэласнасьць як назіральнік, які рухаецца разам з падзеямі і таму можа ігнараваць прынцып няпэўнасьці. Ён не абвяргае Бора, а ідзе далей за яго. Яго дадатковыя велічыні ўключаюць у сябе ня толькі ідэі, але і інтарэсы, ня толькі людзей, але і структуры, ня толькі прэцэдэнты, але і гісторыю.

Як вымярэньні ўплываюць на месцазнаходжаньне электронаў, так і напісаныя тэксты ўплываюць на тых, хто чытае, хто выбірае і каго выбіраюць. А таксама — на таго, хто піша.

І тады з-пад клявіятуры матэматыка паводле адукацыі («матэматык ня той, хто любіць матэматыку, а хто ўмее рашаць задачы»), альгебраіста паводле спэцыялізацыі («нуль роўны нулю»), аналітыка паводле прызваньня («вайна — і скачок і вынік эвалюцыі»), палітоляга паводле рэпутацыі («вар'яцтва — часам самая рацыянальная палітыка») раптам зьяўляюцца вызначэньні сына паэта паводле нараджэньня:

«Гісторыю немагчыма сплянаваць», «Няма ніякіх братоў, ёсьць толькі трафэі», «Ніколі не азначае ніколі» і, як прызнаньне рэлятыўнасьці даступнага інструмэнтарыя, самаіранічнае тлумачэньне алягічнай сытуацыі: «Сапраўды чорт варожыць».

Галоўнае тут — «варожыць». Варажыць — ня толькі адгадваць будучыню ці мінулае, ня толькі здагадвацца і прадказваць, але і, як вучаць слоўнікі, па-майстэрску, падобна чараўніку, працаваць над нечым. Напрыклад, над гэтай кнігай.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

## УКРАІНСКАЕ ЛЮСТЭРКА

- Перад кім адказвае Майдан?
- Гітлер ці Вільгельм II?
- Сардэчна запрашаем у XIX стагодзьдзе
- Пострэвалюцыйная Ўкраіна: запрашаем у пустыню рэальнасьці
- Вандэя ўкраінскай рэвалюцыі
- Усходнеславянскія італьянцы, альбо Бардак ці парадак
- Пра адзінства беларусаў
- «Руская бомба» ў Беларусі

27.02.2014

## Перад кім адказвае Майдан?

Ня сёньня было сказана, што галоўнае пытаньне любой рэвалюцыі — гэта пытаньне пра ўладу. Калі гаварыць пра сучасную Ўкраіну, то здаецца якое такое пытаньне пра ўладу? Часовы ўрад сфармаваны, праз два месяцы — прэзыдэнцкія выбары, усе рэгіёны (ну, можа, акрамя Крыму) так ці інакш прызналі новую ўладу. Але нават і ў больш спакойныя часы фармальная і фактычная ўлада — зусім розныя матэрыі. Часам рэчыва ўлады выпетрываецца, пакідаючы бясьсільны муляж. А ў рэвалюцыю і пагатоў.

Асаблівасьць рэвалюцыі — гэта тое, што пытаньне пра ўладу падчас яе вырашаецца не праз працэдуру, не праз закон, а праз наўпроставае палітычнае сутыкненьне. «Вінтоўка нараджае ўладу» — як адзначаў Мао. Ну, мо ня толькі: кулак, аўтарытэт, мабілізаванасьць прыхільнікаў. Але ў любым выпадку — сіла, здольнасьць прымусам ці страхам дамагчыся выкананьня сваёй волі. На час фармальны ўладны статус і выбарчы бюлетэнь ня маюць значэньня. Больш за тое — як правіла, той, хто перамог у гэтай наўпроставай барацьбе, потым і выйграе выбары. Народ проста адчувае вынік гэтай барацьбы і галасуе за пераможцу, калі яго, народ, папросяць сваё меркаваньне выказаць. А могуць і не папрасіць. Ці зрабіць зь яго воляй, як бальшавікі з Устаноўчым сходам: «Караул устал».

З гэтага пункту гледжаньня галоўная праблема новага ўраду (і шырэй — новых уладаў) — гэта Майдан. Падобныя сытуацыі ў гісторыі ня проста бывалі, яны амаль што непазьбежныя. Хто абіраў Якабінскі клюб падчас Францускай рэвалюцыі 1789-1793 гадоў? Хто і як абіраў Саветы ў Расеі у 1917 годзе (якія, дарэчы, не былі вынаходніцтвам бальшавікоў і напачатку не бальшавікі ў іх вялі рэй)? Аднак нефармальнай, але рэальнай уладай на пэўных этапах адпаведных рэвалюцый былі менавіта гэтыя інстытуты. Як казаў Рабэсп'ер, «я не лісьлівец, не валадар, не трыбун, не абаронца народу, я сам — народ».

І на самой справе стрыжнем палітычнага працэсу ва Ўкраіне ўжо робіцца канфлікт паміж палітычнымі партыямі, статуснай палітычнай супольнасьцю і Майданам. Паміж партыямі кампраміс у пэрспэктыве можа і скласьціся, іх з Майданам — не. Знакамітыя сотні, сілы самаабароны Майдану — гэта міліцыя ў яе першасным, а не эсэсэсэраўскім значэньні — ваенізаваныя атрады пэўнай палітычнай сілы. Пакуль ня будзе адноўленае адзінства дзяржаўнай волі і найперш — манаполія дзяржавы на гвалт, ні пра рэформы (добрыя ці кепскія), ні пра барацьбу з карупцыяй, ні пра нармальнае функцыянаваньне эканомікі і пра хоць нейкую сыстэму кіраваньня размовы проста ня будзе.

Прычым, тут справа ня ў тым, што каму падабаецца і што падабаецца, у прыватнасьці, мне. Калі спадару Ярашу ці каму зь іншых рэальных лідэраў Майдану па плячы (па галаве :)) кепка Леніна ці капялюш Кромвэля — значыць, «бутафорыя» ў выглядзе Вярхоўнай Рады і сыстэмных партыяў будзе проста зьмеценая, дзяржаўныя сілавыя

структуры расфармаваныя ці разагнаныя, а новыя — створаныя якраз на базе тых сотняў і сілаў самаабароны. Ужо якое вялікае шчасьце будзе ад таго ўкраінскаму народу — пытаньне спрэчнае, але варыянт магчымы. Прычым, менавіта гэта будзе сапраўднай рэвалюцыяй, зломам усёй прынамсі палітычнай сыстэмы краіны. Але пры гэтым важны чыньнік — двоеўладзьдзе будзе зьліквідаванае, Майдан пераможа ўсіх і стане адзінай уладай.

Шчыра кажучы, больш імаверным уяўляецца іншы варыянт — сыстэмныя партыі і палітыкі перамогуць Майдан. Міліцыя Майдану будзе расфармаваная — сілай ці «абдымкамі», уключэньнем яе ў дзяржаўныя сілавыя структуры, але з вывядзеньнем з падпарадкаваньня яе цяперашнім камандзірам. Формулы — Майдан патрабуе, Майдан не дапусьціць, урад зацьвярджаецца на Майдане — зьнікнуць з украінскага палітычнага ўжытку як кепскі (ці прыўкрасны — для каго як) сон. Людзі, якіх рэвалюцыя вынесла наверх, часам распраўляюцца са сваімі менш пасьпяховымі паплечнікамі куды больш рашуча, чым мог дазволіць сабе «злачынны рэжым», які яны дружна разам скідалі. Так бывала, прынамсі.

Можна марыць і спадзявацца, што той або іншы варыянт адбудзецца мірна. Хаця гісторыя гэтага, мякка кажучы, не гарантуе. Адзінае, што ўяўляецца зусім неймаверным — што цяперашняе двоеўладзьдзе праіснуе працяглы час.

І справа тут не ў асабістым стаўленьне майданаўцаў і статусных палітыкаў адных да адных, не ў эмоцыях ці сантымэнтах. Лёгіка рэвалюцыі і лёгіка кіраваньня дзяржавай тут проста не пакідае выбару.

## Камэнтары:

**Змагар з рэжымамі:** Юры Дракахруст: «Шчыра кажучы, больш імаверным уяўляецца іншы варыянт — сыстэмныя партыі і палітыкі перамогуць Майдан.»
Гэта ключавое казанне ў артыкуле! Бо пасля Майдану зноў будзе Рада, прэзідэнт, Суд, СМІ... і карупцыя. А таксама Закон і Беззаконне. То бок усё наша чалавечае, то бок нам не чужое. За што бароліся — на тое й узвялі.
**Нацдэм:** таварыш З., такое адчуваньне што вы ўвогуле сэнсу ня бачыце ў жыцьці, усё адно мы ўсе памром
**Вінцэнт:** Якімі ўсё ж шчыльнымі радамі заселі на беларускай службе радыё «Свабода» так званыя «аналітыкі» (Валер Карбалевіч, Юры Дракахруст і іншыя), якія яшчэ да завяршэння глыбінных працэсаў Майдану на Украіне па-сутнасці яго ўвесь час бэсцяць, дыскрэдытуюць (прытым у асноўным неабгрунтавана, паколькі, акрамя ўсяго іншага, фактычна яшчэ ні адзін чалавек нават не загінуў ад рук майданаўцаў) і, такім чынам, выступаюць прамымі апалагетамі Януковіча, Лукашэнкі і ім падабных беспрынцыпных, маральна разбэшчаных дыктатараў, якія трымаліся (і трымаюцца) ля ўлады толькі па-сутнасці на штыках сілавых структур?!

## Хто меў рацыю?

**Украіна страціла Крым, пытаньне з Данбасам ня вырашанае. На прэзыдэнцкіх выбарах аглушальную перамогу атрымаў адзін зь лідэраў Майдану другога шэрагу Пятро Парашэнка. Кансалідацыя ўлады ва Ўкраіне пакрысе адбываецца, чаму парадаксальным чынам спрыяе і вайна на ўсходзе краіны, якую немагчыма весьці міліцыйнымі фармаваньнямі. У цэлым структуры перамаглі вуліцу.**

08.03.2014

## Гітлер ці Вільгельм ІІ?

Ну вы зразумелі, пра каго пытаньне. Але, здаецца, якое тут пытаньне — закляйміць агрэсара трэба як мага больш моцна. Які такі Вільгельм, хто пра яго памятае? Аднак, а калі справа ня ў тым, як гучней закляйміць, а калі выбар, усьведамленьне каштуе мільёнаў жыцьцяў людзей на Зямлі?

Ёсьць вядомае выслоўе — генэралы рыхтуюцца да мінулай вайны. Калі прыходзіць новая, то яна аказваецца не падобнай на мінулую. Кажуць, што сьвет не абрынуўся ў бездань у 1962 годзе з тае выпадковай прычыны, што прэзыдэнт Джон Кенэдзі прачытаў кнігу амэрыканскага гісторыка Барбары Такман «Жнівеньскія гарматы». У ёй Такман бліскуча апавядае пра д'ябальскі палітычны вір, які ўцягнуў сьвет у Першую сусьветную вайну. Гэта была вайна, якой ніхто не хацеў. Прынамсі, ніхто не хацеў такой вайны.

І Кенэдзі скарыстаў гэты сумны досьвед падчас Карыбскага крызісу, калі сьвет як ніколі быў блізкі да ядзернага апакаліпсісу. Досьвед не азначаў, што трэба банальна капітуляваць, ён азначаў, што ня трэба дэманізаваць ворага, трэба даваць яму шанец захаваць твар і ўлічваць яго інтарэсы. Кенэдзі адмовіўся ад прапановы вайскоўцаў разбамбаваць савецкія пускавыя ўстаноўкі на Кубе нават тады, калі «зялёныя чалавечкі» зьбілі над Кубай амэрыканскі самалёт-разьведчык, ён адмовіўся ад прапановы тапіць савецкія караблі, якія везьлі на Кубу новыя ракеты, Кенэдзі пагадзіўся вывесьці ядзерныя ракеты з Турэччыны, якія, праўда, амэрыканцы нібыта зьбіраліся адтуль прыбраць і да крызісу.

У выніку Кенэдзі выйграў, ну прынамсі выйграў больш (ці прайграў менш), чым Хрушчоў.

А вось цікава — а калі б Кенедзі прыняў Хрушчова за Гітлера, калі б будаваў паводзіны на падставе досьведу ня Першай, а Другой сусьветнай вайны, то што б было? Ну, можа, выглядаў бы больш гераічна. Але ня выключана, што мы б ня мелі магчымасьці гэта ацаніць, бо мы, нашы бацькі ці бацькі бацькоў тады ж, у 1962 годзе, сталі б попелам.

Пуцін — Гітлер? Тады варта не гуляцца ў салдацікі ў ФБ, надзімаць жарсьці, а маліцца перад хуткай сьмерцю. Бо выбар тады просты: або войскі Пуціна ў хуткім часе выйдуць на заходнюю мяжу Ўкраіны, а можа, пойдуць і далей, або значная частка чалавецтва, у тым ліку і ўдзельнікаў цяперашніх спрэчак, згарыць у полымі ядзернай вайны. Гітлер пляваў на любыя санкцыі, ён хацеў сусьветнага валадараньня і хацеў вайны, каб крывёй (у тым ліку і немцаў) «змыць ганьбу 1918 году». У 1935 годзе, калі яшчэ слабы вэрмахт уваходзіў у Рэйнскую вобласьць, яго яшчэ магла стрымаць пагроза ўжываньня сілы, у 1938 годзе ён ужо не баяўся пагрозаў — зь ім можна было толькі не ваяваць ці ваяваць. Не было б Мюнхэну, вайна б пачалася тады ж, у 1938-м. А як бы яна склалася — у рэале году да 42-га фінал быў невідавочным.

І, дарэчы, калі б у яго была бомба, то ён наўрад ці вагаўся б яе ўжыць. Перад сьмерцю ён казаў, што нямецкі народ аказаўся ня вартым яго, і таму гібель гэтага народу будзе справядлівай. Дык што б стрымала яго ад гарантаванага ўзаемнага зьнішчэньня, калі б ён меў такую магчымасьць? У Пуціна бомбаў хапае. Калі ён Гітлер, варта рыхтавацца да капітуляцыі або сьмерці. Можа, гонар

і патрабуе не капітуляваць, але цана супраціву менавіта такая.

Падаецца, што калі карыстацца нямецкімі гістарычнымі аналёгіямі, то Пуцін куды больш падобны на апошняга нямецкага імпэратара Вільгельма II — чалавека малапрыемнага, пыхлівага, апантанага ідэяй *Machtpolitik*, але палітыка ня надта буйнога ва ўсіх сэнсах і зусім не макабрычнай пачвары, якой быў Гітлер. «Зялёныя чалавечкі», вайна, на якой за тыдзень нікога не забілі — гэта ня гітлераўскі стыль.

Але сьвет абрынуўся ў Першую сусьветную не ад д'ябальскай моцы адной асобы, а наадварот — ад слабасьці ўсіх удзельнікаў гульні. Сышлі Бісмарк, Дызраэлі, Аляксандар III, якія маглі дамаўляцца, бо былі моцныя. Прыйшлі такія — сярэдняга гатунку, кшталту як цяпер. А на гэта яшчэ наклалася тое, што Артэга-і-Гасэт назваў «паўстаньнем масаў».

Манархі мінулых часоў маглі ваяваць і мірыцца, але ім нават у галаву не прыходзіла, што гэтыя рашэньні залежаць ад некага, акрамя іх. Паварочваць палітыку на 180 градусаў маглі і таталітарныя ўладары: да 22 чэрвеня 1941 году СССР, які для нацысцкай Нямеччыны быў амаль два гады калі не саюзьнікам, то партнэрам, у гэты дзень стаў ворагам. І нічога — ніхто ў Нямеччыне пытаньняў не задаваў.

А ў 1914-м было інакш. Нават паўаўтарытарныя манархіі (Нямецкая, Аўстра-вугорская і Расейская) былі вельмі чуйныя да грамадзкай думкі. Ліпеньскі крызіс, спароджаны забойствам эрц-герцага Фэрдынанда, сам па сабе пакідаў нешырокі калідор магчымасьцяў яго мірнага вырашэньня. Але была яшчэ і грамадзкая думка, якая перакрыла яго цал-

кам. Бо грамадзкая думка рыхтуецца да мінулай вайны ў яшчэ большай ступені, чым генэралы. Ды яна і не рыхтуецца, яна наагул ня думае, хай і называецца думкай.

«Тэўтонскія барбары, бошы», «лягушатнікі», «руская азіяцкая арда» — прыкладна такой мовай нянавісьці гаварылі 100 гадоў таму адно пра аднаго насельнікі аднаго кантынэнту. «Што напішуць газэты, што скажа вуліца, калі мы праявім слабасьць, калі мы адступім?» — казалі сабе слабыя ўладары у Санкт-Пецярбургу, Вене, Бэрліне, Парыжы і Лёндане.

Я не спадзяюся, што гэты блог прачытаюць Пуцін, Абама ці Турчынаў. Але, магчыма, яго прачытаюць звычайныя людзі, якія ўсьвядомяць, што іх узаемнай нянавісьцю да «тых нелюдзяў» выбудоўваецца цяпер дакладна такі самы д’ябальскі вір, які «бездакорна» спрацаваў 100 гадоў таму, зачыняецца нешырокі калідор, у якім апэруюць гэтыя зусім не тытаны.

У мяне ў крымскім крызісе ёсьць уласнае меркаваньне, хто ў ім мае рацыю, а хто не. Аднак ужо ў 1915 годзе ў бакоў узьнікла ўсьведамленьне, што падстава, якая здавалася надзвычай важнай ў ліпені 1914 году, ня вартая тых мільёнаў людзей, якія на той час ужо загінулі. Але менавіта гэтыя мільёны загіблых і зрабілі немагчымым палавіністае пагадненьне ў стылі мінулых стагодзьдзяў, вайна аказалася ня той, якой уяўлялася ў ліпені 1914-га, і ўсе былі вымушаныя працягваць гэтую татальную вайну да татальнага зьнішчэньня ворага. Д’ябальская машына працягвала працаваць.

«Дык што — патураць, капітуляваць, даравацьǃ?» — спытае чытач. Не. Кенэдзі не капітуляваў.

Але ён правільна вызначыў, хто яму супрацьстаіць і досьвед якой вайны дарэчны ў ягонай сытуацыі. Ён памятаў пра заходнюю ганьбу Мюнхэну, але і пра агульнаэўрапейскую ганьбу 1914 году памятаў таксама.

А звычайным людзям, гэтак як і ўладарам думак — расейцам, украінцам, амэрыканцам, заходнеэўрапейцам, ну й беларусам таксама — парада адно не разьдзімаць полымя нянавісьці, не раўсьці — «любой ценой». 100 гадоў таму таксама раўлі пра «любую цану». І яе менавіта і заплацілі.

Тая вайна пачалася з забойства нашчадка аўстра-вугорскага пасаду. У выніку вайны пасад разам з самой імпэрыяй зьнік як такі. І яшчэ дзьве імпэрыі — туды ж. І менавіта з вайны, як ні парадаксальна, пачаўся заняпад пераможцаў у ёй — Францыі і Вялікабрытаніі — як вялікіх дзяржаваў. Што пазьней у XX стагодзьдзі стала відавочным.

Прыгадваюцца словы Мао Цзэдуна: «Калі ў час вайны загіне палова чалавецтва, гэта не мае значэньня. Калі сапраўды выбухне атамная вайна, не так ужо гэта дрэнна, у выніку загіне капіталізм і на зямлі запануе вечны мір». Рызыкну паправіць клясыка: запануе не вечны мір, а кітайскі сьвет — Pax Sinica. Прычым кітайцам не давядзецца асабліва нічога рабіць. Круглавокія ідыёты ўсё зробяць самі. Кітайцы проста прыйдуць і зоймуць законнае месца адзіных пераможцаў.

## Хто меў рацыю?

**На шчасьце, сьвет у выніку крымскай апэрацыі РФ не абрынуўся ў сусьветную вайну. Захад зрабіў выбар на карысьць санкцыйнай палітыкі,**

**эфэкт якой можа праявіцца праз працяглы час. Анэксія Крыму стала не прызнаным, але фактам, які адбыўся. Глябальная стабільнасьць захавалася, далучэньне Крыму да Расеі і падрыўная дзейнасьць Масквы ва ўкраінскім Данбасе спарадзіла новую «халодную», але не гарачую вайну.**

**18.03.2014**

## Сардэчна запрашаем у XIX стагодзьдзе

Прэзыдэнт Расеі ў сваёй прамове з нагоды далучэньня Крыму спасылаўся на досьвед Косава. Але Косава не было далучанае ні да воднай заходняй краіны, яму забаранілі далучацца нават да Альбаніі. Крым далучаецца да Расеі ў якасьці яе рэгіёну. Нагадаю, гэта тое, што 12 гадоў таму Пуцін прапаноўваў Беларусі.

Да таго ж, даволі злавесна прагучалі словы Пуціна наконт таго, што паўднёвыя і ўсходнія рэгіёны Ўкраіны былі незаконна далучаныя да Ўкраіны бальшавікамі. Ён, праўда, агаварыўся, што Расея, акрамя Крыму, больш ні на што ва Ўкраіне не прэтэндуе.

Параўноўваць цяперашнюю палітыку Расеі з палітыкай Гітлера ў 30-х гадах — можа і кепскі тон, ёсьць істотныя адрозьненьні. Але пасьля анэксіі Судэтаў нацысцкі ўрад заяўляў, што больш ні на што не прэтэндуе. Празь некалькі месяцаў пасьля гэтых заяваў вэрмахт заняў усю тэрыторыю Чэхіі, далучыўшы яе да Трэцяга Рэйху.

Абхазію і Паўднёвую Асэтыю можна было палічыць ізаляваным эпізодам. Цяпер вымалёўва-

ецца пэўная тэндэнцыя. Папросту кажучы, хто наступны? І што можа стрымаць гэты марш Расеі?

Пакуль Захад увёў толькі пэрсанальныя санкцыі адносна пары дзясяткаў расейскіх палітыкаў і ўрадоўцаў. Гэтыя санкцыі выглядаюць ня надта сур'ёзнымі, асабліва ў сьвятле санкцый, пад якімі знаходзіцца ўжо 3 гады афіцыйны Менск. Лукашэнка сілай разагнаў маніфэстацыю, пасадзіў некалькі дзясяткаў чалавек. У яго пад санкцыямі каля 200 чалавек, уключна зь ім самім. Расея анэксавала ладны кавалак тэрыторыі іншай дзяржавы, на якім жыве 2 мільёны чалавек. Пад санкцыі патрапіў ажно (!) 21 чыноўнік.

Аднак неабавязкова, што Захад па змаўчаньні праглыне анэксію Крыму. Ужо шмат хто адзначыў, што палітыка Пуціна — гэта вяртаньне ў XIX стагодзьдзе. Можа, гэта з гонарам прызнаў бы і сам прэзыдэнт Расеі, маўляў, прэч сьвет міжнароднага права, у якім найвышэйшы судзьдзя — Злучаныя Штаты. Але варта прыгадаць, што XIX стагодзьдзе было стагодзьдзем шматлікіх войнаў. Так, тады ня надта клапаціліся пра міжнароднае права і ўнівэрсальныя прынцыпы. Але вельмі клапаціліся пра бясьпеку, пра захаваньне сілавога балянсу. Ёсьць пэўны сымбалізм у тым, што Пуцін гаварыў сваю прамову ў дзень, калі ў 1856 годзе скончылася Крымская вайна, якую Расея прайграла.

Адказ можа быць не прамым, але істотным. Калі Захад палічыць Расею небясьпечным ворагам, можна чакаць паступовага скарачэньня гандлю, у тым ліку і імпарту расейскіх энэрганосьбітаў, закрыцьця доступу Расеі да сучасных тэхналёгіяў, прасоўваньня інфраструктуры НАТО бліжэй да межаў Расеі, у тым ліку і ва Ўкраіну, росту (нарэшце) вайсковых

выдаткаў у краінах Эўразьвязу, якія апошнія гадоў 10 іх увесь час скарачалі.

І матыў — не парушэньне міжнароднага права, матыў — пагроза, якую ўяўляе сабой Расея, якая дазваляе сабе анэксаваць тэрыторыі суседзяў і канчатковыя мэты якой незразумелыя.

Пра гэта, дарэчы, ў разгар крызісу вакол Крыму гаварыў старшыня Аб’яднанага камітэту начальнікаў штабоў ЗША генэрал Марцін Дэмпсі, паводле яго «калі дазволіць Расеі ўрывацца ў сувэрэнныя дзяржавы, матывуючы гэта абаронай этнічных расейцаў, пад пагрозай дэстабілізацыі апынецца ўся Ўсходняя Эўропа і Балканы».

Вялікабрытанія і Францыя ў 1854 годзе абвясьцілі вайну Расеі не таму, што яна парушыла міжнароднае права, а таму, што ўбачылі ў яе дзеяньнях пагрозу бясьпецы ў Эўропе і Азіі. Сардэчна запрашаем у XIX стагодзьдзе.

Доўгатэрміновыя наступствы гэтай геапалітычнай зьмены для Беларусі — тэма асобнай размовы. Але цяпер перад афіцыйным Менскам наўпроставы выклік — прызнаньне або непрызнаньне пашырэньня межаў саюзьніка.

Хутчэй за ўсё, беларускія ўлады будуць усяляк пазьбягаць прамога адказу. Нагадаю, што месяц таму сам Лукашэнка, а тры тыдні таму ягоны міністар замежных справаў Уладзімер Макей казалі пра прыхільнасьць тэрытарыяльнай цэласнасьці Ўкраіны. Цяпер гэтая цэласнасьць відавочным чынам парушаная. Зь іншага боку, паколькі Расея ўключыла Крым у свой склад, то прызнаваць Расею ў Беларусі ня мае патрэбы, яна і так яе прызнае. Мяркую, што будуць вылучацца нейкія такія аргумэнты, каб не патрапіць пад яшчэ больш глыбокую

ізаляцыю, а тое і санкцыі. Магчыма, для Беларусі ўзорам будзе рэакцыя Кітаю, які ўстрымаўся ў Радзе бясьпекі ААН пры галасаваньні рэзалюцыі аб незаконнасьці крымскага рэфэрэндуму. Тым ня менш, у Пуціна ў яго прамове знайшлося добрае слова на адрас Пэкіну.

Размовы пра выклікі сусьветнаму сьветапарадку суправаджаюць хіба што кожны буйны міжнародны крызіс. Але ў дадзеным выпадку, асабліва калі глядзець на рэакцыю Захаду, зьмена правілаў, паводле якіх жыве сьвет, сапраўды адбываецца.

Параза СССР у «халоднай вайне» ня скончылася ніякім глябальным пагадненьнем, якое б вызначала месца і ролі пераможцаў і пераможаных, новы парадак усталяваўся па змаўчаньні. Менавіта яму Расея і кідае выклік. Якім будзе новы? Прыгадваецца, што ўсе мінулыя — Вэстфальскі мір, Венскі кангрэс 1814 году, Вэрсальскі мір, Ялта-Патсдам — усталёўваліся па выніках вялікіх войнаў.

## Камэнтары:

**Шелудивая Масса**: Краем глаза глянул на выступление Путина — и неожиданно ощутил, как где-то глубоко шевельнулась этакая державная гордость. Как же легко скатиться до патриотизма! Хоть и знаешь, и понимаешь все эти методы воздействия тёмных на нижние чакры — непросто устоять от гипноза через коллективное бессознательное. Сразу дошло, почему в России из ностальгии по СССР смогла подняться мутная волна шовинизма. Не превратилась бы она в цунами...

## Хто меў рацыю?

**Вяртаньне сьвету ў XIX стагодзьдзе ў пэўным сэнсе сапраўды адбылося: санкцыі адносна Расеі, хай пакуль і ня надта моцныя, пляны павелічэньня ваенных выдаткаў эўрапейскіх краінаў НАТО, праекты памяншэньня энэргетычнай залежнасьці ад Расеі, падтрымка Захадам Украіны — усё гэта нагадвае эўрапейскую практыку XIX стагодзьдзя, калі супраць дзяржавы, якая парушала эўрапейскую раўнавагу, утваралася кааліцыя дзяржаваў, гатовых гэтую раўнавагу абараняць. Аднак тады эўрапейскія кангрэсы, што адбываліся пасьля буйных канфліктаў, усталёўвалі новы балянс сілаў, цяпер адсутнасьць такога інстытуту робіць сытуацыю больш небясьпечнай: ніхто ня ведае, дзе спыніцца Расея, і яна сама ня ведае гэтага.**

**02.04.2014**

## Пострэвалюцыйная Ўкраіна: запрашаем у пустыню рэальнасьці

Паводле апошняга апытаньня, праведзенага ва Ўкраіне чатырма паважанымі дасьледнымі цэнтрамі, найбольшыя шанцы на перамогу на заплянаваных на 25 траўня прэзыдэнцкіх выбарах мае палітык і бізнэсовец Пятро Парашэнка. За яго гатовы прагаласаваць кожны чацьверты ўкраінец, рэйтынгі галоўных яго канкурэнтаў на момант правядзеньня апытаньня — Віталя Клічка і Юліі Цімашэнкі — не дацягвалі і да 10%, а цяпер, пась-

ля таго, як Клічко зьняў сваю кандыдатуру на карысьць Парашэнкі, шанцы апошняга на перамогу павялічыліся яшчэ больш.

Зразумела, за амаль што два месяцы народныя настроі могуць істотна зьмяніцца, дый пасада прэзыдэнта паводле новай украінскай Канстытуцыі — зусім не такая паўнаўладная, як была пры Януковічу. Справа не ў прагнозе, а ў канстатацыі — хто ж аказаўся кумірам пострэвалюцыйнай Украіны.

На словы, што час Гаўлаў і Валэнсаў на постсавецкай прасторы мінуў, многія крыўдзяцца. Але вось жа Парашэнку ня Пуцін на танку прывёз. Рэвалюцыйны народ выбірае. Існуюць жа альтэрнатывы — лідэры ўплывовых палітычных партый, якія ў вачах многіх увасаблялі Майдан, харызматычная Юлія Цімашэнка, бліскучыя прамоўцы, бясстрашныя самаадданыя героі Майдану — на любы густ.

А чаму ж аказаўся больш да спадобы «шакалядны кароль»?

Справа нават не ў багацьці Парашэнкі, а ў ягоным пакручастым палітычным шляху. «Банду — гэць!» — было галоўным лёзунгам Эўрамайдану. Дык усяго 2 гады таму наш герой быў далёка не апошнім чалавекам у гэтай самай «бандзе», міністрам эканамічнага разьвіцьця ва ўрадзе Азарава. А у 2000 годзе Пятро Парашэнка быў адным са стваральнікаў той самай Партыі рэгіёнаў, якая да ўцёкаў Януковіча была палітычным апірышчам прэзыдэнта.

Так, было ў біяграфіі Пятра Парашэнкі і іншае: пасварыўся з Кучмам, перайшоў на бок Ючшанкі, пры дапамозе свайго «5 каналу» інфармацыйна падтрымліваў першы Майдан, займаў высокія па-

сады пры прэзыдэнце Юшчанку, пасьля 2012 году, сышоўшы зь міністраў ва ўрадзе Азарава і расплявaўшыся зь Януковічам, перайшоў у апазыцыю, стаў лідэрам Эўрамайдану «другога эшалёну», так бы мовіць.

Гэта ўсё — зусім не ў якасьці дакору палітыку, менш за ўсё хочацца строіць зь сябе маральнага судзьдзю. Гэта да таго, што калі ранейшая ўлада і цягнула на ролю «князёў цемры» адно ў своеасаблівым рэвалюцыйным псыхалягічным стане, то цяперашні кумір рэвалюцыйных масаў на ролю бескампраміснага «воіна сьвятла» ня цягне ніяк. Прычым, усе апісаныя вышэй крутыя павароты палітычнага шляху Парашэнкі ні для кога ва Ўкраіне не сакрэт, «бачили очі, що купували», як там кажуць.

Ці азначае сказанае, што Парашэнка стане Януковічам-2? Не, зусім не. Справа ня ў тым, што жыла-была мілая эўрапейская краіна, прыйшоў Януковіч — паручык Ржэўскі — «и все опошлил». Алігархічная сыстэма асабліва не зьмянялася ва Ўкраіне з часоў здабыцьця незалежнасьці, Януковіч спрабаваў парушыць яе «паняцьці» — не балянсаваць паміж існымі алігархічнымі кланамі, а стварыць уласны і падмяць пад сябе астатніх. За што і паплаціўся. Парашэнка такую памылку ня зробіць. Будзе дзейнічаць строга па «паняцьцях». Як казаў цар Аляксандар I пасьля забойства ягонага бацькі Паўла I: «Пры мне ўсё будзе, як пры бабулі». Вось так прыкладна і будзе.

Ніякіх асаблівых жахаў і рэйдэрства, але і ніякіх скачкоў «з царства неабходнасьці ў царства свабоды». Ну, можа, красьці крыху менш будуць. Але, здаецца, не кардынальна менш. Карупцыя ў

постсавецкіх краінах — гэта ж не маральная хіба асобных кепскіх чыноўнікаў, гэта асаблівасьць самой «тканіны» грамадзкага быцьця, «клей», які склейвае соцыюм у адзінае палітычнае цэлае, у нацыю, калі заўгодна. Дарэчы, прызначэньне алігархаў Сяргея Таруты губэрнатарам Данеччыны, а Ігара Каламойскага — Днепрапятроўшчыны — яскравы таму доказ.

Можна ня верыць розным кампраматным сайтам, не падзяляць рэакцыю Пуціна наконт Каламойскага («самога Абрамовіча абдурыў»), але тое, што ня Гаўлы абодва, неяк зразумелым падаецца без глыбокіх дасьледаваньняў. Але пра чысьціню і дэалігархізацыю прыгожа казаць на Майдане. А калі ў тваіх руках ня толькі ўлада, але і адказнасьць, а тут яшчэ і «зялёныя чалавечкі» ў Крыме, і Ўсход гарыць, то зразумела, што на самыя небясьпечныя ўчасткі кідаюць людзей з рэальным аўтарытэтам. Рэальных аўтарытэтаў, словам. А няма вось іншых. У марах ёсьць, у рэальнасьці няма.

Гэтак і ў выбары Парашэнкі ўкраінскі народ дэманструе той самы рэалізм. Так, адзін зь лідэраў Майдану, але не галоўны, таму такі, які з Майданам ня цалкам атаясамліваецца, які да таго ж быў наверсе і да Майдану. І быў бы і без Майдану.

Тое, што Парашэнка — лідэр нацыянальнага рэйтынгу, сьведчыць, што Майдан быў справай не адно «западэнцаў-бандэраўцаў», на ўсходзе Ўкраіны «майданавец» Парашэнка, дарэчы, таксама першы. Але выбар на карысьць менавіта Парашэнкі дэманструе, што словы пралетарскага гімну «дашчэнту, а потым...» — зусім ня тое, чаго хоча ўкраінскі народ у цэлым.

Дарэчы, яшчэ адно забаўнае назіраньне. Калі Юлію Цімашэнку прызначалі прэм’ерам у 2005 годзе, яна абяцала прынесьці беларусам крыху «аранжавай» рэвалюцыі. Недзе праз год прэзыдэнт Юшчанка стаў хіба што самым пасьлядоўным лабістам Лукашэнкі на міжнароднай арэне. Пасьля сёлетняй перамогі Эўрамайдану галасы пра тое, што тыраніі ў Расеі і Беларусі наступныя, гучалі таксама. Тут і месяца не спатрэбілася, каб кіраўнік рэвалюцыйнай Украіны Турчынаў паехаў да тырана-Лукашэнкі. Хуценька так.

Беларусь шмат у чым ад Украіны адрозная, ва Ўкраіне ўлада зьмянілася, у Беларусі зьмена — прадмет мараў адных і страху іншых. Парадокс, але чым большая дыстанцыя ад гэтых мараў да рэальнасьці, тым больш у тых марах сабе можна дазволіць: а ў нас гэта будзе вельмі прыгожа. Але чым карысны, апроч усяго іншага, украінскі як рэвалюцыйны, гэтак і пострэвалюцыйны досьвед, дык гэта напамінам, што менавіта посьпех, перамены — гэта сардэчнае запрашэньне ў пустыню рэальнасьці.

## Камэнтары:

**Вось:** Што сказаў аўтар? — Што Гаўл не быў прадпрымальнікам, а быў пісьменнікам. Што Парашэнка безумоўны злодзей, бо фабрыкант? Што Парашэнка нахапаў і запусціў прадпрыемства, дзякуючы карупцыі? Што каб не пасварыўся з Януковічам, то і не дапамагаў бы Майдану? Што майданаўцы падобныя на бальшавікоў, якія паставілі на поўнае зьнішчэньне сістэмы расейскай улады ў спадзеве на сусьветную «пралетарскую» рэвалюцыю? Бальшавікі ж толькі на гэта спадзяваліся — на германскую рэвалюцыю, найперш..

А калі майданаўцы не бальшавікі і не абалваненыя бальшавікамі будаўнікі камунізму, то рэальнасьць — пустыня?
А хацець звычайнага — як у Еўропе і ў астатнім свеце, дзе не было бальшавіцкага рабства — гэта нішто?
**НД:** «Але чым карысны, апроч усяго іншага, украінскі як рэвалюцыйны, гэтак і пострэвалюцыйны досьвед, дык гэта напамінам, што менавіта посьпех, перамены — гэта сардэчнае запрашэньне ў пустыню рэальнасьці.»
Ну, па ўсіх правілах логікі, вывад з гэтай сэнтэнцыі можна зрабіць толькі адзін: калі не хочаце апынуцца ў пустыне рэальнасці, то нечага імкнуцца да пераменаў, а таму лепей сядзець і не высоўвацца.
Дзякуй за такі напамін пра «карысны досвед», але здаецца мне, што «клей», якім карыстаецца Дракахруст, склейваючы свае думкі, нам беларусам не падыходзіць ні па складу, ні па тэрміну прыдатнасці.
**George:** Политический процесс при капитализме уже давным-давно превратился в симуляцию. На Украине это просто видно, поскольку надстройка скудновата либо отсутствует вообще. Можно заменить партии, президентов, но всё равно страной будет править большой капитал. Люди, майданы приходят и уходят, а отовсюду торчат уши олигархов. Именно они будут решать, как стране развиваться и как будут распределятся доходы. Ну а остальное — лозунги, флаги и т.д. — погремушки для планктона.
**Вінцэнт:** Юры Дракахруст! Ды не» запрашайце» вы і не палохайце нас, беларусаў, «пустыняй рэальнасці», якая нібыта наступіла ў «пострэвалюцыйнай Украіне», паколькі гэтая «пустыня рэальнасці» ўжо існуе ў Беларусі, дзе цэны на асноўную частку тавараў і прадуктаў харчавання — еўрапейскія, а заробкі — беларускія. І гэта адчуванне, мабыць, абвострыцца ў бліжэйшы час, паколькі некалькі дзён таму ў Беларусі сталі свабоднымі цэны на ялавічыну і свініну. Так што і без рэвалюцыі ў нашай краіне ўжо большасць насельніцтва жыве дрэнна, і хутчэй за

ўсё толькі пасля рэвалюцыйных падзей, падобных на ўкраінскія, адхілення ад улады Лукашэнкі становішча можа нейкім чынам палепшыцца і з'явіцца хоць нейкая надзея ў беларускага народа на лепшую будучыню.

## Хто меў рацыю?

**Пятро Парашэнка трыюмфальна перамог на прэзыдэнцкіх выбарах 25 траўня 2014 году. Па першых кроках новага кіраўніка Ўкраіны цяжка меркаваць, якім будзе яго «цараваньне», якія менавіта рэформы ён зьбіраецца правесьці. Эканамічныя праблемы апынуліся ў цені працягу канфлікту ў Данбасе, які пасьля абраньня прэзыдэнта ня страціў сваёй вастрыні, хаця Масква і адмовілася ад тэзы аб нелегітымнасьці ўкраінскай улады.**

**14.04.2014**

## Вандэя ўкраінскай рэвалюцыі

Крым, на жаль, як той казаў, праехалі. Ужо нават кандыдаты ў прэзыдэнты Ўкраіны кажуць, што ў агляднай будучыні вярнуць яго немагчыма. Зразумела, гэта не азначае, што Расеі захоп будзе дараваны — санкцыі, уведзеныя супраць яе, захаваюцца, а вялікая перабудова палітыкі Захаду адносна Расеі, выкліканая гэтай анэксіяй, яшчэ наперадзе.

Але там усе чыньнікі — ад ваенных да дэмаграфічных — былі супраць Украіны. Акрамя таго,

анэксія Крыму асабліва небясьпечная як прэцэдэнт, трэнд. Вось цяпер і вызначаецца, трэнд гэта ці не.

З крымскім захопам у бягучых падзеяў ёсьць пэўнае падабенства. Расейскія дывэрсанты, расейская зброя, расейскія грошы ў забурэньнях на ўсходзе Ўкраіны адыгрываюць безумоўна далёка не апошнюю ролю. Але зводзіць усю справу да іх — недарэчна і неразумна.

Мітынгоўцы вакол урадавых будынкаў у Луганску ды Данецку — пераважна мясцовыя, міліцыянты, якія адмаўляюцца выконваць загады Кіева на падаўленьне беспарадкаў і чапляюць на формы георгіеўскія стужкі, таксама не з Расеі прысланыя.

Расейскія дывэрсанты, якія дзейнічаюць на ўсходзе Ўкраіны — хлопцы, зразумела, прафэсійныя і спрактыкаваныя, але чамусьці яны ня едуць дэманстраваць свае здольнасьці ў Львоў ці Кіеў. І зразумела чаму. Там бы ім супрацьдзейнічалі ўсе — і сілавікі, і цывільнае насельніцтва. Ну а на ўсходзе Ўкраіне — ня ўсё супрацьдзейнічае, мякка кажучы.

І ня дзіўна. За каго галасаваў той самы Данбас на апошніх прэзыдэнцкіх выбарах амаль аднадушна? За Януковіча. І падтрымка яго да ўцёкаў менавіта ў Данецкай і Луганскай абласьцях была максымальнай. А дзе Эўрамайдан меў найменшую падтрымку на ўсім працягу свайго існаваньня ажно да яго перамогі? Ізноў там жа. Ну дык чаму ж зьдзіўляцца?

Зь іншага боку парадаксальным чынам хваляваньні на ўсходзе Ўкраіны — у пэўным сэнсе працяг Майдану. Калі карыстацца аналёгіяй часоў Францускай рэвалюцыі XVIII стагодзьдзя, дык

Вандэя пры каралі не вызначалася ніякай асаблівай грамадзкай актыўнасьцю. Менавіта рэвалюцыя ў Парыжы разбудзіла гэты ціхі рэгіён Францыі. І Вандэя сказала сваю слова. Зусім не такое, як Парыж, адваротнае, але сваё. Ціхія сяляне ўзялі вілы і паўсталі «за Бога і караля» супраць сталічных «бязбожных узурпатараў». Усё паўтараецца.

Праўда, у Францыі не было свайго «старэйшага брата». Але ўся манархічная Эўропа імкнулася тады зьнішчыць рэжым тагачасных парыскіх турчынавых-яцанюкоў. І брытанскіх дывэрсантаў і інструктараў у той самай Вандэі хапала, і «золата Піта», як тлумачэньне контррэвалюцыйных паўстаньняў, было тады ў рэвалюцыйнай Францыі папулярным мэмам.

Рэвалюцыйная Францыя разьбіралася зь мяцежнай Вандэяй даволі проста — топячы яе ў крыві. Цяпер і часы крыху ня тыя, і зьнешнія ўмовы ў сучаснай Украіны ня тыя. Даўшы па пысе кааліцыі манархіяў Эўропы пры Вальмі і ў іншых баях, тагачасны Парыж мог дазволіць сабе разьбірацца са сваёй контррэвалюцыяй так, як лічыў патрэбным. Сучасны Кіеў такіх магчымасьцяў ня мае, бо мусіць азірацца на расейскае войска, адмабілізаванае на мяжы і гатовае да кідка. Крымскі досьвед паказвае, што ваяваць за Ўкраіну і замест Украіны ў выпадку чаго ніхто ня будзе.

Аднак азірацца на расейскае войска немагчыма вечна. Таму ўкраінскае кіраўніцтва, разумеючы ўсю рызыку, прыняла рашэньне аб сілавой апэрацыі. Якімі сіламі? Ну зразумела якімі, Вандэю падаўлялі таксама пераважна парыжане, а не мясцовыя рэвалюцыянэры.

Наўрад ці большыня жыхароў украінскага ўсходу сапраўды хоча аддзяленьня ад Украіны і далучэньня да Расеі. Наўрад ці таго хочуць нават усе маніфэстанты, якія гэтыя лёзунгі скандзіруюць. Гэта своеасаблівая мова размовы з Кіевам. Напачатку, дарэчы, пратэсты ўвасабляліся ў ахове помнікаў Леніну. Ну і навошта абаронцам істукана быў той Ленін, хіба ажывіць яго хацелі? Не, Ленін быў проста сымбалем супрацьстаяньня Майдану. Гэтак і цяпер Расея для ўсходу Ўкраіны — не рацыянальны выбар, а хутчэй сымбаль — а вось ня хочам, а вось баімся, злыя вы, сыдзем ад вас. Куды? Ды нікуды, пратэст шукае мовы і знаходзіць яе.

І імпэратывы часу, і наяўнасьць агрэсіўнага суседа хутчэй за ўсё выключаюць францускі варыянт канца XVIII стагодзьдзя ў чыстым выглядзе. Сілай можна (можа быць) разблякаваць адміністрацыйныя будынкі, але наўрад ці атрымаецца толькі пры дапамозе яе прынцыпова замірыць усход Украіны.

І гэтая праблема, шлях яе вырашэньня, які будзе абраны ва Ўкраіне,— пэўны ўрок на магчыма далёкую, а магчыма і не, будучыню Беларусі. Лукашэнка раней ці пазьней сыдзе. Але лукашэнкаўцы ня сыдуць сьледам за ім. Ну яны ж звыклыя падпарадкоўвацца любому начальству, ня здольныя ні да якай самастойнай актыўнасьці — мяркуюць некаторыя. Ага, раскажыце гэтую байку ўкраінскім уладам. Там, магчыма, таксама думалі, што ўсё вырашаецца ў сталіцы, што ўсход прыме любое рашэньне Кіева.

І мяркую, што ўкраінскім уладам давядзецца з усходам краіны неяк дамаўляцца. Неабавязкова

гаворка ідзе пра фэдэралізацыю, якую накідае Масква. Бо насамрэч не ў Маскве справа. Няма грамадзкай дамовы ў сэнсе Русо, формулы, якая робіць вельмі разнастайнае насельніцтва адзінай нацыяй. Ці, прынамсі, навідавоку крызыс гэтай дамовы.

І навідавоку дылема: цалкам пагадзіцца на тое, чаго хоча ўсход — гэта або распад краіны ў растэрміноўку або закрэсьліваньне ўсіх вынікаў рэвалюцыі. Цалкам не пагадзіцца, пакласьціся адно на сілу ды на інэртнасьць насельніцтва ўсходніх рэгіёнаў Украіны — атрымаць той самы распад краіны шляхам замежнага ўварваньня, а можа нават і безь яго. Бо жыхары Луганску, Данецку, Харкава, іншых гарадоў усходу Ўкраіны, і нават тыя зь іх, што маніфэстуюць з расейскімі сьцягамі — яны, між іншым, людзі, грамадзяне. Майдан патрабаваў павагі да чалавечай годнасьці, да меркаваньня кожнага, у тым ліку і маленькага чалавека. Ну вось і гэтыя людзі маюць свае меркаваньні, хай на нечы погляд дурныя і недарэчныя.

Як казаў адмірал Нэльсан напярэдадні бітвы пры Трафальгары: «Краіна чакае, што кожны выканае свой доўг». Людзі, якія стаялі пад кулямі на Майдане, свой доўг выканалі. За ўкраінскіх палітыкаў доўг знайсьці формулу, якая ўратуе адзінства краіны, ўтрымае ўкраінскую «Вандэю» ва Ўкраіне, ня выканае ніхто — ні Захад, ні Расея, зразумела, ні нават змагары Майдану.

Ну а беларусам, беларускім палітыкам будзе досьвед. Шматгадовая дыктатура мае прынамсі адну ўмоўную перавагу — назапашваецца досьвед, што і як рабіць пасьля яе скону.

## Камэнтары:

**Шарах:** Трэба пагадзіцца з аўтарам у тым, што рост сепаратызму ва ўсходніх рэгіёнах Украіны абумоўлены не толькі вонкавым расійскім уплывам, але і акрэсленай пазіцыяй пражываючых там людзей. У тым ліку — з-за дапушчаных памылак новай улады у адносінах да іх адметнасці і інтарэсаў, кшталту нядольнасці спыніць анархію.
Што ж тычыцца ўкраінскага досведу, то наўрадці ён спатрэбіцца беларусам. Трагічныя падзеі суседняй краіны ў інтэрпрытацыі расійскіх тэлеканалаў унеслі карэнны перелом у масавую свядомасць. На вялікі жаль, павярнуўшы яе ў тым накірунку, які перакрэслівае сам шанец Беларусі захавацца ў якасці незалежнай і дэмакратычнай дзяржавы.
**Палівач:** «Трагічныя падзеі суседняй краіны ў інтэрпрытацыі расійскіх тэлеканалаў унеслі карэнны перелом у масавую свядомасць»
Пры чым тут расійскія тэлеканалы? Карцінка чорнага ад дыму Кіева і наступствы майдану відавочны без усялякай інтэрпрытацыі. Майдан — гэта нож у спіну Беларусі і беларускай дэмакратыі. Як і падтрымка гэтага майдану беларускамоўнымі. Сваімі рукамі зрабілі пудзіла і з дэмакратыі і з беларускай культуры.
**Янка:** А вы што, Палівач, сталі абаронцам беларускай дэмакратыі?
Ці вы мелі на ўвазе Лукашэнку?
Тут з вамі магу цалкам пагадзіцца.
Майдан, сапраўды, — нож у спіну «дэмакратыі Лукашэнкі».
**Палівач:** Дзякуючы вам і майдану, Лукашэнка будзе правіць Беларуссю да канца сваіх дзён. Вось гэта і ёсць ваш нож у спіну Беларусі. Дурні горш за ворагаў.
**Хэльвіг:** Артыкул не спадабаўся сваёй аргументацыяй, таму што ва ўсходняй Украіне ёсьць утыканьне і

беспасярэдняя агрэсія Расеі і параўноўваць там падзеі з Вандэяй некарэктна.
**НД:** Аўтар намаляваў карціну з гэткімі свядомымі лукашыстамі, якія за свайго правадыра кідаюцца пад танкі. Але няма такіх. Ёсць невялікая колькасць людзей якія адданыя Лукашэнку таму што выконваючы загады сістэмы пайшлі на злачынства, такіх мала сотыя долі адсотка. Ёсць крыху большая катэгорыя, якая выступае за Лукашэнку бо пакуль сістэма прыгнятае ў цэлым грамадства яны карыстаюцца матэрыяльнымі выгодамі, гэтых у некалькі разоў больш. І ёсць людзі якія думаюць, што жывуць пры Лукашэнку адносна не блага, думаюць, што лепшага няма. Гэтыя апошнія выбаршчыкі на дадзены момант ніхто не можа сказаць колькі іх, але я думаю не больш за палову. Калі наступны хто прыйдзе за Лукашэнкам, запэўніць іх, што горш яны жыць не стануць, калі знікне дзяржаўная манаполія на СМІ і злачынства лукашызма будуць паказаны і даказаны — само паняцце «лукашысты» развеецца ў паветры. Але аўтару за нечым трэба зрабіць з лукашыстаў суцэльны свядомы клас ворагаў прагрэсіўнага чалавецтва.
**Zizi:** Вы усё імкнецеся даць адказ на пытаньне «Хто вінаваты?». Дайце ж адказ на пытаньне «Што рабіць?»!

## Хто меў рацыю?

**І новая ўкраінская ўлада пакуль не змагла вырашыць дылему, сфармуляваную ў блогу: антытэрарыстычная апэрацыя прыводзіць да ахвяраў, але не дае вялікага плёну, ўва ўкраінскай ўлады рукі зьвязаныя рызыкай расейскага ўварваньня, спробы перамоваў таксама не даюць патрэбнага эфэкту, да таго ж не зусім зразумела, зь кім Кіеву ў Данбасе дамаўляцца. Расея ўстрымліваецца ад прамога вайсковага ўмяшаньня, але падтрымлівае, ў тым ліку і прыхаванай вайс-**

**ковай дапамогай, напружанасьць у Данецкай і Луганскай вобласьцях Украіны. Падаецца, што шлях да вырашэньня канфлікту палягае ў палітычнай дамоўленасьці паміж Кіевам, Масквой і Захадам.**

**23.04.2014**

## Усходнеславянскія італьянцы, альбо Бардак ці парадак

Бардак — вызначэньне, якое ўжываюць для апісаньня ўкраінскай сытуацыі многія ў Беларусі і ў Расеі. Прычым, ня толькі праціўнікі Эўрамайдану і цяперашніх украінскіх уладаў, некаторыя нават і прыхільнікі, і нават са шкадаваньнем, маўляў, усё ў іх добра, правільна (акрамя расейскай навалы, зразумела), але ж бардак, на жаль.

Мяркую, што тут, апроч аб'ектыўнага вымярэньня, прысутнічае і адрозьненьне нацыянальных характараў, кодаў, палітычных культураў. Мы глядзім на суседнюю краіну праз прызму, акуляры нацыянальнага досьведу, чаго часам не заўважаем. Асабліва ў адносінах да народу блізкага, які міжволі прыпадабняеш да сябе. Ішла б размова пра якіх іранцаў ці бразыльцаў, ну дык адразу ёсьць устаноўка, што яны іншыя, і іншасьць гэтая не зьдзіўляе.

Адносна ўкраінцаў прысутнічае лятэнтнае ўяўленьне, што гэта як бы такія беларусы, але лепшыя (кшталту са знакам якасьці :-)). А на нечы погляд — горшыя. Але беларусы. Аднак сакрэт у тым, што яны наагул не беларусы.

Неяк часам (ці заўсёды) забываецца, што ўкраінцы — паўднёвая нацыя. Так, гэта дадаецца да іншай гісторыі, іншай культуры, але не апошні фактар. Гэта ж іншы дамінуючы нацыянальны тэмпэрамэнт, іншае стаўленьне да жыцьця, і як сьледзтва — іншая палітыка. Калі паглядзець на поўдзень усяго нашага кантынэнту, а асабліва паглядзець вачыма народу Поўначы, то як выглядае тамтэйшае палітычнае жыцьцё — на Балканах, у Грэцыі, у Італіі? Ну і праўда ж бардак.

Перарабіць італьянцаў у старажытных рымлянаў ці ў немцаў ня здолееў нават дучэ. Дарэчы, гістарычны факт — амэрыканцам высаджвацца на Сыцыліі ў вайну дапамагалі босы мафіі. Разумелі мудрыя людзі, што скінуць Мусаліні, і мафія, якой ён прыціснуў хвост, вернецца. І не памыліліся.

І, дарэчы, такі самы, як ва Ўкраіне, роскід культурных тыпаў рэгіёнаў, поўнач і поўдзень — неба і зямля (ізноў жа на паўночны погляд). І стаўленьне да ўлады такое — не паўночнае.

Як сказала мне адна ўкраінская калега, вы, беларусы і расейцы, уладу абагаўляеце, любіце або прынамсі паважаеце. І ня тое, што Лукашэнку ці Пуціна, а ўладу як такую. А мы ёй грэбуем. Прычым, любой. Нэньку любім, а ўладу — не.

І ці выпадкова, што архетыпічныя постаці беларускай палітыкі — Лукашэнка і Пазьняк? Готыка ці ня готыка, як мяркуе калега Дубавец, але строгае было б жыцьцё пры прэзыдэнце Пазьняку. Не бардак, дык дакладна. Дый пры любым так было б і будзе. Бо інакш скінуць як слабака і нядзару. Сур'ёзная нацыя — што ўлада, што апазыцыя, што просты люд.

А ва Ўкраіне, падазраю, яно ніколі такім ня будзе. Ня ў сэнсе такім прарасейскім, як пры Лукашэнку. Такім упарадкаваным.

Але трэба разумець, што там проста іншы парадак. Крэатыўны хаос — ёсьць такі тэрмін у навуцы сынэргетыцы. У гэтым, дарэчы, канцэптуальная памылка расейцаў: яны глядзяць на Ўкраіну, бачаць, што такога парадку, як у Расеі (не ў Расеі Пуціна, а наагул у Расеі), там, выглядае, ніколі ня будзе, і робяць выснову — няспраўджаная дзяржава, асуджаная на развал.

Але гэта такая оптыка нацыянальнага бачаньня. Дык на погляд немцаў Італія, напрыклад, таксама — няспраўджаная дзяржава. Ледзь не штогод — новы ўрад, крадуць так, што на поўначы і ўявіць сабе немагчыма. Ну і што? Жыве краіна, працуе, кахае і, можа, шчасьлівейшая за сваіх змрочных паўночных суседзяў.

Ну цяпер на тое ва Ўкраіне накладаецца крызіс — і ўнутраны, і зьнешні. Супрацьстаяць у ваенным сэнсе такой дзяржаве, як Расея, складана ў любым стане і пры любой палітычнай культуры. Але ўяўленьне пра тое, што Ўкраіна разваліцца, здаецца, матываванае, апроч усяго іншага, менавіта гэтай культурнай рознасьцю. Беларусь ці Расея ў такіх варунках можа і сапраўды разваліліся б. Проста Ўкраіна — гэта не яны, там іншыя мэханізмы грамадзкай і нацыянальнай кансалідацыі.

І яшчэ адна аналёгія прыходзіць у галаву, з народам можа і не паўднёвым, але, як той казаў, лацінскім. Францыю рэвалюцыі трэсьлі з канца XVIII да канца XIX стагодзьдзя: 1789-1830-1848-1871. І гэта толькі буйныя забурэньні, а дробныя і не зьлічыць. І не сказаць, што Людовік XVI, Карл

Х ці Люі Філіп былі такія ўжо нідзе ў тагачасным сьвеце ня бачаныя пачвары. Такія сярэдняй рукі — кшталту Януковіча. Але ня ў іх справа, а ў ліхаманцы, якая трэсла нацыянальны арганізм, так нацыя шукала сябе. Можа і Ўкраіна гэтак сама шукае: 1991-2004-2014?

Ужо прыгаданы Зянон Пазьняк неяк сказаў — беларусы выйдуць адзін раз. Магчыма, і меў рацыю. Можна дадаць, што адзін раз ужо «выйшлі» — на прэзыдэнцкіх выбарах у 1994 годзе. Можа і наступны раз — з падобным эфэктам.

І ў гэтым сэнсе яшчэ паглядзім, у каго як атрымаецца. І я гэта не да таго, што Ўкраіна хутка прыйдзе ў Эўразьвяз і расквітнее, а Беларусь разам з Расеяй будуць дэградаваць у сваім эўразійскім адстойніку. Гэта якраз ня факт. Проста больш жорсткія сыстэмы — яны і больш крохкія. Зломіцца, расьцярушыцца з тых або іншых прычынаў уладны стрыжань — і на парозе сапраўды хаос. А ва Ўкраіне нічога кепскага з таго ня будзе, там улада — ня стрыжань ніякі. Беларусы і расейцы са сваімі жорсткімі сыстэмамі і палітычнай культурай, заснаванай на павазе да ўлады, будуць мэтанакіравана перці... пакуль ня ўпруцца ў суцэльны тупік. Ва Ўкраіне сыстэма заўсёды будзе адрозьнівацца значна большай гнуткасьцю.

Ну, можа залішні аптымізм і не зусім дарэчны: Крым Украіна страціла, што будзе з усходам краіны — пад пытаньнем. Але галоўнае, што ў кожнага народу — свой лёс. І тое, што суседзям здаецца няправільным, недарэчным — гэта проста іншая правільнасьць, якую не зразумець з прычыны абмежаванасьці нацыянальнага досьведу.

## Камэнтары:

**Арцім:** Беларусы, як і іншыя людзі Поўначы, да ўлады ставяцца са спакойнай павагай, але без ідалапаклонства. Абагаўленне ўлады — рыса не паўночная ані. Хутчэй азіяцкая. Агулам кіданне з крайнасці ў крайнасць уласцівае хутчэй гарачым паўднёвым джыгітам. А ўкраінскае грэбаванне ўладай — такая ж крайнасць, як і рускае абагаўленне ўлады.

## Хто меў рацыю?

**Пераканаўчая перамога на выбарах 25 траўня Пятра Парашэнкі была ў пэўным сэнсе рэакцыяй грамадзтва на прамую небясьпеку далейшай страты тэрыторыі дзяржавы. Аднак гэта не азначае, што Парашэнка здолее, нават калі б хацеў, сканцэнтраваць у сваіх руках усю паўнату ўлады. Структурныя асаблівасьці нацыі не мяняюцца нават у моманты крызісаў.**

**15.05.2014**

## Пра адзінства беларусаў

Тэма, згадзіцеся, вечная — адзіныя беларусы ці разьяднаныя, дабудавана нацыя ці недабудавана, лічаць беларусы сваю дзяржаву каштоўнасьцю ці недарэчнасьцю, якую гатовыя аддаць магутнаму суседу.

Пытаньне важнае само па сабе, але надзвычай актуальным яно робіцца ў сьвятле падзеяў у суседняй Украіне.

Адказы — адзіныя, дабудаваная, лічаць каштоўнасьцю — не азначаюць, што краіна цалкам няўразьлівая да прамога ці ўскоснага зьнешняга ўмяшаньня. Але вось што казаў на пачатку траўня выканаўца абавязкаў прэзыдэнта Ўкраіны Аляксандар Турчынаў: «Задачы перад расейскімі спэцслужбамі ставілі па дэстабілізацыі сытуацыі ў многіх рэгіёнах — і на поўдні, і на ўсходзе, і ў цэнтры. У той самы час рэальныя вынікі яны атрымалі менавіта на ўсходзе Ўкраіны — у Данецкай, Луганскай абласьцях».

Так што зьнешні ўплыў мае значэньне, але хіба ня большае за аб'ект, на які гэты ўплыў скіраваны. Дзе спрыяльная для ўплыву глеба ёсьць — там атрымліваецца, дзе няма ці мала — там ня надта.

Дык а якая яна ў Беларусі? Як вымераць ступень нацыянальнага адзінства? Ну ёсьць самы відавочны крытэр — адзіная мова і культура. З гэтым у Беларусі, як вядома, ня надта. Але прыгаданы крытэр — ускосны. Базавы, першасны — усьведамленьне людзьмі свайго адзінства, таго, што, скажам, для селяніна з Магілёўшчыны, што жыве на мяжы з Расеяй, гарадзенскі інтэлектуал — гэта «мы», а расейскі вясковец праз мяжу, можа нават і родзіч — гэта ўсё ж «яны», нават пры добрым і прыязным стаўленьні.

Зразумела, калі ёсьць агульная мова, то гэта важны чыньнік існаваньня і падтрыманьня гэтага «мы», мы — тыя, хто гаворыць на адной мове (а «яны» — на іншай). Але калі гэтага чыньніку няма, то гэта не азначае, што і «мы» няма.

Пра тое, што гэтае беларускае «мы» існуе, сьведчыць шэраг фактаў, якія, што важна, тычацца масавых паводзінаў. Яны, дарэчы, зьяўляюцца больш

дакладным паказьнікам наяўнасьці або адсутнасьці «мы», чым паводзіны «прасунутых» асяродкаў.

Вось, напрыклад, міграцыя. Калі разваліўся СССР, усе былыя рэспублікі Саюзу мелі з Расеяй адмоўнае міграцыйнае сальда — зь іх больш ехала ў Расею, чым з Расеі — да іх. Адзіным выключэньнем была Беларусь. На працягу ўсіх 90-х. І ехалі на бацькаўшчыну пераважна беларусы.

Можна прапанаваць мільён тлумачэньняў: «Вандэя перабудовы», «савок», спакайнейшае жыцьцё. Але ня варта скідаць з рахункаў і тое, што ляжыць на паверхні: для беларусаў іх Беларусь — магніт, які прыцягвае і магнітнае поле якога ўтрымлівае іх разам.

Ці, скажам, размовы пачатку 90-х пра яцьвяскую аўтаномію. Цяпер тая ініцыятыва здаецца несур'ёзнай. Але варта прыгадаць, што, напрыклад, сэпаратызмы ў розных краінах сьвету пачыналіся таксама зь бяскрыўдных культуралягічных штудыяў інтэлектуалаў, а ператвараліся ў крывавыя паўстаньні. Яцьвяскі гіпатэтычны аўтанамізм ператварыўся ў круглы нуль. І гэта не было прыроднай зьявай. Памятаю, як у 1992 годзе я вывучаў стаўленьне да гэтага пачынаньня палітыкаў. І быў уражаны абсалютна кансалідаваным «не» ўсіх — ад камуністаў да БНФ. Па розных матывах, але з адзіным вынікам.

Ня менш цікавай зьявай падаецца тое, чаго ў Беларусі няма і ніколі не было. Напрыклад, ніколі, пачынаючы з 1991 году, на палітычных дэманстрацыях не ўжываліся расейскія сьцягі як сымбаль іншай дзяржаўнай ляяльнасьці. Ва Ўкраіне расейскія трыкалёры ў Крыме і Данбасе зьявіліся зусім не цяпер. Бывала такое раней, і часта, і менавіта там.

Зь іншага боку, меркаваньні пра тое, што Крым і Данбас зь іх вельмі своеасаблівымі палітычнымі густамі, можа, і варта было б скінуць з плячэй Украіны, каб не перашкаджалі яе руху ў Эўропу, былі там не мэйнстрымам, але і не зусім маргінальнымі.

А ў Беларусі? Думкі пра тое, каб нейкай «истинно русской» часткай Беларусі вярнуцца да «матухны-Расеі», як і думкі пра тое, што Расеі варта аддаць нейкі «культурна-чужы», «рэакцыйны» рэгіён і бяз гэтага цяжару рушыць у эўрапейскую будучыню, ня тое каб нехта забараняў і ня тое, каб нехта выказваў, а большасьць не згаджалася. Гэта проста нікому не прыходзіла ў галаву.

Людзям, што жывуць у беларускім кантэксьце, гэта здаецца натуральным і ніякай не перавагай: ну каму такая лухта ў галаву прыйдзе? Але ва Ўкраіне яна прыходзіць у галаву зусім ня дурням ці не адно ім.

Прычым, усе пералічаныя зьявы — гэта, па-першае, як было сказана, пра масавыя паводзіны, а па-другое, пра тое, што было і пры Лукашэнку, і да яго. Міграцыйнае сальда на карысьць Беларусі было станоўчым якраз на пачатку 90-х, «Полісьсе» раскаталі ў нуль прыкладна тады ж. Так што справа не ў Лукашэнку, ці не адно ў ім, а ў беларусах.

Цікавае пацьверджаньне сказанаму — словы з інтэрвію Свабодзе расейскага нацыяналіста Аляксандра Поткіна пра Беларусь як пра «ўнітарную монадзяржаву». Магчыма, самі беларусы гэтай сваёй аднароднасьці і «счэпленасьці» і не заўважаюць, але яна відавочная чалавеку звонку, які практычна спрабаваў яе разбурыць.

Убачыць беларускую еднасьць складана яшчэ і таму, што беларусы страшна ня любяць патасу, яны не становяцца ў позу помніка і ня думаюць, як бы ім нешта зрабіць па-беларуску і прадэманстраваць сваё адзінства. Яно зусім ня ў патасе і ня ў клятвах вернасьці праяўляецца, а ў выніку, накшталт фактаў, якія я пералічыў. Дый замежнікам бачна.

Нехта можа паглядзець на тое з пыхай, маўляў, ну гэта ж тутэйшасьць, хіба гэта нацыянальнае? Калі нацыя — гэта кшталту мэдаля «За адвагу на пажары», калі гэта нейкі канон, якому трэба адпавядаць, каб заслужыць гэтае годнае званьне, то можа і не. Але ад пачатку тое паняцьце ўзьнікла зусім ня як нейкі ідэал. Напрыканцы XVIII стагодзьдзя сталі зьяўляцца грамадзтвы — амэрыканскае, францускае, «складзеныя», арганізаваныя істотна інакш, чым усе, што былі раней. Жыхароў краін стала лучыць ляяльнасьць не манарху, а нечаму іншаму.

Усе пазнаецца ў параўнаньні. Украіне ў Данбасе цяпер вельмі не зашкодзіла б хаця б беларуская «тутэйшасьць».

## Камэнтары:

**Недавер:** Канешне, прыемна такое чытаць, маўляў, мы нацыя, якімі б словамі гэта не называлася (беларусы ці «тутэйшыя»).
Але ці ўлічыў аўтар, што напачатку 1990-х, калі назіралася станоўчае міграцыйнае сальда, у краіне ішла хваля беларусізацыі і нацыянальнага ўздыму, чаго зараз не назіраецца?.. Ці ўлічылі Вы тое, што ля мільёну беларусаў стала працуюць (а значыць, жывуць, круцяцца ў культурна-інфармацыйным прасторы і ўспрымаюць ягоны ўплыў)

у Расеі?.. І ці памятаеце Вы пра расейскія стужкі на аўто магілёўцаў?..
Таксама прапаную прааналізаваць вынікі галасаваньня тут жа, на сайце Свабоды, напачатку сакавіка па пытаньні, што вы будзеце рабіць, калі б расейскія войскі ўварваліся ў Беларусь. Тады каля 10 % адказалі, што будуць за мір ува ўсялякім выпадку. Трэба яшчэ зрабіць папраўку на партрэт рэспандэнтаў, бо галасаваньне адбывалася не на праўладным рэсурсе. Насамрэч, можа, такіх адсоткаў 20 па ўсёй краіне набярэцца... Гэта ўкладваецца, на Вашае ўяўленьне, у малюнак адзінства?
Вядома, я не заклікаю запэўніваць расейцаў у рэальнасьці правакацыяў у Беларусі па ўкраінскаму сцэнару... але ж Ваш артыкул занадта аптымістычны і не падмацаваны рэальнымі лічбамі пра сучасную сытуацыю, а толькі асабістымі адчуваньнямі, на жаль:(
**Дракахруст:** Адпаведныя хвалі ўкраінізацыі, малдавізацыі і г.д. адбываліся на пачатку 90-х ва ўсіх краінах-рэспубліках былога СССР. У іншых міграцыйнае сальда было адмоўным, у Беларусі — станоўчым. І заставалася такім ажно да першай паловы нулявых. http://www.carim-east.eu/media/exno/Explanatory%20Notes_2013-110.pdf (Малюнак 1). Так што гэты фактар ня варты ўліку.
Працоўная міграцыя ў Расею высокая, але яна амаль з усіх краінаў СНД высокая, ня факт, што ў Беларусі адносна большая. Тым больш, што паколькі ідзецца пра тых, хто працуе ў РФ стала, дык яны і выпадаюць зь беларускага грамадзка-палітычнага працэсу і не ўплываюць на яго.
Стужкі на аўто — гэта ня сьцяг на палітычнай маніфэстацыі, да таго ж, наколькі я памятаю, там былі два сьцяжкі — беларускі афіцыйны і расейскі. Сымпатыі да Расеі і дзяржаўная ляяльнасьць да Расеі — гэта розныя рэчы.
Долі гатовых змагацца з замежнай акупацыяй, як паказвае досьвед, невялікія шмат у якіх краінах. Калі 80% гатовыя, дык гэта выдатны паказьнік.

**Паўдавер:** Далібог, каб усё было так, як Вы пішаце:) Я толькі «за»! Дзякуй за артыкул.
**George:** Не разделяю оптимизма автора по поводу единства и способности белорусов сопротивляться внешним провокациям. Для отпора нужна солидарность и инициатива снизу. Самое слабое место белорусов. Пока никакого обьединяющего стержня, идеологии нету.
**Яўген:** Беларусоў аб'ядноўвае, напрыклад, кухня. Сам неаднаразова сутракаў на Смаленшчыне: калі, кажучы пра мяса, маюць на ўвазе сьвініну, то яшчэ беларускія вёскі, калі гавядзіну, то ўжо — дакладна — русакі. У рускіх вёсках папіць чайку — норма, а ў суседняй беларускай — спытаць пра гарбату гаспадыню старэйшага веку, значыцца паставіць яе ў няёмкае становішча, апраўданьне пачуеш гэдыкае, што прывядзе, напрыклад, масквіча ў ступар: «Дык жа лета...». Яшчэ б я назваў моўны комплекс. Як толькі пачуўшы беларускую мову ў публічным ужытку людзі перастаюць ніякавець, вылупліваць вочы і пужліва азірацца, ты сапраўды на тэрыторыі польскіх, рускіх, літоўскіх, украінскіх, латышскіх паселішчаў. Любім мерцьвякоў і абыякавыя да жывых, у тым ліку і да сябе самаго. У любога з суседзяў за абразу хутка атрымаеш у дзюбу, а зь беларусоў шмат каго трэбаператузаць, каб агрызнуліся як мае быць. Вунь, нават палешукі забунтавалі супраць рабаваньня сьвінства, а ўласна беларусы праглынулі і забыліся. Пра патас былі сказаўшы. Я б дадаў абыякавасьць да адцягнутых і абстрактных матэрый ўвогуле. У Расіі, Польшчы, Латвіі, Літве я лёгка знаходзіў сярод простага люду асобаў, гатовых пагаварыць, напрыклад, пра зоры і сузор'і. У Беларусі адчуваў, што зарабляю аўтарытэт хлапца, што не зусім ладзіць з галавою. Шэры колер — любімы (бо не так забруджваецца). На беларуска-польскім памежжы — Сакольшчыне-Беласточчыне — праводзілі дні народнага ткацтва. Там, дзе перамагалі яркія коляры, былі ткачыхі з польскіх вёсак. Сакольні люд (па духу і пераканацьнях — палякі са знакам якасьці) цешыў усіх шэрым па шэраму.

Вось з такіх дробязей — часам сьмешных і недарэчных — складваецца гэтае адзінства. Я б сказаў, што адстутнасць адзінства на нацыянальнай падставе і нават разуменьня, таго, што гэта некаму патрэбна, таксама нас аб'ядноўвае.

## Хто меў рацыю?

**У нашых спрэчках пра беларусаў часам залішне нарматыўнасьці: «для таго, каб была нацыя, патрэбная ідэя, культурна-этнічная еднасьць і г.д.» Калі гэтае «патрэбная» азначае, што няклепска было б (бо яшчэ адзін чыньнік адзінства), ці што многія нацыі ў сьвеце гэта маюць, то прадмету спрэчкі няма, гэта і сапраўды так. Але нацыі — гэта ня зборная мэбля з крамы, якую трэба паводле інструкцыі зьбіраць так і толькі так. Гэта хутчэй жывы арганізм, які расьце па сваіх законах. І варыянты «зборкі» бываюць розныя. Часам, калі прыводзіцца прыклад ЗША, можна пачуць у адказ — ну дык гэта ж нацыя эмігрантаў. Але пярэчаньне недарэчнае — вынік жа атрымаўся такі самы, як і ў іншых, у сэнсе наяўнасьці адзінства амэрыканцы не адрозьніваюцца ад французаў, немцаў ці палякаў. Але безь ніякай асобнай мовы і нават этнічнага адрозьненьня — удзельнікі тамтэйшай вайны за незалежнасьць былі прамымі нашчадкамі англічан-эмігрантаў і этнічна нічым не адрозьніваліся ад тых, супраць каго паўсталі. Гэта да таго, што нацыя можа быць пабудаваная і пры даволі слабых адрозьненьнях і зусім не па стандартнай «інструкцыі зборкі».**

**А імкненьне рабіць усё па інструкцыі (якая насамрэч проста часты досьвед) можа часам і нашкодзіць. Як памятаем, хіба ня першым рашэ-**

**ньнем Вярхоўнай Рады Ўкраіны пасьля перамогі Эўрамайдану стала скасаваньне моўнага закону. Матыў зразумелы — зьбіраем нацыю «па інструкцыі», там усё дакладна напісана. Але імкнучыся дасягнуць ідэалу, страцілі тую рэальна існую, хай і крохкую пакуль, еднасьць, якая ўсё ж была.**

**03.06.2014**

## «Руская бомба» ў Беларусі

Які патэнцыял ідэі «рускага сьвету» ў Беларусі? Пытаньне актуальнае, асабліва ў сьвятле драматычных падзеяў ва Ўкраіне — анэксіі Крыму і забурэньняў у Данбасе. Інсьпірацыю з боку Расеі ў гэтых падзеях адмаўляць не выпадае, але адпаведныя высілкі менавіта ў гэтых рэгіёнах Украіны мелі з пункту гледжаньня Крамля посьпех, паколькі спалучаліся з адпаведнай грамадзка-палітычнай глебай. Ці ёсьць такая глеба ў Беларусі?

Існуе меркаваньне, што А. Лукашэнка — галоўны праваднік расейскага ўплыву ў Беларусі і нават што Беларусь, найперш дзякуючы яму, дэ-факта — Расея. У гэтым дасьледаваньні я не палемізую з гэтым поглядам, які, аднак, падаецца занадта аднабаковым і спрошчаным, а вывучаю грамадзка-палітычную базу зусім іншага сцэнару, а менавіта крымскага і данбаскага — адмаўленьня дзяржаўнасьці Беларусі як такой, сэпарацыі краіны на карысьць Расеі ці ўключэньня яе цалкам у склад РФ. А. Лукашэнка, пры ўсіх асаблівасьцях яго палітыкі, не прыхільнік такога сцэнару.

## Ці хочуць беларусы ў Расею?

Стаўленьне беларусаў да Расеі — фэномэн шматплянавы, цяжка вызначыць крытэр, пытаньне, адказ на якое адназначна дазволіў бы гэтае стаўленьне вымераць, а тым больш — гатовасьць паводзіць сябе, як насельніцтва Крыму ці Данбасу.

Падчас апытаньняў НІСЭПД у адказ на пытаньне, да каго Вы культурна бліжэй — да рускіх альбо да эўрапейцаў, 68-75 % у апошнія гады адказвалі — «да рускіх», 20-30% — «да эўрапейцаў». У адказах, якія вымяраюць сацыяльную дыстанцыю: «Прадстаўнікоў якіх этнасаў Вы гатовы мець ў якасьці нявестак/зяцёў, суседзяў, калегаў, жыхароў аднаго гораду, жыхароў адной краіны», рускія таксама аказваюцца самым блізкім этнасам для жыхароў Беларусі. З улікам таго, што рускія складаюць ўсяго 8% гэтага насельніцтва, атрымліваецца, што рускія — найбліжэйшы этнас у чалавечым, гуманітарным пляне і для этнічных беларусаў.

Аднак гэтая культурная і этнічная блізкасьць не азначае, што беларусы пагалоўна гатовыя да інтэграцыі з краінай, населенай блізкім да іх этнасам.

*Гл. табліцу*

**Дынаміка адказаў на пытаньне: «Калі б давялося выбіраць паміж аб’яднаньнем з Расеяй і ўступленьнем у Эўразьвяз, што б Вы выбралі?» (НІСЭПД), %**

Суадносіны паміж прыхільнікамі эўрапейскага і расейскага вэктараў часам рэзка мяняюцца: пачатак нармалізацыі стасункаў паміж Беларусьсю і ЭЗ ў 2008 годзе, зьніжэньне антызаходняга градусу дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі прывялі да росту колькасьці прыхільнікаў эўраінтэграцыі,

**Дынаміка адказаў на пытаньне: «Калі б давялося выбіраць паміж аб’яднаньнем з Расеяй і ўступленьнем у Эўразьвяз, што б Вы выбралі?» (НІСЭПД)**, %

| Варыянт адказу | 09’05 | 04’06 | 12’07 | 09’08 | 09’09 | 09’10 | 09’11 | 06’12 | 09’13 | 03’14 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Аб’яднаньне з РФ | 59 | 56 | **48** | 54 | 38 | 35 | 42 | **44** | 36 | 52 |
| Уступленьне ў ЭЗ | 27 | 32 | **33** | 26 | 43 | 42 | 42 | **40** | 42 | 33 |

праэўрапейскі Майдан 2013-2014 гадоў, тое, як падзеі ва Ўкраіне падаваліся расейскімі і беларускімі дзяржаўнымі мэдыямі, напалохалі частку беларусаў і схілілі ківач геапалітычнага выбару ў бок Расеі. Але калі паглядзець на вынікі апытаньняў у дынаміцы, то можна адзначыць наяўнасьць балянсу паміж прыхільнікамі інтэграцыі з Расеяй і Эўропай. Пры гэтым прыхільнасьць аб'яднаньню з Расеяй зусім ня тоесная імкненьню да паглынаньня Беларусі Расеяй, да зьліцьця дзьвюх краінаў у адну дзяржаву. У адказах на пытаньне, якое прадугледжвала такое зьліцьцё ў якасьці адной з опцыяў, колькасьць яе прыхільнікаў — амаль утрая меншая, чым прыхільнікаў аб'яднаньня.

*Гл. табліцу*

**Дынаміка адказаў на пытаньне: «Якому варыянту інтэграцыі Беларусі і Расеі Вы аддалі б перавагу?», %**

Адказы істотна залежаць ад фармулёўкі пытаньня, варыянт «саюз з Расеяй» замест «аб'яднаньня» дае рост прыхільнікаў расейскага «вэктару» інтэграцыі. Аднак незалежна ад пытаньня фіксуецца рост прарасейскіх і зьніжэньне праэўрапейскіх настрояў падчас драматычных падзеяў ва Ўкраіне.

*Гл. табліцу*

**На Ваш погляд, у якім саюзе дзяржаваў было б лепш жыць народу Беларусі — у Эўрапейскім зьвязе ці ў саюзе з Расеяй? (лябараторыя Новак), %**

## Расея мінус Лукашэнка

Дасьледаваньні паказваюць, што Аляксандар Лукашэнка ў значнай ступені «адсарбуе» прарасейскія настроі: большая частка тых, хто выступае за

**Дынаміка адказаў на пытаньне: «Якому варыянту інтэграцыі Беларусі і Расеі Вы аддалі б перавагу?», %**

| Варыянт адказу | 12’02 | 03’03 | 06’04 | 12’05 | 08’06 | 12’07 | 12’08 | 03’09 | 06’12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Беларусь і Расея павінны ўтварыць саюз незалежных дзяржаваў, зьнітаваных шчыльнымі палітычнымі і эканамічнымі адносінамі | 52 | 48 | 50 | 52 | 52 | **44** | 44 | 44 | 54 |
| Адносіны Беларусі і Расеі павінны быць такімі ж, як і зь іншымі краінамі СНД | 20 | 20 | 26 | 21 | 29 | **36** | 31 | 36 | 29 |
| Беларусь і Расея павінны стаць адзінай дзяржавай, з адзіным прэзыдэнтам, урадам, войскам, сьцягам, валютай і г. д. | 21 | 26 | 16 | 12 | 14 | **13** | 12 | 11 | 13 |

**На Ваш погляд, у якім саюзе дзяржаваў было б лепш жыць народу Беларусі — у Эўрапейскім зьвязе ці ў саюзе з Расеяй? (лябараторыя Новак), %**

| | **05’13** | **07’13** | **08’13** | **09’13** | **10’13** | **11’13** | **12’13** | **01’14** | **02’14** | **03’14** |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| У саюзе з Расеяй | 55 | 51 | 45 | 52 | 53 | 53 | 55 | 58 | 55 | 62 |
| У Эўрапейскім Зьвязе | 32 | 29 | 33 | 29 | 29 | 28 | 28 | 24 | 24 | 18 |

інтэграцыю з Расеяй у той або іншай форме, падтрымліваюць Лукашэнку і да пэўнай ступені перадаюць яму права будаваць адносіны з Масквой. Напрыклад, у апытаньні НІСЭПД у 2007 годзе з тых, хто выказваўся за паўнавартасную адзіную дзяржаву з Расеяй, давер да кіраўніка дзяржавы выказвалі 59% (недавер — 28%), у 2012 годзе сярод прыхільнікаў зьліцьця РБ і РФ у адну дзяржава 55% давяралі Лукашэнку і 19% не давяралі.

Аднак далёка ня ўсе, хто за Расею — за Лукашэнку. Дадзеныя сакавіцкага 2014 году апытаньня НІСЭПД паказваюць прыкладную «вагу» групаў рознага геапалітычнага выбару і рознага стаўленьня да кіраўніка дзяржавы.

**Сувязь адказаў на пытаньні аб даверы прэзыдэнту і аб геапалітычным выбары, НІСЭПД, сакавік 2014, (адсоткі ад усёй выбаркі)**

| **Ці давяраеце Вы прэзыдэнту?** | **Вы за аб'яднаньне Беларусі з РФ ці за ўступленьне ў ЭЗ?** | | |
|---|---|---|---|
| | За аб'яднаньне з РФ | За ўступленьне ў ЭЗ | Няма адказу/ Цяжка адказаць |
| Давяраю | **33** | **6** | 7 |
| Не давяраю | **16** | **23** | 5 |
| НА/ ЦА | 3 | 4 | 3 |

16% тых, хто не давярае Лукашэнку і адначасна выступае за аб'яднаньне з Расеяй — гіпатэтычны патэнцыял «рускай партыі» ў Беларусі, патэнцыял палітычных зьменаў на карысьць Расеі, але насуперак, супраць дзейнага кіраўніка дзяржавы.

Варта адзначыць, што гэтая група беларускага грамадзтва ня мае свайго палітычнага прадстаўніцтва, прынамсі, яна вельмі адносна была прадстаўленая падчас двух апошніх прэзыдэнцкіх выбараў.

*Гл. Табліцу*

**Геапалітычны выбар электаратаў кандыдатаў у прэзыдэнты ў 2006-2010 гадах, (НІСЭПД), %**

Іншымі словамі, на прэзыдэнцкіх выбарах былі прадстаўленыя А. Лукашэнка і праэўрапейская альтэрнатыва яму. Некаторыя публіцысты і палітыкі трактавалі асобных апазыцыйных кандыдатаў як ледзь не «агентаў Масквы», аднак выбаршчыкі гэтаму не паверылі — сярод тых, хто галасаваў за альтэрнатыву, пераважная частка прытрымлівалася эўрапейскага геапалітычнага выбару. Між тым, група з палітычнымі ўстаноўкамі «Расея мінус Лукашэнка» мае даволі ўстойлівую і немалую колькасьць.

*Гл. табліцу*

**Дынаміка аб'ёму групы тых, хто не давярае прэзыдэнту і адначасна выступае за аб'яднаньне з Расеяй (НІСЭПД), %**

Хто ж тыя беларусы, якія не давяраюць А. Лукашэнку і выступаюць за аб'яднаньне з Расеяй? Табліца, якая прыводзіцца ніжэй, дае ўяўленьне пра характарыстыкі групаў адпаведнага ўнутрыпалітычнага і геапалітычнага выбару ў сакавіцкім 2014 году апытаньні НІСЭПД.

*Гл. табліцу*

**Сувязь сацыяльна-дэмаграфічных характарыстык і палітычных установак з даверам да прэзыдэнта і геапалітычным выбарам, сакавік 2014 году (НІСЭПД), %**

Для групы «Расея мінус Лукашэнка» ўласцівы сярэдні ўзрост, сярод іх найбольшая доля рускамоўных. Сярод тых, хто не давярае дзейнаму кіраўніку дзяржавы і выступае за аб'яднаньне з Расеяй, прыкметна вышэйшая, чым у сярэднім,

доля працаўнікоў прыватных прадпрыемстваў і менчукоў. У рэгіянальным разрэзе гэтая група найбольш прадстаўленая ў сталіцы і ў Віцебскай вобласьці. У групе «Расея мінус Лукашэнка» гатовасьць заўзець за спартовую каманду Беларусі ніжэйшая за сярэднюю, аднак гатовасьць заўзець за каманду Расеі — на сярэднім узроўні.

Зьвяртае на сябе увагу, што ў гэтай групе нізкі (ніжэйшы за сярэдні) давер ня толькі да афіцыйных інстытутаў (ураду, дзяржаўных СМІ), але і да апазыцыі і недзяржаўных СМІ. Чальцы групы «Расея плюс Лукашэнка» давяраюць дзяржаўным інстытуцыям, іх люстэркавыя апанэнты з групы «Эўразьвяз мінус Лукашэнка» давяраюць недзяржаўным інстытутам і не давяраюць дзяржаўным, даверам групы «Расея мінус Лукашэнка» не карыстаецца асабліва ніхто.

Што тычыцца электаральных густаў, то з аднаго боку ў групе «Расея мінус Лукашэнка» доля гатовых галасаваць за Ў. Някляева амаль такая самая, як у іншай апазыцыйнай групе «Эўразьвяз мінус Лукашэнка». Але з другога боку ў групе «Расея мінус Лукашэнка» самая высокая доля тых, хто ня вызначыўся.

Нарэшце, пры адказах на «аднабаковае» пытаньне аб аб'яднаньні з Расеяй (калі гэта не падаецца як альтэрнатыва эўраінтэграцыі) толькі палова з гэтай групы выказваюцца «за».

Такім чынам, тыя, хто не давярае А.Лукашэнку і пры гэтым выступае за аб'яднаньне з Расеяй — гэта група сацыяльна-актыўных грамадзянаў, сярод іх высокая доля людзей ўзросту ад 30 да 59 гадоў, менчукоў і працаўнікоў прыватных прадпрыемстваў,

**Геапалітычны выбар электаратаў кандыдатаў у прэзыдэнты ў 2006-2010 гадах, (НІСЭПД), % ***

| **Варыянт адказу** | **Вы за аб’яднаньне Беларусі з РФ ці за ўступленьне ў ЭЗ?** | | |
|---|---|---|---|
| | За аб’яднаньне з РФ | За ўступленьне ў ЭЗ | Няма адказу/Цяжка адказаць |
| За каго Вы галасавалі на выбарах 2006 году? | | | |
| За А. Казуліна | 36 | 55 | 9 |
| За А. Мілінкевіча | 16 | 75 | 9 |
| За А.Лукашэнку | 75 | 13 | 12 |
| За каго Вы галасавалі на выбарах 2010 году? | | | |
| За Ў. Някляева | 18 | 71 | 11 |
| За А. Саньнікава | 18 | 62 | 20 |
| За альтернатыву** | 22 | 65 | 13 |
| За А. Лукашэнку | 52 | 20 | 28 |

**табліца чытаецца па гарызанталі*
*** аб’яднаны электарат усіх кандыдатаў, акрамя А. Лукашэнкі*

**Дынаміка аб'ёму групы тых, хто не давярае прэзыдэнту і адначасна выступае за аб'яднаньне з Расеяй (НІСЭПД), %**

| | 09'05 | 04'06 | 12'07 | 09'08 | 09'09 | 09'10 | 09'11 | 06'12 | 09'13 | 03'14 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Не давяраюць прэзыдэнту і выступаюць за аб'яднаньне з РФ | 12 | 12 | 11 | 9 | 6 | 9 | 22 | 17 | 7 | 16 |

**Сувязь сацыяльна-дэмаграфічных характарыстык і палітычных установак з даверам да прэзыдэнта і геапалітычным выбарам, сакавік 2014 году (НІСЭПД), % ***

| | Усе апытаныя | Давяраюць прэзыдэнту+ за аб'яднаньне з РФ | Давяраюць прэзыдэнту + за ўступленьне ў ЭЗ | Не давяраюць прэзыдэнту + за ўступленьне ў ЭЗ | Не давяраюць прэзыдэнту +за аб'яднаньне з РФ |
|---|---|---|---|---|---|
| Узрост | | | | | |
| 18-29 | 23 | 12 | 28 | 37 | 24 |
| 30-59 | 54 | 43 | 53 | 56 | 68 |
| 60 і больш | 23 | 45 | 19 | 7 | 7 |
| ***Пераважная мова штодзённай камунікацыі*** | | | | | |
| Беларуская | 6 | **8** | **13** | 5 | 3 |
| Руская | 62 | 55 | 62 | 66 | **75** |
| І беларуская, і руская | 12 | 12 | 13 | 14 | 8 |
| Зьмяшаная («тра-сянка») | 20 | 25 | 11 | 13 | 15 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Статус | | | | | |
| Наёмны працаўнік на прыватным прадпр. | 16 | 8 | 7 | 24 | **31** |
| Наёмны працаўнік на дзяржпрадпр. | 33 | 27 | 38 | 36 | 34 |
| Пэнсіянэр | 26 | 48 | 24 | **7** | **10** |
| Месца пражываньня | | | | | |
| Сталіца | 19 | 17 | 7 | 26 | **34** |
| Абласны цэнтар | 19 | 19 | 26 | 15 | 16 |
| Вялікі горад | 19 | 18 | 13 | 17 | **26** |
| Малы горад | 17 | 17 | 24 | 18 | 10 |
| Вёска | 26 | 29 | 30 | 23 | 14 |
| ***Рэгіён*** | | | | | |
| Менск | 19 | 17 | 7 | 26 | **34** |
| Менская вобласьць (бязь Менску) | 15 | 11 | 13 | 24 | 14 |
| Берасьцейская вобласьць | 14 | 16 | 7 | 13 | 14 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Гарадзенская вобласьць | 11 | 15 | 17 | 7 | 6 |
| Віцебская вобласьць | 13 | 7 | 10 | 15 | **17** |
| Магілёўская вобласьць | 12 | 15 | 16 | 7 | 4 |
| Гомельская вобласьць | 15 | 19 | 31 | 8 | 12 |
| Калі ў Вашым горадзе (раёне) адбудуцца акцыі супраць пагаршэньня эканамічнага становішча, ці гатовы Вы ўзяць у іх удзел? | | | | | |
| Так | 23 | 8 | 30 | 47 | **20** |
| Не | 68 | 88 | 63 | 40 | 73 |
| Ці заўзееце Вы спартовыя каманды якіх-небудзь краінаў? | | | | | |
| За каманду Беларусі | 47 | 52 | 40 | 48 | **40** |
| За каманду Расеі | 20 | 24 | 23 | 12 | **21** |
| ***Давер дзяржаўным і грамадзка-палітычным і грамадзкім інстытутам*** | | | | | |
| Урад | 33 | 71 | 59 | 2 | 1 |
| Недзяржаўныя СМІ | 32 | **24** | 52 | 47 | **29** |
| Дзяржаўныя СМІ | 35 | 68 | 53 | 6 | 4 |
| Апазыцыйныя паліт. партыі | 15 | **9** | 21 | 30 | **10** |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Ці лічыце Вы сябе апазыцыяй існай уладзе? | | | | | |
| Так | 17 | 2 | 4 | 47 | **21** |
| Не | 74 | 93 | 89 | 44 | 67 |
| Калі б заўтра адбыліся выбары прэзыдэнта Беларусі, за каго б Вы прагаласавалі? | | | | | |
| За А. Лукашэнку | 40 | 80 | 56 | 5 | 8 |
| За Ў. Някляева | 7 | 0 | 2 | **16** | **14** |
| За М. Статкевіча | 4 | 1 | 3 | 8 | 6 |
| За А. Лябедзьку | 2 | 1 | 1 | 6 | 3 |
| За А. Мілінкевіча | 2 | 1 | 0 | 4 | 3 |
| Іншы палітык (разам) | 10 | 4 | 12 | 19 | 12 |
| Іншы адказ/НА/ ЦА | 35 | 13 | 27 | 43 | 54 |
| Калі б сёньня праходзіў рэфэрэндум аб аб'яднаньні Беларусі і Расеі, як бы Вы прагаласавалі? | | | | | |
| За аб'яднаньне | 29 | **48** | 27 | 10 | 48 |
| Супраць аб'яднаньня | 48 | 35 | 55 | 75 | 23 |

**табліца чытаецца па вэртыкалі*

для гэтай групы ўласьцівае пэўнае адчужэньне ад існай у Беларусі грамадзка-палітычнай сыстэмы, што праяўляецца ў нізкім даверы да грамадзкапалітычных і грамадзянскіх інстытутаў, у высокай долі нявызначаных з электаральным выбарам, у нізкім адсотку заўзятараў спартовай каманды Беларусі. Разам з тым гэтыя адрозьненьні ня вельмі значныя, вельмі паказальны несфакусаваны характар геапалітычнага выбару ўнутры гэтай групы, нязначная зьмена пытаньня пра інтэграцыю з Расеяй зьмяншае колькасьць прыхільнікаў гэтай інтэграцыі ўдвая.

### Мова і этнічнасьць у люстэрку перапісу

Вышэй было паказана, што найбольшая канцэнтрацыя прадстаўнікоў групы «Расея мінус Лукашэнка» назіраецца ў сталіцы, у вялікіх гарадах і ў Віцебскай вобласьці. З гэтымі вынікамі часткова карэспандуюцца дадзеныя перапісу 2009 году аб долях людзей з рускай мовай, як роднай, рускамоўных і долі этнічных рускіх у рэгіянальным разрэзе.

*Гл. табліцу*

**Разьмеркаваньне па роднай мове, мове хатняга ўжываньня і долі рускіх у разрэзе гарадзкога і вясковага насельніцтва рэгіёнаў Беларусі паводле перапісу 2009 году, %**

Крыніца: Белстат, дадзеныя перапісу насельніцтва Беларусі 2009 году
http://belstat.gov.by/homep/ru/perepic/2009/itogi1.php

Варта адзначыць істотныя адрозьненьні ў паказчыках разгляданых парамэтраў паміж гарадзкім і вясковым насельніцтвам: у гарадах істотна больш высокі адсотак і тых, хто ўважае рускую мову роднай, і тых, для каго яна — мова пабытовых

зносінаў, і больш высокая доля рускіх. Пры гэтым адрозьненьні моўных паводзінаў і ўстановак непрапарцыйныя адрозьненьням у долях рускіх сярод гарадзкога і вясковага насельніцтва, долі рускіх адрозьніваюцца на прыкладна 4 адсоткавыя пункты, парамэтры моўных паводзінаў адрозьніваюцца на дзясяткі адсоткавых пунктаў і даюць фактычна люстэркава адваротную карціну: гарады гавораць пераважна па-руску, вёска — па-беларуску.

Што тычыцца адрозьненьняў паміж рэгіёнамі, то яны нязначныя паводле долі рускіх, якая варыюецца паміж 6 і 10 адсоткамі. Паводле моўных паводзінаў найменш «рускія» — Гарадзенская і Менская вобласьці, найбольш — Віцебская вобласьць і Менск, што адпавядае дадзеным НІСЭПД, якія былі прыведзеныя вышэй.

## Беларусь і Ўкраіна: падабенства і адрозьненьні

Беларускае насельніцтва значна больш аднароднае ў сэнсе этнічнасьці і моўных паводзінаў, у тым ліку і ў разрэзе рэгіёнаў, чым насельніцтва Ўкраіны. Паводле перапісу насельніцтва Ўкраіны 2001 году доля рускага насельніцтва складала ў Крыме 58%, у Данбасе 38%, пры сярэдняй долі па Ўкраіне 17%, рускую мову падчас перапісу 2001 году назвалі роднай 77% у Крыме, 75% — у Данецкай вобласьці, 69% — у Луганскай, а ў цэлым па Ўкраіне роднай мовай рускую назвалі 30%.

Патэнцыйная база «рускай партыі» ў Беларусі значна менш сфакусаваная і геаграфічна лякалізаваная. Больш шырокая прадстаўленасьць групы «Расея мінус Лукашэнка» ў сталіцы скампэнсаваная больш шырокім, чым у сярэднім па краіне, прадстаўніцтвам у ёй і праэўрапейскіх колаў.

**Разьмеркаваньне па роднай мове, мове хатняга ўжываньня і долі рускіх у разрэзе гарадзкога і вясковага насельніцтва рэгіёнаў Беларусі паводле перапісу 2009 году, %***

| | Родная мова -беларуская | Дома гавораць пераважна па-беларуску | Родная мова — руская | Дома гавораць пераважна па-руску | **Доля рускіх** |
|---|---|---|---|---|---|
| **Беларусь** | 53 | 23 | 42 | 70 | 8 |
| Гарадзкое насельніцтва | 44 | 11 | 50 | 82 | 9 |
| Вясковае насельніцтва | 80 | 59 | 18 | 36 | 5 |
| **Менск** | 35 | 6 | 53 | **82** | **10** |
| **Менская вобласьць (бязь Менску)** | 63 | 39 | 27 | 56 | 7 |
| Гарадзкое насельніцтва | 60 | 22 | 37 | 73 | 9 |
| Вясковае насельніцтва | 81 | 60 | 16 | 35 | 5 |
| **Гарадзенская вобласьць** | 59 | 35 | 36 | 57 | 8 |
| Гарадзкое насельніцтва | 48 | 19 | 47 | 74 | **10** |
| Вясковае насельніцтва | 84 | 71 | 12 | 18 | 4 |
| **Берасьцейская вобласьць** | 54 | 27 | 43 | 70 | 6 |
| Гарадзкое насельніцтва | 41 | 10 | 55 | 87 | 8 |
| Вясковае насельніцтва | 78 | 59 | 19 | 38 | 3 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Віцебская вобласьць** | 53 | 22 | 44 | 73 | **10** |
| Гарадзкое насельніцтва | 44 | 11 | 52 | **84** | **11** |
| Вясковае насельніцтва | 76 | 54 | 22 | 43 | 7 |
| **Магілёўская вобласьць** | 55 | 20 | 42 | 77 | 8 |
| Гарадзкое насельніцтва | 47 | 10 | 50 | **86** | 9 |
| Вясковае насельніцтва | 80 | 50 | 18 | 47 | 5 |
| **Гомельская вобласьць** | 55 | 23 | 42 | 72 | 8 |
| Гарадзкое насельніцтва | 46 | 10 | 50 | 84 | 9 |
| Вясковае насельніцтва | 79 | 56 | 19 | 39 | 5 |

**табліца чытаецца па гарызанталі*

Цікава параўнаць дадзеныя па Беларусі і яе рэгіёнах з дадзенымі апытаньня, якое правёў 10-15 красавіка сёлета на ўсходзе Ўкраіны Кіеўскі міжнародны інстытут сацыялёгіі. Паводле гэтага апытаньня, Данецкая і Луганская вобласьці істотна адрозьніваліся паводле ляяльнасьці да ўкраінскай дзяржаўнасьці нават ад іншых рэгіёнаў украінскага Ўсходу — Запарожжа, Мікалаеўшчыны, Харкаўшчыны, Херсоншчыны, Днепрапятроўшчыны і Адэскай вобласьці.

Але пры гэтым прарасейскія інтэнцыі Данбасу былі ў прынцыпе сувымерныя зь беларускімі, у гэтых рэгіёнах 70% былі супраць адыходу Крыму да Расеі, актуальнасьць праблемаў фэдэралізацыі Ўкраіны і ўвядзеньня рускай як другой дзяржаўнай мовы займалі адно з апошніх месцаў у сьпісе найбольш балючых і актуальных праблемаў, за аб'яднаньне Ўкраіны і Расеі ў адну дзяржаву выступалі 12% у Данецкай вобласьці і 16% — у Луганскай. Нават на пытаньне «Вы падтрымліваеце або не падтрымліваеце меркаваньне, што Вашай вобласьці варта аддзяліцца ад Украіны і далучыцца да Расеі?» «так» і «хутчэй так» адказвалі 28% у Данеччыне і 30% у Луганшчыне.

Аднак гэтага было дастаткова, каб прарасейскія апалчэнцы знайшлі дастатковую масавую падтрымку і стварылі для Кіева складаную ваенна-палітычную праблему, чаго не адбылося ў іншых рэгіёнах усходняй Украіны. Выглядае, што хіба не галоўнай прычынай гэтага сталі ня столькі прарасейскія інтэнцыі жыхароў Данбасу, колькі іх скрайні недавер да рэвалюцыйнай кіеўскай улады: у красавіку сёлета прэм'ера Арсеня Яцанюка і выканаўцу абавязкаў прэзыдэнта Аляксандра

Турчынава лічылі нелегітымнымі 72% і 74% жыхароў Данецкай і 72% і 70% жыхароў Луганскай вобласцяў (у сярэднім па 8 вобласцях усходняй Украіны — 51% і 50% адпаведна).

Праецыруючы гэтыя дадзеныя на Беларусь, можна спрагназаваць, што пры наяўнасьці ў краіне легітымнай, прызнанай большасьцю насельніцтва ўлады, «руская вясна» ў стылі крымскага і данбаскага сцэнароў уяўляецца малаімавернай: адпаведная група насельніцтва, якая можа стаць яго грамадзка-палітычнай базай, адносна невялікая, невялікая і гатовасьць яе да актыўных палітычных дзеяньняў.

Але ў выпадку страты веры ў легітымнасьць улады гэты сцэнар тэарэтычна можа стаць рэальнасьцю. Пэўная масавая база для яго ёсьць. Частка насельніцтва «Расея мінус Лукашэнка» да апошняга часу ня мела сваіх прадстаўнікоў у палітычным полі краіны, ў крызіснай сытуацыі імі могуць стаць беларускія аналягі крымскіх Аксёнава і Канстанцінава, данбаскіх Губарава і Пушыліна і нават «рускага Чэ» Гіркіна-Стралкова. Паводле дадзеных сацыялягічных апытаньняў, гіпатэтычны «ўдар рускіх багоў» найбольш імаверны ня толькі ў памежнай з Расеяй Віцебшчыне, але і ў «сэрцы» краіны — у Менску. Прычым, нават цяпер аналіз групы «Расея мінус Лукашэнка» паказвае, што гэта зусім не вясковыя старыя, чыё меркаваньне ў сілавым супрацьстаяньні ня мае значэньня — гэта пераважна асобы сярэдняга ўзросту, менчукі, жыхары вялікіх гарадоў. Кулакоў, здольных біць, і рук, здольных трымаць зброю, у іх дастаткова.

Пры гэтым, як было адзначана вышэй, цяпер А. Лукашэнка адсарбуе істотную частку прарасей-

скіх інтэнцыяў, накіроўваючы іх у палітычна канвэнцыйнае рэчышча, якое не пагражае, прынамсі, імгненнай стратай беларускай дзяржаўнасьці. У выпадку сыходу дзейнага кіраўніка дзяржавы ці страты ім легітымнасьці ва ўяўленьні беларусаў група «Расея плюс Лукашэнка», уся тая трацiна насельніцтва, якая цяпер перадае яму паўнамоцтвы на ўладкаваньне стасункаў з Расеяй, будзе шукаць іншых рэпрэзэнтантаў. І наўрад ці гэта будзе праэўрапейская апазыцыя.

Аповесьць Васіля Быкава «Знак бяды» канчаецца словамі: «А бомба на узгорку чакала сваёй пары». «Руская бомба» ў Беларусі чакае сваёй пары. І ад мудрасьці беларускіх палітыкаў, як апазыцыйных, гэтак і праўладных, залежыць, каб гэтая пара ніколі не наступіла.

## Камэнтары:

**Алесь Менскі:** Русский народ — братский, нам под его крылом бы сидеть и радоваться. Чего не скажешь о соседях и не соседях с другой стороны границы. Ни разу в истории еще запад не оказывал нам помощь, а пытался захватить или истребить.

**Виктор:** А в Беларуси есть народ? По-моему в наличии бездумная чавкающе-жующее население в большинстве своём с пропитыми мозгами и выброшенной на свалку совестью. Если воспитатель детсада (специалист с высшим педагогическим образованием и опытом работы) готов тянуть «лямку», терпя унижения и хамство администрации, за зарплату меньше, чем у той же уборщицы «Евроопта», то откуда народу вообще взяться? Откуда взяться самоуважению и гражданской ответственности? В 1996 году эти «ватники» проголосовали против того, чтобы «органы

власти финансировались открыто, гласно и только из госбюджета»... Где народ???

**Ada:** Пакуль нашых дзяцей будуць вучыць пераважна ў рускіх школах і універсітэтах, пакуль пераважае руская царква ў хрысціянаў краіны а яшчэ і рускія ТВ каналы — сітуацыя мала зменіцца.

**Inhvar:** Усходнім беларусам цяжка прызнаваць Менск у якасьці сталіцы,а Менск харахорыцца і стварыў свой «мірок» які сам сябе ўпрыгожвае за кошт рэгіёнаў.І абавязкова знойдуцца тыя, якія калісьці спытаюць_ Начорта нам Менск,які сядзіць на нашым карку,няхай лепш Масква будзе,хоць не так сорамна.

**Сіняк:** Гэта мана. Няпраўда што ўсходнія беларусы не прызнаюць Менск у якасці сталіцы. Падзелу, кшталту ўкраінскага, на усход і захад у Беларусі не існуе.

## Хто меў рацыю?

**Зьвесткі пра ўдзел беларускіх грамадзянаў у сэпаратысцкіх забурэньнях у Данбасе — сьведчаньне таго, што патэнцыял «рускай бомбы» ў Беларусі сапраўды існуе. Ускосна пра тое, што ўлада гэта ўсьведамляе, сьведчыць і мяккая забарона на ўжываньне георгіеўскіх стужак падчас сьвяткаваньня Дня Перамогі ў 2014 годзе. Пакуль Масква ня лічыць патрэбным актывізаваць гэты патэнцыял. Але ў любым выпадку гэты сэгмэнт беларускага грамадзтва застаецца без сваіх палітычных прадстаўнікоў і ёсьць пытаньне, як доўга такое становішча будзе працягвацца.**

## ШТО Ў ГАЛАВЕ Ў БЕЛАРУСАЎ?

- Бяз нас-2 альбо «пайшлі вы ўсе…»
- Пасткі масавай сьвядомасьці
- Байкот і нацыянальная сьвядомасьць
- Маўклівая большасьць
- Ці можна сядзець на штыхах?
- Краіна без герояў?
- Слоўная дробязь
- Разьбітыя люстэркі
- Саламяны самалёт беларускіх выбараў
- Казка пра сьпячую царэўну
- Сьвятлана Калінкіна, Марыя Антуанэта і «мудак»
- Сацыяльная тэорыя адноснасьці
- Чатыры тарпэды. І ўсе міма
- Нормы, якія толькі здаюцца вечнымі

**08.01.2008**

## Бяз нас-2 альбо «пайшлі вы ўсе...»

Не, гэта ня вам, паважаныя чытачы. Дакладней, не ад мяне.

На пачатку новага году літоўскі Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў (НІСЭПД) вывесіў на сваім сайце дадзеныя і аналіз свайго сьнежаньскага апытаньня ў Беларусі. Там шмат цікавага, але маю ўвагу прыцягнулі вынікі дасьледаваньня, якія тычацца важнай і нечаканай структурнай асаблівасьці беларускага грамадзтва. Зразумела, у першую чаргу людзей цікавяць рэйтынгі — як там народ ставіцца да Аляксандра Рыгоравіча. Але рэйтынг — рэч каньюнктурная, як вынікі прусачыных забегаў, сёньня рэйтынг падняўся, заўтра ўпаў, дый у падзеньні рэйтынгу пасьля скачка інфляцыі і скасаваньня льготаў нічога нечаканага няма.

Нечаканасьць — у адкрыцьці вялікай групы насельніцтва зь вельмі дзіўнымі якасьцямі.

Сацыёлягі задавалі пытаньне пра тое, давяраюць ці не давяраюць апытаныя розным грамадзкім і дзяржаўным інстытутам: ад прэзыдэнта і праваслаўнай царквы да апазыцыі і незалежных СМІ. А потым паспрабавалі клясыфікаваць апытаных паводле іх адказаў.

Адной групай такіх апытаных аказаўся клясычны апазыцыйны электарат — тыя, хто не давярае

ўладным інстытутам ад кіраўніка дзяржавы да міліцыі і мясцовых саветаў, але мае даволі вялікі давер да незалежных мэдыяў, свабодных прафсаюзаў, праваабарончых арганізацый і нават апазыцыі. Другая група — адданыя прыхільнікі ўлады, сярод іх давер да дзяржаўных установаў — вышэй няма куды. Нарэшце трэцяя група — таксама прыхільнікі ўлады, але памяркоўныя, яны больш за ўладу, чым за альтэрнатыву, але шмат ацэнак — блізкія да нуля. Здаецца, пакуль усё паводле вядомых схемаў: ёсьць тыя, хто за, тыя, хто супраць, ну і «балота», якое хутчэй за, чым супраць.

Але гэта ня ўсё. Ёсьць яшчэ адна група, каго сацыёлягі назвалі «адчужанымі», якая вызначаецца татальным, надзвычайным недаверам да ўлады ва ўсіх яе праявах, але разам з тым настолькі ж татальна гэтыя людзі не давяраюць і любой альтэрнатыве, ня толькі апазыцыі, але і незалежным СМІ, праваабаронцам, свабодным прафсаюзам — усім. Фактычна гэтыя людзі адмаўляюць у даверы грамадзтву, у якім яны жывуць, у цэлым, яно ўсё, як такое, чужое ім і яны чужыя яму.

Гэта як пытацца ў чалавека, які ненавідзіць футбол, якая каманда яму больш падабаецца, за каго ён заўзее — ды ні за каго, ён самую гэтую гульню цярпець ня можа. А ў дадзеным выпадку размова ну калі не пра нянавісьць, то пра нешта падобнае, усё ж недавер — рэч сур'ёзная, гэтыя людзі ня проста ставяцца абыякава да ўсіх грамадзкіх і дзяржаўных інстытутаў. І тут размова ня толькі пра палітыку, скажам, зь міліцыяй, мясцовай уладай, судамі звычайныя людзі сутыкаюцца ня толькі і ня столькі ў сувязі з выказваньнем сваіх палітычных поглядаў. І такіх «адчужаных» — ня пару адсоткаў,

а прыкладна кожны пяты, прыкладна столькі ж, колькі і апазыцыйнага электарату.

Дарэчы, наяўнасьць такой катэгорыі была зафіксаваная сацыёлягамі і ў Расеі. Сьведчаньне таму — даволі шырокая папулярнасьць там галасаваньня «супраць усіх», пакуль адпаведная опцыя ў бюлетэнях не была адмененая законам.

Некалькі гадоў таму мудры Валянцін Акудовіч напісаў горкі артыкул «Бяз нас». У ім — роспач актыўнага ўдзельніка грамадзкага працэсу ад таго, што дарагія яму ідэі не ўспрымаюцца (ці недастаткова ўспрымаюцца) грамадзтвам. Назву артыкулу «адчужаныя» маглі б палічыць сваім жыцьцёвым дэвізам, але ўкладаючы ў яго зусім іншы сэнс: ня роспач ад паразы ў гульні, а грэбаваньне самай гульнёй — «ды пайшлі вы ўсе», як і было сказана.

Беларускай апазыцыі часта закідаюць няздольнасьць скансалідаваць хаця б тых, хто супраць улады. Закід, можа, і справядлівы, але наяўнасьць «адчужаных» спараджае глыбокі сумнеў у тым, ці можна зьдзейсьніць такую кансалідацыю ў прынцыпе. Людзей, якія адмаўляюць у даверы грамадзтву ў цэлым, наўрад ці можа прывабіць якая б то ні было зьмена вобразу апазыцыі, хай яна хоць на галаву ўстане.

Дарэчы, дадзеныя апытаньня НІСЭПД даюць пэўнае ўяўленьне пра тое, да чаго схільныя «адчужаныя»: гэтая група аказваецца самай нецалерантнай адносна ўсіх без выключэньня этнічных меншасьцяў — ад расейцаў да ўраджэнцаў Паўдзённа-Ўсходняй Азіі. Што і натуральна: ня церпячы, не прызнаючы свайго грамадзтва, з чаго б гэтым людзям цярпець чужынцаў? Выглядае, што

калі гэтых людзей і можна завабіць у палітыку, то толькі на помсту — помсту ўсім.

## Хто меў рацыю?

**Варта адзначыць, што гэтая заканамернасьць — наяўнасьць групы «адчужаных», тых хто не давярае нікому і нічому — застаецца нязьменнай ва ўсіх апытаньнях. І колькасьць практычна не мяняецца — прыкладна 20%. Я быў моцна ўражаны, калі напаткаў цытату з прамовы Робэрта Кенэдзі, міністра юстыцыі ЗША, брата прэзыдэнта Кенэдзі, сказанай у траўні 1964 году: «Прыкладна кожны пяты заўсёды выступае супраць усяго». Магчыма, гэта наагул унівэрсальная, агульначалавечая канстанта.**

**31.05.2010**

## Пасткі масавай сьвядомасьці

Апошнім часам у многіх выданьнях зьявіліся публікацыі, прысьвечаныя вынікам дасьледаваньня «Беларусь і сьвет: геапалітычны выбар скрозь прызму эканомікі і культуры», выкананага Беларускім інстытутам стратэгічных дасьледаваньняў (BISS) і сацыялягічнай лябараторыяй «Новак».

На падставе агульнанацыянальнага апытаньня, праведзенага ў першай палове 2010 году, навукоўцы атрымалі шэраг надзвычай цікавых і зьмястоўных вынікаў, якія пашыраюць веды пра беларускае грамадзтва.

Але адна з цэнтральных высноваў дасьледаваньня выклікае жаданьне зь ёй паспрачацца. У прэсавым рэлізе BISS яна сфармуляваная так: «Геапалітычны выбар матывуецца двума фактарамі — сацыяльнай мабільнасьцю рэспандэнтаў (здольнасьцю скарыстацца магчымасьцямі, якія адкрывае геапалітычны разварот, па прычыне ўзросту і адукацыі) і, адпаведна, ацэнкай балянсу эканамічных дабротаў і стратаў у выніку ажыцьцяўленьня таго або іншага геапалітычнага сцэнару. Каштоўнасная матывацыя геапалітычнага выбару адсутнічае практычна цалкам».

Гэтая «адсутнасьць каштоўнаснай матывацыі» ўжо пачала жыць сваім жыцьцём, ёй ужо апэруюць іншыя дасьледчыкі і экспэрты як устаноўленым фактам. Між тым гэтая выснова, асабліва ў яе «двухбаковым» выглядзе, не зусім вынікае з тых дадзеных, якія прадстаўлены дасьледчыкамі (прынамсі яны дапускаюць і іншыя інтэрпрэтацыі), і ня надта стасуецца зь іншымі статыстычнымі і сацыялягічнымі дадзенымі.

## Show-прагматызм і сарамлівы патрыятызм

Адным з самых важных аргумэнтаў выступаюць адказы на пытаньне наўпрост: «Што, на ваш погляд, павінна быць галоўным у выбары саюзьнікаў Беларусі?» Зь велізарным адрывам рэспандэнты аддалі перавагу опцыі «Наколькі гэта будзе спрыяць паляпшэньню эканамічнага становішча ў краіне». Адна гэтая пазыцыя набірае 55.1% прыхільнікаў, наступная за ёй — «Наколькі гэта будзе спрыяць умацаваньню бясьпекі, міру і стабільнасьці» — 17.3%, астатнія магчымыя матывацыі — яшчэ менш.

Пераканаўча? Не зусім.

Варта заўважыць, што гэтыя дадзеныя адпавядаюць і дадзеным апытаньняў НІСЭПД, паводле якіх большасьць беларусаў (часам пераважная) з дылемы — незалежнасьць або падвышэньне дабрабыту — год ад году выбірала другое. Але вось дзіўная рэч: як высьвятляецца, незалежнасьць краіны — каштоўнасьць таксама і для большасьці тых, хто нібыта гатовы ахвяраваць ёю за «сачавічную поліўку» падвышэньня дабрабыту.

Зразумела, можна сьпісаць гэта на супярэчлівасьць масавай сьвядомасьці, якая сама ня ведае, чаго хоча. Але выглядае, што тут ёсьць цалкам рацыянальная інтэрпрэтацыя. Ключом да яе зьяўляецца тэза дасьледчыка Юрыя Шаўцова: «Беларускае нацыянальнае не дэманструецца, а праяўляецца».

І сапраўды так. Задаць пытаньне пра выбар паміж падвышэньнем дабрабыту і незалежнасьцю суседзям беларусаў — расейцам, палякам, літоўцам — адказ, хутчэй за ўсё, будзе адназначным на карысьць незалежнасьці. Пры тым, што далёка ня ўсе ў тых грамадзтвах так насамрэч мяркуюць. Але ў тых грамадзтвах так прынята адказваць. А ў Беларусі прынята адказваць інакш, дэманстратыўны show-патрыятызм — гэта адхіленьне ад стэрэатыпнай рэакцыі. Рэспандэнт разважае: «Ну, хіба я нейкі нацыяналіст, які на кожным рагу крычыць, што для яго незалежнасьць важнейшая за ўсё? Ці расеец, які за свае бярозкі кашулю на грудзях рве, ці паляк зь яго нацыянальным гонарам? Я ж нармальны беларус, як усе, зразумела ж, што дабрабыт важнейшы». І так і адказвае.

І гэта не падман, а дыктат стэрэатыпу масавай сьвядомасьці.

## Момант ісьціны-2004

Своеасаблівая праверка на практыцы гэтага беларускага «прагматызму» адбылася у лютым 2004 году. За некалькі месяцаў да гэтага НІСЭПД правёў апытаньне з пытаньнем пра выбар паміж незалежнасьцю і падвышэньнем дабрабыту, у якім пераважная большасьць выбрала дабрабыт. Але іранічная гісторыя ў лютым 2004 году паставіла практычны экспэрымэнт у выглядзе вострага газавага канфлікту з Расеяй, сутнасьць якога якраз і палягала ў тым самым выбары — незалежнасьць або дабрабыт. І што ж абралі беларусы? Ну, хай сабе правадыр беларусаў Аляксандар Лукашэнка зрабіў свой выбар, зыходзячы з уласьцівай яму волі да ўлады. Але і астатнія зрабілі той самы выбар, нягледзячы на свой рытарычны «прагматызм». Сарамлівы патрыятызм прадыктаваў у рэальнасьці выбар, супрацьлеглы show-прагматызму, прадэманстраванаму ў адказах на апытаньне. Дэманструецца адно, праяўляецца іншае.

Зразумела, ціск гэтага стэрэатыпу — гэта тэндэнцыя, нехта і сапраўды ставіцца і да незалежнасьці, і да пытаньня геапалітычнага выбару цалкам прагматычна. Але аддзяліць тых, у каго гэта сапраўдная матывацыя, ад тых, хто ў адказах проста падпарадкоўваецца ўладзе стэрэатыпу, даволі складаная задача, якую, на мой погляд, дасьледчыкі BISS і Новак ня выканалі. Дакладней, выканалі напалову.

На карысьць таго, што праэўрапейскія памкненьні сапраўды маюць у асноўным прагматычную матывацыю, у дасьледаваньні прыведзена і шмат іншых аргумэнтаў, апроч адказаў на «лабавое» пытаньне пра тое, чым павінен быць матывава-

ны выбар саюзьнікаў Беларусі. Гледзячы па ўсім, дасьледаваньне было сфакусаванае на вывучэньні характару менавіта праэўрапейскіх настрояў беларусаў, выснова пра характар прарасейскіх настрояў была зробленая паводле індукцыі: на карысьць таго, што праэўрапейскія настроі — пераважна прагматычныя, атрымалася шмат доказаў, у тым ліку і адказ на пытаньне пра матывы выбару саюзьнікаў, на карысьць таго, што прарасейскія настроі гэтак жа матываваныя — толькі адказ на прамое пытаньне пра матывы. Ну, відаць, і там тое самае.

## Дэцыльны каэфіцыент і «залаты» тузін

А вось і не. Магчыма, на адсутнасьць больш поўных дадзеных наклаліся яшчэ і ўстаноўкі дасьледчыкаў, іх своеасаблівае ўяўленьне пра сучасную Расею. Дасьледаваньне паказала, што да праэўрапейскага выбару схільныя больш «моцныя» сацыяльныя групы, якія валодаюць тымі або іншымі сацыяльнымі рэсурсамі — моладзь, гараджане, людзі з высокім узроўнем адукацыі. Адсюль дасьледчыкі зрабілі выснову: геапалітычны выбар матываваны сацыяльнай мабільнасьцю і ацэнкай балянсу выйгрышаў і стратаў ад гэтага выбару. Але які ж балянс выйгрышаў і стратаў абяцае «слабым» сацыяльным групам — старым, вяскоўцам, людзям зь нізкай адукацыяй, іх выбар на карысьць Усходу, Расеі?

Возьмем, напрыклад, такі паказьнік, як перавышэньне даходаў 10% самых багатых жыхароў краіны над даходамі 10% самых бедных іх суайчыньнікаў, так званы дэцыльны каэфіцыент. Паводле дадзеных ААН, у 2008 годзе ў Беларусі ён складаў 6.9, у Нямеччыне — таксама 6.9, у Польшчы — 8.8,

у Літве — 10.4, у Расеі — 12.7(!). Іншымі словамі, паводле гэтага каэфіцыенту, які вымярае ступень сацыяльнай няроўнасьці, Расея — менш роўная краіна ня толькі, чым Беларусь, але і менш, чым і старыя, і новыя краіны-сябры Эўразьвязу. Нехта скажа: у меншай ступені «дзяржава-сабес», чым узгаданыя краіны, але ідэалягічныя эпітэты не мяняюць сутнасьці: расейская сацыяльна-эканамічная сыстэма дае сваім «слабым» пластам насельніцтва меншую долю нацыянальнага «пірага», чым і Беларусь, і краіны Эўразьвязу.

Так, Расея ўсё ж багацейшая за Беларусь: скажам, у студзені сёлета сярэдняя пэнсія ў Расеі складала 220 даляраў у эквіваленце, а ў Беларусі — 162 даляры. Але ж Эўропа — багацейшая і за Беларусь, і за Расею: напрыклад, у ня самай багатай краіне ЭЗ — Польшчы — сярэдняя пэнсія на пачатку гэтага году складала 487 даляраў. Дык чаму ж тады сацыяльна «слабыя» слаі беларускага насельніцтва робяць геапалітычны выбар на карысьць Расеі, такой кепскай менавіта з пункту гледжаньня іх уласных жыцьцёвых пэрспэктываў, іх уласнага балянсу матэрыяльных выгадаў і стратаў?

Яны ня ведаюць, што такое Расея? Мяркую, што ведаюць: шмат хто зь беларусаў мае ў Расеі радню, нярэдка людзі езьдзяць туды, да таго ж і афіцыйныя беларускія мэдыі з пэўнага (і даволі даўняга) часу малююць вобраз Расеі як краіны сацыяльнай несправядлівасьці, грэбаваньня простым чалавекам і драпежнага капіталізму. Прычым, менавіта «слабыя» сацыяльныя групы ў найбольшай ступені схільныя афіцыйным СМІ верыць. А выбіраюць усё ж Расею. Чаму?

Што да магчымасьцяў, якія той або іншы геапалітычны выбар адкрывае не для «слабых», а для «моцных» сацыяльных групаў беларусаў, то сытуацыя тут таксама не настолькі адназначная, як гэта падаецца дасьледчыкам BISS і НОВАКа.

Нядаўна мне патрапіў на вочы сьпіс тузіна самых пасьпяховых расейскіх бізнэсоўцаў беларускага паходжаньня, трое зь іх патрапілі ў сотню самых багатых расейскіх бізнэсоўцаў.

Варта адзначыць, што многія зь іх — не беларусы па крыві, якія нарадзіліся і ўсё жыцьцё пражылі ў Расеі: гэта людзі, якія нарадзіліся ў Беларусі, пераехалі ў Расею і сталі ў ёй мультымільянэрамі. А вось сьпіс беларусаў, якія сталі мультымільянэрамі, зьехаўшы ў краіны Эўразьвязу, неяк на вочы не трапляўся. А вам, шаноўны чытач? Дык які геапалітычны выбар адкрывае перад дынамічнымі і сацыяльна-мабільнымі беларусамі большыя магчымасьці?

## «Каб ні ўсходняй, ні заходняй, ты была сама сабой»

Ускосна пра тое, што суадносіны паміж рацыянальнасьцю і геапалітычным выбарам крыху больш складаныя, чым вынікае з шырока тыражаванай высновы дасьледаваньня «Беларусь і сьвет: геапалітычны выбар скрозь прызму эканомікі і культуры», сьведчыць і адна важная агаворка дасьледчыкаў. У адным з пытаньняў рэспандэнтам прапанавалася зрабіць выбар паміж чатырма геапалітычнымі варыянтамі: саюзам толькі з Эўропай, толькі з Расеяй, і з Эўропай, і з Расеяй адначасна, і выбарам на карысьць незалежнай Беларусі, якая не ўваходзіць ні ў якія саюзы. Калі б беларусы былі такімі суцэльнымі прагматыкамі, калі б тыя, хто

арыентуецца на Эўропу, глядзелі на яе як на край магчымасьцяў і самарэалізацыі, а тыя, хто выбірае Расею, выбіраў насамрэч сацыяльныя гарантыі, дык хто ж тады павінны быць тыя, хто абірае незалежную Беларусь, дыстанцыяваную і ад Усходу, і ад Захаду? Відаць, прагматыкі-цэнтрысты — крышачку таго, крышачку іншага. Але насамрэч гэта ня так. Гэта, паводле дасьледчыкаў, пераважна «прыхільнікі Лукашэнкі, запалоханыя «бурлівым морам» і перш за ўсё Расеяй, якія арыентуюцца выключна на беларускую ўладу як на абаронцу і дабрадзея».

А як жа наконт сацыяльнай мабільнасьці, калькуляцыі выгодаў і стратаў як матыву геапалітычнага выбару? Чаму ж «слабыя» сацыяльныя слаі беларускага грамадзтва ў большасьці арыентуюцца ўсё ж на расейскае «бурлівае мора»?

Сказанае — не аргумэнты ў спрэчцы, горш ці лепш выбар на карысьць Усходу ці Захаду. Гэта пярэчаньне высновам дасьледнікаў BISS і НОВАКа, што гэты выбар матываваны выключна эканамічнай прагматыкай. Так выглядае, што іх увялі ў зман развагі паводле аналёгіі.

### «Расея — усход Беларусі»: свае і чужыя

Паводле дасьледаваньняў НІСЭПД, матывацыі геапалітычнага выбару беларусаў на карысьць Эўропы ці Расеі насамрэч асымэтрычныя.

Што да праэўрапейскіх памкненьняў, то і паводле дадзеных НІСЭПД у іх падмурку пераважае прагматычная матывацыя — прыхільнікі эўраінтэграцыі Беларусі ў значна большай ступені, чым іншыя, схільныя лічыць, што ў Эўропе жыцьцё лепшае. Лёгіка простая: там лепш, дык калі мы будзем там, то і ў нас (і нам асабіста) будзе лепш.

А вось што да прарасейскіх памкненьняў, то зьімі ня проста ня так, а з дакладнасьцю да наадварот. Тыя, хто схільныя да інтэграцыі з Расеяй, хто робіць свой геапалітычны выбар на яе карысьць, ацэньваюць тамтэйшае жыцьцё, расейскі дабрабыт горш, чым беларускі, не радзей, а часьцей (!), чым апытаныя ў сярэднім. Дык дзе ж тут прагматыка? Гэта хутчэй антыпрагматыка — хочам ісьці туды, дзе на наш погляд нават горш, чым у нас.

Але ўсё устае на свае месцы, калі дапусьціць, што выбар тых беларусаў, якія робяць яго на карысьць Расеі, мае як раз не прагматычную, а каштоўнасную матывацыю. Нехта можа лічыць гэтыя каштоўнасьці кепскімі, недарэчнымі, вычварнымі, але ад гэтага яны не перастаюць быць менавіта каштоўнасьцямі, а не арытмэтычнай калькуляцыяў выгодаў і стратаў. Мэханізм гэтага выбару выдатна сфармуляваў філёзаф Валянцін Акудовіч, сказаўшы, што Расея — не «на ўсход ад Беларусі», а «ўсход Беларусі». Іншымі словамі, гэтая матывацыя — блізкасьць, датычнасьць, адчуваньне, што расейцы — гэта нашы, свае. А эўрапейцы — не свае, пры ўсім іх дабрабыце.

Неяк неакадэмічна ў сьпісе магчымых матывацыяў выбару саюзьнікаў Беларусі прапаноўваць рэспандэнтам варыянт адказу «выбіраць тых, хто свае». Яго і не прапаноўвалі. Але выглядае, што для значнай часткі беларусаў менавіта такі варыянт быў бы самым адэкватным.

Чаму сытуацыя менавіта такая, як яна склалася — гэта асобная праблема. Але існыя матывацыі геапалітычнага выбару — ня чыста акадэмічнае пытаньне. І лепш мець пра іх адэкватнае ўяўлень-

не, якім бы непрыемным яно ні было і як бы ні супярэчыла ўлюбёным перакананьням некага.

## Камэнтары:

**Ігнат В.**: «адчуваньне, што расейцы — гэта нашы, свае. А эўрапейцы — не свае, пры ўсім іх дабрабыце.»
У беларускіх нацыянальных інтарэсах, значыцца, ёсць проста не запытваць пэўную частку насельніцтва аб іх «геапалітычным выбары», калі ён шкодны.
**Віталь Сіліцкі**: Спадар Дракахруст, даруйце, але вы бесцарамонна падмянілі тэрміны і аперуеце імі ў стылі «мая думка ўсё роўна мае рацыю». Мы НЕ ПЫТАЛІСЯ пра незалежнасць а даследавалі, у якой геапалітычнай канфігурацыі беларусы бачаць сваю незалежную дзяржаву і чаму яны бачаць яе менавіта ў такой канфігурацыі. Даруйце, але дадзеныя даследаванняў час ад часу абвяргаюць меркаванні каментатараў, якія для даследчыкаў толькі гіпотэзы, якія трэба правяраць. Дарэчы, даследаванне і паказала, што акурат прыхільнікі лукашэнкаўскіх геапалітычных опцыяў (Расія і аўтаркія) больш за іншых матывуюцца не-эканамічнымі фактарамі, але ізноў такі розніца маленькая. Шкада, што вы не заўважылі відавочнага.
**Drakakhrust**: Спадар Сіліцкі, прыклад з пытаньнем пра дабрабыт і незалежнасьць быў прыведзены ў якасьці аналёгіі, як ілюстрацыя фэномэну show-прагматызму. На мой погляд, у адказах на вашае пытаньне пра матывацыю, паводле якой Беларусі трэба выбіраць саюзьнікаў, вы менавіта з гэтым фэномэнам і сутыкнуліся. Замест сапраўднага стаўленьня вы атрымалі стэрэатып. Прынамсі гэтую гіпотэзу вы не праверылі. Наконт таго, што прыхільнікі Расеі і аўтаркіі больш за іншых матывуюцца неэканамічнымі опцыямі — я прачытаў вашу выснову: «Каштоўнасная матывацыя геапалітычнага выбару адсутнічае практычна цалкам». Што тут зьяўляецца відавочным, што я павінен быў заўважыць? Больш — гэта

наколькі? У інтэрвію «Партызану» вы прывялі сапраўды пераканаўчыя лічбы наконт прагматычнай матываванасьці праэўрапейскага выбару: «87% з тых, хто галасаваў бы за ЭЗ, мяркуюць, што пасьля далучэньня Беларусі да ЭЗ узровень жыцьця ў Беларусі палепшыцца. З тых, хто галасаваў бы супраць, у тое самае вераць 11%». А наконт саюзу з Расеяй у вас падобныя дадзеныя? Ну і застаецца пытаньне якаснага характару: дык якая такая калькуляцыя дае старым, сялянам і асобам зь нізкай адукацыяй такі дзіўны вынік, што пры жорсткім рускім капіталізме яны будуць жыць лепш?

## Хто меў рацыю?

**Пытаньне матывацыяў геапалітычнага выбару беларусаў застаецца прадметам спрэчак у беларускай аналітычнай супольнасьці. Экспэрты BISS працягваюць адстойваць меркаваньне пра чыста матэрыяльную абумоўленасьць гэтых матывацыяў. Між тым паводле дасьледаваньняў НІСЭПД 80% рэспандэнтаў адзначаюць, што рускія ім бліжэйшыя, чым эўрапейцы. Да таго ж пры параўнаньні дабрабыту Беларусі з дабрабытам у суседніх краінах беларусы ў апытаньнях ставяць краіны ЭЗ вышэй за Беларусь значна часьцей, чым Расею. Тое, што пры гэтым захоўваецца прыкладны балянс паміж прарасейскім і праэўрапейскім геапалітычным выбарам, сьведчыць, што гэты выбар вызначаецца прынамсі ня толькі матэрыяльнымі, але і культурнымі і ідэалягічнымі меркаваньнямі.**

## 01.02.2012

## Байкот і нацыянальная сьвядомасьць

Неяк мы з калегамі абмяркоўвалі дзіўныя дадзеныя передвыбарчых апытаньняў па Расеі: ладная частка насельніцтва, абсалютна дакладна ўсьведамляючы, што іх вынікі будуць сфальшаваныя, усё ж на іх ідзе. Выказваліся розныя меркаваньні, кшталту, баяцца або звычку такую маюць — хадзіць на выбары, але мяркую, што найбольш глыбокую візію выказаў калега Ян Максімюк, які зазначыў, што для людзей удзел у выбарах — гэта своеасаблівая прысяга на ляяльнасьць сваёй дзяржаве. Ня ўладзе, а дзяржаве, краіне як такой.

Мне здаецца, што гэтае меркаваньне цалкам прыдатнае да цяперашніх спрэчак пра байкот ці ўдзел. Ёсьць у ідэі байкоту нешта, што супярэчыць дзяржаўнаму, нацыянальнаму пачуцьцю людзей. Ня ў нейкім вытанчаным, эксклюзіўным сэнсе, а ў самым масавым. Людзі ж ідуць служыць у войска і плацяць падаткі ня толькі таму, што за адмову аштрафуюць ці ў турму пасадзяць. А таму, што адчуваюць еднасьць са сваімі суайчыньнікамі, агульны лёс у горы і ў радасьці. І ўдзел у выбарах — з таго ж шэрагу. Выбары кепскія, яны і ня выбары наагул, і таму на іх трэба не хадзіць? А падаткі хіба не ідуць на ўтрыманьне ўсіх АМАПаў і касталомаў з КДБ, усёй чынавенскай хеўры? Дык хіба ня лепш іх не плаціць, байкатаваць? А войска — хіба гэта не апірышча гэтага рэжыму, хіба не ягоныя мускулы, а ўнутраныя войскі — хіба не наўпрост яго дубіна? Дык можа лепш у яго не ісьці, байкатаваць?

Камусьці тое, што маўклівая большасьць глухая да гэтых заклікаў, падаецца сьведчаньнем яе рэак-

цыйнасьці і неразуменьня свайго шчасьця. А як на мой погляд, дык менавіта гэта і ёсьць заклад таго, што Беларусь была і будзе, гэта і ёсьць сапраўдная нацыянальная сьвядомасьць. Яна сама сябе так не называе, ня мысьліць нават у такіх катэгорыях, але ня будзе гэтага, пахісьнецца гэта — і ня будзе Беларусі.

Пры гэтым людзі, якія, у прыватнасьці, ідуць на выбары, дэманструюць ляяльнасьць ня сёньняшняй уладзе, якую яны могуць і ненавідзець, ня сёньняшняму ўвасабленьню беларускай дзяржавы, а беларускай дзяржаве, якая была да Лукашэнкі, ёсьць пры ім і будзе пасьля яго, якая бывае і будзе і кепскай і добрай, але ў якой, каб яна захоўвалася, усё роўна давядзецца служыць у войску, плаціць падаткі і хадзіць на выбары. І цяперашнія апазыцыянэры ў свой час, калі стануць уладай, ацэняць здольнасьць беларусаў, прынамсі большасьці, аўтаматычна рабіць усё гэта.

Папулярнасьць ідэі байкоту — гэта яшчэ адна праява асаблівай схільнасьці беларусаў, а асабліва мысьлячых і «прасунутых», да гетаізацыі. Ну вось мы мысьлім так, лічым так, супраць брыдкія адзінкі — ну хіба ж мы не Беларусь і ёсьць? Ну а астатнія — а ці ёсьць такія? А калі ёсьць, то куды ж яны падзенуцца, калі мы (самі мы!) — за?

Магчыма, гэта такая спадчына шляхецкіх часоў, калі шляхта абсалютна шчыра лічыла нацыяй выключна сябе, гэтак жа шчыра кваліфікуючы астатніх як быдла. Магчыма, тады гэта і адпавядала калі не маралі і ўяўленьням пра дэмакратыю (што ёсьць рэчы рэлятыўныя), то прынамсі сацыяльнай структуры грамадзтва і сацыяльнай псыхалёгіі, тады «быдла» ні на што асабліва ў палітыцы і не

прэтэндавала. Але, як пісаў клясык, няма таго, што раньш было.

Цяпер выносіць за дужкі просты люд стала значна складаней. Не, у Фэйсбуку гэтак сама лёгка, як і тады. Але ў рэале складаней.

Калі прасунутая частка грамадзтва заклікае сваіх суграмадзянаў падтрымаць іх у барацьбе з уладай і за ўладу, большасьць можа як пайсьці ім насустрач, гэтак і не. Але і ў апошнім выпадку асабліва кепскага стаўленьня да іх ня ўзьнікне.

Аднак калі людзей заклікаюць ня проста зьмяніць уладу, а разарваць грамадзянскую дамову, якая, паводле Русо, і ёсьць дзяржава, то большасьць мала таго што адкіне такія прапановы, яна палічыць іх выклікам сваім базавым каштоўнасьцям, дзякуючы якім кавалак зямлі ад Берасьця да Воршы і ад Браслава да Мазыра застаецца адзіным палітычным цэлым.

## Камэнтары:

**Якуб, Менск-вёска**: «...гэтак жа шчыра кваліфікуючы астатніх як быдла.»

.....................

Відавочна, што сп.Дракахруст (па аб’ектыўных прычынах) даўно ня меў кантактаў з гэтым «быдлам», бо, відавочна, ня ведае яго настрояў. Я сам не шляхта, то мушу і да сябе аднесьці гэтае дракахрустаўскае вызначэньне і ведаю, што гавораць вакол мяне такія ж самыя «быдла». Дык вось, сп. Дракахруст, Людзі нашыя ўжо плююцца ад «апазыцыі» што кліча на «выбары» і начальніка, якога называюць...; не скажу як, бо не дасьцё каментар. І адбываецца гэта ня столькі ў сталіцы, колькі ў вёсцы, дзе я жыву болей чым у горадзе. Наконт «прысягі дзяржаве» скажу так: людзі кажуць, што аддае расейцам і заводы і «нас скора аддась», калі не спыніць. Пытаюцца, што рабіць « можа не

існці на выбары?» А на выбарах 2008 г. некалькі чалавек з вёскі прагналі з хаты агітатараў з урнамі. І каб ня выступы на БТ апазыцыянэраў, то не вядома, ці пайшлі б на «прэзыдэнтскія выбары».
**параска**: Чым бліжэй дата фарсу,тым больш маскальскіх халуёй клапоціцца аб захаваньні прамаскальскага рэжыму.Чаго яны так баяцца БАЙКОТУ,што толькі аб ім і гаворка?Адчуваюць,што гэта канец ненавіснаму рэжыму,а кушаць хочацца заўжды.
**Бенедзікт:** Пра прысягу ЯКОЙ дзяржаве, Вы, шаноўны спадар Юры, вядзеце гаворку?
Як я разумею, шмат якія народы перажылі розныя дзяржаўныя ўтварэньні, на сваёй тэрыторыі. Гэтыя ўтварэньні былі і варожыя пэўнаму этнасу, і не вельмі варожыя...
Дык я вяду гаворку пра тое, што сёняшняя дзяржава, якая існуе на этнічнай беларускай зямлі, не ёсьць дзяржавай беларускай, а ёсьць дзяржавай чужой — варожай беларускаму народу, бо яна (гэтая дзяржава) належыць не беларускаму народу, а расейскай кіруючай бандзе...
Таму перакананы — абсалютна памылкова весьці размову пра нейкую прысягу на лаяльнасьць гэтай дзяржаве.
**Віктар, Гомель**: Юрый занадта добрай думкі аб людзях. Мне здаецца, людзі не таму «не разрываюць грамадзянскую дамову» што (няхай інтуіцітыщна) хочуць захаваць дзяржаўнасць, а проста баяцца і церпяць да мяжы.

## Хто меў рацыю?

**Вынікі галасаваньня на парлямэнцкіх выбарах увосень 2012 году выклікалі вялікія спрэчкі: многія прадстаўнікі апазыцыі, якія праводзілі назіраньне, сьцьвярджалі, што яўка на выбары была нізкая і яны не адбыліся. Паводле дадзеных нацыянальных апытаньняў, праведзеных НІСЭПД адразу пасьля выбараў і пазьней, яўка**

**на гэтых выбарах не адрозьнівалася ад яўкі на папярэдніх і выбары адбыліся паўсюль акрамя сталіцы. Варта таксама дадаць, што ня мелі посьпеху спробы апазыцыйных арганізацый нейкім чынам кансалідаваць тых, хто ня ўдзельнічаў у выбарах, стварыць «партыю байкоту».**

**08.03.2012**

## Маўклівая большасьць

У рамане Габрыэля Гарсіі Маркеса падчас крызісу ў лацінаамэрыканскай краіне шэф спэцслужбы дыктатара кажа босу: «Дык няма нікога, хто быў бы за Вас!» «Вы памыляецеся, — адказвае ўладар, — у мяне яшчэ застаўся народ».

Тут цікава ня толькі зьедлівае пярэчаньне, але і тэза тамтэйшага чэкіста. Што ён меў на ўвазе, кажучы пра «нікога»? Ну як што: газэты, актывісты, чынавенства супраць — значыць і ўсе супраць, а хіба нехта яшчэ ёсьць?

Гэты дыялёг прыгадаўся ў сувязі з вынікамі расейскіх выбараў. Маніпуляцыі там відавочна былі, але выглядае, што Пуцін усё ж такі выйграў. Сьціпленька так паводле постсавецкіх стандартаў, але выйграў. А за кошт каго?

Псыхалягічна гэта застаецца загадкай для расейскага Фэйсбуку, для шматлікіх (і сапраўды шматлікіх) удзельнікаў пратэстных маніфэстацый. Ну вось усе ж вакол супраць, усе знаёмыя, сябры, калегі супраць, у Інтэрнэце ўсе супраць. Прычым увесь спэктар — ад махровых нацыяналістаў да анархістаў. Дык хто ж за? Хто наагул можа быць за?

Поўная аналёгія зь Беларусьсю ўражвае. Гэтае шчырае неразуменьне — вынік і паказьнік глыбокага расколу грамадзтва, што беларускага, што расейскага, расколу ня толькі палітычнага, але і каштоўнаснага і нават прасторавага: людзі, якія належаць да розных Беларусяў і розных Расеяў часта працуюць у розных месцах, жывуць у розных месцах, ядуць у розных месцах.

Зразумела, падзел умоўны, гэтак як і сьцьвярджэньні кшталту «ніхто з моладзі не падтрымлівае Лукашэнку (Пуціна)», «усе пэнсіянэры за Пуціна (Лукашэнку)» і г. д. Так ня ёсьць і так не бывае, каб арытмэтычна сапраўды было «ўсе» і «ніхто». Але сувязь узросту, адукацыі, сацыяльнага стану з палітычнымі перавагамі сапраўды выразная, каб спараджаць раскол і адчуваньне ў адпаведных групах, што «ўсе» і «ніхто».

Прычым варта адзначыць, што гэты раскол несымэтрычны. І вызначэньне тых, хто за, нарадзілася насамрэч не ў Расеі і не ў Беларусі, а ў ЗША, ў часы віетнамскай вайны, калі Амэрыку трэсла ад антываенных мітынгаў і дэманстрацый, калі супраць вайны былі прафэсары і студэнты, самыя ўплывовыя газэты і слынныя ўладары думак. Ну, словам, усе былі супраць, вы ж разумееце. Бо хто ж за, не чутно ж нікога.

І тады прэзыдэнт Рычард Ніксан выступіў са сваёй знакамітай прамовай аб «вялікай маўклівай большасьці».

Ніксан тады стаў прэзыдэнтам менавіта дзякуючы галасам «маўклівай большасьці». Як і Пуцін цяпер. Ну, дзеля справядлівасьці варта сказаць, што вайну ўсё ж давялося канчаць, і на зусім не ганаровых умовах, і менавіта Ніксану. І адной з

прычынаў было тое, што расколатая Амэрыка ня мела маральных сілаў яе працягваць.

Але я — пра маўклівую большасьць. Якая сапраўды маўклівая. Яе словы лічацца нехлямяжымі, ня вартымі ўвагі, нецікавымі. Ды яна і сама саромеецца гаварыць і публічна пярэчыць запісным гаварунам. Але гэта зусім ня значыць, што яна да іх прыслухоўваецца. Хіба што наадварот.

Некаторыя расейскія экспэрты заўважылі, што перамогу Пуціна ў пэўнай ступені забясьпечылі якраз, як ні парадаксальна, акцыі пратэсту з тварам Нямцова, Сабчак ды Рынскай. Гэтыя твары натхнялі адных, але выклікалі ў іншых, нават далёкіх ад палітыкі людзей рэакцыю: «Чым гэтыя — дык лепш ужо Пуцін». Нездарма афіцыйныя расейскія мэдыі пазыцыянавалі кампанію так, нібыта Пуцін змагаецца за прэзыдэнцкае крэсла не са сваімі канкурэнтамі ў выбарчым бюлетэні, а з... Балотнай.

Сказана, зразумела, ня толькі пра Расею і нават не пераважна пра яе. Менавіта ў Беларусі летась, падчас беспрэцэдэнтнага крызісу і абвалу рэйтынгу прэзыдэнта папулярнасьць апазыцыі ня вырасла ні на адсотак, для маўклівай большасьці, нават для той яе часткі, якая расчаравалася ў Лукашэнку, яна засталася ня тое, што непераканаўчай, а чужой.

І гэта хіба што галоўная праблема — як у Расеі, так і ў Беларусі.

## Камэнтары:

**Віктар, Гомель**: Я згодзен з Юрыям, поўная аналёгія з Беларусьсю. Тая самая «маўклівая большасць» ўсе вырашае і там і тут. Але, я лічу, што гэта не проста «аналёгія», гэтыя факты маюць прамую сувязь. Пра Ресею казаць ня буду, але Расея напрамую уплывае на існаваньне

«маўклівай большасці» ў Беларусі. У нас гэта людзі згодныя з тым жіцьцём, якое яны маюць пры Лукашэнку. Не багатае, але «стабільнае». Ну, і хто гэту стабільнасць забяспечвае, як не Расея? Тыя дармавыя сусідыі, якія яна дае рэжыму Лукашенкі, губяць нашу эканоміку і разбешчваюць нашых людзей. Гарантаваны заробак, хоць і малы, не прымушае людзей к пошуку лепшага жыцьця. Так што, гэта «рука Масквы» галасуе і у нас тут таксама.
**Франак Нырка, Мінск**: Калі б было так, дык гэтая маўклівая большасць ужо забяспечыла б ВВП далучэнне Беларусі да метраполіі у супрацьвагу цэнтрабежным сілам тамтэйшай апазіцыі.
Калі жадаеш, каб у вялікага суседа некаторыя таварышы мелі звышпрыбыткі без аніякіх абавязкаў перад сваёй краінай, дык і суседні вялікі народ будзе ў нас пытацца: А што вы яшчэ лепшага хочаце? Майце навар ад яек і будзце задаволены тым што ёсць.
**Игорь, Минск**: Дракохруст, чтобы утверждать что молчаливое большинство за Лукашенко нужно это проверить.
Нужно иметь возможность оценить. Хотя бы через такие выборы как в России. Хотя бы через такие.
Только не приводите в пример опросы общественного мнения проводимые этим господином из Литвы
Никто не проводит опросы в диктаторских странах.
По понятным причинам.
Никто не доверяет телефонным звонкам. Поскольку даже молчаливое большинство знает что все телефонные звонки прослушиваются.
Тем более опросным листам. Не является ли эта длинноногая в мини-юбке, так мило выпытывающая у вас за кого бы вы голосовали, сержантом-доносчиком КГБ?
Не голосует молчаливое большинство за Лукашенко.
Если бы это было не так, то Лукашенко не боялся бы провести выборы близкие к выборам в России.
Он боится. Почему?
Потому что знает что за 18 лет ён абрыд усем.

Даже старушкам.
Даже молчаливому большинству.
Утверждать же что народ голосует за Лукашенко потому что ему не нравятся оппозиционеры глупость.
**George**: Дракохруст высказал очевидное, я даже не понял, зачем он это сделал: 2+2=4, больше половины населения что в РБ, что в РФ поддерживает существующую власть. Зачем об этом бесконечно писать? Мысль не нова, банальна и сомоочевидна. Еще менее понятны бредовые реплики несогласных с Дракохрустом комментаторов. Естественно, процедуры нарушались что у нас, что в России, но, по-моему, это самое молчаливое большинство ничего другого от власти и не ожидает, знает о фальсификациях и в принципе поддерживает их. По тем или иным причинам.
**Дракахруст, Прага**: Дзіўная тэза пра неадэкватнасьць любых сацыялягічных апытаньняў у дыктатарскіх краінах. Салідныя фірмы плацяць велізарныя грошы, каб даведацца, якім таварам, скажам, гатункам мыла ці перадачаў тэлебачаньня, людзі, у тым ліку і ў Беларусі, аддаюць перавагу. Палітыкі, палітычныя альтэрнатывы — такі самы тавар. Прычым мэтодыка вызначэньня гэтых перавагаў абсалютна аднолькавая. Больш таго, амэрыканскія сацыялягічныя цэнтры і праграмы, такія як Gallup organization і World Values Survey, робяць дасьледаваньні палітычных установак людзей па ўсім сьвеце, у тым ліку і ў такіх краінах, як Беларусь, Азербайджан ці Кітай. Падазраю, што дасьледчыкі з гэтых цэнтраў сёе-тое разумеюць у сваёй навуцы і межах яе ўжываньня. Дарэчы, я ніколі ня чуў тэзаў пра недарэчнасьць сацыялягічных дасьледаваньняў у аўтарытарных краінах ад прафэсійных навукоўцаў — усё больш ад палітыкаў, незадаволеных вынікамі гэтых дасьледаваньняў, ды ад іх апалягетаў у блогасфэры. Меркаваньне пра тое, што нібыта страх не дазваляе людзям выказваць свае сапраўдныя погляды ў апытаньнях, фактычна абвяргаецца самімі вынікамі

апытаньняў. Калі адказаць у ананімным апытаньні, што ня хочаш галасаваць за Лукашэнку — гэта сапраўдны гераізм, дык хіба ў Беларусі поўкраіны ці нават больш герояў, якія выказваюць менавіта такую думку ў апытаньнях?
Недарэчнасьць крытыкі сацыялігічных апытаньняў асабліва яскрава праяўляецца ў высновах, якія робяць крытыкі. Калі б яны сказалі, што грамадзкая думка — гэта чорная скрыня, гэта было б неяк пасьлядоўна. Але ж гаворыцца іншае — «усе ненавідзяць Лукашэнку». А гэткая выснова з чаго робіцца? За апытаньнямі стаіць навуковая мэтадалёгія. Што стаіць за такімі сьцьвярджэньнямі — наконт «усе ненавідзяць»? Той, хто гэтак кажа, усіх апытваў? Ці сваіх знаёмых ды фрэндаў у «Вконтакте»? Пра гэтыя ілюзіі, якія ствараюцца атачэньнем, я і напісаў у блогу. Кожны мае права песьціць свае ілюзіі, але ня трэба потым крыўдзіцца, калі яны разьбіваюцца ўшчэнт аб грубую рэальнасьць.
**Игорь, Минск**: Все ваши аргументы Дракохруст разбиваются одним вопросом.
Почему Лукашенко, зная о поддержке молчаливого большинства, не проводит свободные выборы?
Ведь имел бы намного больше чем сейчас имеет. За него же Молчаливое Большинство.
У него что нет денег нанять этих всех Больших Учёных, для того чтобы они провели ему опрос и расказали о том что нечего боятся и можно проводить демократические выборы?
Боится Лука, потому что знает реальную картину не из опросов умников из Литвы, а от его служанки Еромошиной.
**Дракахруст, Прага**: Наконт усе прамаўчаць пра Лукашэнку — дык у тым жа ж і справа, што не маўчаць. А ладная частка (а ня пара працэнтаў), кажуць, што ня будуць за яго галасаваць. І гэтая частка мяняецца ў залежнасьці ад палітычных і сацыяльных абставінаў, што пацьвярджае адэкватнасьць апытаньняў. Паводле

НІСЭПД, у сьнежні 2010 году за Лукашэнку галасавалі 51% насельніцтва (58% ад тых, хто прыйшоў на выбары), што ёсьць большасьць. А, скажам, у верасьні 2011 году за яго, паводле НІСЭПД, былі гатовыя галасаваць 20.5%, а 79.8% «герояў» не пазначылі, што будуць галасаваць за Лукашэнку. Але ў верасьні 2011 году не было прэзыдэнцкіх выбараў. Дык у чым вы тут бачыце супярэчнасьць?
Што да вашага кароннага пытаньня — чаму Лукашэнка, як і іншыя аўтарытарныя ўладары, не праводзяць свабодныя выбары, то адказ на яго вельмі просты. Таму ж, чаму нават вопытныя кіроўцы прышпільваюць пас бясьпекі. Нельга ж сказаць, што яны дакладна ведаюць, што абавязкова трапяць у аварыю. Не, але прышпільваюцца для страхоўкі. Паводле таго самага матыву і дыктатары фальсыфікуюць выбары. Да таго ж у межах іх палітычнай філязофіі ім патрэбная ня проста перамога, а перамога аглушальная, «элегантная», калі супраць — мізэрная меншасьць, меркаваньні якой можна ігнараваць. А аглушальную перамогу на свабодных выбарах атрымаць складана.

## Хто меў рацыю?

**Падтрымка «маўклівай большасьці» неабавязкова выўляецца ў лічбах электаральнага рэйтынгу. Яна выўляецца хутчэй у непрыняцьці альтэрнатывы, у тым, што страчанае ў сэнсе электаральнай падтрымкі ўладай ня робіцца здабыткам апазыцыі, у тым, што тэза «ў апазыцыі няма праграмы» гучыць з вуснаў нават спрактыкаваных палітычных аглядальнікаў, якія дакладна ведаюць пра наяўнасьць такіх тэкстаў і нават не задаюць сабе клопату іх прачытаць. Улада можа трымацца не таму, што яна ўспрымаецца добрай сама па сабе, а таму, што ўяўляецца лепшай, больш звыклай і сваёй, чым**

**альтэрнатыва. Улада кепская — не матыў перамен. «Гэтыя (апазыцыя) лепшыя за ўладу» ці нават «лепш што заўгодна, чым гэтая ўлада» — толькі тады, калі падобныя настроі апануюць значную частку грамадзтва, можна разьлічваць на перамены.**

**22.03.2012**

## Ці можна сядзець на штыхах?

Мой блог «Маўклівая большасьць» спарадзіў даволі зацікаўленую і палкую дыскусію. Сказаць па шчырасьці, аргумэнты маіх шаноўных апанэнтаў мяне неяк не пераканалі.

Віктар Марціновіч у сваім блогу прыводзіў словы знакамітага францускага філёзафа-постмадэрніста Жана Бадрыяра, паводле якога, «маса не валодае ні атрыбутам, ні прэдыкатам, ні якасьцю, ні рэфэрэнцыяй». Каб працягнуць пінг-понг думкамі клясыкаў, дазволю сабе вялікую цытату з кнігі «Сацыяльная і культурная мабільнасьць» аднаго з «бацькоў» амэрыканскай сацыялёгіі Пііцірыма Сарокіна:

«Наіўна меркаваць, што так званы абсалютны дэспат можа дазволіць сабе ўсё, што яму прыйдзе ў галаву, незалежна ад жаданьняў і ціску яго падначаленых. Верыць, што існуе такое «ўсеўладзьдзе» дэспатаў і іх абсалютная свабода ад грамадзкага ціску — нонсэнс. Гербэрт Спэнсэр у свой час паказаў, што ў большасьці дэспатычных грамадзтваў «палітычная ўлада — гэта пачуцьцё супольнасьці,

якое дзейнічае праз пасярэдніка, які фармальна або нефармальна ўсталяваны... Як паказвае практыка, індывідуальная воля дэспатаў па сутнасьці фактар малазначны, яго аўтарытэт прапарцыйны ступені выяўленьня волі астатніх. А сам дэспат, хоць і намінальна ўсемагутны, у рэчаіснасьці менш вольны, чым яго падначаленыя».

Прыгадаем і Эрнста Рэнана, які тлумачыў, што кожны дзень існаваньня любога сацыяльнага парадку ў рэчаіснасьці ўяўляе сабой пастаянны плебісцыт чальцоў грамадзтва, і калі грамадзтва працягвае існаваць, то гэта значыць, што больш моцная частка грамадзтва адказвае на пастаўленае пытаньне маўклівым «так».

Як бачым, іншыя клясыкі меркавалі, што маса, якой гэтак грэбуюць Бадрыяр разам з Марціновічам, сёе-тое ўсё ж вызначае, а дакладней, вызначае ўсё. Пры гэтым варта дадаць, што П. Сарокін, калі жыў у Савецкай Расеі, на сваёй скуры зазнаў камуністычную дэспатыю, так што пра дэспатаў і прыроду іх улады разважаў не зусім абстрактна. Ну і яшчэ да месца ляпідарнае выслоўе француза, які разумеў у пытаньнях заваяваньня і захаваньня ўлады больш, чым усе ўдзельнікі дыскусіі разам узятыя — Напалеона Банапарта: «Штыхамі можна зрабіць усё, што заўгодна, на іх толькі нельга сядзець».

Можна, зразумела, сказаць, што пляваць на ўсіх сарокіных, спэнсэраў і рэнанаў разам з францускім імпэратарам — усё роўна мы ведаем, што Лукашэнку (ну і Пуціна) ніхто не падтрымлівае (мы ж гэта дакладна ведаем), а ўся справа ў запалохваньні і прапагандзе. Але рацыянальных аргумэнтаў, каб гэта даказаць, неяк бракуе.

Вось Віктар Марціновіч лічыць такім аргумэнтам тое, што Лукашэнка ня здолеў і ня здолее арганізаваць нават тое, што атрымалася ў Пуціна — маштабную контрадэманстрацыю сваіх прыхільнікаў. З гэтага ў шаноўнага апанэнта вынікае, што рэжым дажывае апошнія дні.

Але прыгадваецца, як ў ЗША пасьля пачатку вайны ў Іраку на вуліцы выйшлі сотні тысяч удзельнікаў антываенных дэманстрацый. А хто насуперак? Ды ніхто, не было дэманстрацыяй з лёзунгам «Даеш Багдад», стаяла паліцыя, ахоўвала дэманстрацыі, але ў выпадку чаго была гатовая і супрацьстаяць ім, калі б яны перайшлі мяжу. Ці вось прыклад Францыі, якую летась страсалі маніфэстацыі, страйкі, блякады супраць падвышэньня пэнсійнага ўзросту. І хто ім ізноў жа супрацьстаяў — хіба контранатоўп пад лёзунгам «Дзякуй Сарказі за шчасьлівую старасьць»? Ды не, тая самая паліцыя. Ну гэта дэмакратыі. Але хто ў 1989 годзе супрацьстаяў маніфэстантам на пэкінскай плошчы Цяньаньмынь? Хіба народныя масы? Не — людзі ў форме і ў пагонах. Ну і сюды ж дадамо Менск 19 сьнежня 2010 году — сем з паловай хвілінаў, якія сталі важкім аргумэнтам у спрэчцы наконт здольнасьці рашучай меншасьці тварыць гісторыю.

І з улікам гэтай сусьветнай і адвечнай практыкі дзіўна, што ні спадар Бадрыяр, ні калега Марціновіч ва ўпор ня бачаць таго самога рэпрэзэнтанта «маўклівай большасьці». Дык гэта ён і ёсьць — у форме і з дубінкай. І менавіта тая самая большасьць, якая нябачна стаіць за яго сьпінай, надае яму сілу і ўпэўненасьць у рацыі сваёй справы.

Адзін мой калега распавядаў, як падчас Плошчы-2006 яе ўдзельнікі скандзіравалі лёзунг «Міліцыя

з народам!», на што адзін міліцыянт, які стаяў у ачапленьні, прабурчэў: «Так, з народам. А ня з вамі». Вось у гэтым уяўленьні — моц міліцэйскага кулака і рукі з дубінкай, а ня ў іх саміх па сабе.

А контранатоўп — гэта на самой справе экзотыка, другасная справа. Не ад здольнасьці яго сабраць залежыць моц улады.

Пра тое, што людзі ў форме і з дубінкамі моцныя насамрэч не дубінкамі, сьведчаць як раз тыя выпадкі, калі яны раптам аказваюцца бясьсільнымі. Чаму тыя, хто яшчэ ўчора, ці год таму, ці пяць таму махалі дубінкамі зь вялікім імпэтам і адданасьцю, раптам пачынаюць рабіць гэта надзвычай млява, а то і зусім не рабіць, а то і наагул пераходзіць на бок натоўпу — фактычна, здраджваючы свайму службоваму доўгу і літары прысягі? Ну можа раптам добрымі сталі, ці плаціць сталі мала, ці апазыцыя здолела дамовіцца з паліцэйскімі генэраламі, а мо напор натоўпу быў такі, што ня надта дубінкай памахаеш. Усяго, відаць, патроху, але падаецца, што бліжэй за ўсё да ісьціны — апошні чыньнік, які, разам з млявасьцю абаронцаў рэжыму, мае насамрэч адзіны корань — зьмена грамадзкіх настрояў, адыход «маўклівай большасьці» ад улады, зьмена прапорцыі сілаў тых, хто нябачна стаіць за сьпінай дэманстрантаў (ці паўстанцаў) і людзей у форме, якія ім супрацьстаяць.

Людзі ў форме і ў пагонах — гэта ж не іншаплянэтнікі, гэта ўсё ж частка грамадзтва, настроі якой мяняюцца ўсьлед за настроямі грамадзтва. Нават замежныя акупанты заўсёды імкнуцца атрымаць хоць нейкую падтрымку з боку мясцовага насельніцтва. А тут усё ж свае, тутэйшыя.

Калі «маўклівая большасьць» захоўвае ляяльнасьць уладзе, тады міліцыя (паліцыя, спэцназ, словам, людзі ў пагонах) атрымлівае перавагу на пратэстоўцамі — і гэта Менск 2010, Масква сакавіку 2012 і мноства іншых прыкладаў. Калі прапорцыя адваротная — мы бачым кіеўскі Майдан 2004 году, каірскую плошчу Тахрыр 2011 году і таксама нямала падобных выпадкаў. У пэўным сэнсе вынік супрацьстаяньня на плошчы — не на плошчы вырашаецца. І формула Напалеона працуе: не штыхі самі па сабе вырашаюць у сытуацыі, умоўна кажучы, менскай Плошчы-2010 і яны не ўратоўваюць у сытуацыі плошчы Тахрыр.

Яшчэ некалькі словаў пра сацыялёгію. Сёе-тое я ўжо сказаў у дыскусіі — ня буду паўтарацца. Зразумела, вынікі апытаньняў — ня ісьціна ў апошняй інстанцыі, але ў шэрагу выпадкаў сацыёлягі прадказалі электаральную паразу аўтарытарных уладароў абсалютна дакладна. Гэтак было, напрыклад, у Сэрбіі ў 2000 годзе, калі за некалькі месяцаў да выбараў незалежная сацыялёгія паказвала, што ўпершыню ў посткамуністычнай гісторыі краіны апазыцыянэр Воіслаў Каштуніца перамагае нязьменнага кіраўніка Слабодана Мілошавіча. Гэтак сама было і ва Ўкраіне у 2004 годзе, калі зноў жа незалежныя сацыялягічныя дасьледаваньні паказвалі перавагу ці прыкладную роўнасьць рэйтынгаў апазыцыянэра Віктара Юшчанкі і ўладнага кандыдата Віктара Януковіча.

Можна, зразумела, сказаць, што гэта ў Беларусі сапраўдная дыктатура, а ў Югаславіі Мілошавіча і ва Ўкраіне Кучмы быў насамрэч росквіт дэмакратыі зь невялічкімі абмежаваньнямі. Ну, скінутая ўлада заўсёды з вышыні новага часу здаецца слабой

і асуджанай на паразу. Але прыгадваю расповед калегі, як у Харкаве ў 2004 годзе, напярэдадні Майдану, лідэры мясцовых дэмакратаў часова вывозілі сваіх дзяцей з краіны — у Расею ці на Захад. Бо не выключалі паразы, рэпрэсій, арыштаў, таго, што арыштаваных бацькоў будуць шантажаваць лёсам дзяцей. Дзякаваць Богу, не спатрэбілася, але наўрад ці людзі рабілі б гэтак, калі б сапраўды рэжым быў такі вэгетарыянскі, як гэта здаецца некаму цяпер і звонку. Але сацыялёгія і тады паказвала перамогу Юшчанкі. А калі не паказвала перамогу апазыцыі ва Ўкраіне, дык нічога там і не было. Брыдкая навука.

Зразумела, тут той выпадак, калі даказаць тэзу ці антытэзу, як тэарэму Піфагора, немагчыма ў прынцыпе. Але мне знаецца, што істотна розьніцца плён выбару таго або іншага погляду. Калі лічыць, што ўлада трымаецца не адно на штыхах і не пераважна на іх, то тыя, хто хоча пераменаў, будуць думаць, як пазбавіць уладу гэтай падтрымкі, будуць імкнуцца зразумець, якія патрэбы гэтая ўлада задавальняе і якім інтарэсам адпавядае, імкнуцца спасьцігнуць праўду гэтай улады і яе прыхільнікаў, каб перасягнуць яе. Ну а калі лічыць, што ўвесь народ супраць дыктатара, толькі ўсе баяцца, што ўся справа ў АМАПе і ў БТ (ну і яшчэ ў клятых маскалях — але гэта на аматараў, вольная праграма), то, зразумела, асабліва інтэлектуальна напружвацца не выпадае. Можна нават на кружэлку ці на «лічбу» запісаць, каб арганізм не стамляць, і круціць гэтыя мантры кожны раз пры нагодзе.

## Камэнтары:

**Юрась**: У цэлым, можна пагадзіцца. Але ж маўклівая (ў сэнсе лаяльная) меньшасць не ёсць падтрымка. То бок, калі б прыйшоў нехта другі — то гэта меньшасць зноў такі прамаўчала б. Ніхто не пайшоў бы на плошчу абараняць рэжым.
Такім чынам, у такой сітуацыі адзіным вырашальным фактарам становяцца як раз такі гэтыя самыя «штыкі», у якіх у цэлым, няма згрызотаў сумлення перад народам (бо той маўчыць), а ёсць проста праца, за якую атрымліваеш грошы, кватэры, сацыяльныя трансферты і г.д.
Таму тэза, што дзейная ўлада сядзіць на штыках, не выклікае сумневу. Проста штыкі — гэта толькі адзін бок. Ёсць шмат іншых. Толькі іншыя можна пераадолець на плошчы меншасцю, аднак «штыкі» не дазваляюсь.
Таму ў дадзенай сітуацыі лаяльнасці «смерць кашчэя» — на штыках. Бо, як вы самі кажаце, калі народ стане Супраць, то ніякія штыкі ўжо не выратуюць.
**Елена, Минск**: Извините, Юрий, но по-моему, такая позиция называется «чисто белорусский подход», а в простонародьи — «а можа так і трэба»?
**Дракахруст, Прага**: Прабачце, Елена, што мае развагі не натхняюць на рэвалюцыйныя зьдзяйсьненьні. Але, здаецца, я і не абяцаў, што натхняць. Ганаруся тым, што амэрыканец расейскага паходжаньня Сарокін, брытанец Спэнсэр, французы Рэнан і Банапарт — аказваецца, нашы з вамі суайчыньнікі. Паўсюль нашы людзі.
Меркаваньне наконт таго, чаму працягвае існаваць тая або іншая зьява, не азначае станоўчага да яе стаўленьня і нават упэўненасьці, што яна такой і застанецца. Разуменьне, чаму нешта існуе, можа нават паспрыяць спробам яго зьмяніць.
**Віктар Марціновіч**: Дзякуй аўтару за цікавы допіс. Аднак, здаецца, ўлада зараз дзейнічае не ў парадыгме Сарокіна, а якраз у парадыгме Бадрыйяра — як быццам грамадзкай думкі не існуе «ваабшчэ».

Артыкулюю маю асноўную тэзу: развагі пра тое, што «такая ў нас большасьць, іншай не маем», былі актуальныя да сьнежня 2010 года. Зараз яны імкліва губляюць актуальнасьць з-за спецыфікі працэсаў у краіне. Хіба нехта пагадзіцца з думкай, што большасьць\грамадзкая думка на баку абвінавачваньня ў справе тэрарыстаў? Хіба сацыёлагі сьцвярджаюць, што «людажэрны» беларускі народ лічыць, што палітвязьняў трэба трымаць у турмах, нават калі гэта азначае анэксію Расіяй?

Ці можа беларускі народ шчасьлівы ад дэвальвацыі і бачыць у ёй файны аванс беларускаму экспарту, як аб тым кажуць па БТ?

Калі не, калі ў асноўных кроках рэжым дзейнічае «ад сябе», дык пры чым тут Сарокін? Дзе механіка рэпрэзэнтацыі масаў? У чым яна палягае? У тым, што робяцца крокі, якія «большасьць» жадае, аднак не можа гэтага ўсьведаміць?

Аднак дыскусія і сапраўды вымалёўваецца вельмі цікавая! І тэма прапанавана вельмі прынцыповая!

**Дракахруст, Прага**: Віктар, што тычыцца стаўленьня да асуджаных па справе тэракту, то тут думкі падзяліліся — http://iiseps.org/press5.html. Але насамрэч і раней існавала нямала сюжэтаў, крокаў улады, якія не ўхваляла большасьць: выразнай большасьці ніколі не было за праект АЭС, большасьці не падабалася рашэньне забараніць вываз дзяцей на аздараўленьне ў заходнія краіны, расейскую ўладу вінаватай у канфліктах з афіцыйным Менскам таксама лічыла ня большасьць. І гэтыя меркаваньні мелі месца задоўга да сьнежня 2010 году. Падтрымка ўлады не азначае, што яе прыхільнікі падтрымліваюць любы яе крок. Колькі гэтых непадтрымак розных крокаў улады трэба, каб казаць пра страту падтрымкі як такой — цяжка сказаць. Але казаць, што такія факты, якія ты пералічваеш, зьявіліся толькі цяпер, няправільна.

Што тычыцца шчасьця ад дэвальвацыі, ну дык яго ня варта чакаць ні ў воднай краіне. Прапаганда сапраўды аглабельная, але, працягваючы мае параўнаньні, я ня думаю, што прыхільнікі Буша і Сарказі былі шчасьлівыя ад вайны і ад падвышэньня пэнсійнага ўзросту. Але, відаць, лічылі гэта непазьбежнасьцю, неабходнасьцю, даравалі ўладзе гэтыя балючыя для ўсіх крокі. Так што ізноў жа — з таго, што ўлада робіць крокі, супраць якіх некаторыя актыўна пратэстуюць, але ад радасьці з нагоды якіх ня скача ніхто, не вынікае, што гэтая ўлада губляе падтрымку.

## Хто меў рацыю?

**Як казаў Томас Гобс, «калі б тэарэмы геамэтрыі закраналі інтарэсы людзей, вакол іх вяліся б гарачыя спрэчкі». Пытаньне, пастаўленае ў блогу, ня толькі акадэмічнае — кожны з палітычных варагуючых бакоў імкнецца даводзіць сваім прыхільнікам і ўсяму грамадзтву, што большасьць — на ягоным баку. І ў пасьпяховых рэвалюцыях апошніх гадоў (Майдан 2004 году, плошча Тахрыр 2011 году) часта быў пэрыяд паўзы, іх лёс вырашаўся не перамогай рэвалюцыянэраў у наўпроставым сілавым сутыкненьні, а ў «стаяньні», падчас якога грамадзтва вырашала, на чыім яно баку. І калі людзі ў пагонах усьведамлялі, што не на баку тых, хто аддае ім загады, рэжым абрынаўся. Так, часам гэтыя суадносіны вызначаюцца a posteriori, палітыкі адчуваюць гэтую раўнадзейную народнай волі «скурай», а ня толькі і ня столькі праз вынікі сацыялягічных апытаньняў. Проста тыя, якія адчуваюць няправільна, прайграюць. Праўда тое, што гісторыю творыць заўсёды рашучая меншасьць. Але не любая меншасьць. Пры гэтым гісторыя**

**«замятае» няўдалыя варыянты, няўдалую спробу меншасьці забываюць праз некалькі гадоў. Таму і застаюцца ў памяці адно ўдачы тых рашучых меншасьцяў, што спрыяе ілюзіі, нібыта справа толькі ў рашучасьці.**

**08.06.2012**

## Краіна без герояў?

Вынікі нацыянальнага апытаньня, праведзенага грамадзянскай кампаніяй «Будзьма беларусамі!» і сацыялягічнай лябараторыяй «Новак» у сакавіку 2012 года, даюць шмат падставаў для роздуму.

Адзін з сюжэтаў, які заслугоўвае ўвагі — каго беларусы лічаць сваімі нацыянальнымі героямі, як выглядае, так бы мовіць, нацыянальны Пантэон.

Адпаведнае пытаньне гучала так: «Калі беларускі гістарычны дзеяч, дык гэта...» Людзям прапаноўвалася самім называць гістарычных асобаў.

Вынікі атрымаліся наступныя:

| Дзеяч(-ка) | Колькасьць рэспандэнтаў, % |
|---|---|
| Францішак Скарына | 20.6 |
| Пятро Машэраў | 9.9 |
| Кастусь Каліноўскі | 8.4 |
| Ефрасіньня Полацкая | 4.5 |
| Аляксандар Лукашэнка | 2.2 |
| Тадэвуш Касьцюшка | 2.2 |
| Леў Сапега | 1.6 |
| Вітаўт | 1 |
| Астатнія | Кожны менш за 1% |
| Не далі адказу | 40.5 |

У табліцы варта адзначыць некалькі асаблівасьцяў.

Першае: постмадэрновы мікст, сумесь — увасабленьне савецкай улады Машэраў стаіць поруч з кіраўніком паўстаньня супраць расейскага панаваньня, нястомны інтэгратар з Расеяй Лукашэнка — нароўні зь лідэрам яшчэ аднаго антырасейскага паўстаньня. І ўсе героі.

І гэта, дарэчы, неабавязкова сьведчаньне расколу, і гэтыя постаці — неабавязкова героі для розных беларусаў. І можа не такое ўжо абсурднае гэтае суседзтва. Вядома, што ў паўднёвых штатах ЗША стаяць помнікі генэралам Канфэдэрацыі. Пры гэтым жыхары гэтых рэгіёнаў — ляяльныя грамадзяне менавіта Злучаных Штатаў, адзінай краіны, за адзінства якой ваявалі якраз Грант і Шэрман пад кіраўніцтвам Лінкальна. А помнікі ставяць Робэрту Лі і яго паплечнікам. Дык як гэта? А вось так.

Другое — адсутнасьць у верхняй частцы сьпісу расейскіх і, акрамя Машэрава, савецкіх дзеячоў. У 2006 годзе Лукашэнка сказаў: «Ленін і Сталін — сымбалі нашага народу». Ну вось паводле апытаньня — ня сымбалі ці сымбалі менш чым на 1%. Сапега, Вітаўт дый Касьцюшка з Каліноўскім таксама належалі да больш шырокай дзяржаўнай прасторы, чым сучасная РБ. Аднак яны ў лідэрах ёсьць, а Леніна і Сталіна — няма.

Трэцяе — даволі сьціплае месца дзейнага прэзыдэнта. Праўда, магчыма, тут уплывала фармулёўка пытаньня, некаторыя, пры ўсёй павазе, проста палічылі, што гістарычныя постаці — гэта тыя, хто былі раней. Іншыя падобныя апытаньні даюць значна больш высокае месца Лукашэнку ў Пантэоне нацыянальных герояў.

І чацьвёртая, хіба што самая галоўная асаблівасьць — тое, што ў цэлым рэйтынгі нацыянальных герояў даволі нізкія.

Вось для параўнаньня — дадзеныя расейскага Лявада-Цэнтру, адказы падчас апытаньня 2008 году на пытаньне: «Назавіце самых выбітных людзей усіх часоў і народаў»: Пушкін — 47%, Пятро І — 37%, Сталін –36%, Ленін –34%, Пуцін –32%. Героі могуць падабацца або не, але зьвяртае на сябе ўвагу, што рэйтынг нават апошняга зь пяцёркі расейскіх герояў у паўтара раза вышэйшы за паказьнік лідэра беларускага рэйтынгу Скарыны.

А вось сьвежае, сёлетняга траўня апытаньне ўкраінскай сацыялягічнай групы «Рэйтынг», адказы на пытаньне «Выбітныя ўкраінцы ўсіх часоў»: Тарас Шаўчэнка — 59%, Лэся Ўкраінка — 23%, Багдан Хмяльніцкі — 20%. Цікава адзначыць, што яшчэ амаль тры дзясяткі асобаў назвалі «выбітнымі ўкраінцамі ўсіх часоў» больш за 1% апытаных кожнага, сярод іх, у прыватнасьці, Клічко, Мазэпа, Бандэра, Кучма, Краўчук, Януковіч і Цімашэнка. Ня здолелі назваць ніводную выбітную постаць толькі 15% апытаных, прынамсі ўдвая менш, чым у Беларусі.

Нехта, параўноўваючы гэтыя дадзеныя з вынікамі беларускага апытаньня, можа выказаць меркаваньне, што справа — у кепскай інфармаванасьці, у тым, што беларусы проста ня ведаюць сваіх герояў. Аднак сацыёлягі якраз паспрабавалі спраўдзіць гэтую гіпотэзу, прапанаваўшы сьпіс дзеячоў і спытаўшы людзей, ці ведаюць яны іх. Высьветлілася, што Францішка Скарыну ведаюць 96% апытаных, Ефрасіньню Полацкую — 93%, Кастуся Каліноўскага — 76%, Тадэвуша Касцюшку — 70%, Веру Ха-

ружую — 64%, Вітаўта — 47%, Льва Сапегу — 47%, Усяслава Чарадзея — 38%, Алену Мазанік — 23%, Зьмітра Жылуновіча — 16%.

Так што прынасмсі ня толькі ў няведаньні справа. А ў дыстанцыі паміж веданьнем і шанаваньнем, маўляў, ну быў такі ці была такая, а мяне яны як тычацца?

Можна ўбачыць у гэтым нізкі ўзровень нацыянальнай сьвядомасьці, адсутнасьць сымбаляў, якія кансалідуюць супольнасьць, якая жыве ў Беларусі, у нацыю.

А можна — своеасаблівасьць гэтай, насамрэч дастаткова разьвітай, сьвядомасьці: няма герояў, «няма дваранаў, усе роўныя», як выгукнуў пад шыбеніцай той самы Каліноўскі. Менавіта гэта, магчыма, ускладняе і фармаваньне лідэраў у сучаснай палітыцы: народ, які не асабліва бачыць герояў у сваім мінулым, ня надта схільны шукаць іх і сярод сваіх сучасьнікаў.

## Хто меў рацыю?

**Наведнікі сайту выказалі меркаваньне, што прычына таго, што Беларусь застаецца краінай без герояў — у інфармацыйнай і адукацыйнай палітыцы ўлады. Гэта, магчыма, і справядліва, але толькі часткова. Здаецца, кіраўнік гэтай улады Аляксандар Лукашэнка ня можа паскардзіцца на недахоп увагі да яго ў дзяржаўных мэдыях. Аднак і ягонае месца ў нацыянальным Пантэоне масавай сьвядомасьці зьяўляецца досыць сьціплым. Многія староўча ацэньваюць яго як кіраўніка дзяржавы, але значна менш беларусаў бачаць у ім гістарычную постаць. Зьмена інфар-**

**мацыйнай і адукацыйнай палітыкі пэўна магла б зьмяніць сытуацыю, але неабавязкова хутка і кардынальна, бо справа — і ў асаблівасьцях нацыянальнай сьвядомасьці, а не адно ў няведаньні ці ў тым, што постаць дзейнага прэзыдэнта засланяе ў СМІ ўсе астатнія постаці.**

**17.07.2012**

## Слоўная дробязь

Скажу адразу — не люблю слоўныя халівары. Вялікая шматгадовая бітва вакол Беларусі і Белоруссии неяк ніколі мяне не турбавала, ну называюць расейцы Беларусь па-свойму, як раней называлі, як і некаторыя іншыя народы — дык і хай сабе. Назва не прыніжальная, і якое права маем мы дыктаваць іншым народам правілы іх мовы? Але ёсьць адна моўная практыка, якая, па шчырасьці, раздражняе. Таксама ня тое, каб надта — няўжо няма іншых праблемаў, але гэта сапраўды знак другараднасьці і залежнасьці.

Размова пра слова «рэспубліка» і прыметнік «рэспубліканскі» ў дачыненьні да Беларусі. Гэта ўвасоблена ў афіцыйных назвах «рэспубліканскі саюз моладзі», «рэспубліканскі фонд дасьледаваньняў», «рэспубліканскі фэстываль», «рэспубліканскі бюджэт» і безьліч іншых. Гэты выраз ужываюць і чыноўнікі, і журналісты дзяржаўных выданьняў (амаль пагалоўна), і нават журналісты недзяржаўных выданьняў (радзей, але таксама час ад часу). Ну а ў расейскіх выданьнях, нават у паведамленьнях інфармацыйных агенцтваў — спрэс: «урад

Беларусі ўхваліў праект генэральнага кантракту на будаўніцтва ў рэспубліцы АЭС» — вось апошняе паведамленьне ИТАР-ТАСС на вочы трапіла.

І гэта на аўтамаце, не задумваючыся. На першы погляд — гэта ж палова поўнай назвы дзяржавы Рэспубліка Беларусь, што тут такога асаблівага? Проста каб не паўтараць назву, заменьнік. Хіба? Вы можаце ўявіць сабе паведамленьне па расейскім тэлебачаньні ці ў расейскай газэце: «у рэспубліцы прайшлі выбары», калі размова ідзе, скажам, пра ЗША, Францыю, Польшчу? Ніколі ў жыцьці. Гэта немагчыма. І не таму, што некім забаронена — проста не прынята. А чаму б, здавалася — пэўна ж таксама не манархіі. Дый беларусы — хоць тыя, хто за Эўропу, хоць нават тыя, хто за Расею — ніколі названыя краіны ў такім кантэксьце рэспублікамі не назавуць, язык не павернецца.

Ну і таксама ніколі такое словаўжываньне немагчымае адносна самой Расеі. Аднойчы ў маёй перадачы расейскі суразмоўца казаў пра Беларусь «у рэспубліцы», «рэспубліканскія ўлады» ледзь не ў кожным сказе. Я пацікавіўся, чаму ён не называе «рэспубліканскім кіраўніцтвам» Мядзьведзева і Пуціна. Нібыта не пачуў, але адносна Беларусі працягваў часьціць — «рэспубліка, рэспубліка».

Зразумела, у самім гэтым слове няма нічога кепскага і абразьлівага. Але ёсьць гістарычная практыка. У СССР гэтае слова азначала ўзровень адміністрацыйнага падзелу адзінай дзяржавы, і прычым узровень не найвышэйшы, прамежкавы: раён — вобласьць — рэспубліка, ну а па-над ёй ужо — сапраўдная дзяржава, краіна, Радзіма зь вялікай літары. А рэспубліка — радзіма з малой, родная рачулка, пагорак, басаногае дзяцінства.

У Расеі гэта і захавалася — рэспублікі Татарстан, Башкартастан, Комі і іншыя. І Беларусь такой моўнай практыкай па змаўчаньні апускаецца да іх узроўню.

Прычым, калі зь Белоруссией магчыма і ёсьць рацыя ў спасылках на правілы расейскай мовы, Пушкінскаму дому яе правілы віднейшыя, то ніякія правілы расейскай мовы не абавязваюць называць Беларусь рэспублікай. Тым больш, што, як сказана вышэй, гэтыя правілы чамусьці губляюць сваю сілу акурат на межах былога СССР.

Праўда, такому называньню Беларусі спрыяе і ўласная беларуская практыка. З чаго расейцы павінны больш дбаць пра беларускую незалежнасьць, чым самі беларусы, многія зь якіх з задавальненьнем карыстаюцца словам, якое ў пэўным сэнсе сымбалізуе іх дзяржаўную несамастойнасьць і другаснасьць?

Можа і ня варта ўсчынаць вялікі вэрхал з гэтай нагоды, сапраўды дробязь, лухта ў параўнаньні зь іншымі праблемамі. Але гэта такая падсьвядомая ўсьмешка Чэшырскага (савецкага) Ката, ката ўжо няма, але ўсьмешка яшчэ лунае ў паветры. Тыя, хто называе Беларусь рэспублікай, зусім не абавязкова сьвядома адмаўляюць ёй у праве на самастойнае дзяржаўнае існаваньне. Але падсьвядома ёсьць у гэтым канстатацыя, перафразуючы Булгакава, «дзяржаўнасьці другой сьвежасьці». І навошта гэта канстатаваць прынамсі самім? Словы «краіна», «нацыянальны» не такія і страшныя. Тым больш, што вось галоўны банк краіны назвалі нацыянальным, і ніякай маральнай і культурнай катастрофы ад гэтага ня здарылася. Калі ад гэтага пазбавяцца самі беларусы, то магчыма і расейцы перастануць

карыстацца гэтай усьмешкай савецкага ката. І не таму, што Пуцін забароніць — проста не прынята стане, як не прынята адносна Францыі, Польшчы і нават Літвы.

## Камэнтары:

**George**: Очередной комплекс национальной неполноценности. В Ирландии постоянно употребляют слово «республика»: республика вышла на внешние рынки займов, в республике такая-то рождаемость т.д. И никто по этому поводу не комплексует, а наоборот, даже гордятся этим. Это один из синонимов слова «страна». Если употребляют «республика» значит по умолчанию имеют в виду страну нахождения. Постоянно смотреть на себя глазами россиян — это заведомо признавать свою собственную интеллектуальную и национальную ущербность и вторичность.
**Дракахруст, Прага**: Мяркую, што Вы не зусім маеце рацыю. Не, наконт факту пра Ірляндыю магчыма і маеце. Але ня маеце — наконт высновы. Ірляндыю ў складзе Аб'яднанага каралеўства ніхто рэспублікай не называў, яна набыла гэтую назву менавіта са здабыцьцём незалежнасьці. Таму, мяркую, яны сапраўды свабодна ужываюць слова рэспубліка ў тым кантэксьце, пра які мы гаворым, як сынонім краіны, і ня толькі адносна сябе, але і адносна іншых могуць скарыстаць гэта слова, як заменьнік, назваць так, скажам, Францыю. Але, мяркую, яны не называюць сябе the pale (ускраіна), як называлі англічане акупаваную Ірляндыю. Хаця чым кепскае слова? Само па сабе нічым. Гэтак жа і амэрыканцы не лічаць назву Аб'яднаныя калёніі, а індусы — віцэ-каралеўства, сынонімамі назваў іх краін. Гістарычны кантэкст мае значэньне. Гэтак жа і нямецкае слова Führer не азначае нічога іншага, акрамя як кіраўнік, лідэр, правадыр. Але яно настолькі моцна асацыюецца з пэўным пэрыядам нямецкай гісторыі і з пэўнай асобай, што ў сучаснай

Нямеччыне не прынята называць палітычных лідэраў фюрэрамі, аддаючы перавагу слову лідэр.
Гэтак і адносна Беларусі. Тут рэспубліка (за выключэньнем вельмі кароткага пэрыяду існаваньня БНР) гэта знак інклюзіўнасьці, уключанасьці ў больш шырокае дзяржаўнае ўтварэньне, якое толькі і было сапраўднай дзяржавай. І справа тут найперш не ў расейцах, а у беларусах. І мова сьведчыць пра тое, што гэты знак (ці яго цень) ва ўжываньні слова рэспубліка ў Беларусі прысутнічае. Беларус ніколі не ўжыве гэтае слова як сынонім любой краіны, якая не ўваходзіла ў склад СССР. І адносна Расеі таксама. І таму мне здаецца, што менавіта ў беларускім гістарычным кантэксьце ўжываньне слова рэспубліка як сыноніма краіны недзе недалёка ад ужываньня ў тым самым сэнсе слова край (Паўночна-Заходні). Ізноў жа — у самім слове няма нічога асабліва кепскага, але гістарычны кантэкст адлюстроўвае пэўныя палітычныя рэаліі.
Я не кажу, што гэта надзвычай важная праблема. Але не магу пагадзіцца з тым, што гэта ня мае ўжо абсалютна ніякага значэньня.
**George**: Выбросить из лексикона слово республика нереально и глупо. Это всего лишь слово, обозначающее форму правления. Я понимаю, про что вы говорите и в каком контексте: в русскоязычной сфере слово республика действительно имеет разные оттенки. Республиками в РФ называют субьектов федерации. Но мы ведь не в РФ? Главное — не название, а содержание. Иначе мы рискуем превратиться в европейских «афро-американцев», комплексующих по поводу всего и вся. Когда употреблять n-word можно только черным. Вы предлагаете закрепить слово «республика» только за членами БНФ с 1991г?) Наверное это подростковая болезнь государства. Издержки формирования эдентичности. Вырастайте, сп. Дракахруст, и не комплексуйте)

## Хто меў рацыю?

**Не валодаю дакладнай статыстыкай, але ёсьць адчуваньне, што слова «рэспубліка» ў дачыненьні да Беларусі зусім рэдка ўжываецца ў незалежным друку, і радзей, чым раней, хаця і даволі часта — у афіцыйным дыскурсе. У прынцыпе, магло б адбыцца пераасэнсаваньне паняцьця, слова рэспубліка, якое ў СССР азначала адно пэўную, даволі сьціплую аўтаномнасьць пэўнай тэрыторыі, можа стаць знакам незалежнай дзяржавы. Як у свой час галяндзкія паўстанцы супраць гішпанскага панаваньня зрабілі прадметам гонару зьняважлівую мянушку «гёзы» (набрыдзь, навалач), якую ім далі гішпанцы. Але прыгаданая карэляцыя — тое, што слова рэспубліка амаль сышло з ужытку ў грамадзянскай супольнасьці, практычна выключае такі сцэнар.**

**31.08.2012**

## Разьбітыя люстэркі

Умовы правядзеньня выбараў у Беларусі — гэта ня толькі страчаная магчымасьць патрэбных краіне пераменаў, гэта і страчаная магчымасьць гамбурскага рахунку, вызначэньня, хто ёсьць хто ў айчыннай палітыцы. Люстэрка, у якім і грамадзтва, і яго палітычная эліта маглі б убачыць сябе, разьбітае ўшчэнт.

Вось скажыце, якая партыя, рух, грамадзкая кампанія ў Беларусі самая моцная, самая ўплывовая? Я не пра тое, хто як на гэты конт мяркуе,

а як гэта вызначыць аб’ектыўна? У краінах, якія маюць хаця б нейкія прыкметы дэмакратыі, гэта вызначаецца проста — за каго больш галасуюць, той такі і ёсьць.

Ну можа не стопрацэнтна, урэшце сёньня галасуюць так, а заўтра гэтак, але лігу галасаваньне ўсё ж вызначае — партыя, якая набірае 10-15%, больш моцная і ўплывовая, чым тая, якая не дацягвае да 5%. Апошняя на чыйсьці погляд можа быць больш высакароднай, адданай нацыянальным інтарэсам і г. д., але ўсе гэтыя ацэнкі мала што значаць у параўнаньні з галоўнай — лікам. Існуе шкала, герархія, незалежная ад суб’ектыўных меркаваньняў.

А што ў Беларусі? Партыя X ва ўсіх выбарах удзельнічае, партыя Y ўсе байкатуе, вынік той самы — круглы нуль месцаў ня толькі ў парлямэнце (не абцяжараным, шчыра скажам, паўнамоцтвамі), але і ў мясцовых саветах (не абцяжараных уладай яшчэ больш). Нуль роўны нулю.

Дык як вызначыць? Колькасьць чальцоў — матэрыя надзвычай цьмяная, вынікі соцапытаньняў шмат хто аспрэчвае, дый не паказваюць яны істотную перавагу каго-небудзь. Таму і карыстаюцца паказьнікамі ўскоснымі, якія і паказьнікамі нават не назавеш: а вось тыя большыя мітынгі зьбіраюць, у іх больш чальцоў рэпрэсавана, а пра гэтых больш незалежныя СМІ пішуць, той з прэзыдэнтам замежным сустрэўся, а гэты — толькі з шэфам тамтэйшага дэпартамэнту МЗС, у гэтых грошай шмат (кажуць, хоць сьвечку ніхто не трымаў), а тыя — як царкоўныя мышы (але таксама пэўна ніхто ня ведае). Ну сьмешна нібыта, якое дачыненьне да пытаньня гэта ўсё мае, як колькасьць мітынгоўцаў зьвязаная са ступеньню масавай народнай пад-

трымкі? А што нясьмешна? Відаць, нешта кшталту: я ведаю, з кім ні размаўляю, усе пагалоўна за... (патрэбнае ўпісаць).

Ну, пэўная рацыя ў такім спосабе ацэнкі ёсьць, чалавек — істота гуртавая, яна па настроях часткі грамадзтва, зь якім камунікуе, робіць высновы, і часам дакладныя, пра ўсіх. Але часам і недакладныя. І прычым рэдка сустрэнеш такога знаўцу, які б казаў: я сам вось гэтых (ці гэтага) не люблю і не падтрымліваю, але ўсе вакол, на жаль, за іх (ці яго). Звычайна нейкім дзіўным чынам гэтыя «ўсе вакол» падзяляюць думкі, перавагі і густы знаўцы. Дык можа гэта ў яго атачэньне такое, а не грамадзтва ў цэлым такое?

Гэты эфэкт гермэтызацыі ў сваім коле яшчэ больш узмацняецца інтэрнэтам. Вось шкодная рэч. Жарт. Карысная, зразумела, але і сапраўды інтэрнэт, сацыяльныя сеткі ўзмацняюць ілюзію аднадумства. Чалавек ня можа камунікаваць зь мільёнамі, бо сотні, тысяча ў інтэрактыўным рэжыме — гэта ўжо вельмі шмат, гэта натоўп. Гэта ўсе.

І я не хачу тут некага асуджаць. Як той казаў, ня мы такія — жыцьцё такое. У палітычнай сфэры гэта асабліва яскрава праяўляецца. Калі «палітык у краіне толькі адзіны», то як можна ацаніць астатніх, якія прэтэндуюць на гэтае званьне?

Але рэжым — гэта ў пэўнай ступені і індульгенцыя. Калі люстэркі разьбітыя ўшчэнт, то чаму б і не лічыць сябе самым прыгожым і прывабным, балазе і «ўсе навокал» з гэтым абсалютна згодныя? А што гэтая прыгажосьць ня мае нейкага аб'ектыўнага пацьверджаньня, ну дык рэжым жа. Хіба не?

Гэта ўсё да чаго? Да таго, што свабода прынясе шмат нечаканасьцяў. Дэмакратыя — капіталізм у

палітыцы. З дакладным вымярэньнем коштаў і вартасьці: грашыма — на рынку, клікамі — у інтэрнэце, галасамі — на выбарах. І нікому ж не паскардзісься тады, што дурань-спажывец ня тое купляе, не на тое клікае і не за тых галасуе.

## Камэнтары:

**Ананім**: На сёнішні дзень у Беларусі праблему вырашыць толькі зьмена ўлады на нацыянальную беларускую. Прэзідэнская форма праўленьня сама па сябе вядзе да дыктатуры, розных яе формаў (гэта тая ж манархія на сучасны лад). Але прызідэнская форма праўленьня цікава тым, хто тузае за ніткі марыянэтку пад назвай «прэзыдэнт». Таму ў шмат якіх сучасных краінах мы бачым прэзыдэнта, яго выбары і ўсе гэтыя навароты. Гульня з народам.
Парлямэнтская форма праўленьня ёсьць больш ясная і прагрэсіўная. Ня фокусуецца няўрозам на адной асобе, базуецца на думках больш меньш разумных незалежных прадстаўнікоў з народу; й шмат іншых прэрагатываў. Гэта можа быць даступна на Беларусі пасьля зьмены ўлады, відавочна. Пры парлямэнтскай форме абмяжаваньні, якія Вы прапануеце, маюць добры сэнс.
**Simpson**: На сёньняшні дзень у Беларусі беларуская нацыянальная ўлада. Вашае ж сьцьвярджэньне зьяўляецца звычайным адмаўленьнем, нежаданьнем прызнаваць свае хібы. Таму яно шкоднае. Пра парламенцкую сістэму — каб яна была эфектыўнай патрэбны адказныя сталыя дарослыя людзі, якіх у нас вельмі мала, а не інфантылы.
**Навак, Віцебск**: Тое, што сярод беларускіх выбаршчыкаў на дадзеным этапе развіцця пераважаюць выбаршчыкі «патрыяхальнага» і «подданнічаскага» тыпу, а доля «актывістскага» тыпу (уласна «грамадзян») малая, так ніхто і не спрачаецца. Пытаньне ў іншым, што робіць (і ці робіць?) улада для палітычнай сацыялізацыі выбаршчыкаў? Ці ёсьць у яе інтарэс «зрабіць» з

«подданых» «грамадзян»? Ці няма ў яе спакусы для захаваньня рэжыму асабістай улады пакінуць усё як ёсць? «Замарозіць» сітуацыю. Адказ відавочны.

## Хто меў рацыю?

**Фэномэн «разьбітага люстэрка» — адзін з фактараў, які ўзмацняе спрэчкі сярод апазыцыйных сілаў і перашкаджае іх кансалідацыі. Тое, што лідэры апазыцыйных партый застаюцца на сваіх пасадах дзесяцігодзьдзямі, тая безьліч прэтэндэнтаў на прэзыдэнцкую пасаду, якая зьявілася ў 2010 годзе — усё гэта вынікі адсутнасьці ў краіне канкурэнтнага палітычнага працэсу, што шкодзіць ня толькі грамадзтву ў цэлым, але і самой апазыцыі як інстытуту.**

**29.09.2012**

## Саламяны самалёт беларускіх выбараў

Пасьля сутыкненьня з заходняй цывілізацыяй у тубыльцаў Мэлянэзіі і Папуа-Новая Гвінэя ўзьнік дзіўны рытуал — карга-культ (cargo — па-ангельску груз). Асабліва ён узмацніўся пасьля Другой сусьветнай вайны, на выспах дысьлякаваліся амэрыканскія войскі, ВПС ЗША забясьпечвалі ўсім неабходным сваіх салдатаў, ну і мясцовае насельніцтва.

Потым амэрыканскія самалёты зь дзівоснымі грузамі лётаць перасталі, але тубыльцы стварылі свае. З саломы і зямлі, зь вёдрамі і бочкамі замест рухавікоў, але ў натуральную велічыню. Культ

атрымаўся вельмі разгалінаваным — папуасы будавалі ўзьлётна-пасадкавыя палосы для сваіх «самалётаў», дыспэтчарскія вышкі, імітавалі дзеяньні амэрыканскіх пілётаў, прыкладаючы да вушэй зробленыя з дрэва навушнікі.

Вы, шаноўны чытач, пэўна зразумелі, да чаго я. Пра айчынныя выбары, у прыватнасьці, пра тыя, якія толькі што адбыліся. На іх ёсьць вылучэньне кандыдатаў, агітацыя, выбарчыя камісіі, народнае волевыяўленьне, падлік галасоў. Толькі гэта — той самы карга-культ, саламяны самалёт. Ён можа быць прыгожым, цікавым для дасьледчыка-антраполяга, праўда з адной асаблівасьцю — ён не лётае.

Калі нехта падумаў, што я такім параўнаньнем вырашыў проста аблаяць уладу, якая выпусташыла дэмакратычны працэс зьмены ўлады да недарэчнага дзікунскага рытуалу, то пэўна памыліўся.

Па-першае, не ў адной уладзе справа, не такая сытуацыя, што жыў-быў эўрапейскі народ, прасякнуты дэмакратычнымі каштоўнасьцямі, але прыйшоў кепскі Лукашэнка і ўсё гэтыя народныя каштоўнасьці апаганіў.

А, па-другое, такое параўнаньне дазваляе пайсьці далей за канстатацыю выраджэньня інстытуту выбараў у чысты рытуал. Дзікуны тыя тубыльцы ці не, але яны, між іншым, людзі і падобныя да нас значна больш, чым нам здаецца. Нашае жыцьцё, як і іхняе, таксама спрэс складаецца зь безьлічы ўмоўнасьцяў і рытуалаў.

Іх карга-культ — не банальная дурасьць. Але ягоная непадобнасьць на нашыя рытуалы дазваляе і нават прымушае задаць наступнае пытаньне: ну так, рытуал, а навошта ён, якую функцыю выконвае ў грамадзтве?

Вось тыя папуасы — і шарагоўцы, і жрацы — яны ж самі для сябе разумелі, што іх саламяныя самалёты ня лётаюць. Бачылі ж, што не. Але гэта ў практычным, прафанным вымярэньні. Нікому зь іх не прыходзіла ў галаву заплянаваць на бліжэйшую нядзелю палёт на саламяным самалёце на суседнюю выспу.

Але ў сакральным, магічным, сьвятым вымярэньні — гэта для іх самалёт і ёсьць. Больш за тое — менавіта гэта і ёсьць самы правільны, сапраўдны самалёт, увасобленая ідэя самалёта. Гэта ў белых людзей копіі іхняга.

Ну а хіба ў стаўленьні да беларускіх выбараў няма такой дваістасьці, «так» і «не» ў розных плашчынях успрыняцьця? Многія, калі ня ўсе, разумеюць, што гэта ня тыя выбары, якія праводзяцца ў многіх іншых краінах, нават ня тыя, якія яшчэ здараліся паўтара дзесяцігодзьдзя таму ў Беларусі. Што гэта не самалёт, так бы мовіць.

Аднак з гэтага не вынікае, што рытуал нічога ня значыць. Як любы рытуал, які добраахвотна ці нават прымусова выконвае значная частка насельніцтва, ён служыць гуртаваньню, кансалідацыі грамадзтва, мы супольнасьць, мы — беларусы (папуасы) таму, што супольна ходзім на выбары (пакланяемся саламянаму самалёту). Ці лётае той самалёт — у сацыяльным сэнсе гэта другасна.

Такі пункт гледжаньня тлумачыць некаторыя рэчы, якія здаюцца на першы погляд абсурднымі. Навошта ў акругах, дзе няма ніякіх назіральнікаў, заганяць людзей прымусам і ўгаворамі, спакусамі кшталту продажу тавараў і канцэртаў на ўчастку, да выбарчых скрыняў, калі ўсё роўна лічбы пішуцца

«ад ліхтара», дакладней, ад мудрага палітычнага рашэньня?

Але ў гэтым жа і сутнасьць культу — супольнага дзеяньня, супольнага пакланеньня, супольнай дэманстрацыі веры. Веры патрэбныя практыкуючыя вернікі.

А нашто ўлада выдаткоўвае напярэдадні выбараў немалыя грошы на ўсялякія сацыяльныя шчодрасьці, кшталту падвышэньня заробкаў, калі ўсё на выбарах вызначана наперад і ўлада ведае лепш за ўсіх, што ўсё вызначана наперад? Падобныя даброты ў 2010 годзе сталі прычынай катастрафічнага леташняга крызісу. А навошта? Хіба бяз гэтага падвышэньня Лідзія Ярмошына страціла б свае ўнікальныя вылічальныя здольнасьці? Навошта было губляць каштоўныя рэсурсы?

Ну а што вы думаеце — правадыры і жрацы папуасаў прыдурваюцца і самі ня вераць у саламяны самалёт, скарыстоўваючы яго адно як «опіюм для народу»? Гэта глупства таннай антырэлігійнай прапаганды. У тым жа ж і фокус, што вераць, ну ў нейкім сэнсе, у нейкай плашчыні вераць, хаця і лепш за ўсіх ведаюць, як гэта зроблена. Так, фальсыфікуем, але пры гэтым гэта справядлівыя выбары і ёсьць, адзіна магчымыя, якія могуць быць. І натуральна, што бэтэшнікі запэўніваюць гледачоў, што наш самалёт — найлепшы ў сьвеце.

І тут мы падыходзім да таго, што рытуал мае ня толькі функцыянальную сацыяльную прагматыку, але і духоўную, магічную мэтафізыку.

Людзі могуць верыць хоць у пень, і супольная вера ў яго будзе іх гуртаваць, але не ў любы пень іх можна прымусіць паверыць, з пнём павінны

быць зьвязаныя нейкія моцныя пачуцьці і перажываньні.

Папуасам здаваліся цудам даброты, якія валіліся зь нябёсаў. Беларусам выбары здаюцца… ну, хай ня цудам, але таксама напамінам пра зьвязаныя зь імі дзівосы эўрапейскага дабрабыту.

Дый няма ўжо ніякіх іншых спосабаў легітымізацыі ўлады — ад ЗША да Паўночнай Карэі выбары праводзяць усе, ні манархічны прынцып, ні лідэрства «ўсеагульным прысудам» ужо неяк не праходзіць.

Гэтым абумоўленае і сакральнае, магічнае вымярэньне рытуалу — як заклінаньня духаў. У прыватнасьці, заклінаньня духаў хаосу. А ня будзе выбараў — дык што ж будзе? Вайна ўсіх супраць усіх, хаос, безуладзьдзе і бязладзьдзе.

Гэта ўсё да чаго? Да таго, што на гэтых выбарах жрацы саламянага самалёта, здаецца, перагнулі кій, надта дэманструючы саламянасьць айчыннай «стальной птушкі». А можа, і ня ў іх справа. Крызіс балюча ўдарыў па кішэні многіх беларусаў, засталася крыўда. Вось яна і выплюхнулася. У такім савецкім стылі — не адрамантуеце дах дома, усім домам галасаваць ня пойдзем. Ці ў адпаведнасьці зь лёзунгам хіпі 60-х — улады абвесьцяць вайну, а на яе ніхто ня прыйдзе.

Можна спрачацца, прыйшло на выбары па краіне ў цэлым больш ці менш за 50% выбарцаў. Але здаецца амаль пэўным, што рэкордна мала за дзесяцігодзьдзі. Можа, менавіта ў гэты момант, можа, пад гэты фармат менавіта парлямэнцкіх выбараў, але адбылося пэўнае «размагічваньне» — па аналёгіі з размагнічваньнем — айчынных выбараў,

шмат хто палічыў, што самалёт саламяны і скакаць вакол яго ня варта.

Адбылося гэта па-партызанску, па-беларуску, праз маўчаньне і ўхіленьне. Беларусы — народ асьцярожны. А раптам заняпад веры ў саламяны самалёт і сапраўды разбудзіць духаў хаосу? Не, зразумела, яно б рацыянальней было проста дамагчыся сапраўдных выбараў. Гэтак жа, як і папуасам лягічней было б навучыцца вытвараць свае сапраўдныя самалёты ці купляць заходнія. Але неяк не атрымалася.

Хаця, як любы заняпад веры, гэты — кропка біфуркацыі, ростані. Можа быць з гэтым «саламяных» выбараў пачнецца шлях да сапраўдных.

## Камэнтары:

**Бенедзікт**: Часам, здаецца, што спадар Дракахруст апантана змагаецца са сваім уласным разуменьнем палітычнай сітуацыі на Беларусі...
Трапна выказаўся З.Пазьняк пра падобныя інтэлектуальныя развагі аўтара -
«Цяжэй справа зь некаторымі інтэлектуаламі, журналістамі, палітыканамі і іншымі, якія абзываюць і прыніжаюць наш народ, але, як аказалася, самы плаваюць на цэлы парадак ніжэй за гэты народ, якім яны вечна незадаволены. Адзін спадар у парыве інтэлектуальнай актыўнасьці, пішучы пра выбары, параўнаноўваў нядаўна беларусаў з папуасамі, а Беларусь — з Папуа-Новай Гвінеяй.»
**Гамяльчук**: Вельмі трапнае параунанне. Эх, каб гэта магла прачытаць наша вёска. Спадзяюся, не хутка, але дойдзе і туды сэнс гэтага эсэ, мабыць у выглядзе анэкдоту. Можа мы сябе так пакрысе самапазнаем, ад сядзення на цвіку, палётау на саломе да нейкай больш высокай пазыцыі ці мэты.

**Валянціна, Вёска**: Ды, не дурнейшая вёска за гарадскіх. Вёсцы трэба неяк выжываць. Куды пойдзе даярка Дуся з 10 класамі школы калі яе турнуць з фермы? Там кожны чалавек навідавоку. Сакратар па ведамасці адсочвае хто не прыйшоў на ўчастак, тэлефануе брыгадзіру і той заганяе чалавека на выбары. Навошта? А, каб прадэманстраваць ўседазволенасць, моц, поўны кантроль над кожным чалавекам, Каб захаваць і надалей прыгоннае права. Каб была поўная 100% «управляемость». Безумоўна,шта нікога не цікавіць, як чалавек прагаласуе. Пратаколы будуць напісаныя ў адпаведнасці з даведзеным заданнем, як і пры СССР. Ў горадзе не адсочыш кожнага чалавека, таму «Руководитель» і хоча прызначыць «военного человека» на адпаведную пасаду мескага горвыканкама, каб усё было пад кантролем. Гэтыя «выбары» толькі для унутранага спажывання. Ен баіцца беларускага народа. А на заход ён пісае прылюдна з вялікага ганку, бо карміць яны яго будуць усёроўна, што б ён не зрабіў і колькі б людзей не забіў. Яны ў яго і «дермократы», і «казлы», і голубые і г.д..., і,што цікава, ім гэта падабаецца, бо купляюць жа ўсё «Беларускае»! Такія вось яны садамазахісты і абы вайны не было. Мы ж вясковыя беларусы працягнем і на бульбе з салам і паглядзім чым скончыцца раман бязяйцавых еўрапейцаў з яйцгаловым хакеістам.

## Хто меў рацыю?

**Выбары 2012 году спарадзілі палкую спрэчку паміж некаторымі прадстаўнікамі апазыцыі, якія на падставе вынікаў назіраньня сьцьвярджалі, што яўка была рэкордна нізкай і выбары не адбыліся ў большай частцы рэгіёнаў краіны, і сацыёлягамі НІСЭПД, паводле апытаньняў якіх выбары не адбыліся толькі ў сталіцы і што яўка ў 2012 годзе была прыкладна такой самай, як і ў**

**2008 годзе. Але варта адзначыць, што ў любым выпадку, нават калі сапраўды народнае стаўленьне да ўлады праявілася ў масавым непрыходзе на выбарчыя ўчасткі, гэтая дэманстрацыя не ўвасобілася ў нейкія акрэсьленыя палітычныя формы, спробы неяк палітычна мабілізаваць удзельнікаў байкоту, пра якія палітыкі шмат гаварылі пасьля выбраў, аказаліся марнымі.**

**07.11.2012**

## Казка пра сьпячую царэўну

Я надзвычай удзячны калегу Сяргею Навумчыку за тое, што ён паведаміў мне, што напрыканцы 80-х-напачатку 90-х гадоў XX стагодзьдзя ў шэрагу краін Цэнтральнай Эўропы прыйшлі да ўлады такія постаці, як Лэх Валэнса, Вацлаў Гавэл і Жэлю Жэлеў. Век жыві — век вучыся.

Мой шаноўны апанэнт мог бы і не абмяжоўваць прыклады найноўшым часам, можна ж прыгадаць і такія ненамэнклятурныя павароты лёсу, як ператварэньне пастуха Давіда ў цара Юдэі ці лейтэнанта з правінцыйнай Корсікі — у імпэратара Францыі. Чаго толькі ў гісторыі не бывала.

Але ў маім тэксьце, які паслужыў нагодай для ўроку гісторыі, дадзенага мне Сяргеем Навумчыкам, размова ішла не пра тое, які лідэр спадабаўся б асабіста мне і якога б я (ці Сяргей, ці хто іншы) лічыў бы найлепшым для Беларусі, а пра тое, які ён рэальна магчымы ў сучаснай Беларусі.

І тут хіба не ключавы вобраз — тая «паўза», пра якую піша мой шаноўны апанэнт. Калі паўза — то

можна пагадзіцца. Як у казцы пра сьпячую царэўну — усё царства заснула, дастаткова яго разбудзіць, і ўсё вернецца ў залатыя дні Вярхоўнага Савету XII скліка125ньня, вернуцца Дземянцей, Кебіч, і ўсе тагачасныя героі і ліхадзеі, партыю можна будзе проста перайграць і на чале дзяржавы з поўным правам устане самі разумееце хто.

Але справа ў тым, што гэта казка. І гэта казачнікі апынуліся ў паўзе, затрымаліся ў часе. А Беларусь зьмянілася і прычым вельмі моцна. Тады абрынулася вялікая і жахлівая глябальная сыстэма, ідэя, якой натхняліся мільёны людзей ва ўсім сьвеце — ад дзікіх плямёнаў да брытанскіх лордаў, тады, паводле формулы з Нобэлеўскай лекцыі Бродзкага, «загінуў не герой, а хор». І разам зь гэтай сыстэмай, з гэтым «хорам» абрынулася і ўся герархія як сэнсаў, гэтак і статусаў. І толькі ў той унікальнай гістарычнай сытуацыі і маглі ў некаторых частках гэтай чырвонай Атлянтыды прыйсьці да ўлады такія людзі, як Гавэл, Валэнса і Жэлеў.

А што цяпер у Беларусі? З гістарычнага пункту гледжаньня больш-менш стацыянарнае разьвіцьцё, грамадзтва разьвіваецца у межах трэнду, зададзенага пасьля краху камунізму. Гэта ня значыць, што нічога ня можа быць палепшана, нават ня значыць, што немагчымыя істотныя зьмены. Магчымыя, зразумела. Але нешта параўнальнае з анталягічным абвалам канца 80-х — пачатку 90-х гадоў, пэўна, немагчымае. Адпаведна немагчымы і пераварот сацыяльнай герархіі, сацыяльнай піраміды — яна можа страсянуцца, другі паверх можа стаць першым. Але «хто быў нікім, той стане ўсім» — гэта зусім пра іншую эпоху, напрыклад, тую самую, якая засталася па той часавы бок «паўзы». Час Гаўлаў, Ва-

лэнсаў і Жэлевых на гэтай прасторы ўжо прайшоў. І ня хутка вернецца, калі вернецца наагул.

І пераконвае ў гэтым менавіта досьвед усёй прасторы, пра які я пісаў у сваім блогу. Ну зусім невыпадкова на чале «каляровых» рэвалюцый у постсавецкім рэгіёне апынуліся людзі, якія апынуліся, а не апальныя драматургі, рабочыя лідэры ці ўнівэрсытэцкія філёзафы. І маштаб зьменаў там, дзе яны ўсё ж адбыліся, аказаўся значна больш сьціплым, чым тых, што адбыліся ў часы краху СССР і камунізму.

Зь іншага боку, Сяргей Навумчык зусім дарма гэтак грэбліва ставіцца да здольнасьцяў цяперашняй намэнклятурнай гвардыі. І зноў жа гістарычная аналёгія — у якім-небудзь кіслым 1978 годзе хто што мог разгледзець у далёка не самым лібэральным сьвярдлоўскім партсакратары Ельцыне, украінскім сакратары па ідэалёгіі (і што пікантна — запісным змагары з украінскім нацыяналізмам) Краўчуку, у майстрах непрыстойных хваласьпеваў на адрас «дарагога Леаніда Ільліча» Шэварднадзэ і Аліеве? За 80 гадоў савецкай улады ўладны этыкет стаў крыху больш вытанчаным, было ўжо непрынята прылюдна вадзіць буйных чыноўнікаў пысай па батарэі, як было пры Сталіне і як практыкуецца ў сучаснай Беларусі. Але ў прынцыпе норавы былі прыкладна такія самыя і названыя асобы зусім не вылучаліся нейкай асаблівай грамадзянскай мужнасьцю і пачуцьцём уласнай годнасьці. А потым адкуль што ўзялося. Адтуль жа і цяпер можа ўзяцца.

З больш блізкіх, ужо лукашэнкаўскіх часоў можна прыгадаць, напрыклад, Лявонава, Марыніча і таго самага Ганчарыка.

Ну, можа, і ня здарыцца тое ані зараз, ані ў 2015 годзе, ані пазьней. Але справа ў тым, што калі здарыцца, то здарыцца менавіта так, а не паводле казкі пра чароўны Вярхоўны Савет XII скліканьня.

Зразумела, сапраўдную веру ня могуць пахіснуць ніякія аргумэнты. Калі нехта верыць, што час зробіць пятлю, верне Беларусь у 1994 год, і іх кумір на белым кані прыедзе ёю валадарыць — такой веры можна нават пазайздросьціць. Праўда, досьвед падказвае, што самым вялікім расчараваньнем для гэтых вернікаў стане зьдзяйсьненьне іх мары — Беларусь без Лукашэнкі. Калі высьветліцца, што спалі, як тая царэўна, яны, а не Беларусь. Але пакуль — дабранач.

## Камэнтары:

**Бенедзікт**: Дракахруст — «Зразумела, сапраўдную веру ня могуць пахіснуць ніякія аргумэнты.»

---

А дзе аргуманты?
Хіба гэта — «А што цяпер у Беларусі? З гістарычнага пункту гледжаньня больш менш стацыянарнае разьвіцьцё, ніякі «скачок з царства неабходнасьці ў царства свабоды» немагчымы ў прынцыпе, грамадзтва разьвіваецца у межах трэнду, зададзенага пасьля краху камунізму.»
Але спадар Дракахруст, пасьля гэтай высновы, мудра страхуецца — кажа што зьмены магчымыя, але не такія, як у 80-х.
А чаму такія высновы? Не зразумела.
І ўзгадваецца прыклад Грузіі, і справа была абсалютна не ў тым, што Саакашвілі былы міністр, а справа была ў тым, што Саакашвілі, гэта чалавек у якім замежнай адукацыяй і жыцьцём — «там» было вытраўлена ўсё саўковае.
І Краўчук, і Шэварнадзэ даўно адрынуты часам, які, як слушна заўважыў спадар Дракахруст сёньня даўно іншы

(праўда тыя, што сьпяць і бачаць толькі сваго куміра, гэтага ня ведаюць).
Але дадам, што Беларусь таксама ўжо даўно не ў тым часе, дзе знаходзіцца надзея спадара Дракахруста — Лявонаў, Марыніч, Ганчарык ...
Як некалі сказаў паэт — «Иных уж нет, а те — далече...» (нават камсамолец-пушкініст, можа гэта падцьвердзіць спадару Дракахрусту).
**Raman**: засталося толькі Сідорскага абраць «адзіным» ад апазіцыі, так, сп. Дракахруст?!
тады ўсё царства прачнецца і адбудуцца першыя чэсныя выбары... :)
**Шелудивая Масса, Нцк**: «Ууу, какие мы оптимисты!» (с) Паважаны спадар Дракахруст, спасибо за правду-матку, однако правда Ваша однобокая сиречь недиалектичная. Почему игнорируется тот факт, что Беларусь — часть европейской цивилизации, что наше стремление туда вернуться, влиться в демократический европейский интернационал, найдёт мощную поддержку соседей? Антибелорусский режим держится только на лжи и страхе. Молодёжь ненавидит диктатора, среднее поколение презирает, старики стонут. Власть советских пенсионеров истлевает. Победит не госбюрократия, а молодой энергичный политик, который откроет новым поколениям белорусов путь в Европу.
**Павел, Менск**: Бачна, што шмат хто з каментатараў блытае (ненаўмысна? ;) ) ўзважаны, спакойны аналіз сп. Дракахруста з нібыта яго персанальным жаданнем аб наменклатурным варыянце. Абвінавачванні ў недастаткова ідэалістычным поглядзе? Мары аб Беларусі, безумоўна, прыгожыя, але здымайце ружовыя акуляры, ці проста глядзіце калі-некалі над імі, каб убачыць рэчаіснасць.

## Хто меў рацыю?

**Зразумела, тое, што ў Беларусі перамены магчымыя толькі тады, калі на чале іх стане прадстаўнік цяперашняй кіроўнай эліты — гэта гіпотэза. Але яна падтрымліваецца досьведам усіх без выключэньня ўдалых «каляровых» рэвалюцый на постсавецкай прасторы, прычым падтрымліваецца ў двух сэнсах: па-першае, у тым, што на чале гэтых пераменаў стаялі людзі, якія раней былі ва ўладнай ці каляўладнай абойме, па-другое, што вынікі іх былі несувымернымі з крахам камунізму ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў. Складваецца ўражаньне, што постсавецкая сацыяльна-палітычная «матрыца» ў выніку гэтых рэвалюцый заставалася нязьменнай. Маштаб зьменаў у грамадзтве адпавядае сацыяльнай дыстанцыі лідэраў пераменаў ад уладнай эліты, якая існавала да пераменаў.**

**05.12.2012**

## Сьвятлана Калінкіна, Марыя Антуанэта і «мудак»

Прачытаў на Фэйсбуку ўражаньні Сьвятланы Калінкінай ад гутаркі з журналістам, які прыехаў з «Барысаўдрэва», пра які цяпер шмат гаворкі. І ўразіўся ў сваю чаргу шчырасьцю Сьвятланы.

Менавіта на «Барысаўдрэве» Аляксандар Лукашэнка нядаўна зладзіў шоў з забаронай на звальненьні. Сьвятлана ў сваім Фэйсбуку піша:

*«А вось пад прахадной на жыцьцё скардзіліся. Маркуючы па расказах, і праўда туга! Заробак мільён дзьвесьце тысяч. Але пры гэтым чалавек плачацца: «А куды я пайду з заводу, у мяне ж двое дзяцей». І хтосьці ж з гэтым мудаком жыве, ён чыйсьці тата, бацька сямейства, аўтарытэт. У яго двое дзяцей жывуць на падножным корме (таму што за такі заробак нават батон добры ня часта купіш), а ён рукамі разводзіць: «Куды ж я пайду...» Грузчыкам у «Эўраопт», паштальёнам, ляпіць шпалеры і бяліць столі на прыватных рамонтах, санітарам, сталяром, цесьляром, ахоўнікам у любую менскую лякарню. Так, дзясяткаў мільёнаў на гэтых «пасадах» не заробіш. Але і не 150 даляраў. Тым больш, што колькі тут ад Менску да Барысава ехаць?! Але яму ня трэба, ён аб дзецях клапоціцца. І потым яшчэ дзецям, калі вырастуць, будзе мазгі піць, як цяжка ён іх гадаваў, ва ўсім сабе адмаўляючы. На гэтых людзей і дэкрэту ніякага прыгоннага ня трэба, яны самі дупу не падымуць. Будуць сядзець і ўспамінаць, як у вайну галадалі іх бабулі».*

Ну, не газэтная публікацыя, але Фэйсбук — усё ж публічны дзёньнік, не зусім асабістае. І вось уладальніца думак, настаўніца нацыі лаецца на адрас сваіх суайчыньнікаў, якія нічога кепскага асабіста ёй не зрабілі і нічога ёй ня вінныя.

Але, здаецца, што гэты пост паважанай калегі — нагода для размовы не адно пра нечую ветлівасьць і выхаванасьць. Ён, гэты пост, у нечым высьвечвае прыроду сацыяльных і палітычных працэсаў у сучаснай Беларусі.

Тэкст Сьвятланы нагадаў знакаміты адказ Марыі Антуанэты. Калі ў Францыі пачаліся бунты — прадвесьце рэвалюцыі, на пытаньне каралевы, чаму

яны бунтуюць, адзін з прыдворных патлумачыў: «У іх няма хлеба». «Дык хай ядуць булкі», — прастадушна адказала Марыя Антуанэта. Пра тое, што на булку трэба зарабіць, уладкаваўшыся ў «Эўраопт» або ахоўнікам у парыскі шпіталь, манархіня, не зьяўляючыся журналісткай, не казала, але, відаць, мела на ўвазе нешта такое. І наагул была па-свойму, з вышыні сваёй велічы, шчырай і спагадлівай, нават мудакамі не называла.

Гэты знакаміты эпізод нагадвае, што тая вялікая рэвалюцыя адбылася прынамсі ня толькі дзеля свабоды, роўнасьці і братэрства (з чым атрымалася складана), колькі дзеля пераразьмеркаваньня дабротаў, дзеля зьмены сацыяльных статусаў, у першую чаргу — статусу тых, хто ва ўпор быў няздольны зразумець становішча людзей іншага статусу.

А гэта мае наўпраставае дачыненьне да сучаснай палітыкі, у разуменьні якой часам бракуе здаровага сацыяльнага падыходу.

Ёсьць такі погляд, што Лукашэнка кіруе, абапіраючыся адно на сваіх сілавікоў-касталомаў ды на мозгапрамывальную тэлескрыню. А народ стогне пад пятой дыктатуры, ён абдураны, але сам па сабе прагне свабоды, дэмакратыі і свабоднага рынку. Ну а не паўстае, бо запалоханы.

Такая паэтычная карціна сьвету вельмі прыдатная для выступаў на мітынгах і ў размовах зь цікаўнымі замежнікамі.

Але насамрэч гэтай карціне, не пазбаўленай, прызнаем, сувязі з рэчаіснасьцю, бракуе адказу на простае і грубае пытаньне: хто мае выгаду ад існаваньня цяперашняй сыстэмы? І на іншае пытаньне, нашмат больш далікатнае: а як нацыянальны пірог

будзе перараазьмеркаваны пры тых чаканых і жаданых пераменах?

Вось таму рабацягу з «Барысаўдрэва» беларуская дэмакратыя вуснамі Сьвятланы ўжо патлумачыла, што чакае ў дэмакратычным парадызе яго — мудрая парада круціцца, браць свой лёс у свае рукі і такое падобнае.

Я нават ня буду спрачацца па сутнасьці парадаў калегі, хаця не выключаю, што трыманьне тым рабацягам за свой завод — рашэньне цалкам рацыянальнае, прадыктаванае дакладным разьлікам сваіх магчымасьцяў і здольнасьцяў, а ня нейкімі культурнымі забабонамі і славутым мэнталітэтам. З моцнай і высокай сацыяльнай пазыцыі чужыя магчымасьці, зразумела, лепш бачныя — «хай ядуць булкі». Але хай сабе забабоны, страх, нежаданьне мяняць свае звычкі. Але ж ён — чалавек і, паўтаруся, нічым не абавязаны ні Сьвятлане, ні мне, ні каму іншаму.

І ці зьдзівіць вас, шаноўны чытач, калі ў адказ на Сьвятланіну параду ён адрэагуе ў стылі Акудовіча на заклікі на ўсялякія плошчы — бяз нас? І гэта ў лепшым выпадку. А ў іншым — будзе пляскаць у ладкі АМАПу, які сваімі дубінкамі абараняе ня толькі, а можа і ня столькі, Лукашэнку, колькі яго, ягоны лад жыцьця. Бо што яго чакае ў тым ладзе, які адстойваюць пратэстоўцы, ён ведае. І кім яны яго лічаць — адчувае. А ў Калінкінай нават і прачытаць можа. Пры такіх паводзінах можаце яго назваць гэтак жа, як і яна. Адзінага званьня, якога ён ня будзе заслугоўваць у гэтай сытуацыі — гэта званьня дурня. Ён будзе банальна адстойваць свае інтарэсы.

Вось у гэтым насамрэч і сутнасьць як пераменаў, гэтак і іх адсутнасьці — у сутыкненьні і балянсе масавых інтарэсаў. У сучасным і пэрспэктыўным вымярэньні.

Да Сьвятланы, па шчырасьці, у мяне прэтэнзіяў няма — вольны журналіст выказаў сваю вольную асабістую думку (хоць яе ўплыў на грамадзкую думку значна большы, чым многіх практыкуючых палітыкаў). Нават падзякаваць ёй трэба за тое, што яна, можа і міжволі, прадэманстравала сацыяльную прыроду палітычнага канфлікту ў Беларусі: не народ супраць дыктатуры, не апазыцыя супраць дыктатуры, ня сілы сьвету супраць сілаў цемры (ці наадварот), а інтарэсы супраць інтарэсаў, адна схема падзелу нацыянальнага пірага супраць іншай.

Ну але калі разглядаць гэта як палітычную парадыгму, то нават адкідаючы ўбок пытаньні карэктнасьці, варта сказаць, што нават правячай клясе часам дорага каштуе стаўленьне да іншых у стылі Марыі Антуанэты. А ўжо неправячай і пагатоў.

Але наагул — карысны паварот вечных беларускіх палітычных спрэчак: весьці іх не пра тое, ці трэба адзіны кандыдат, не пра тое, ці пасябруе Пазьняк з Калякіным і калі лепш правесьці тую або іншую маніфэстацыю. А пра тое, як будуць дзяліцца ў нашым лепшым заўтра нацыянальнае багацьце і статусы, і хто тыя «мудакі», якія апынуцца пры гэта падзеле «бяз лапы». Гэта менш узьнёсла, але значна больш карысна для вызначэньня праціўнікаў і прыхільнікаў. Дый публіцы цікавей.

## Камэнтары:

**Калега**: Гэта ня проста тэкст Сьвятланы, тут трыста лайкаў пад яе тэкстам. Такога не было на маёй памяці ў Фэйсбуку. Я б не ставіў тут пытаньне пра інтарэсы (мне здаецца, тут гэта не вызначальнае), гэта проста псіхалогія, псіхалагічны разрыў паміж «простымі людзьмі» і той лепшай часткай народу, якая лайкае ў ФБ. І якая лічыць «простых людзей» мудакамі, і выказвае гэта. А тых, простых, у СМІ не чуваць, але яны выказаліся ў 94-ым і выказваюцца дагэтуль. Асноўны недахоп аргумэнта Сьвятланы ў тым, што ён можа быць павёрнуты супраць яе. Маўляў, а ты чаго працуеш у сваёй Народнай волі за не самы вялікі заробак, магла б недзе ў Маскве зарабляць нашмат болей. Ці ў Ждановічах боты прадаваць. У Сьвятланы будуць свае аргументы, а ў рабацягі — свае.
**Паўловіч, Мінск**: Калінкіна не ў першы раз абзывае людзей. Раней, здаецца, Кастусёва мудаком абазвала. І лічыцца адной з лепшых журналістак краіны (атрымлівае прэміі; здаецца, сядзіць у кіраўніцтве БАЖу і інш.). Добры прыклад маладому пакаленню...
**Марыя**: Слушная Ваша заўвага. Так любім на Лукашэнку наяжджаць за яго хамскія адносіны ў дачыненні да людзей, а самі?
**вадзя, дубнякоу мы, ну**: Якия далікатныя у нас людзі.Дык мудак для такога гучыць, як камплімент.Ужо б маучау лепей.Ці расказау усю прауду.Цягну-усё што дрэнна ляжыць.Халтуру пастаянна на левых заказах.Адпачываю на працы, а у выходныя маю аснауны заробак.
**Гуманіст, Менск**: Дзякуй за артыкул!
«...хто тыя «мудакі», якія апынуцца пры гэта падзеле «бяз лапы»...»
Памятаеце адну з першых двух фразаў, якія кінуў АГЛ, калі прыйшоў да ўлады?
«Заўтра прыходзьце да мяне і гаварыце: хто што хоча атрымаць.»
Два бакі мэдалю:

з аднаго, канешне трэба памятаць пра тое, што многія менавіта для таго ў палітыку і ідуць, каб на гэтым «узняцца», то бок, нажыцца;
а з другога, пакуль мы працягваем цікавіцца менавіта «скурнымі» інтарэсамі, мы ніколі не здолеем выйсці з гэтай багны, бо ў змаганні з ёю першасную ролю іграе маральны стан грамадства.
Насамрэч, кажыце што заўгодна, але на перыяд пасля Лу проста НЕАБХОДНА, каб улада была ў даволі моцных і жорсткіх, але _сумленных_ руках. Інакш пойдзем шляхам Расеі. І ў гэтым выпадку не будзе асаблівай розніцы, ці прыйдзе чалавек, для якога дэвізам будуць тыя дзве АГЛоўскія фразы, альбо прыйдзе чалавек, які не здольны нічога ўтрымаць у руках.
**Дракахруст, Прага**: Спадар гуманіст, дзякуй за добрае слова. Але трэба, відаць, удакладніць. Лукашэнка, калі казаў наконт «гаварыце, што хочаце атрымаць», зьвяртаўся да сваёй выбарчай каманды, гэта некалькі дзясяткаў, максымум соцень чалавек, ня больш.
Гэта таксама, дарэчы, важна, як казаў Дантон, «рэвалюцыя — гэта 100 тысяч вакансіяў». Але я меў на ўвазе разьмеркаваньне нацыянальнага пірага паміж сацыяльнымі групамі. Пасланьне Лукашэнкі ўзору 1994 году было даволі выразнае — адбяру ў багатых, аддам бедным. Магчыма, у таго мужыка з «Барысаўдрэва» тады завод ці наагул не працаваў ці заробкі затрымлівалі. А потым запрацаваў. І сталі плаціць. Мала, але рэгулярна. І яму асабіста, і такім, як ён. А ў многіх бізнэсоўцаў іх бізнэсы разбурылі або забралі. Яны сталі жыць горш, а дзядзька з «Барысаўдрэву» — лепш. І вось гэта я і меў на ўвазе, калі казаў пра разьдзел пірага.
**НАЦДЭМ**: Вядома, яна троху кепска напісала... Але нешта ў гэтым ёсьць. І тут зусім не пра палітыку гутарка. А пра тое, што мужык павінен зарабляці грошы. Для сям'і. Круціцца. Пры любой уладзе. Гэтага сп.Юры не зацеміў...
Дарэчы, дэмакратычная ўлада дасьць яму больш грошай, больш магчымасьцяў і больш выбару.

Калі б амэрыкосы лічылі сваю краіну абмежаваным пірагом, не пабудавалі б яны вялікую краіну.
**Simpson**: Мужык нікому нічога не павінен акрамя таго, што ён сам лічыць патрэбным. А ён лічыць патрэбным працаваць на гэтым прадпрыемстве. Сп. Калінкіна, як любы чалавек з аўтарытарным мысьленьнем, вырашыла надавіць на чалавека толькі таму, што ён не адпавядае ейным уяўленьням пра жыцьцё. Сп. Дракахруст заўважыў, што мужык таксама мае зубы, так што калі сп.Калінкіна атрымае ад амонаўца тумака, то хай успомніць таго мужыка.
**Donald Duck**: Надавіць? Рэпрэсаваць крывавым фэйсбукам, так? :)
Не выдумляйце, яна напісала сваю жаночую ацэнку мужыка, які «нікому нічога не павінны».
>Сп. Дракахруст заўважыў, што мужык таксама
>мае зубы, так што калі сп.Калінкіна атрымае
>ад амонаўца тумака, то хай успомніць таго мужыка.
А калі б яна напісала, што ён лапанька-зайчык, ён бы прыйшоў яе абараняць :))
**кінік, Менск**: І вось ён пойдзе грузчыкам у «Эўраопт» і праблемы вырашацца? І ўжо ня будзе «мудаком»? Цікавая ў нас контрэліта: атрымліваецца, што праблема толькі ў адсутнасьці сацыяльнай мабільнасьці. Варта толькі падняць задніцу. Калі бабкі можна зарабіць у «эўраопце» ці якім іншым мейсцы, дык ці не азначае гэта тое, што прэтэнзіяў да створанай Лу сістэмы ўлады і эканомікі папросту няма? А якія прэтэнзыі, бо толькі мудакі, зломкі і лайдакі маюць праблемы.
**Kate, Minsk**: Дзякуй за артыкул. Нажаль, пагардлівае стаўленьне да ўласнага народа ўласціва не толькі ўладзе, аднак шмат якім прадстаўнікам аппазіцыі. «быдла» як азначэньне пэўнай сацыяльнай группы, у якую уваходзяць і простыя рабочыя, нярэдка можна пачуць з вуснаў тых, хто адносіць сябе да інтэллігенцыі і барацьбітоў з існуючай уладай. Дык за како змагаемся і дзеля каго? Дзеля народа ці дзеля пэўных сацыяльных колаў? І ці можа адносіць

сябе да інтэллігенцыі чалавек, які дазваляе сабе ганьбіць уласны народ? Прыемна, ведама, адчуваць сябе «лепшай часткай народу», як выказаўся на форуме Калега. Аднак няма чаго і чакаць, што «горшая частка» падтрымае вас, «лепшых» на вуліцах, бо кожная частка сама па сабе, са сваімі праблемамі і інтарэсамі.

## Хто меў рацыю?

**Наша са Сьвятланай дыскусія выклікала вялікі рэзананс, прынамсі ў байнэце. Прычым, цікава адзначыць, што падзел прыхільнікаў таго або іншага пункту гледжаньня не зусім супадаў з падзелам на прыхільнікаў і праціўнікаў А. Лукашэнкі. Гэтая, а таксама некаторыя іншыя дыскусіі ў беларускім грамадзтве, магчыма, сьведчаць пра тое, што спарахнеў, выпетрыўся запас палітычных ідэяў, палітычных сэнсаў, якімі жывілася беларускае грамадзтва бадай што з часоў перабудовы. І хацелася б спадзявацца, што моцныя, новыя сэнсы, народжаныя ў экзыстэнцыйным і сацыяльным полі, уварвуцца і на палітычнае і зьмятуць нагрувашчаны там хлам.**

### 13.12.2012

## Сацыяльная тэорыя адноснасьці

Падчас знакамітага красавіцкага страйку 1991 году ў Менск прыехалі два інструктары з польскай «Салідарнасьці» — так бы мовіць, перадаваць беларускім рабочым рэвалюцыйны досьвед. Іх, дарэчы, нават у тыя вэгетарыянскія часы потым

дэпартавалі. Але да таго я разгаварыўся з адным зь іх, які ў часы ваеннага становішча і ў турме пасядзеў, і ў падпольлі быў. Я, як савецкі ўзьнёслы лібэрал, кажу яму: «Які ў нас тут «савок». А вось у вас такія выдатныя рэформы Бальцаровіч робіць». Гляджу — на мае словы суразмоўца бялее тварам. І кажа: «Бальцаровіч для Польшчы — як Гітлер. Ён нас абрабаваў!»

Уразіла мяне тады тая гутарка, тым больш, што вызначэньне прагучала з вуснаў ня нейкага адстаўнога «камуха», выкінутага зь цёплага крэсла, а ад чалавека, які жыцьцё паклаў дзеля новай, некамуністычнай Польшчы.

Прыгадалася тая гісторыя ў сувязі з нашай спрэчкай са Сьвятланай Калінкінай наконт «мудака» з «Барысаўдрэва». У падтрымку Сьвятланы цікавыя аргумэнты выказаў і публіцыст Андрэй Пачобут.

Калі па шчырасьці, дык я і тады, і зараз — усё ж больш на баку Бальцаровіча, як і расейца Гайдара, і немца Эрхарда, і многіх іншых рэфарматараў. Але не лічыў і не лічу мудаком таго майго суразмоўцу з «Салідарнасьці».

Хаця з пункту гледжаньня Сьвятланы і Андрэя — ён, відаць, такі і ёсьць. Магчыма, і ён, як і ягоны калега з «Барысаўдрэва» 2012 году, працаваў на стратным прадпрыемстве, гэта значыць, паводле лёгікі Андрэя, усім быў вінны і нават пікнуць правa ня меў, як утрыманец на шыі грамадзтва. Круціцца ж трэба, як і было сказана. А ён нечым абураўся, скардзіўся вось нават мне, замежніку, нудзіў. Ну і хто ён пасьля гэтага?

«Я гавару праўду, горкую, але праўду» — заявіла Сьвятлана ў «Праскім акцэнце». Вось тут варта

адкрыць адну таямніцу. Насамрэч, гэта ня праўда. Аднак і не няпраўда. Гэта ідэалёгія, жыцьцёвая філязофія, парадыгма, сутнасьць якой: чалавек сам каваль свайго шчасьця і, што вельмі важна, няшчасьця. Няшчасны — значыць, сам і вінаваты, ня здолеў знайсьці прыкладаньня сваім здольнасьцям, каб грамадзтва цябе годна ўзнагародзіла. Аднак перакананьне ў гэтым падобнае на веру ў Бога — у яго верацьне таму, што атрымалі доказы, неабвержныя, як 2x2=4. На гэта ўжо потым «накручваецца» рацыяналізацыя, падбіраюцца аргумэнты. Але ў аснове — перакананьне: яно так, таму што так яно ёсьць ці павінна быць, таму што так збудаваны ці мусіць быць збудаваны сьвет.

Але ёсьць і іншы погляд, іншая вера: што чалавек, якому не пашчасьціла ў жыцьці — вельмі часта ахвяра абставінаў, што парадак разьмеркаваньня дабротаў, які складваецца спантанна, несправядлівы і мае патрэбу ў паляпшэньні дабрадзейнай рукой дзяржавы ў накірунку большай роўнасьці. І гэта неабавязкова камунізм: стваральнікі прафсаюзаў, Франклін Рузвэльт зь яго «Новым курсам», бацькі «швэдзкага сацыялізму» — усе яны не былі камуністамі, на думку некаторых, яны якраз і прадухілілі прыход камунізму, пайшоўшы насустрач рабацягам са сваіх «Барысаўдрэваў».

У гэтым сэнсе наша спрэчка са Сьвятланай і Андрэем, па-першае, калі ня вечная, то ўжо вельмі старая — ёй прынамсі два стагодзьдзі, калі ня больш, а па-другое — глябальная. Пра што былі апошнія выбары ў Літве, Францыі і ЗША? Менавіта пра гэта. Памятаеце знакаміты сьпіч Ромні наконт 47%? «47% людзей будуць галасаваць за Абаму, нягледзячы ні на што. Ну добра, 47% стаяць за ім, яны залежаць ад

ураду, яны лічаць, што яны зьяўляюцца ахвярамі, яны лічаць, што ўрад нясе адказнасьць за апеку над імі, яны лічаць, што яны маюць права на мэдычнае абслугоўваньне, харчаваньне, жытло і ўсё такое. Што гэта іх прывілеі. І што ўрад мусіць даць ім усё гэта. І яны будуць галасаваць за гэтага прэзыдэнта, нягледзячы ні на што. Гэта людзі, якія ня плацяць падаткаў ад прыбытку. Мая задача палягае ня ў тым, каб клапаціцца пра гэтых людзей. Я ніколі іх не пераканаю, што яны павінны ўзяць асабістую адказнасьць за клопат пра сваё жыцьце», — казаў кандыдат у прэзыдэнты ЗША.

Ну проста слова ў слова тое, што і Сьвятлана напісала ў сваім Фэйсбуку. Толькі што мудакамі не назваў. Мо слова такога ня ведае. Зразумела, кантэкст падобных дыскусій у розных краінах розны: у Беларусі спрэчка ідзе пра квазісавецкую эканоміку, у ЗША, напрыклад — пра сыстэму абавязковага мэдычнага страхаваньня, якая ў Эўропе існуе з часоў Бісмарка. Але спрэчка па сутнасьці пра тое самае — як дзяліць нацыянальны пірог: па заслугах ці па справядлівасьці?

Рацыянальна даказаць слушнасьць таго або іншага погляду немагчыма ў прынцыпе.

Да таго ж, выбар у значнай ступені абумоўлены якраз сацыяльнымі пазыцыямі, сацыяльнымі вынікамі. Наўпраставай сувязі тут няма, дай Бог таму рабочаму з «Барысаўдрэва» ніколі не перажываць тое, што перажывала Сьвятлана пры ператрусах і Андрэй — пры шматлікіх арыштах. Але гераічнай філязофіі наконт каваля ўласнага шчасьця і няшчасьця значна часьцей схільныя прытрымлівацца людзі, якія скавалі сабе менавіта шчасьце. І наадварот — тыя, хто ня здолеў выйграць у жыцьцё-

вай гонцы, часьцей схільныя вінаваціць у гэтым абставіны. А яшчэ дакладней — той або іншы падыход адстойваюць, як правіла, тыя, хто спадзяецца, што калі іх погляд стане (ці будзе заставацца) нормай жыцьця ўсяго грамадзтва, ім будзе жыць лепш, чым у адваротным выпадку.

Маё адрозьненьне ад шаноўных апанэнтаў — ня ў тым, што я прытрымліваюся цалкам супрацьлеглай парадыгмы, я хутчэй падзяляю іхную, колькі ў тым, што лічу абедзьве парадыгмы раўнапраўнымі.

Як казаў знакаміты фізык Нільс Бор, «існуюць ісьціны двух кшталтаў: глыбокія ісьціны, прызнаныя за такія таму, што адваротнае ім — таксама глыбокія ісьціны, і трывіяльнасьці, адваротнае якім — відавочны абсурд».

Можна не пагаджацца з гэтым і лічыць, што мае рацыю выключна адзін бок. Але сацыяльнае і палітычнае жыцьцё ня зводзіцца да інтэлектуальнага фэхтаваньня. Хоць пры належнай упартасьці можна і не вылазіць з інтэлектуальнага «бункеру», добра пашытай тэорыі ня страшныя ніякія факты.

Вось той самы Бальцаровіч і страціў пасаду неўзабаве пасьля маёй гутаркі з тым «салідарнасьцёўцам». І не ў апошнюю, калі ня ў першую, чаргу — якраз з прычыны рэакцыі на ягоныя рэформы падобных «мудакоў». А іншай рэакцыяй стаў прыход да ўлады посткамуністаў. Праўда, і тыя фактычна ня здолелі ці не захацелі паварочваць зробленае Бальцаровічам у адваротны бок. Аднак неяк палітычна салідарызавацца з Бальцаровічам польская палітычная эліта і цяпер высьцерагаецца — палякі, нават цэнячы цяперашні дабрабыт, памятаюць, што ім зрабілі вельмі балюча. І хто зрабіў. Дык тое

палякі. А беларусы на кволыя і непасьлядоўныя рэформы пачатку 90-х адказалі натуральным чырвоным рэваншам — аглушальным галасаваньнем у 1994 годзе.

І той, хто забудзе пра ўрок 1994 году, асуджаны на тое, каб атрымліваць яго зноў і зноў.

## Хто меў рацыю?

**По выніках дыскусіі магу толькі паўтарыць, што не лічу, што мае рацыю толькі адзін падыход, толькі адзін пункт гледжаньня. Але менавіта сутыкненьне, суадносіны дзьвюх роўнавялікіх ідэяў у тым або іншым грамадзтве і вызначае траекторыю яго разьвіцьця.**

## 01.02.2013

## Чатыры тарпэды. І ўсе міма

Тэкст Альгерда Бахарэвіча «Чатыры тарпэды», па шчырасьці, уразіў. Уразіў тым, як ідэалёгія можа «заесьці» нават вельмі таленавітага мастака.

Калі Альгерд хацеў сказаць, што яму брыдкая савецкасьць ва ўсіх яе праявах, дык меў, зразумела, поўнае права. Але заўвагі пра «алькаголіка і весялуна» Марынэска (а калі б у рот гарэлкі ня браў, дык лепш было б?), пра кепскія, ідэалягічна агідныя надпісы (а было б напісана «За Хатынь», «За Менск» ці «За Берасьце», што ў прынцыпе магло быць, то было б ОК?) і іншыя тонкія намёкі на тое, што савецкія былі зьвяры і забойцы, і толькі яны і былі імі, робяць даволі агіднае ўражаньне.

Рэч нават ня ў тым, што Альгерд, засяродзіўшыся на розных калярытных дэталях, якія ня маюць дачыненьня да здарэньня, пакінуў за дужкамі сваёй нарацыі тыя дэталі ўласна атакі на карабель, якія яму нагадалі наведнікі нашага сайту: што «Вільгельм Густлёф» быў пафарбаваны як баявы карабель (прынамсі існуе такая вэрсія), што атака адбывалася ў цёмны час сутак і камандзір падлодкі проста ня мог вызначыць характар цэлі, што на борце карабля былі калегі Марынэска — нямецкія падводнікі, якія маглі стаць у строй і гэтак жа тапіць караблі саюзьнікаў. Гэтыя дэталі ці — як мінімум — спрэчныя моманты аўтару ня толькі не патрэбныя, а нават шкодныя — гэта неяк разбурае простую, як аглобля, схему пра савецкіх салдатаў — зьвяроў і ваенных злачынцаў.

Але насамрэч прычына нават не ў дэталях. А ў пэўнай оптыцы ідэалягічнага погляду аўтара. Савецкая сыстэма была сапраўды жахлівай сыстэмай, яна сапраўды зрабіла незьлічоныя злачынствы. Але Альгерд абраў гранічна няўдалы прыклад, каб прадэманстраваць гэта, бо менавіта ў справах кшталту патапленьня «Вільгельма Густлёфа» гэтая сыстэма была зусім не самотнай. Прычым іронія гісторыі палягае ў тым, што Альгерду, які жыве ў Гамбургу, і езьдзіць далёка ня трэба, каб уведаць пра гэта.

З 25 ліпеня па 3 жніўня 1943 году менавіта Гамбург зьведаў адно з самых жахлівых бамбаваньняў часу Другой сусьветнай вайны. Паводле самых сьціплых падлікаў, у выніку іх загінула 50 тысяч (!) чалавек. І цікава, колькі зь іх было дзяцей, жанчын, старых? Мяркую, што большасьць, бо мужчыны ж пераважна былі на фронце. Прычым калі Марынэска мог і ня ведаць, хто там на борце карабля — сал-

даты ці дзеці, то лётчыкі брытанскіх і амэрыканскіх ВПС, бамбуючы жылыя кварталы Гамбургу, пэўна разумелі, каго яны забіваюць. І, дарэчы, да канца вайны Гамбург бамбавалі яшчэ 69 разоў.

Але ліпень ня хутка, а Альгерд, відаць, увайшоў у каляндарны рытм. Аднак зусім хутка — іншая прыкметная дата. 13 лютага 1945 году — пачатак бамбаваньняў Дрэздэну. За тры дні там, ізноў жа па самых сьціплых падліках, загінулі 25 тысяч чалавек. Каго — разумееце. Не салдатаў пераважна.

Дарэчы, прыгаданы Альгердам Гюнтэр Грас лічыў і саюзьніцкія бамбаваньні Нямеччыны ваеннымі злачынствамі.

Дык вось мне цікава, калі падыдуць адпаведныя даты — ці даведаемся мы ад аўтара календара, колькі «веселуноў і алькаголікаў» было сярод пілётаў, якія несьлі сьмерць дзецям Гамбургу і Дрэздэну (калі меркаваць з клясыкі амэрыканскай ваеннай прозы «Выкрут-22», такіх было нямала), ці даведаемся, якія дэмакратычна правільныя надпісы мелі тыя бомбы (хаця калі, скажам, «За Лёндан», то як жа гэтая імпэрская пыха была, відаць, крыўдная шатляндцам і валійцам)? А самае галоўнае — ці даведаемся, якімі пачварамі, зьвярамі, забойцамі і падонкамі, такімі ж, як Марынэска, былі амэрыканцы і брытанцы, што сядзелі за штурваламі тых бамбавікоў?

Калі так, то пазыцыя просьценькая, але па-свойму годная і пасьлядоўная. Кепска, калі забіваюць людзей, кепска, калі забіваюць дзяцей дзеля чаго б там ні было і хто б гэта ні рабіў, кепска, калі вайна. Ну так, у агульным пляне хто ж будзе спрачацца? Але людзі ваююць адвеку, ваююць і цяпер, і ад пісьменьніка чакаеш нечага больш глыбокага, чакаеш

быкаўскага разуменьня трагічнасьці і безвыходнасьці дылемаў, якія ставіць перад чалавекам вайна, а не банальных пропісяў.

А вось калі не, калі Марынэска ўжо пэўна пачвара, а доблесныя лётчыкі — ну абавязак выконвалі, ну шкада, што так атрымалася, ну што тое памінаць, ёсьць і іншыя даты, то будзе гэта фарысэйствам нізкай пробы і ідэалягічным шулерствам. Пісьменьнікам прапагандай лепш не займацца — асобны жанр. Хапае майстроў. Душу і талент пашкадаваць варта.

## Камэнтары

**Одиссей**: Не место красит человека, а человек место... Бахаревич может жить где угодно, в век интернета грешно смеяться над подобными нататками... приходится лишь сожалеть. А немцы бы среагировали бы по другому прочитай они бахаревичеву статью... с защитниками нацистов здесь не церемонятся...
**Гуманіст, Менск**: Дзякуй, спадару Дракахруст!
Цалкам з Вамі згодны. Шмат фарысейства ў апошнія часіны чуваць.
**Бенедзікт**: Не могуць людзі думаць аднолькава, ну напрыклад, як Юры Дракахруст.
Нехта ж думае па іншаму...
І што ж я думаю?
А думаю, што Бахарэвіч выдатна,таленавіта апісаў вайсковае злачынства ў час вайны.
Злачынствы нацыстаў вядомыя, вядомыя(!), бо ніхто і ніколі не абураўся апісаньнем гэтых злачынстваў.
Апісвалася праўда вайны, хай і з аднаго боку, але гэта была праўда.
Некалі, накідваліся ідыёлягі савецкага ладу, на аднаго беларускага пісьменьніка, які «неправільна» апісваў вайну.

Гэты беларускі пісьменьнік стаў сусьветна-вядомым дзякуючы свайму таленту і свайму сумленьню, а ідыёлягі не супакоіліся і па сёняшні дзень бо бач, пісьменьнік не разумееў прычыну сваіх памылак, а «...прычына нават не ў дэталях. А ў пэўнай оптыцы ідэалягічнага погляду аўтара» як сфармуляваў Юры Дракахруст.
Усё больш і больш становіцца вядомым пра злачынствы бакоў, якія супрацьстаялі ў часы Другой сусьветнай вайны. І які жах, для прыхільнікаў віны толькі аднаго боку, што становіцца вядомым, для постсавецкага чалавека, віна ў злачынствах і другога боку — вызваліцеля Эўропы і сьвету.
На Захадзе норма — пісаць праўду, у прыватнасьці, пра Другую сусьветную вайну.
Менавіта з Захада, найперш, прыходзяць сьведчаньні пра злачынствы савецкіх войскаў у той час.
Хоць і пісаў, напрыклад, Салжаніцын пра масавыя згвалтаваньні немак, вызваліцелямі ад нямецкага фашызма, але гэта быў «глас вопиющего в пустыне».
Жыве ў нашым беларускім народзе памяць, пра злачынствы партызанаў, пра згвалтаваньні, рабаўніцтвы, забойствы імі мірных жыхароў, паленьне партызанамі вёсак. Хапае на Захадзе адпаведных гістарычных прац пра гэта.
**янка**: совершенно очевидно, что герой маринеска, очень любил топить неохраняемые транспорты и с большого расстояния. потому что вотка жрат, это не от миноносцев конвоя уходить потом.
понятно, что на транспорты с гражданскими конвоев у немцев уже не было.
упрекать Бахаревича, что он не написал про преступления союзников в небольшом тексте на тему конкретного эпизода совершенно несерьезно.
**Дракахруст, Прага**: Мне і ў галаву не прыходзіла папракаць Альгерда тым, што ён у тэксьце, прымеркаваным да пэўнай даты і пэўнай падзеі, не прыгадаў нейкія іншыя падзеі, што кажучы пра патапленьне «Вільгельма

Густлёфа», не напісаў пра саюзьніцкія бамбаваньні Нямеччыны. Справа зусім ня ў гэтым, а ў хібнасьці як мінімум лёгікі майго шаноўнага апанэнта. З дэталяў, якія Альгерд прывёў, а таксама з тых, якія палічыў за лепшае апусьціць, патас, сэнс яго тэксту я прачытаў так — Марынэска зрабіў зладзейства, і прычым зрабіў яго менавіта таму, што быў савецкім. Гледзячы па дыскусіі пад ягоным тэкстам, менавіта так успрыняла яго і большасьць аўтараў камэнтаў, прычым як ягоных прыхільнікаў, гэтак і праціўнікаў. Дык вось я і паспрабаваў даказаць, што па меншай меры другая частка гэтага патасу і сэнсу — няпраўда. Марынэска рабіў гэта не таму, што быў савецкім, а таму што быў салдатам на бадай што самай бязьлітаснай вайне ў гісторыі чалавецтва, бо абсалютна аналягічныя дзеяньні рабілі салдаты і іншых, цалкам дэмакратычных і свабодных краінаў. Зразумела, Альгерд меў права пісаць толькі і выключна пра Марынэска. Але рабіць выгляд, што ня ведае, што тое самае рабілі і іншыя людзі — пэўна ня меў. Гэта простая лёгіка: калі А — прыналежнасьць да Чырвонай Арміі — спалучаецца з С — жорсткасьцямі вайны і В — прыналежнасьць да войскаў ЗША і Вялікабрытаніі — спалучаецца з С, то прычына гэтых спалучэньняў — не ў адрозьненьнях А і В, а ў іх падабенстве, у тым, што іх яднае.

**u.l., Nie-Maskva**: Прачытаў абодва артыкулы. Першае ўражаньне: артыкул Бахарэвіча — цікавы аўтарскі тэкст, зь йім можна спрачацца ці згаджацца. Ён прымушае думаць. Ад артыкула Дракахруста патыхае пасквілем. Чытаецца цяжка, думкі аўтара блытаныя ды кепска данесеныя. Фарысэйства чыстае вады, падыход кшталту «сам бахаревич дурак!» раздражняе. Спроба даводзіць аўтару, пра што ды як яму сьлед пісаць, а пра што ён пісаць ня мае права, наагул не патрабуюць камэнтароў. Паміж беларускім паглядам на жыцьцё ды гісторыю Бахарэвіча ды обстрактно-гуманистическим-политкорректным Дракохруста я асабіста выбіраю літаратуру Бахарэвіча, а не прапаганду Дракахруста. У сусьвеце Дракахруста

месца Беларусі няма. А сусьвет Бахарэвіча пачынаецца Беларусьсю. Дарэчы, адзін вядомы расейскі літаратар сказаў, што цемрашальства 21 стагодзьдзя мае назву «паліткарэктнасьць». Не цярплю цемрашалаў.

**Сапраўды**: Згодзен.Ў Друкахруста толькі адна «праўда». Саўковая аднабокая ідэалогія. Бахарэвіч сказаў праўду іншую, якая грунтуецца на агульначалавечых каштоўнасцях. І за гэта затыкаць яму рот амаральна. Хто б гэтым не займаўся.

**Вінцэнт, Слонім**: «Сапраўды»! Катэгарычна НЕ згодны з Вамі, што « саўковае людажэрства АНІ Ў ЧЫМ(???) не саступае гітлераўскаму», ужо ТОЛЬКІ таму, што гітлераўцы прапаведывалі і вельмі жахліва на практыцы ажыццяўлялі ў Беларусі (як іў іншых краінах) самую ЦЕМРАШАЛЬСКУЮ і АНТЫЧАЛАВЕЧУЮ па-сутнасці так званую «арыйскую» тэорыю па ЗНІШЧЭННЮ або АСІМІЛЯЦЫІ немцамі ўсіх іншых нацый і народнасцей свету! У гэтых адносінах раю Вам больш уважліва перачытаць

**Паўловіч, Мінск**: Мой дзед ваяваў у Вялікую айчынную вайну, хоць і не на Балтыцы. Калі б ён апынуўся на месцы Марынеска, я б не перастаў ім ганарыцца.

Так, тэксцік Бахарэвіча пакідае даволі агіднае ўражанне.

**Бенедзікт**: У Вас ваяваў дзед, у мяне ваяваў бацька. І што? Пры чым тут гэта?

Размова ідзе пра тое, што трэба казаць пра ўсё што было. Менавіта гэта і дазваляе ачысьціць душу, як на сповядзі ... Зразумела, калі пісьменьнік кажа пра высокае, дык гэта прыемна і натхняе. Але ж жыцьцё не толькі з высокага складаецца.

Вось, каб было больш высокага і трэба казаць пра ўсё, без выключэньня.

**Паўловіч, Мінск**: Яшчэ раз. Марынеска мо і не вялікі герой, але і не вайсковы злачынец, бо нікім не даведзена, што ён меў намер забіваць цывільных. Яны загінулі праз тое, што імі прыкрываліся вайскоўцы.

Зразумела, што сучасным немцам карціць крыху ачысціцца, і яны пнуцца давесці, што саветы былі ў тую

вайну не лепшыя за нацыстаў. Тутэйшыя «эўрапейцы» з дапамогай «РС» ім падпяваюць — няхай падпяваюць. На мяне прапаганда «адстароненасці» («усе салдаты — забойцы») не дзейнічае, вось і ўсё. А «высокае-нізкае» — гэта з іншай оперы.
**Бенедзікт**: Паважаны Паўловіч, размова ідзе пра вайсковае злачынства.
Падобных злачынстваў было шмат з усіх бакоў.
Размова не ідзе пра тое, што нехта жадае ачысьціцца, а нехта ачарніць.
Размова ідзе пра праўду вайны.
Праўда — не дзяўчына, каб усім падабацца. Часьцей за ўсё, праўда — надзвычай непрыемная рэч.
Немцы, як раз, не хаваюць праўду.
Можна напрыклад, наведаць канцлягер Дахаў і паглядзець, як захоўваецца праўда аб зьнішчэньні людзей. Можна наведаць нямецкія архівы.
Вось калі ў нас, у вольнай Беларусі, можна будзе наведаць Курапаты, дзе можна будзе убачыць тыя растрэльныя ямы, можна будзе свабодна наведаць адпаведныя архівы, толькі тады мы зможам заявіць, што мы (як і немцы) адчынілі ўсё, каб людзі ведалі праўду.
**Віталь, Менск**: Вось так пачытаеш камэнтары і ўжо ня памятаеш, пра што йшла гаворка ў самім блогу... Мала таго, што публіка-камэнтатарка называе блог артыкулам, дык яшчэ і столькі хамства ва ўсім гэтым. Калі ўжо беларусы (дзе б яны ні жылі) навучацца слухаць (ВУШАМІ), рэагаваць і думаць (МАЗГАМІ), пісаць (РУКАМІ)! А спадарам Дракахрусту і Бахарэвічу — дзякуй за працу. А публіцы скажу: ЧЫМ ВЫ АДРОЗЬНІВАЕЦЕСЯ АД ТЫХ ЖА САМЫХ ПАРТОРГАЎ (і тп), КАЛІ ХОЧАЦЕ КАБ НА ЎСЁ БЫЛА АДНА ПРАВІЛЬНАЯ ДУМКА (і пажадана, каб вашая)? Прабачце, нікога не хацеў пакрыўдзіць. Проста інтэрнэт-хамства абрыдла.
**Ю-ю, Минск**: Сегодня как раз «услышалсо», как некие культурные деятели обсуждали, что Кубэ надо было ставить золотой памятник за «беларушчыну». Создается

впечатление, что половина из присутствующих на форуме разделяет эту точку зрения. Слава Богу, есть и другая половина. Понимаю, что советская война ничуть не лучше никакой иной. Но вот что меня занимает: неужели никто из ваших родных не был на фронте? Неужели вы помните абстрактное ВКЛ лучше, чем своих дедов?
**Абстрактнае ВКЛ**: Шаноўны Ю-ю, дзякуючы Расеі нашыя дзяды і прадзеды ваявалі на розных франтах. Фінскіх, польскіх, чэшскіх, нямецкіх, кубінскіх і г.д. І гэта для вас «абстрактное» ВКЛ, а для мяне гэта мая Радзіма. Беларусы гэта ведалі заўжды і добра ведаюць сягоння. Таму не здзіўляйцеся, што думкі ў нас з вамі розныя. І калі некаму ў чарговы раз хочацца апынуцца пушачным мясам на якім недудзь Татара-чачэнскім фронце Калі ласка! Толькі без мяне- беларуса.

## Хто меў рацыю?

**Зразумела, 13 лютага Альгерд Бахарэвіч пра гадавіну бамбаваньня Гамбургу не напісаў. Як напісаў адзін з удзельнікаў дыскусіі, паколькі «ёсць небясьпека нашага ўдушэньня ў абдымках Расеі, то рацыя на баку Бахарэвіча — чорную фарбу варта кідаць на маскалёў, белую — на яе ворагаў». Сацыялягічна гэта ўяўляецца сумнеўным — для пераважнай большасьці беларусаў, прынамсі 80%, тая Перамога — самая важная падзея ў гісторыі Беларусі ў XX стагодзьдзі. А наконт маральнага боку — свой пункт гледжаньня я выклаў у блогу.**

**17.01.2014**

## Нормы, якія толькі здаюцца вечнымі

Патрапіў на вочы ў інтэрнэце цікавы тэкст — выкладаньне тэорыі амэрыканскага сацыёляга Джозэфа Овэртана пра тое, як можна прасунуць у грамадзтве любую ідэю. Аўтар выкарыстоўвае дасьціпны прыём: распавядае пра тое, як зрабіць прымальным для грамадзтва канібалізм, а цэліць у гомасэксуалізм і гомасэксуальныя паводзіны. Але справа ня толькі ў іх.

Я ўдзячны калегу Яраславу Шымаву за тое, што ён зьвярнуў увагу на гэты тэкст у сваім Фэйсбуку, а яшчэ больш — за слушную заўвагу, што аўтар апакаліптычнага тэксту выклаў фактычна тэхналёгію прасоўваньня, promotion, любой сацыяльнай навацыі (і любога праекту архаізацыі, вяртаньня да «старога добрага часу», да «залатога веку», таксама).

Брыдкія для некага ідэі прасоўваліся і прасоўваюцца так? А хрысьціянства прасоўвалася хіба ня так? Прыгадайце лісты апостала Паўла — кропка ў кропку. Вось быў гросмайстар promotion. А іслам — ня так? А марксізм ці ідэя раўнапраўя жанчын — хіба ня так?

Злавесны выгляд прыгаданай тэхналёгіі тлумачыцца яшчэ і своеасаблівай будовай чалавечай памяці. Насамрэч, няспраўджаных, нязьдзейсьненых сацыяльных навацыяў, як і тэхнічных, значна больш, чым тых, якія зрэалізаваліся. Але як тэхнічныя няўдачы навечна пахаваныя ў бюро патэнтаў, гэтак і няспраўджаныя сацыяльныя навацыі засыпаюцца пяском гісторыі.

Засыпаецца пяском гісторыі, дарэчы, і адчуваньне выкліку, зьнявагі, падрыву векавечных асноваў, якое ўдалыя, спраўджаныя навацыі некалі спараджалі.

Цяпер ужо нават пры жаданьні штучна ня выклічаш адчуваньне, якое выклікала яшчэ паўтара стагодзьдзя таму сама ідэя, што жанчыну можна дапускаць да выбараў і да палітыкі. Ну дурасьць жа суцэльная, ну ёй жа самім Богам наканавана зусім іншае, яна ж у гэтым у прынцыпе, паводле будовы сваіх мазгоў, ня можа нічога разумець :-) Ідэя выклікала ня проста нязгоду — абурэньне, пачуцьцё зьнявагі самых дарагіх перакананьняў.

І хто гэта цяпер памятае? І як цяпер, нават пры вялікім жаданьні, вярнуць сытуацыю ў гэтым пытаньні ў стан, які існаваў ад прамаці Евы да пачатку XX стагодзьдзя?

Ці, скажам, ідэя нацыі, народнага сувэрэнітэту. Прыгадваецца гісторыя з кнігі францускага дасьціпніка XVIII стагодзьдзя Нікаля дэ Шамфора.

Падчас амэрыканскай вайны за незалежнасьць брытанцы бяруць у палон групу амэрыканскіх салдатаў. Брытанскі афіцэр даведваецца, што сярод палонных ёсьць француз, каралеўская Францыя тады актыўна падтрымлівала паўстаньне каляністаў супраць Лёндану — геапалітычнага суперніка Парыжу. «Спадар, — зьвяртаецца брытанец да палоннага француза — я ваюю за свайго караля, Вы — за свайго, але за каго ваююць яны?» — пытаецца ён са шчырым зьдзіўленьнем, паказваючы на палонных салдатаў войска Джорджа Вашынгтона.

Тады брытанскі ваяка шчыра ня мог зразумець, як улада можа сыходзіць ад народу, сувэрэнам жа можа быць толькі манарх, які атрымлівае ўладу

наўпрост ад Бога. Праз 200 гадоў мы гэтак жа шчыра ня можам зразумець, якая іншая можа быць легітымацыя ўлады, акрамя народнай. Меркаваньне, што а вось Лукашэнка дыктатар, тут мала што мяняе. Ён і праўда такі, але дыктатар найноўшага часу. Ягоная ўлада ўсё роўна заснаваная на ідэі народнага сувэрэнітэту, а не на тым, што народ проста ня мае значэньня ў гэтым пытаньні, а ўлада дадзеная Богам, як у тым былі сьвята ўпэўненыя стагодзьдзямі.

Дзякуючы такім посьпехам наваціяў гісторыя і здаецца няспынным шэрагам спраўджаных пераменаў, таму і ствараецца ілюзія, што справа гэтага посьпеху — адно ў рашучасьці і валоданьні цудадзейнай тэхналёгіяй.

Прыхільнікі нормы кажуць: зьмена згубная, амаральная, яна — выклік чалавечай прыродзе і Боскім законам, яна — праява распусты. Прыхільнікі зьмены адказваюць: не, зьмены вымагае справядлівасьць, роўнасьць, свабода.

Але ёсьць і мэтанарматыўны падыход, заснаваны на назіраньні, што любая норма — гэта магілкі спробаў яе зьмяніць. Меркаваньні правільнасьці ці няправільнасьці, маральнасьці ці амаральнасьці — яны ўнутры пэўнай пазыцыі «за» ці «супраць», гэта ўсё ваенная прапаганда, бо змаганьне нормы і навацыі — гэта вайна, ну а на вайне, як на вайне.

І гэта нармальна і добра, што грамадзтва не адразу ўспрымае любую навацыю: супраціў нормаў, іх здольнасьць супрацьстаяць выклікам навацый — неабходны фільтар. Калі яго ў грамадзтва няма, дык такое грамадзтва можна пашкадаваць. Хаця гэта ўжо таксама нарматыўная пазыцыя :-) А па-за ёй — як у спорце: хай пераможа мацнейшы. Утры-

маецца норма, адаб'е выклік — ну значыць ня лёс быў той навацыі, недарэчная была. І адправіцца на могілкі выклікаў, якія і ёсьць падмурак нормы. І забудзецца, і нават калі нейкі гісторык прыгадае, дык іншыя людзі адно плячыма пацiснуць — вось якая дурасьць некалі бывала. Наканаваньня тут ніякага няма, ідэя наканаваньня, непазьбежнасьці пераменаў — адно ідэалягічная зброя ў руках іх прыхільнікаў.

Ну а павернецца ваеннае шчасьце тварам да навацыі, пераможа яна (ці то дзякуючы цудадзейнай тэхналёгіі, ці то самаахвярнасьці сваіх адэптаў, ці з прычыны слабасьці нормы) — ну ня лёс, значыць, норме быў. І запрацуе апісаны вышэй мэханізм замятаньня сьлядоў — праз некалькі дзесяцігодзьдзяў навацыя ня проста стане новай нормай, у народнай сьвядомасьці яна прарасьце ў пэўным сэнсе ў мінулае, стане як бы спрадвечнай.

І справа ня ў тым, што яна лепшая. Зусім ня факт, што сучасная эмансіпаваная жанчына шчасьлівейшая за яе пра-пра-прабабулю, якая пра тую эмансыпацыю і ведаць ня ведала. Справа ў тым, што сучасны стан — норма, якая здаецца вечнай.

І будзе здавацца — да перамогі новай пасьпяховай навацыі.

## Камэнтары

**Бенедзікт:** «Меркаваньне, што а вось Лукашэнка дыктатар, тут мала што мяняе. Ён і праўда такі, але дыктатар найноўшага часу. Ягоная ўлада ўсё роўна заснаваная на ідэі народнага сувэрэнітэту...»

---

Як ненавязьліва ўплецены ў тэкст хлусьлівыя вызначэньні, толькі дзіву можна было б давацца, калі б гэта было

выпадкова. Прасоўваньне любых ідэяў для грамадства, залежыць ад маральнай устойлівасьці гэтага грамадства і ад тых каштоўнасьцяў, якія яно спавядае. Прасоўваньне тых ці іншых ідэяў ужо само па сабе можа быць і разбуральным для грамадства і наадварот...
**Дракахруст:** Спадар Бенедзікт, я з Вашага допісу не зразумеў, ці была і ёсьць разбуральнай для грамадзтва эмансіпацыя жанчын. Хрысьціянства, дарэчы, у антычнасьці менавіта такім і здавалася, нездарма яго перасьледавалі і нелюдзь Нэрон і гуманіст Марк Аўрэлій. Заснаваньне ўлады на пэўнай ідэі не азначае, што яна ёй адпавядае. Пугачоў і Атрэп’еў засноўвалі свае прэтэнзіі на ўладу (а Атрэп’еў — дык і ўладу) на манархічнай ідэі: Пугачоў — на тым, што ён насамрэч цар Пётар III, які ўратаваўся ад змоўшчыкаў-забойцаў, Атрэп’еў — на тым, што ён сын цара Івана IV, які цудам ацалеў. Ні аднаму, ні другому не прыходзіла ў галаву засноўваць свае прэтэнзіі на царскі пасад народнай падтрымкай, гэта тады гучала б дзіка і недарэчна. Падтрымка была, але да прэтэнзіі на ўладу ня мела дачыненьня. Гэтак жа і Лукашэнку, наадварот, не прыходзіць у галаву казаць, што ён кіраўнік Беларусі таму, што зьяўляецца прамым нашчадкам, скажам, Станіслава Аўгуста Панятоўскага ці цара Мікалая II. Цяпер гэта было б дзіка і недарэчна.
**Zlydzien:** Цікавыя разважаньні назіральніка збоку — і (пераважна з таго) пазбаўленыя сьвятла душы...

**26.05.2014**

## Пасьля сьвята

Хакейны чэмпіянат у Менску скончыўся. Апусьцелі трыбуны стадыёнаў, разьяжджаюцца замежныя госьці, горад ужо не гудзе ад радасных воклічаў экспансіўных заўзятараў.

Але, здаецца, не канчаюцца гарачыя спрэчкі аб тым, што гэта было і колькі ад чэмпіянату выйграў беларускі народ, а колькі — Аляксандар Лукашэнка.

Паказальна, што прыхільнікі кіраўніка Беларусі ў тых спрэчках амаль што ня ўдзельнічаюць, для іх Лукашэнка і беларускі народ калі і не супадаюць, то блізка да таго, і таму ніякай праблемы няма — сьвята народнае і сьвята ўлады.

Таксама цікава, што сум дэманструюць не адно тыя, хто наагул ня любіць ніякіх натоўпаў і не цікавіцца спортам. Многія зь іх гадамі скардзяцца на брак нацыянальнага адзінства беларусаў, дзесяцігодзьдзямі працуюць на яго стварэньне.

Ну дык вось — калі ласка, дзясяткі тысяч людзей скандуюць «Бе-ла-русь!» Але не — гэта ж ня тое: сьцягі ня тыя, нагода ня тая, усё ня тое. Дзіўным чынам адсутнасьць якіх бы то ні было праяваў нацыянальнага адзінства выклікае нашмат меншае раздражненьне, чым іх выразная прысутнасьць.

Як казаў Мао Цзэдун, «на чыстым аркушы паперы можна пісаць самыя новыя, самыя прыгожыя іерогліфы». Паводзіны беларускага народу падчас чэмпіянату прадэманстравалі, што сёе-тое на тым аркушы напісана.

Прычым, паводзіны тыя дэманструюць не прадстаўнікі нейкіх прасунутых асяродкаў, а людзі, як сказана ў Пісаньні, «простыя і някніжныя». Адпаведна і радасьць яны выказваюць у формах ня надта выкшталцоных. Але гэта не ў адной Беларусі, дарэчы.

Буяныя брытанскія заўзятары выказваюць свае эмоцыі з нагоды паразаў і перамогаў любімай ка-

манды зусім ня так, як чальцы лёнданскіх арыстакратычных клюбаў.

Напэўна, скаргі і прэтэнзіі наконт няхітрага сьвяткаваньня чэмпіянату выцякаюць зь невідавочнага ўяўленьня пра тое, што нацыя, нацыянальная еднасьць — гэта сынонім дабра, справядлівасьці і прыгажосьці, такое сабе пасяджэньне курсаў «Мова ці кава», пашыранае на ўсё насельніцтва.

А з чаго гэта вынікае, чаму лічыцца, што нацыя, нацыянальнае адзінства — гэта заўсёды добра і прыемна? У спрэчках наконт чэмпіянату ў Менску прыводзіліся контраргумэнты: ну дык і немцы радаваліся падчас алімпіяды ў Бэрліне пры Гітлеры, і вось у расейцаў цяпер — суцэльны «крымнаш».

Ну так — гэта і ў Нямеччыне было, і ў Расеі ёсьць праявамі нацыянальнай еднасьці. І падобныя формы ня ім адным уласьцівыя. Пашукайце армяніна, які ня лічыць, што «карабахнаш». Словы «шавінізм» і «джынгаізм» прыйшлі ў сусьветны лексыкон з француcкай і ангельскай, адлюстроўваючы маласымпатычныя тамтэйшыя праявы той самай нацыянальнай еднасьці.

Ну зразумела, добра, калі ёсьць прыемныя праявы гэтай еднасьці і няма кепскіх, лепш быць здаровым і багатым, чым бедным і хворым — хто б спрачаўся. Шкада, што не заўсёды атрымліваецца, бо ў дадзеным выпадку і добрыя і кепскія праявы — праявы таго самага.

Насельніцтву, якое не адчувае сябе адзіным палітычным цэлым, ня прыйдзе ў галаву натоўпам бадзяцца па вуліцах, скандзіраваць назву краіны і махаць сьцягамі, якія яно лічыць сваімі. Калі прыходзіць — значыць адчувае. У параўнаньні з «крымнаш» рэч даволі бяскрыўдная.

Параўнаньне таго, што Менск назіраў на сваіх вуліцах і стадыёнах апошнімі тыднямі, зь нейкімі альтэрнатыўнымі сцэнарамі, выглядае снабізмам.

Вось калі б столькі народу на юбілей Купалы, напрыклад, зьбеглася, гэта было б сапраўднае нацыянальнае адзінства. А так — дурніца нейкая. Вось калі б бел-чырвона-белымі сьцягамі хаця б махалі. А так — лепш бы дома сядзелі.

Словам, паводле такіх меркаваньняў, калі не па-нашаму, то і ніяк ня трэба. І стасункі паміж Лукашэнкам і народам — гульня з нулявой сумай, усё што карысна Лукашэнку — шкодна народу, і наадварот. Права на існаваньне такі погляд, безумоўна, мае. Пытаньне, якую ён мае палітычную пэрспэктыву?

Народ — ён жа проста ня ўдзельнічае ў гэтых дыскусіях. Або ўдзельнічае сваімі паводзінамі, якія ўсе маглі бачыць.

На мой погляд, чэмпіянат і спрэчкі вакол яго — яскравая ілюстрацыя таго, што, жадаючы заваяваць сымпатыі і прыхільнасьць народу, лепш як мінімум ня кідаць выклік яго звычкам і традыцыям. Той, хто разглядаў чэмпіянат як уласны двубой з Лукашэнкам, прайграў. Між тым гэтак разглядаць чэмпіянат было зусім не абавязкова.

Будуе, скажам, дзяржава дарогу ці школу — выйгрыш гэта Лукашэнкі? Ну кшталту так, народ гэта ацэніць і будзе яго падтрымліваць. Кожная добрая для народу справа — цагліна ў падмурак дыктатуры. Так атрымліваецца?

На мой погляд, дык не.

Прайшоў чэмпіянат, парадаваліся людзі, напэўна ня будуць памятаць пра яго ўсё жыцьцё. А нават і памятаючы, неабавязкова будуць зьвязваць сьвята

пэрсанальна з Лукашэнкам. Ну а тое, што парадаваліся, што махалі сьцягамі, няправільнымі зь нечага пункту гледжаньня — дык гэта гледзячы з чым параўноўваць. Калі б расейскімі махалі, дык наўрад ці тое больш спадабалася б строгім крытыкам чэмпіянату.

І наконт сьвяткаваньня — калі б па дамах сядзелі, то невядома з чаго: ці зь нянавісьці да дыктатуры ці з таго, што не ўсьведамляюць сябе адзіным цэлым, асобным ад іншых.

Ну а яны вось усьведамляюць. І пасьля Лукашэнкі ўсьведамляць будуць.

## Камэнтары:

**Inhvar:** Беларуская трагедыя у тым,што мы прайшлі мяжу незварота для беларускай мовы. У 1987 годзе мне распавядаў адзін дзядок,што калі «аслабадзілі» Менск у 1944 г. надпісы на сьценах былі амаль ўсе на белмове. Зараз шкаляры ня ведаюць нават простых беларускіх слоў,мы як ірландцы адракліся зусім ад сваёй мовы,ды яшчэ ўселяк яе цураемся.

**Вінцэнт:** «Мы як ірландцы адракліся зусім ад сваёй мовы, ды яшчэ ўсяляк яе цураемся» — Ваша сцверджанне не адпавядае сапраўднасці, паколькі нават простыя апытанні ў інтэрнэце дэманструюць, што падаўляючая большасць грамадзян Беларусі па-ранейшаму роднай лічыць беларускую мову.

Так што даволі хутка (як гэта бачна на фоне цяперашніх падзей ва Украіне), «калі «аслабадзім» Менск « ад расійскай акупацыі і рускіх фашыстаў, будуць «надпісы на сьценах амаль усе на белмове».

**Валер:** Спасибо,очень хорошо и доходчиво.Может кто то еще прочтет и поймет, что лучше жить в своей независимой стране,чем в составе империи

**Игорь:** С кем бы не разговарил, даже с теми кто хочет вернуться в СССР все называют себя беларусами.
Конечно, если спросишь русского которого мама, убегая от нищеты российской глубинки привезла в Беларусь, то он назовёт себя русским.
Но те у кого деды, родители родились в Беларуси осознают себя беларусами.
Знаком с человеком который говорит только на английском, но осознаёт себя беларусом.
Если какая-то девочка любит русский и Пушкина, то это не значит что такие все.
Я знаю мальчика который любит английский, балдеет от Фолкнера больше чем от Быкова.
Но это не значит что он осознаёт себя американцем.
«Беларус я — говорит. И этим горжусь»

# ЛЁГІКА ЎЛАДЫ

- Палёт савы Мінэрвы над Беларусьсю
- Кебіч-Лукашэнка: умоўны лад гісторыі
- БНР і Лукашэнка
- Бакіеў як талісман Лукашэнкі
- Макс Вэбэр пра казус Уладзімера Саўчанкі
- «Мы яшчэ ў суботу папярэджвалі Англію»
- Ганібал Лектар і «кіраўскі паток»
- Пратэй Zimovsky
- Міхаіл Мясьнікевіч як люстэрка беларускай рэвалюцыі
- Пераемнік Коля
- Плюшавая бомба
- Толькі Сідорскі!

## 04.02.2008

## Палёт савы Мінэрвы над Беларусьсю

Расейскі палітоляг Дзьмітрый Фурман прапанаваў іранічную формулу пра «карупцыю, якая перарастае ў лібэралізм» для апісаньня мэханізму пераходу ад брэжнеўскага «застою» да перабудовы і наступнага краху камунізму.

Гэтая формула мае найпрастабае дачыненьне да цяперашніх спрэчак пра тое, ці мяняецца сёньняшняя палітычная, сацыяльная і эканамічная сыстэма ў Беларусі, а калі мяняецца, то ў які бок.

Прыхільнікі меркаваньня, што зьмены адбываюцца, зьвяртаюць увагу на неабвешчаны пачатак маштабнай прыватызацыі, на новую палітыку крэдытаў, на засваеньне афіцыйнай ідэалёгіяй некаторых элемэнтаў ідэалягічнага крэда апазыцыі.

Тыя, хто ніякіх зьменаў ня бачыць, адзначаюць, што гэтыя падзеі і працэсы ніяк не мяняюць прыроды сыстэмы і не ляжаць ані ў рэчышчы дэмакратызацыі, ані нават у рэчышчы эканамічнай лібэралізацыі а la Пінанчэт ці Дэн Сяопін: апошнія выспачкі свабоды нішчацца, бізнэс — апірышча лібэралізацыі — зьнішчаецца, словам, дыктатура мацнее, і пра якія перамены можна весьці гаворку?

Але, як казаў Гегель, «сава Мінэрвы вылятае толькі ў прыцемках». Гэта значыць, што сэнс тых або іншых гістарычных падзеяў робіцца зразуме-

лым толькі пазьней, калі яны прыводзяць да пэўных наступстваў. У гэтым сэнсе брэжнеўскі «застой» ня быў пэрыядам больш лібэральным, чым хрушчоўская «адліга». Але менавіта ў брэжнеўскі час канчаткова сканала камуністычная вера: карупцыя і цынізм зьелі яе, — і менавіта таму атрымалася, што камуністычнае панаваньне ўласна камуністычная эліта і скінула — як форму, што ўжо не адпавядала яе новым уяўленьням і памкненьням.

Летась Леанід Заіка ў «Праскім акцэнце» вельмі добра апісаў, як гэты мэханізм пачынае дзейнічаць і будзе дзейнічаць далей у сучаснай Беларусі: «*Беларусь засталася апошняй краінай, дзе не падзялілі маёмасьці. (...) І Аляксандар Рыгоравіч, якія б таленты ён ні меў і як бы ні любіў яго народ, урэшце паўстане перад праблемай, калі і дзеці яго пачнуць яму падказваць: трэба прыватызаваць краіну. Ёсьць буйныя камбінаты — калійныя, мэталюргічныя, — няўжо пакідаць іх гэтай апазыцыі і яе дзецям? Я мяркую, што ўступленьне ў гэтую фазу маральнага цыклю і маральнага пералому наперадзе. А беларускае грамадзтва будзе ставіцца да гэтага вельмі хваравіта. Бо застацца ў дурнях ніхто ня хоча, асабліва ў сытуацыі, калі будуць дзяліцца мільярды. Лукашэнка гэтай праблемы баіцца, ён ня ведае, як яе добра вырашыць — ці то аддаваць расейцам, ці заходнікам, ці арабам. Але намэнклятура гэтага чакае, дзеці чакаюць. Усе ўжо бачаць, што нельга так далей жыць — бязь яхтаў, без уласных самалётаў, без катэджаў на Лязурным беразе*».

Вось нядаўна расейскае выданьне «Твой день» апублікавала фота, як расейскі алігарх №1 Раман Абрамовіч на адпачынку кусае сваю *girlfriend* за… ну, самі здагадаецеся, за што. Але ня ў тым сэнс,

што кусае (такую асалоду і ў якіх-небудзь Рыжкавічах атрымаць можна), а дзе — на сваёй уласнай яхце, каля райскай выспы Сьвятога Барталамэя на Карыбах. А чым нашы горшыя? Ну, чым горшыя канкрэтна за Абрамовіча? Зразумела, у яго грошай больш, але ёсьць і іншыя ўзоры: пра забавы расейскай бізнэсовай і чынавенскай эліты ў Куршавэлі пагалоска ня хлусіць, сынок нябожчыка Туркменбашы прагульваў мільёны ў казіно ў Гішпаніі за адну ноч. А нашым — што, на Нарач ці на Менскае мора зьезьдзіць? І ўсё? І нават ня ў тым рэч, што ў Эўропу не пускаюць, а што і сам ня рады будзеш, сыстэма такая: грошай ужо маюць, можа, і ня менш, чым у расейскіх, украінскіх ды іншых постсавецкіх калегаў, а правілы патрабуюць паказваць сябе «камісарам у пыльным шлеме».

У гэтым сэнсе і Эўропа — гэта ж ня толькі край выдатных маральных і палітычных прынцыпаў, ня толькі край эканамічнай эфэктыўнасьці (на што асабліва робяць націск адны), але ж і край спакусаў і гламуру, у прынцыпе недасягальнага ў Раўбічах ці Стайках.

Вось у калегі Сіліцкага душа баліць глядзець на айчынныя імітацыі Эўропы. А ўявіце, як яна баліць у людзей сыстэмы, якія пра сапраўдную Эўропу таксама сёе-тое ведаюць, але грошай маюць значна больш, чым мой паважаны калега.

З маральнага пункту гледжаньня намэнклятурнікі брэжнеўскага часу выглядалі пачварамі ў параўнаньні з сапраўднымі камісарамі ў пыльных шлемах, услаўленымі Акуджавам. Аднак наступствам дзеяньняў апошніх стала жахлівая крывавэрная дыктатура, а наступствам дзеяньняў першых у перабудову стала пахаваньне гэтай сыстэмы і

трансфармацыя яе ў менш крыважэрную і жахлівую. Такая вось сава Мінэрвы.

На чыйсьці погляд такі шлях пераходу — брыдкі і амаральны. Дадам, што ён і не гарантуе пераходу як такога, прынамсі ў кароткатэрміновай пэрспэктыве. У прынцыпе карупцыйная кругавая парука можа быць нават дадатковым сродкам умацаваньня сыстэмы. На пэўны час.

А потым якраз і адбываецца «каляровая рэвалюцыя» — калі, можа, і ня менш цынічныя, чым іх калегі, прадстаўнікі ўладнай эліты накіроўваюць народнае абурэньне несправядлівасьцю на сваіх менш разумных калегаў.

Чытач, магчыма, ужо падрыхтаваўся да таго, каб закляйміць мяне за мой цынізм. І дарма. Я да такога шляху не заклікаю, грошы зарабляюць і нават крадуць, а таксама спакушаюцца салодкім жыцьцём і без маіх парадаў. Адзінае, што хацелася б рахмана заўважыць, дык гэта тое, што такі шлях пераходу грунтуецца на пачуцьцях і памкненьнях, распаўсюджаных куды шырэй, чым гераізм і самаахвярнасьць.

А, дарэчы, калі жаданы пераход і адбудзецца, то на ўласных яхтах на Карыбах урэшце будуць плаваць зусім не абавязкова тыя, каго цяперашняя сыстэма раздражняе, бо не дае ім такой магчымасьці. Тут ужо як карта ляжа. Больш за тое, атрымаецца ўсё роўна няправільна, што і зразумела: падзяліць па справядлівасьці хлеб, чарку і шкварку ў прынцыпе магчыма, падзяліць яхты на Карыбах па справядлівасьці немагчыма ў прынцыпе. Усё роўна будуць на іх плаваць ня тыя, хто гэтага на наш погляд заслугоўвае.

## Камэнтары:

**Палёт палітычнай сьцервы**: А хто заслугоўвае, на ваш пагляд, сп. Дракахруст?
**drakakhrust**: to Палёт палітычнай сьцервы Вы, паколькі задаяце такія пытаньні.
**drakakhrust**: to Палёт палітычнай сьцервы Але баюся, што заслужаная яхта Вам не дастанецца. Па той самай прычыне.
**Зьміцер**: Гадоў 10 таму Пазьняк казаў, што Расея намагаецца захапіць беларускую маёмасць, ды ўсе крычалі, а каму гэтая лапатная маёмасць патрэбна? А цяпер выяўляецца, што яна каштуе нават не мільёны, а мільярды. І факт, што ўсё лепшае ў Менску — пад расейцамі.
**Валеры Грыцук**: Я ўжо папярэджваў Дракахруста, што ягоныя параўнаньня некарэктны і, я вельмі не задаволены ім як вядучым «П.А.». Але ўсё залежыць ад нас, ад людзей, якія лічаць сябе дэмакратамі. Калі мы зможам пераканаць насельніцтва ў выгодзе дэмакратычнага шляху, то будзе больш-меньш справядліва, калі НЕ, то будзе кіраваць краінай мафія, якія пашпарты у мафіёзі, то не істотна. Тут як у матыматыце lim — &, імкненьне павінна быць да Справядлівасьці і нашая супольная актыўнасьць.
А яхты — гэта потым. Нацыяналізацыя таксама магчыма.
**uzrushany chytach**: Артыкул бліскучы (зрэшты, як і ўсе папярэднія допісы тут). Маю адну важную заўвагу: мэтай ураду, які робіць рэформы, мусіць быць пошук эфэктыўнага ўласьніка для актываў, разьмешчаных на яго тэрыторыі, і стварэньне найлепшых магчымасьцяў для іх. У шэрагу выпадкаў дзяржава такім уласьнікам быць ня можа. Тут і ўзьнікае патрэба ў прыватызацыі, г. з. што прыватызацыя — гэта не самадастатковая мэта, а сродак. Гісторыя прыватызацыі ўва Украіне і Расеі — гэта гісторыя бунту сродку супраць мэты. Тое самае датычыць і шмат якіх new EU member states ... ёсьць іншыя шляхі/

мадэлі прыватызацыі, пра гэта трэба размаўляць ... яшчэ ня позна.
**drakakhrust**: to uzrushany chatach Вы абсалютна маеце рацыю наконт мэты прыватызацыі, але, на жаль, гэта ня чыста адміністрацыйнае мерапрыемства, а сацыяльны працэс. Па аналёгіі — можа зь нейкіх меркаваньняў добра было б, калі б атрымалася прымусіць траву расьці пад вуглом 45 градусаў. Ну паспрабуйце. Дарэчы, схемы прыватызацыі, якую ўжывалі, скажам, расейцы ці ўкраінцы, былі ня самыя кепскія і наконт мэты яны разумелі ня горш за Вас. Проста, як той казаў, жыцьцё ўзяло сваё. Калі казаць без мэтафар і пры гэтым крыху звужаючы праблему, то для рэалізацыі ідэальнай мадэлі прыватызацыі патрэбны як мінімум ідэальны, у духу Макса Вэбэра, чынавенскі апарат: чысты ад карупцыі, дысцыплінаваны ня страхам, а ідэяй дзяржаўнага служэньня, здольны супрацьстаяць ціску моцных лабістаў і пры гэтым надзвычай кампэтэнтны. Вы такіх чыноўнікаў шмат у Беларусі ведаеце? Ці Вы думаеце, што яны толькі пры Лукашэнку не такія, а пры, скажам, Мілінкевічу ці Пазьняку ператворацца ў тое, што трэба? Ці дзесьці ў апазыцыйных кустах сядзіць запасная каманда дзясяткаў тысяч чыноўнікаў з пазначанымі якасьцямі? Ідэальную мадэль прыватызацыі нават пры самых спрыяльных стартавых палітычных умовах будуць жа рэалізоўваць нашы людзі і Вы іх ведаеце.
Адсюль не вынікае, што ня трэба імкнуцца рабіць як лепш. Але, відаць, ня варта надта паддавацца ілюзіям і веры ва ўсёмагутнасьць правільных формул.
**Палёт палітычнай сьцервы**: а чаму вы так хваравіта рэагуеце на зусім нармалёвае пытаньне, сп.Дракахруст? Можа вам усё ясна, дык адкрыйце вашу пазыцыю, калі ласка. Ваша наступная тэза закладае ў нацыянальную будучыню непазьбежны фаталізм сацыяльнай несправядлівасьці: «падзяліць яхты на Карыбах па справядлівасьці немагчыма ў прынцыпе. Усё роўна будуць на іх плаваць ня тыя, хто гэтага на наш погляд

заслугоўвае.» Так можа быць, а нават ужо ёсьць. Маюцца сур»ёзныя падставы так думаць. Аднак,па-першае яхты Ромы Абрамовіча і пацалункі ў ж... прадажных прыгажуняў — гэта вельмі дрэнна характарызуе немаладога ўжо расейскага габрэя і зусім ня прыклад для новых капіталістаў, з пагляду на абыходжаньне з мільёнамі. Але толькі сьведчаньне таго, што як злачынна лёгка грошы здабытыя, так яны і трацяцца.

Праблема палягае ў тым, каб не дапусьціць рабаваньня нацыянальных багацьцяў аніякімі злачынцамі. Гэта задача для дэмакратычнага корпусу у тым ліку і не ў апошнюю чаргу для журналістаў радыё Свабода. А вось, калі дэмакратычны капіталізм для вас, сп. Дракахруст, «немагчымы ў прынцыпе», то аніякімі рэвэрансамі ваш цынізм не схаваеце.

Лепш саступіць месца тым у каго ёсьць і «гераізм і самаахвярнасьць».

**drakakhrust**: to Палёт палітычнай сьцервы

А чаму Вы так хваравіта рэагуеце на нявінную іронію? З прычыны Вашай суровай антыбуржуазнасьці?

Дарэчы, сяброўка Абрамовіча Дар'я Жукава — дачка маскоўскага нафтавага мільянэра. А калі гэта каханьне? Яе «прадажнасьць» уяўляецца відавочнай толькі ў межах Вашых рэвалюцыйных поглядаў.

Я, між іншым, не зразумеў сутнасьць Вашага адказу на пытаньне пра яхты. Вы лічыце, што іх заслугоўваюць ударнікі дэмакратычнага капіталізму? Што да «задачаў дэмакратычнага корпусу», то сказана да Вас і значна прыгажэй:

«Долой литераторов беспартийных! Долой литераторов сверхчеловеков! Литературное дело должно стать частью общепролетарского дела, «колесиком и винтиком» одного-единого, великого социал-демократического механизма, приводимого в движение всем сознательным авангардом всего рабочего класса».

**Палёт палітычнай сьцервы**: сп.Дракахруст, мяне зусім не цікавяць эратычныя фантазіі Ромы Абрамовіча. Гэтаксама

і ягоныя вычварэнствы з яхтамі і міні-субмарынамі. Сам факт нараджэньня расейскім крымінальным капіталізмам такіх гратэскавых а La Бэндер-пэрсанажаў яскрава сьведчыць пра саўковы характар нашых усходніх суседзяў. Яны, бадай, як дзеці...
Я спадзяюся, што вамі згаданыя яхты, гэта вобраз нейкага супэршыкоўнага жыцьця вельмі багатых нуварышаў, якія нарэшце накраліся і дарваліся да казіно і куршавэляў ? Дык вось духам Вэбэра, вы і сам разумееце тут не тхне ані блізка. А тады навошта вы, седзячы за мікрафонам РС, прапануеце нам сумніцельныя экзэрсісы з жыцьця і мрояў блатной публікі?
Прычым так рупліва ўбіваеце мэнтальны цьвічок: «па справядлівасьці немагчыма ў прынцыпе.» Вось такім чынам і дыскрэдытуецца ўсялякае змаганьне за свабоду і сацыяльную справядлівасьць. Бо кралі пры саветах, крадуць пры Лукашэнку, будуць красьці пры кожных наступных урадах. Тое, што чалавецтва -сапсаванае грахом мы і без вас ведаем. Тэалогія або антрапалогія, здаецца не ваша прафесія ? А якая — ваша? Журналістыка? Дык вось і заняліся б вы папулярызацыяй сацыялагічных ідэяў «пратэстанцкай этыкі капіталізму» таго ж вялікага Макса Вэбэра.
Крэатыву было б больш... Слабо вам?
**drakakhrust**: Неяк ціхія радасьці сп. Абрамовіча парушылі спакой Вашай душы. Калі я спадчыну Леніна крышачку ведаю, то Вы ёй натхняецеся, магчыма, не ўсьведамляючы гэтага. Адсюль і Вашае абурэньне забавамі сп. Абрамовіча («твоим потом жиреют обжоры»), і сьвятая ўпэўненасьць, што такія вялікія грошы абавязкова накрадзеныя («чтоб в игре биржевой они совесть и честь продавали»). А, можа, выбітным прадпрымальніцкім талентам зробленыя, якога няма ні ў Вас, ні ў мяне, нягледзячы на веданьне Вэбэра? Мяне асабіста справядлівасьць падзелу яхтаў на Карыбах наагул не цікавіць, хто імі валодае, хай і валодае. Але Вашая рэакцыя пацьвярджае як раз маю тэзу, што шмат каго справядлівасьць гэтага падзелу вельмі моцна хвалюе.

Папросту гэта называецца зайздрасьцю і ня вельмі стасуецца з ідэаламі дэмакратычнага капіталізму, якім Вы гэтак адданы. Я, дарэчы, так і не зразумеў, а як жа Вы хацелі яхты па справядлівасьці падзяліць?
З Вашага апошняга посту я так зразумеў, што калі ўзьнікаюць пасеяныя мною сумневы ў магчымасьці справядлівага падзелу менавіта гэтага дабра, то адразу ж «дыскрэдытуецца ўсялякае змаганьне за свабоду і сацыяльную справядлівасьць».
Але наагул мой опус тычыўся крыху іншай праблемы: якім чынам, празь якія сацыяльныя мэханізмы адбудуцца ці ўжо адбываюцца перамены ў Беларусі — не таго, ці можна, скажам, правесьці справядлівую прыватызацыю, а таго, да якіх наступстваў прывядзе цяперашняя прыватызацыя.
Чаму Вы, дарэчы, лічыце, што разгул — асаблівасьць менавіта гаспадароў жыцьця нелюбімай Вамі Расеі? А іх украінскія калегі паводзяць сябе як сапраўдныя вэбэраўскія носьбіты духу капіталізму? А айчынныя нуварышы за платамі сваіх дамоў толькі і думаюць, як кожную капейчыну ўкласьці ў справу? Ім проста разгарнуцца ў задавальненьні іх разгульных патрэбаў няма дзе.
І калі Лукашэнка ім гэтую магчымасьць дасьць, цалкам магчыма, што зь цягам часу, калі пра іх забавы будуць пісаць, як пра цяперашнія забавы Абрамовіча, яны нарвуцца на праведны народны гнеў. Вашая рэакцыя на Абрамовіча паказвае, што гэтая другая палова схемы гатовая. Прычым самыя разумныя з гэтых гаспадароў жыцьця гэты гнеў падтрымаюць, а можа нават і ўзначаляць.
А наконт такога аксюмарану, як «крэатыўная папулярызацыя» чаго б то ні было, то мне ня толькі слабо, я нават і ўявіць гэта сабе не магу.

## Хто меў рацыю?

**Прагноз ня спраўдзіўся, прынамсі, пакуль. Насуперак чаканьням Лукашэнка не зьмяніў сацыяльную базу, не зрабіў стаўку на алігархат. У пэўнай ступені гэта адбываецца, але не як сьвядомы палітычны выбар, а спантанна, па змаўчаньні. Эканамічнае становішча, пагоршанае крызісамі 2009 і 2011 гадоў, прымусіла скарачаць сацыяльныя абавязаньні дзяржавы, пераглядаць умовы «сацыяльнага кантракту». Магчыма, адной з прычынаў таго, што ўлада адмовілася ад спакусьлівага варыянту зьмены сацыяльнай базы, зьяўляецца і той напал патэнцыйнай нянавісьці да багатых, якія ўзбагаціліся даволі цьмянымі спосабамі (а можа і ня цьмянымі), і патэнцыйнай фрустрацыі ад сацыяльнага расслаеньня, якія адлюстраваліся і ў дыскусіі наконт гэтага майго блогу. Палкасьць высьвятленьня таго, хто па справядлівасьці павінен плаваць на яхтах на Карыбах, схіляе да думкі, што спакайней будзе, калі беларусы на іх наагул ня будуць плаваць.**

### 24.02.2008

## Кебіч-Лукашэнка: умоўны лад гісторыі

Кажуць, што гісторыя ня мае ўмоўнага ладу, што пытаньне «што было б, калі б…» ня мае сэнсу. Але спрадвеку людзі раз за разам задаюць сабе яго. Чаму? Пэўна, таму, што сьвет, зразумела, мяняецца, але мяняецца ня цалкам, тыя або іншыя сытуацыі ў той або іншай ступені паўтараюцца, і

пытаньне «што было б, калі б…» часам насамрэч ёсьць пытаньнем «што будзе, калі ранейшы выбар паўторыцца, які будзе плён выбару на карысьць іншага варыянту?»

Апошні матыў асабліва актуальны адносна беларускай палітыкі, бо, як трапна сказаў некалі адзін дасьціпнік, «у ёй нічога не памірае, бо і не жыве».

Мой паважаны калега Віталь Цыганкоў, прачытаўшы кнігу ўспамінаў Вячаслава Кебіча, зрабіў выснову, што калі б у 1994 годзе гістарычная карта лягла інакш, калі б на чале дзяржавы апынуўся Вячаслаў Кебіч, то да 2008 году Беларусь прыйшла б прыкладна ў такім самым стане, у якім прыйшла пры тым выбары, які 14 гадоў таму быў зроблены насамрэч.

Дазволю сабе не пагадзіцца з высновай Віталя, тым больш, што ягоныя ўласныя развагі даюць аргумэнты для такой нязгоды.

Звычайна аналіз аўтарытарных і дыктатарскіх рэжымаў грунтуецца на досьведзе знаходжаньня на адным канцы дубіны ўлады — на тым, па якім гэтая дубіна б’е. Развагі рэдка засяроджваюцца на праблемах, што існуюць на другім канцы дубіны, на тым, якая рука патрэбная для таго, каб такую дубіну трымаць і каб ёй біць так, як б’е дыктатура.

«Ага, бедненькі дыктатар, пакутнічак наш, як ручку стамляе», — зыранізуе чытач.

Іронія дарэчная, але праблемы не здымае. Ва ўспамінах нейкага савецкага маршала прыводзіцца эпізод, як ён наведваў Сталіна ў Крамлі. Ідуць па крамлёўскім дыване, на кожным рагу ахова з карабінамі навыцяжку. Маршал кажа: «Як у вас тут спакойна». «Спакойна, — адказвае Сталін, — ідзеш вось і думаеш, хто зь іх табе ў патыліцу стрэліць».

Вашы нэрвы, паважаны чытач, вытрымалі б такое няспыннае напружаньне? А без такога ўспрыманьня сьвету ніякі дыктатар з вас не атрымаецца.

Ды што ўспаміны пра Сталіна, паглядзім хаця б на цяперашняе месца Беларусі ў сьвеце. З усёмагутным Захадам — сапраўдная «халодная вайна», якая і аб'ектыўна стварае процьму нязручнасьцяў і небясьпек, а да таго ж абцяжараная і суб'ектыўным страхам, як бы камусьці не прыйшла ў галаву ідэя паспрабаваць рэалізаваць у Беларусі ірацкі сцэнар. На Ўсходзе — няспынная «руская рулетка», дзе ў суперніка на руках амаль усе козыры, дзе патрабуецца штодзённае напружаньне ўсіх здольнасьцяў, каб імгненна не прайграць усяго. Які псыхічны тып патрэбны, каб гадамі гуляць у такую гульню?

Гэта не апалёгія цяперашняга правадыра, а канстатацыя таго, што дубіна дыктатуры ня кожнаму па руцэ. Віталь Цыганкоў робіць выснову, што і пры Кебічу ўсё было б прыкладна, як цяпер, бо і дагэтуль былы прэм'ер паводле сваёй сьвядомасьці застаўся цалкам савецкім чалавекам. Ну і што? Хіба Леанід Кучма пазбавіўся сваёй савецкай мэнтальнасьці, хіба малдоўскі камуніст Варонін, які дагэтуль носіць кветкі да помніка Леніну, ператварыўся ў Ангэлу Мэркель? Ды не, абодва яны засталіся такімі самымі, якім застаўся Вячаслаў Кебіч, проста становішча ў іх крыху іншае, таму і словы гавораць крыху іншыя.

Кажучы пра савецкасьць Кебіча і іншых постсавецкіх правадыроў ягонага тыпу, варта ўдакладніць, якая савецкасьць менавіта. Не савецкасьць сталінскіх часоў зь яе сьвятой верай і гатовасьцю забіваць і паміраць, а савецкасьць брэжнеўская,

грунтаваная на «хартыі вольнасьцяў» намэнклятуры, чым насамрэч быў XX зьезд, савецкасьць «карупцыі, якая перарастае ў лібэралізм», словам, савецкасьць часоў схілу савецкай сыстэмы.

Кебіч у сваіх успамінах увесь час бэсьціць апазыцыю, але на пачатку 1990-х менавіта ён шмат у якіх пытаньнях ішоў з той самай апазыцыяй на кампрамісы, яму і ў галаву не прыходзіла паспрабаваць проста яе зьнішчыць.

Як не прыйшло б у галаву называць нейкія дзеяньні Крамля «тэрарызмам на найвышэйшым узроўні» і тым больш — барані Бог — перакрываць сьвяты расейскі нафтаправод: ды як жа гэта можна, ды сама ж Масква, ды хто мы, а хто яны… Але менавіта з намэнклятурнай веры ва ўсёмагутнасьць Масквы і вынікала тады, на пачатку 1990-х, і спантаннае, але даволі інтэнсіўнае разьвіцьцё адносінаў з Захадам. Не з адчуваньня нейкай духоўнай ці якой іншай блізкасьці да яго, а з таго, што, па-першае, хто яны, а хто мы, як жа ваяваць з усім сьветам, прайграем жа, а па-другое, трэба ж неяк кампэнсаваць непераможную моц усходніх братоў.

Тое самае і ва ўнутранай палітыцы: ну брыдкая апазыцыя, ну гадасьць суцэльная гэтыя газэты, але як так — узяць і проста зьнішчыць, ну нельга так, ня робіцца так, а што ж з гэтага будзе, а шуму будзе, а калі нешта горшае будзе? Ды нічога ня будзе, калі мець сьмеласьць адабраць у грамадзтва свабоду.

З вуснаў былога прэм'ера немагчыма было б пачуць расповед пра сямейныя абставіны ягонага самага зацятага апанэнта і ягонай паміраючай жонкі, кшталту таго, што прагучаў нядаўна з вуснаў дзейнага кіраўніка дзяржавы. І справа тут ня толькі

ў розным выхаваньні, хаця і не бяз гэтага, але і ў групавой этыцы: намэнклятурныя таварышы старога гатунку маглі апэраваць такімі аргумэнтамі ў нейкай закрытай апаратнай інтрызе, але каб вось так, публічна, на ўсю краіну — ну няможна, ну не прынята так. Было.

Цяперашняя Беларусь шмат каго раздражняе сваёй дэманстратыўнай савецкай эстэтыкай, і сам яе правадыр фармулюе сваё крэда ў савецкіх тэрмінах (бо іншых ня ведае). Аднак прырода ягонай улады зусім не савецкая — гэта пэрсаналісцкая ўлада ўзору лацінаамэрыканскіх дыктатураў ці аўтарытарных эўрапейскіх рэжымаў міжваеннага пэрыяду. Кебіч быў і застаецца тыповым узорам позьнесавецкай сьвядомасьці. Аднак менавіта таму, калі б у 1994 годзе перамог ён, Беларусь усё далей «сплывала» б ад савецкасьці, прыкладна як гэта адбывалася ў кучмаўскай Украіне. Таксама не Швэйцарыя, але і не лукашэнкаўская Беларусь. І адбывалася б гэта не дзякуючы Кебічу, а таму што ён ня змог бы, а потым ужо і не хацеў бы спыніць гэта.

У фантастычнай эпапэі Айзэка Азімава «Foundation» геній-гісторык прыдумаў спосаб прадказваць будучыню. І стагодзьдзямі падзеі разьвіваюцца паводле прадказанага сцэнару. Але раптам зьявіўся чалавек з унікальнымі здольнасьцямі па мянушцы Мул, які зламаў трэнд, вызначаную і прадказаную тэндэнцыю — стаў дыктатарам, распачаў войны, што ніякімі схемамі не было прадугледжана. Потым «гаспадары дыскурсу» цаной велізарных высілкаў здолелі яго ўтаймаваць і разьвіцьцё неяк выграбла на трэнд.

Хоць, у адрозьненьне ад героя Азімава, у Лукашэнкі ў сэнсе сэксуальных здольнасьцяў, здаецца, усё больш чым у парадку, ён — вось такі Мул беларускай найноўшай гісторыі, той, хто зламаў трэнд, які б увасабляла кіраваньне Кебіча. Зламаў, зразумела, ня цалкам, скажам, незалежнай Беларусь засталася б і ў выпадку разьвіцьця паводле трэнду: Кебіч ня здаў бы яе са страху, Лукашэнка не здае з-за адсутнасьці страху.

Так што калі павернутае ў мінулае «што было б, калі б» разгарнуць наперад, у будучыню, то можна меркаваць, што хто б ні стаў на чале Беларусі пасьля Лукашэнкі — хоць ягоны сын, хоць Шэйман, хоць Сідорскі, хоць хто іншы — ён ня будзе Мулам, ня будзе мець рукі, здольнай цьвёрда трымаць дубіну дыктатуры, ня будзе мець нэрваў, здольных вытрымаць нагрузку пастаяннага чаканьня стрэлу ў патыліцу ад сваіх. Проста паводле тэорыі імавернасьці. А будзе ён плюс-мінус… Кебічам. І пойдзе ўсё не сказаць каб добра, Швэйцарыяй у любым выпадку станем ня хутка, але пойдзе паводле трэнду.

Дэмакратыя — ня толькі самы лепшы спосаб кіраваньня (паводле Чэрчыля самы горшы, але іншыя яшчэ горшыя). Гэта яшчэ і самы бясьпечны спосаб кіраваньня. І для тых, кім кіруюць, і для таго, хто кіруе. А людзі, у якіх прага ўлады мацнейшая за інстынкт самазахаваньня, нараджаюцца, на шчасьце, нячаста.

## Хто меў рацыю?

**Постсавецкая эвалюцыя Расеі, Украіны і іншых дзяржаваў — рэспублік былога СССР сьведчыць пра тое, што палітыка Лукашэнкі**

**шмат у чым хутчэй абазначыла рэгіянальны трэнд разьвіцьця, чым была адхіленьнем ад яго. Зьняволеньне расейца Міхаіла Хадаркоўскага пры Пуціне і ўкраінкі Юліі Цімашэнкі пры Януковічы — сьведчаньне таго, што беларускі прэзыдэнт зусім не самотны ў абыходжаньні са сваімі апанэнтамі. Хоць, зразумела, маюць значэньне нюансы — ніводная постсавецкая краіна ня мае такіх кепскіх адносінаў з Захадам, як кіраваная Лукашэнкам Беларусь. Параўнальныя ацэнкі ступеняў рэпрэсіўнасьці — справа складаная, але паводле шматлікіх аналітычных цэнтраў Беларусь у гэтым сэнсе знаходзіцца бліжэй да азіяцкіх дэспатыяў кшталту Туркменістану і Ўзьбекістану, чым да Расеі і Ўкраіны нават часоў Януковіча. У гэтым сэнсе мае права на існаваньне гіпотэза, што пры прэзыдэнце Кебічу лепшымі былі б стасункі краіны з Захадам і становішча з правамі чалавека. Але наўрад ці Беларусь пераадолела б палітычную «мяжу Гантынгтана» і вырвалася з матрыцы постсавецкай палітыкі.**

**26.03.2008**

## БНР і Лукашэнка

Як гаворыцца ў такіх выпадках: відаць, у лесе нешта вялікае здохла. З «круглага стала» ў «Советской Белоруссии» і зь перадачы першага каналу БТ зьдзіўлены чытач і глядач раптам даведаўся, што Беларуская Народная Рэспубліка — зусім не «нацыяналістычна-буржуазнае марыянэткавае ўтварэньне», а калі ня слаўная, то па меншай меры

годная старонка беларускай гісторыі, якой у пэўнай ступені абавязаная сваім існаваньнем сёньняшняя Рэспубліка Беларусь. Тых, хто гэтак меркаваў і раней, а тым больш тых, для каго ідэалы БНР — гэта сьвятое, больш займае пытаньне, навошта ўладам гэта спатрэбілася і што ж з гэтага будзе?

Ну, калі пачаць з апошняга, то варта сказаць, што шэраг крутых ідэалягічных паваротаў апошніх гадоў сьведчаць пра тое, што гнуткасьць і трываласьць сучаснай улады ня варта недаацэньваць. Напрыканцы мінулага стагодзьдзя здавалася, што палітыка інтэграцыі з Расеяй, а асабліва інтэграцыйная рыторыка — адно з галоўных апірышчаў улады, што страта ці адмова ад гэтага будзе азначаць яе вельмі хуткую палітычную сьмерць. У 2002 годзе было змаганьне з пуцінскай прапановай аб уваходжаньні ў Расею шасьцю губэрнямі, у 2004 годзе — газавая вайна, у канцы 2006 — пачатку 2007 году — нафтагазавая вайна. Усе гэтыя крызісы суправаджаліся кардынальнай зьменай рыторыкі, а ў пэўнай ступені і палітыкі. І што? І нічога, ніякіх катастрофаў, ніякага абрынаньня ў выніку страты інтэграцыйнага апірышча не адбылося. Ні традыцыйны электарат улады не падняў яе на вілы за «здраду» Расеі, ні апазыцыя не набыла шмат палітычных дывідэндаў ад таго, што ўлада, прынамсі на ўзроўні рыторыкі, перахапіла яе незалежніцкія лёзунгі.

Менш заўважна, але таксама даволі істотна зьмянілася за шэраг апошніх гадоў стаўленьне, падыход уладаў да Вялікага Княства Літоўскага. На прыгаданым «круглым стале» ў «Советской Белоруссии» вельмі паказальна прагучалі словы рэдактара газэты Паўла Якубовіча, што, маўляў, на-

конт ВКЛ усё ўжо зразумела, гэта наша неадʼемная слаўная спадчына, наша вялікае мінулае, а вось наконт БНР яшчэ трэба разабрацца. Гэта калі ж з ВКЛ адбылася такая дзіўная эвалюцыя? Мы і не заўважылі. А вось адбылася, як высьвятляецца, калісьці. І таксама нічога катастрафічнага ня здарылася, нічога нідзе не абрынулася.

Але калі і ад кардынальнай зьмены публічнага стаўленьня да БНР, якая да апошняга часу была сымбалем веры нацыянальна-дэмакратычных сіл, улада нічога ня страціць, то не зусім зразумела, што ж набудзе, навошта ёй гэта, жылі, так бы мовіць, 14 гадоў (а дакладней, амаль усе 90 гадоў) без БНР, пражылі б і далей.

Паспрабуем пералічыць магчымыя прычыны. Наўрад ці такі ідэалягічны паварот наўпрост зьвязаны зь сёлетняй акцыяй 25 сакавіка. Прызнаньне ўладай легітымнасьці даты, легітымнасьці сьвята здольнае хутчэй разьвеяць страх пайсьці на акцыю, хутчэй надасьць ёй масавасьць, што ў пляны ўлады наўрад ці ўваходзіла.

Таксама не выглядае верагоднай і вэрсія, што прызнаньне БНР — саступка апазыцыі, такая своеасаблівая спроба дыялёгу зь ёй, хаця б па змаўчаньні. Цяперашні стан апазыцыі, шэраг унутраных канфліктаў, сьведчаць пра што заўгодна, толькі не пра рост палітычнай моцы апазыцыі, зь якой улада была б вымушаная лічыцца.

Але тая частка грамадзтва, для якой і ВКЛ, і БНР — гэта важныя каштоўнасьці, не вычэрпваецца выразнай палітычнай апазыцыяй. Гэтая больш шырокая і больш масавая плынь ня тое, каб супраць улады, але і ня за. І зьмена публічнага стаўленьня да БНР — пасланьне менавіта гэтаму колу,

спроба зрабіць для яго існаваньне ў сёньняшняй Беларусі больш цярпімым, у пэўным сэнсе прымірыць гэтае кола з уладай шляхам саступак, ня надта важных для ўлады, але важных для гэтых людзей.

Але ёсьць, так выглядае, і яшчэ адзін узровень асэнсаваньня, яшчэ адзін у пэўным сэнсе адрасат. Тут пачнём з аналёгіі: вяртаньне Сталіным пагонаў у Чырвонай арміі ў разгар вайны, вяртаньне пасьля вайны значнай часткі дарэвалюцыйнага антуражу. Шмат для каго тады, скажам, вяртаньне пагонаў было сапраўдным шокам. І навошта гэта было Сталіну? Ну, у палёгцы, дадзенай праваслаўнай царкве ў дні, калі Гітлер падыходзіў да Масквы, яшчэ можна ўбачыць наўпроставую палітычную прагматыку — усё ж шмат людзей захавалі вернасьць Хрыстовай веры і набыць за іх кошт дадатковае апірышча было ў той крытычны момант зусім ня лішнім. Але ж пагоны навошта было вяртаць? Хто іх прасіў вярнуць, каму іх вяртаньнем меркавалася дагадзіць, у чым была палітычная мэта?

Справа, відаць, была ў тым, што мала ўжо здавалася рэвалюцыйнай легітымнасьці, спатрэбілася легітымнасьць гістарычная, спрадвечная, апірышчам якой ёсьць стагодзьдзі гісторыі.

Ну дык і з БНР, магчыма, цяпер адбываецца тое самае. Як ні спрабавалі знайсьці нейкі іншы, абыходны шлях для нацыя- і дзяржаватварэньня, зьбег абставінаў штурхае на агульны. Ня выключана, што пэўную ролю тут адыграла і зьмена пакаленьняў у эшалёнах улады. Самому Лукашэнку, можа, было ўтульна ў дзяржаве, радавод якой ідзе ад БССР, маладзейшай генэрацыі ўлады, магчыма, і ўтульней і спакайней пачуваць сябе ў больш шырокім

гістарычным кантэксьце. Фігуральна кажучы, пры 100 і нават 128 далярах за тысячу кубамэтраў газу без БНР можна абысьціся, а вось пры 200 ці 300 даляраў за тую тысячу кубоў БНР можа стаць чыста практычнай ідэалягічнай патрэбай.

«Наша ўлада, як легендарны цар Мідас наадварот, да чаго той ні дакранаўся, ператваралася ў золата, нашы ж да чаго ні дакрануцца, усё ператвараецца ў … іншую субстанцыю», — заўважаў некалі наконт падобных практыкаваньняў прыўлашчваньня гісторыі калега Цыганкоў. Не бяз гэтага, зразумела, але мяркую, што пры ўсіх выдатках, дасьціпна ахарактарызаваных калегам, працэс, які мы назіраем, варта ўсё ж вітаць.

Ну, па-першае, з нацыяналістычнага пункту гледжаньня, з пункту гледжаньня працэсу нацыятварэньня гэта наагул абсалютнае дабро. Стварэньне нацыі ў апазыцыйнай прабірцы, у гета — гэта наагул аксюмаран, супярэчнасьць у вызначэньні. Палітычная ідэя можа задаволіцца падтрымкай часткі грамадзтва, нацыянальная ідэя дасягае посьпеху толькі тады, калі ахоплівае ўсіх ці пераважную частку народу. І тая самая БНР — гэта не партыйная спадчына апазыцыі, а супольная спадчына ўсяго беларускага народу. І калі ўлада, зыходзячы зь якіх заўгодна нізкіх і каньюнктурных матываў, гэта прызнае, то яна робіць крок да ўмацаваньня сувязяў, якія абʼядноўваюць беларусаў у адзінае цэлае.

Калі ж казаць пра ўласна палітычны бок, тут наступствы менш адназначныя. Гэта ў пэўнай ступені пары́. З аднаго боку, страта апазыцыяй манаполіі (рэальнай або ўяўнай) на ВКЛ, БНР і незалежнасьць крыху зьніжае баявы дух, выво-

дзіць з шэрагаў апазыцыі тых, чые супярэчнасьці з уладай тычыліся якраз гэтых сюжэтаў. Тое, што апэляцыя да гістарычнай традыцыі не падрывае, а мацуе ўладу, адразу пасьля распаду СССР зразумелі кіраўнікі цэнтральнаазіяцкіх краінаў. Зразумелі і пачалі выводзіць радавод кіраваных імі дзяржаваў не з савецкіх часоў (хаця ў некаторых выпадках аб'ектыўна іх радавод менавіта такім і быў), а зь сівых стагодзьдзяў мінуўшчыны. І нічога, сядзяць, кіруюць, і ніяк гістарычная сьвядомасьць гэтаму іх кіраваньню не перашкаджае.

Але гэта ўсё ж з аднаго боку. З другога ж для аўтарытарнай улады мінулае — гэта і апірышча, і атрута. Дэмакратычная апазыцыя ўзьнімала гісторыю на свае сьцягі апроч іншага і таму, што бачыла ў ёй досьвед імкненьня сваіх продкаў да свабоды, досьвед таго, што людзі, народ — гэта ня дзеці, якім патрэбны строгі вярхоўны «бацька». У гісторыі ёсьць шмат чаго, але ёсьць і гэта. І гэта разам зь іншым улада і глытае, уключае ў свой публічны абарот, у сваю дзяржаўную ідэалёгію. Як яно спрацуе — Бог ведае, можа на нейкім этапе ўсім, і самому Лукашэнку, стане зразумела, што некаторыя рэчы ён як нашчадак БССР рабіць можа, а вось як нашчадак ВКЛ і БНР, нават прыняўшы гэтую спадчыну з зусім хітрых матываў — ужо і не.

Пары́ яно і ёсьць пары́, выйгрыш не гарантаваны нікому. Іншая справа, што тыя, хто лічыў і лічыць тую самую БНР сваёй уласнай спадчынай, ужо ня могуць ад яго ўхіліцца.

## Камэнтары:

**Тарасевич, Гродно**: Не знаю как Вам, но я считаю этот праздник БНР несколько дутым и исторически ничего не значащим событием. И вот почему: слишком давно это свершилось, результат никакой, БНР существовал всего лишь несколько месяцев. Я думаю, день независимости был в 1991 году. Непонятно почему столько лет не празднуют истинный день независимости. Наконец живем как люди. Дзякуй Богу, могу свободно поехать в любую точку мира и общаться в Интернете с кем и о чем угодно.
**П. Садоўскі**: 1. Кропля дзяўбе камень… Коштам немалых высілкаў і ахвяраў, пачынаючы з мастакоўскіх «паддашкаў» 70-х гадоў, руху БНФ, дасьледаваньняў нацыянальных гісторыкаў, «Паходні», «Майстроўні», «Талакі» ды інш., потым апазыцыі БНФ у ВС фэномэн ВКЛ і БНР паступова становіцца нашым нацыянальным здабыткам. Для мяне настаўнікамі нацыянальнай гісторыі былі З. Пазьняк, Я. Кулік, М. Чарняўскі, М. Ткачоў і нават маладзейшыя С. Дубавец і В. Вячорка. Ня трэба забывацца на ахвярных людзей, жывых і тых, каго ўжо з намі няма, і адпаведна судзіць пра іхныя ўчынкі. Для мяне, як чалавека грэшнага і ня вельмі ваяўнічага, яны — што Хрыстос. Як я магу гаварыць пра памылкі Хрыста?
2. Гаварыць пра нейкую спрэчку на заклад (у аўтара «пары»), хто ў каго выйграе манаполію на БНР, можа быць, не зусім карэктна. Можна толькі жадаць, каб улада імкнулася выйграць. Яна тады стане на пазыцыі бацькоў БНР. Калі наш аўтарытарны сувэрэн сапраўды аддае каманду на «прысабечваньне» БНР, значыць, ён пакуль не гатовы здацца Расеі. Іншая рэч, што можна сутнасьць выхаласьціць. Нездарма ж Івонцы Сурвіле так проста візу не даюць. У сваім сьвяточным прывітаньні яна цытуе Каліноўскага, дзе шчасьце беларусаў можа быць толькі «без маскалёў».
**Валеры Жігімонт, Менск**: Не прымаю палітыкі Лукашэнкі, але інтуітыуна адчуваю, што Ен і на Марсе прыстасуется...

Мне не зусім усяроуна, хто на Беларусі будзе аднайляць гістарычную Спадчыну, але няхай гэта будзе! Бадай што гэта будзе нейкі савецкі клон (Сапега у будзенауцы), але лепш гэта, чым поуная афіцыйная адсутнасць нацыянальнай палітыкі.

## Хто меў рацыю?

**Паступовая эвалюцыя ідэалёгіі беларускай улады ў бок акцэптацыі БНР працягваецца. Напярэдадні 95-х угодкаў БНР газэта «Зьвязда» апублікавала матэрыялы «круглага стала» афіцыйных гісторыкаў, падчас якога роля БНР ва ўсталяваньні беларускай дзяржаўнасьці ўжо нікім з удзельнікаў ня ставілася пад сумнеў. На гэтым самым «круглым стале» было абвешчана, што падрыхтаваныя школьныя падручнікі, у якіх даецца менавіта такая трактоўка Беларускай Народнай Рэспублікі. Варта адзначыць, што ў афіцыёзе прысутнічаюць і іншыя меркаваньні наконт БНР, асабліва з боку прадстаўнікоў інтэлектуальнай школы нэазаходнерусістаў (В. Гігін, У. Шымаў і інш.). Гэтае пытаньне, гледзячы па ўсім, спараджае спрэчкі ўнутры самой улады і паміж яе ідэолягамі: у якой ступені афіцыйны дыскурс можа дазволіць сабе інкарпарацыю таго, што доўгі час ўлада лічыла «ідэалягічнай зброяй» апазыцыі. Гэтыя спрэчкі абумоўліваюць павольны працэс «прызнаньня» БНР, але выглядае, што ён усё ж адбываецца.**

**19.04.2010**

## Бакіеў як талісман Лукашэнкі

Чарговы раз кіраўнік Беларусі імкнецца трапіць у цэнтар сусьветнай палітыкі. Дарэчы, гэтага тлумачэньня можа быць і дастаткова, якая розьніца як? Але ў справе з запрашэньнем зрынутага лідэра Кіргізстану ёсьць яшчэ некалькі сэнсаў, некалькі пасланьняў, накіраваных розным адрасатам.

### «Буду страляць»

Найперш — беларускаму народу: як было сказана падчас выступу на Гомельшчыне, у выпадку чаго буду страляць, рука не здрыганецца. Вось Бакіеў страляў, і я яго паважаю і абараняю, бунт трэба душыць жорстка і бязьлітасна. Праўда, менавіта кіргіскі досьвед паказвае, што часам нават і страляніна нічога не вырашае. Ну загадаў Бакіеў страляць, ну нават выканалі загад. І, кажучы словамі Лукашэнкі, «мала не падалося» ў рэшце рэшт ня толькі забітым, а самому Бакіеву. А што ж рабіць тады, калі і кулі не дапамагаюць?

### «Рука Масквы»

Другое пасланьне — Расеі. Яна Бакіева з рахункаў сьпісала адразу, запрашэньнем Бакіева Лукашэнка дае зразумець, што зь ім у выпадку чаго так проста не атрымаецца. Пры гэтым калі найвышэйшая ўлада абмяжоўваецца празрыстымі намёкамі, маўляў, мы яшчэ даведаемся, хто стаіць за гэтым пераваротам, то прыдворныя мысьляры кшталту Сяргея Мусіенкі гэтыя намёкі расшыфроўваюць: «Да крывавага путчу, зладжанага ў Бішкеку, расейскія

спэцслужбы, хутчэй за ўсё, маюць дачыненьне». Але як ні парадаксальна, глыбакадумныя развагі пра змову — ня толькі стандартная рэакцыя мысьленьня адпаведнага тыпу, але і спроба адсланіцца ад больш страшнага. Змова — гэта небясьпечна, але зразумела, іх спэцслужбы — нашы спэцслужбы (ясна ж, што ўсё прымяраецца на Беларусь), на іх спэцапэрацыю — наша контрапэрацыя. А калі праўда — прасьцейшая, і не было ні змовы, ні спэцапэрацыі, ні злавесных плянаў апазыцыі, якую Бакіеў абачліва перасаджаў за краты на самым пачатку сёлетніх падзеяў?

### Вашынгтонска-маскоўскі кансэнсус

Яшчэ адно пасланьне — і Расеі, і Амэрыцы разам. Яшчэ адна падстава для жахаў афіцыйнага Менску — тое, што ці не ўпершыню падчас падобных падзеяў за ўсе апошнія гады Масква і Вашынгтон дзейнічалі калі ня разам, то ўзгоднена. Супярэчнасьці паміж імі нікуды не падзеліся, матывам магло быць усяго толькі банальнае жаданьне не дапусьціць грамадзянскай вайны ў краіне, дзе і ЗША, і Расея маюць вайсковыя базы. Але насамрэч важныя не прычыны, а прэцэдэнт — яны ў такой сытуацыі могуць дзейнічаць разам.

Бакіеў патрэбны яшчэ і для таго, каб паламаць гэтую згоду: «Захоча ён (Бакіеў) даць прэс-канфэрэнцыю журналістам, ён будзе яе свабодна даваць, свабодна гаварыць. І мы потым паглядзім: хто больш свабодная краіна — Беларусь ці нейкія іншыя дзяржавы. Думаю, ён шмат раскажа». Масква і Вашынгтон імкнуцца патушыць полымя грамадзянскай вайны ў Кіргізстане, афіцыйны Менск, гаворачы папросту, імкнецца яго разьдзьмуць. Каб

Злучаным Штатам і Расеі, барані Бог, не прыйшло ў галаву дамовіцца пра нешта адносна Беларусі.

## Як можа спытаць народ?

Уся гэтая сыстэма пасланьняў базуецца на тэзе пра легітымнасьць Бакіева. Лукашэнка сваім запрашэньнем прадэманстраваў пэўную пасьлядоўнасьць: кіргіскія падзеі — антыдзяржаўны пераварот, Бакіеў — легітымны, канстытуцыйны кіраўнік, усе — ад Амэрыкі да Расеі — яго кінулі, хаця яшчэ ўчора паціскалі рукі, а Лукашэнка — чалавек прынцыпаў: «Толькі народ мае права спытаць з прэзыдэнта. Ніякія банды, ніякія групы, апазыцыя. Толькі народ».

Прыгожа, толькі вось незадача — а як народ можа спытаць? У якіх формах? Можа, на выбарах? Вось якую выснову зрабілі назіральнікі АБСЭ наконт леташніх прэзыдэнцкіх выбараў у Кіргізстане: «Прэзыдэнцкія выбары не адпавядалі ключавым абавязкам у межах АБСЭ па правядзеньні дэмакратычных выбараў, давер грамадзкасьці да выбарчага працэсу быў падарваны». Вельмі падобна на высновы чатырохгадовай даўніны наконт беларускіх прэзыдэнцкіх выбараў.

## Што такое легітымнасьць?

І якое значэньне маюць гэтыя паперкі? Ды на першы погляд ніякага. Нікому вайну за кепскія выбары не абвяшчаюць. Сапраўды, і запрашаюць, і справы маюць, і рукі паціскаюць. І Бакіеву паціскалі, і Лукашэнку паціскаюць. Але вось як каму? Ёсьць досыць цынічная дыпляматычная формула — як асобе, якая рэальна кантралюе сытуацыю

ў краіне. Але гэтыя на першы погляд нязначныя паперкі АБСЭ ўносяць невялічкае ўдакладненьне — толькі як асобе, якая рэальна кантралюе сытуацыю, і пакуль яна рэальна кантралюе сытуацыю. А калі перастае кантраляваць? Ну тады ўступае ў сілу выключна цынічная палітычная мэтазгоднасьць: выгадна — будуць працягваць падтрымліваць, нявыгадна — можна хуценька падтрымаць іншых, якія пачынаюць рэальна кантраляваць сытуацыю. Якая такая легітымнасьць? У несправядлівых выбарах яе ня больш, чым ў разьюшаным натоўпе, які штурмуе прэзыдэнцкі палац. Прынамсі для вонкавага гульца. Насамрэч дэмакратыя — гэта самы бясьпечны спосаб кіраваньня.

Бакіеў у Менску — гэта своеасаблівы талісман, спроба заваражыць гэтыя надзвычай непрыемныя меркаваньні.

## Хто меў рацыю?

**Вакол прытулку Бакіеву застаецца шмат таямніц. Ужо ў 2013 годзе Роза Атунбаева, якая пасьля рэвалюцыі 2010 году была часовым кіраўніком Кіргізстану, паведаміла, што рэвалюцыйныя ўлады далі магчымасьць Бакіеву пакінуць Кіргізстан па супольнай просьбе прэзыдэнтаў Казахстану, Расеі і ЗША. Ня выключана, што і прытулак у Беларусі быў часткай узгодненага пляну і «горды» сыгнал Вашынгтону і Маскве, які А.Лукашэнка паслаў, даўшы прытулак экспрэзыдэнту Кіргізстану, на просьбу гэтых сталіц і быў зроблены. Аднак застаецца справядлівым тое, што вядучыя дзяржавы сьвету ня кідаюцца на дапамогу аўтарытарыям, якія трапляюць у**

**кепскае становішча. І праз год пасьля рэвалюцыі ў Кіргізстане гэта пацьвердзілася падчас «арабскай вясны». Можна адзначыць, што куды больш значную падтрымку Расея аказвала Віктару Януковічу падчас украінскай рэвалюцыі 2013-2014 гадоў. Аднак пасьля яго ўцекаў у Расею Масква выкарыстоўвала яго адно ў прапагандысцкіх мэтах, не спрабуючы аднавіць яго на прэзыдэнцкай пасадзе.**

**25.05.2010**

## Макс Вэбэр пра казус Уладзімера Саўчанкі

Не, зразумела, клясык паліталёгіі нічога не пісаў пра абставіны звальненьня ў 2010 годзе кіраўніка Гарадзенскага аблвыканкаму. Але некаторыя думкі, выказаныя ў свой час Максам Вэбэрам, тлумачаць сёе-тое ў гэтым звальненьні.

### «Палітык у краіне толькі адзін»

Прадстаўляючы новага кіраўніка аблвыканкаму Сямёна Шапіру, прэзыдэнт выказаў на адрас ягонага папярэдніка даволі дзіўныя абвінавачаньні:

«*Выявілася адсутнасьць дакладнай стратэгіі ў максымальна эфэктыўным выкарыстаньні наяўных магчымасьцяў. У немалой ступені руху наперад перашкаджала і тое, што замест мабілізацыі людзей на ліквідацыю недахопаў Уладзімер Саўчанка вельмі балюча рэагаваў на крытыку (не ад прэзыдэнта, іншых), выжываў непажаданых яму кіраўнікоў.*

*Але самае галоўнае — страціў пачуцьцё адказнасьці за даручаны ўчастак працы».*

Можа, зразумела, усё сказанае — добрая міна пры кепскай гульні. Шматлікія крымінальныя справы супраць найбліжэйшых супрацоўнікаў Уладзімера Саўчанкі, загадкавасьць яго цяперашняга стану (знаходзіцца ён пад хатнім арыштам ці не) — усё гэта схіляе да думкі, што тлумачэньне можа быць надзвычай банальным: Беларусь — не адзіная краіна ў сьвеце, дзе высокія кіраўнікі блытаюць уласную кішэню зь дзяржаўнай, і здараецца тое як у дзяржавах аўтарытарных, гэтак і ўзорна дэмакратычных. Але звальненьне аднаго з такіх высокіх кіраўнікоў са скандалам, выкрываньнем злоўжываньняў, публічным надзяваньнем кайданкоў можа ў год выбараў даць эфэкт адваротны жаданаму, і ў вачах насельніцтва, і ў вачах кіроўнай эліты.

Але ў любым выпадку папрокі дзіўныя. Нават калі яны — прыкрыцьцё, а асабліва калі яны — сапраўдная прычына адстаўкі. У апошнім выпадку яны — яскравая дэманстрацыя межаў магчымасьцяў існай беларускай дзяржаўнай сыстэмы, у якой, паводле выразу Лукашэнкі, «палітык толькі адзін».

## «Палітыка як пакліканьне і прафэсія»

Вось менавіта на гэты конт Макс Вэбэр і пісаў у сваёй працы «Палітыка як пакліканьне і прафэсія» — пра розьніцу паміж палітыкам і чыноўнікам.

*«Такім чынам, палітычны чыноўнік не павінен рабіць менавіта таго, што заўсёды і неабходным чынам павінен рабіць палітык — як правадыр, так і*

*яго атачэньне, — змагацца. Бо прыняцьце якога-небудзь боку, барацьба, жарсьць — стыхія палітыка, і перш за ўсё палітычнага правадыра. Дзейнасьць правадыра заўсёды падпарадкоўваецца цалкам іншаму прынцыпу адказнасьці, проста процілегламу адказнасьці чыноўніка. У выпадку, калі (нягледзячы на яго ўяўленьні) вышэйшая ўстанова настойвае на загадзе, які ўяўляецца яму памылковым, справа гонару чыноўніка — выканаць загад пад адказнасьць таго, хто аддае загад, выканаць добрасумленна і дакладна, так, быццам гэты загад адпавядае яго ўласным перакананьням: без такой у найвышэйшым сэнсе маральнай дысцыпліны і самаахвярнасьці развалiўся б увесь апарат. Наадварот, гонар палітычнага правадыра, то бок кіруючага дзяржаўнага дзеяча, ёсьць выключная асабістая адказнасьць за тое, што ён робіць, адказнасьць, адхіліць якую ці скінуць яе зь сябе ён ня можа і ня мае права. Якраз тыя натуры, якія ў якасьці чыноўнікаў высока стаяць у маральным сэнсе, зьяўляюцца кепскімі, безадказнымі ў палітычным сэнсе слова».*

Насамрэч сучасная дзяржава ня можа існаваць без чыноўнікаў, безь няўмольных выканаўцаў правілаў, зададзеных ня імі, а ці законам ці/і воляй тых, хто стаіць над імі. І абвінавачаньні на адрас чыноўнікаў у няздольнасьці ўваходзіць у прыватныя абставіны, прыслухоўвацца да меркаваньня людзей па сутнасьці недарэчныя, яны паводле свайго функцыянальнага прызначэньня, згодна сваёй карпаратыўнай этыцы і не павінны таго рабіць.

## «Апанэнты ня сьпяць»

Проста існуюць кіруючыя пасады, якія павінны займаць не чыноўнікі, а палітыкі. А вось калі «палітык у краіне толькі адзін», то вынікі такога становішча расхлёбвае ня толькі грамадзтва ў цэлым, але і ён таксама. Бо яму хацелася б, каб падначаленыя былі робатападобнымі выканаўцамі ягонай волі і разам з тым лідэрамі на тых пасадах, дзе лідэрскія здольнасьці патрабуюцца. Але Макс Вэбэр 92 гады таму патлумачыў, што справа тут ня ў кепскіх здольнасьцях спадара Саўчанкі, а ў тым, што ў сучасным грамадзтве гэта немагчыма паводле вызначэньня. Калі ўсе — чыноўнікі, то яны і палітычныя праблемы вырашаюць па-чыноўніцку, гэта значыць, кепска.

Тут таксама варта прыгадаць словы Анатоля Рубінава, які на гэтым тыдні заняў пасаду старшыні Савету Рэспублікі. Ён, выступаючы перад сябрамі Савету, папярэдзіў, што «апанэнты ня сьпяць», успомніўшы кампанію Ўладзімера Някляева «Гавары праўду». Таму, паводле Рубінава, людзям трэба тлумачыць палітыку ўлады, «чаму робіцца так, а не інакш», каб людзі «былі ўпэўненыя ў правільнасьці курсу, які праводзіцца прэзыдэнтам». Але тлумачыць — гэта змагацца за ўладу, за яе захаваньне. А хто такія як сам спадар Рубінаў, гэтак і яго слухачы? Чыноўнікі. Ну ня іх тое справа. Іх пакліканьне — дасканала і дакладна выконваць загады, у прафэсійным пляне прынцыпова не абцяжарваючы сябе роздумам пра іх правільнасьць. Не, загадана тлумачыць, дык і будуць, куды падзенуцца? Так і будуць. Як умеюць.

У гэтай несумяшчальнасьці роляў палітыка і чыноўніка — разгадка таямніцы, чаму сыстэмы, якія здаюцца непахіснымі, часам абрынаюцца, як картачны дамок. Таму што калі прыходзіць час барацьбы, высьвятляецца, што на баку правадыра няма змагароў — усе чыноўнікі, усе прафэсійныя выканаўцы чужой волі.

## Хто меў рацыю?

**Беларускае чынавенства выдатна ўмее выконваць загады і плесьці інтрыгі, што паказалі, напрыклад, разгон Плошчы-2010 і няспынныя змаганьні паміж сілавымі ведамствамі. Лідэрскія здольнасьці ад супрацоўнікаў уладнага апарату насамрэч і не патрабуюцца, пакуль у краіне «адзін палітык». Толькі прывід нелаяльнасьці з боку прэм'ера Сяргея Сідорскага прывёў у 2011 годзе да яго адстаўкі. Аднак адсутнасьць якасьцяў палітыкаў, лідэраў у прадстаўнікоў уладнага істэблішмэнту можа згуляць зь імі злы жарт, калі Лукашэнка з тых або іншых прычынаў пакіне сваю пасаду.**

**31.03.2011**

## «Мы яшчэ ў суботу папярэджвалі Англію»

У XIX стагодзьдзі нейкая маленькая газэта выйшла аднойчы з такім загалоўкам. Гэты гістарычны анэкдот прыгадаўся ў сувязі са зваротам БРСМ да кіраўніцтва Эўразьвязу і ўрадаў заходніх краінаў.

Ня варты быў бы той зварот асаблівай увагі, калі б не адзін пасаж з дакумэнту, які гучыць рэфрэнам у многіх выступах беларускіх афіцыйных прадстаўнікоў: «Якое ж было наша зьдзіўленьне, калі ў іншай сытуацыі, 27 сакавіка 2011 года ў Лёндане, урад Вялікабрытаніі ўжыў сілу для падтрыманьня грамадзкага парадку, у выніку чаго пацярпелі 38 чалавек, а больш за 200 былі арыштаваныя... Ніводнага слова асуджэньня з боку міжнародных інстытутаў і праваабарончых арганізацый. Ніводнай нэгатыўнай ацэнкі дзеяньняў уладаў. Ніякіх наступстваў!» Вось, маўляў, двудушнасьць хвалёнай заходняй дэмакратыі, ім — можна, а нам — нельга. Параўнаньне сапраўды даволі дарэчнае.

## Што бывае пасьля забурэньняў?

Сапраўды, масавыя забурэньні здараюцца ня толькі ў Беларусі. І ў іншых краінах для іх спыненьня часам ужываюць сілу, нярэдка і паліцыі і ўдзельнікам гэтых інцыдэнтаў даволі моцна дастаецца. Але што адбываецца далей?

А далей, як правіла, адбываецца зусім ня тое, што адбываецца ў Беларусі пасьля 19 сьнежня. На нашай памяці ў Польшчы палілі офісы сацыял-дэмакратычнай партыі, у Вугоршчыне дэманстранты біліся з паліцыяй, у Малдове ў красавіку 2009 году дэманстранты нават захапілі будынак парлямэнту і прэзыдэнцкі палац. Вось ужо дзе, здаецца, масавыя беспарадкі і спроба захопу ўлады. Праваахоўныя органы ўсе гэтыя эксцэсы падаўлялі з рознай ступеньню жорсткасьці. Але потым што, колькі людзей селі на вялікія тэрміны? А нікольки. Каму штраф, каму адміністрацыйны арышт, каму проста сьляды ад паліцэйскіх дубінак. Справы

распачынаюцца толькі ў выпадку, калі мелі месца забойствы і выключна супраць тых, хто забіваў. Чаму так адбываецца? Дзьве прычыны — палітычная і юрыдычная.

### Забурэньні — гэта таксама палітычны працэс

Палітычная палягае ў тым, што ў грамадзтвах, якія называюцца цывілізаванымі, разумеюць, што за ўдзельнікамі такіх эксцэсаў — насамрэч тысячы і дзясяткі тысячаў іх аднадумцаў, што разглядаць іх як звычайных хуліганаў — гэта дэманстраваць значнай частцы грамадзтва, што яна ў сваёй краіне ніхто і завуць яе ніяк. Падобныя эксцэсы — гэта таксама палітычны працэс, любая ўлада іх падаўляе, але далёка ня кожная выкарыстоўвае іх як нагоду, каб распачаць «халодную» грамадзянскую вайну. Прычым, гэта тычыцца ня толькі забурэньняў зь відавочнай палітычнай падбіўкай. Масавыя бойкі футбольных фанаў — звыклая эўрапейская практыка, паліцыі пры гэтым нярэдка таксама дастаецца. Але калі няма забітых, каго пры гэтым саджаюць у турму на гады? Ні-ко-га.

### Стрэл зь вёскі

Другі чыньнік, чаму падобныя справы ніколі не даводзяць да крымінальнага перасьледу — тэхнічна-юрыдычны, які, дарэчы, яскрава бачны на працэсах па справе 19 сьнежня. Калі падзеі маюць масавы і хаатычны характар, даволі цяжка вызначыць вінаватых у тых або іншых канкрэтных дзеяньнях. Не, зразумела, рэкорды беларускага сьледзтва недасягальныя: наконт усіх (!) асобаў, якія дагэтуль паўсталі перад судом за 19-га, не было

даказана, што яны зьбівалі міліцыянтаў, білі шыбы і ламалі дзьверы ў Доме ўраду. Маючы ўсе магчымасьці і час для дасьледаваньня, выстаўляць на суд людзей, якія не рабілі дзеяньняў, якія ствараюць склад злачынства — гэта той выпадак, калі, як той казаў, майстэрства не прап'еш. Але гэта і аб'ектыўна складана дасьледаваць.

Што проста — дык гэта выкарыстоўваць канцэпцыю калектыўнай віны. Гэтак жа, як калі па калёне акупацыйных войскаў страляюць зь вёскі — караць усю вёску. У прынцыпе такое лічыцца ваенным злачынствам. Хаця ў акупантаў можа і ня быць часу для дасьледаваньня, а тут час быў, але скарыстаць яго, каб даказаць, што «стралялі» менавіта гэтыя асобы, не атрымалася, і асудзілі без усялякіх доказаў: бо ж з гэтай вёскі стралялі — чаго тут яшчэ даказваць?

## «Жывей за ўсіх жывых»

Пра абсалютную адвольнасьць трактоўкі падзеяў 19 сьнежня сьведчаць і мяккія прысуды расейцам А. Брэўсу і І. Гапонаву, і цяперашняя раптоўная перакваліфікацыя падзеяў на Плошчы для некаторых фігурантаў з «масавых беспарадкаў» на «дзеяньні, якія груба парушаюць грамадзкі парадак». Зразумела, гэтую перакваліфікацыю можна толькі вітаць, здаецца, менавіта гэтыя тры месяцы дакладна паказалі цану прынцыпу «чым горш — тым лепш». Але адвольная зьмена кваліфікацыі дэманструе адвольнасьць і папярэдняй кваліфікацыі і ўсёй справы наагул — закон там і не начаваў, а начавала расправа з палітычнымі апанэнтамі, паводле ленінскай формулы «трэба менавіта цяпер правучыць гэтую публіку так, каб на некалькі

дзясяткаў гадоў ні пра які супрацiў яны ня сьмелі і думаць». І ня столькі можа нават гэтую. А тую, якая каля абменьнікаў мацюгаецца, якая ліхаманкава купляе іншамаркі. Вось яе і правучваюць справай 19 сьнежня.

## Хто меў рацыю?

**На працягу крызіснага 2011 году не было колькі-небудзь значных сацыяльных пратэстаў. Магчыма, часткова гэта сапраўды тлумачылася страхам, які ўлада здолела насадзіць жорсткім разгонам Плошчы-2010 і наступнымі рэпрэсіямі. Падчас усіх працэсаў у справе 19 сьнежня 2010 году не было дадзена ніводнага доказу таго, што нейкі канкрэтны маніфэстант ужываў гвалт адносна нейкага прадстаўніка праваахоўных органаў.**

**13.04.2011**

## Ганібал Лектар і «кіраўскі паток»

Калі здараюцца падзеі кшталту выбуху ў менскім мэтро, людзі шукаюць прычыны, сувымерныя маштабу трагедыі. У сьвядомасьць не ўмяшчаецца, што забойства мноства невінаватых людзей можа ня мець грамадзка-значнай, хай і абсалютна выродліва інтэрпрэтаванай мэты. Адсюль і меркаваныя выканаўцы — улада, апазыцыя, міжнародны тэрарыстычны інтэрнацыянал, словам, сілы, якія такія мэты могуць перад сабой ставіць.

Але такая сувымернасьць насамрэч неабавязковая. Джон Гінклі страляў у прэзыдэнта Рэйгана і сапраўды проста для таго, каб спадабацца дзяўчыне, якая адхіліла ягоныя заляцаньні. Тэадор Качынскі, які атрымаў мянушку «Унабомбэр», гадамі рассылаў бомбы ва ўнівэрсытэты, каб «прыцягнуць увагу да зьмяншэньня чалавечай свабоды з-за сучасных тэхналёгій».

Нарэшце існуюць даволі пераканаўчыя доказы таго, што забойства савецкага партыйнага лідэра Сяргея Кірава было не правакацыяй Сталіна, а банальнай помстай падманутага мужа каханку жонкі.

Жыцьцё больш складанае, чым прыгожыя схемы, якія яго тлумачаць. У артыкуле, прысьвечаным выбуху 3 ліпеня 2008 году, я пісаў: «Але што рабіць з усясьветным хаосам, які прымае аблічча звычайнага чалавека, якому чамусьці дастаўляе асалоду проста адчуваць, што лёсы дзясяткаў і соцень людзей — пад ягоным пальцам на маленечкай кнопачцы прылады дыстанцыйнага кіраваньня?»

Але зусім іншая справа — як інтэрпрэтуюцца, выкарыстоўваюцца тыя або іншыя падзеі, незалежна ад іх прычынаў.

Забойства Кірава стала пачаткам шырокамаштабнага «паляваньня на вядзьмарак», «кіраўскага патоку» арыштаў і расстрэлаў, генэральнай рэпэтыцыяй 1937 году. І па сутнасьці ня мае значэньня сапраўдная прычына яго забойства — мае значэньне інтэрпрэтацыя, якую дала яму тагачасная ўлада — змова апазыцыі, якая перайшла да прамога тэрору.

Усе гэтыя думкі і гістарычныя аналёгіі прыйшлі ў галаву цяпер, пасьля заявы прэзыдэнта пра тое,

што справа тэракту 11 красавіка раскрытая. Добра, калі гэта сапраўды так, яшчэ лепш, калі сапраўды забойца ці забойцы 11 красавіка датычныя і да справаў выбуху 3 ліпеня 2008 году, і выбухаў у Віцебску. Тэрарыст, масавы забойца — вораг грамадзтва як такога, і ў тым, каб ён панёс заслужанае пакараньне, зацікаўленыя ўсе, незалежна ад палітычных поглядаў.

Ёсьць аднак пэўны сумнеў, ці затрыманыя асобы — сапраўдныя вінаватыя. Па справе выбухаў у Віцебску нібыта вінаватых таксама знайшлі, а потым высьветлілася, што ня тых, а прызнаньні зь іх проста выбівалі. Тое, што вядома пра праваахоўныя органы і што стала вядома цяпер, на жаль, не выключае, што і ў справе 11 красавіка адбылося нешта падобнае. Асабліва зьдзіўляе, што затрыманыя так удала прызналіся ва ўсіх «вісяках». Дзіўна, што ў арганізацыі валютнага крызісу яны пакуль не прызналіся, пра сувязь тэрактаў зь якім ужо ўсё патлумачылі спадары Мусіенка і Давыдзька.

Але можа і сапраўды знайшлі. І ключавы момант тут — відэасачэньне, якое ёсьць у мэтро. Дзякуючы гэтаму выканаўцаў падобных тэрактаў даволі хутка знаходзілі і ў Маскве, і ў Лёндане.

І словы, сказаныя Лукашэнкам пра затрыманых — «у гэтых нягоднікаў ёсьць адхіленьні, і іх трэба было бачыць», і сьведчаньні, якія распаўсюдзілі агенцтвы са спасылкай на крыніцы сьледзтва, хутчэй пацьвярджаюць вэрсію Унабомбэра ці, як кажуць самі гэтыя крыніцы, Ганібала Лектара — героя кінастужкі «Маўчаньне ягнят», якому проста прыносілі задавальненьне пакуты людзей.

Але ў прамове А.Лукашэнкі выразна паўсталі контуры менавіта мэханізму «кіраўскага патоку» —

дапытаць апазыцыянэраў: «Можа, гэтыя дзеячы ад «пятай калёны» раскрыюць карты і пакажуць, хто замовіў». А чаму не раварыстаў, чаму не банкіраў, чаму не чыноўнікаў? Ну, зразумела чаму. Што б ні адбывалася — ва ўсім апазыцыя вінаватая, прынамсі падазроная.

Варта сказаць, што такі аўтаматызм ацэнак уласьцівы і другому боку — тое, што гэта менавіта ўлада і ніхто іншы, што нават і варыянты іншыя шукаць ня трэба, многія казалі ўжо ўвечары 11 красавіка.

У чым улада безумоўна вінаватая, дык гэта ў расколе грамадзтва, ва ўсталяваньні атмасфэры «халоднай грамадзянскай вайны», калі бакі палітычнага супрацьстаяньня дэманізуюць адзін аднаго. Калі б улада не пераступала праз прынцыпы грамадзянскага міру, нямногія западозрылі б яе ў здольнасьці пераступіць і яшчэ адну мяжу — масавае забойства нявінных людзей у палітычных мэтах.

Магчыма, што нават калі высьветліцца, што выканаўца тэракту — вар'ят-адзіночка, гэта ня спыніць мэханізм «кіраўскага патоку». Карціна сьвету мацнейшая за факты. Улада будзе шукаць тых, хто стаіць за сьпінай вар'ята, хто мог скарыстаць яго вар'яцтва. І зразумела, хто гэта будзе. Тут ня толькі палітычны разьлік, а пэўнае сьветабачаньне: увесь сьвет — палітыка, і ўсё ад палітыкі. Яскрава прадэманстравалі ўзоры такога сьветапогляду прадстаўнікі ўлады спадары Мусіенка, Давыдзька і Гумінскі ў сваіх камэнтарах з нагоды тэракту, зваліўшы ў адну кучу і тэракт, і 19 сьнежня, і валютны крызіс. І калі хочацца абавязкова знайсьці

нейкіх лялькаводаў, дык безумоўна знойдуць. Ці прызначаць.

Ну а з другога боку, таксама ня будзе веры ў тое, што гэта зрабіў вар'ят-адзіночка. Зразумела ж хто, больш жа і няма каму.

І можна спытаць, ці адзіны вар'ят той, хто ўчыніў выбух 11 красавіка?

## Хто меў рацыю?

**Варта адзначыць, што ўлада, нягледзячы на першапачатковыя намёкі і пагрозы, ня стала разьвіваць гэтую лінію і прыцягваць прадстаўнікоў апазыцыі і незалежнага грамадзтва да адказнасьці ў якасьці арганізатараў ці замоўнікаў тэракту. Ня выключана, што прычына палягала ў нежаданьні канчаткова і незваротна сапсаваць адносіны з Захадам, магчыма, у тым, што ў грамадзтве такой вэрсіі было б дадзена мала веры. Афіцыйная вэрсія, паводле якой вінаватымі ў злачынстве былі толькі У. Кавалёў і Д. Канавалаў, спарадзіла шырока распаўсюджаныя сумневы, дасьледаваньне справы і прысуд выявілі крызіс даверу да ўлады і адсутнасьць грамадзянскай салідарнасьці паміж беларусамі з рознымі палітычнымі поглядамі.**

**28.06.2011**

## Пратэй Zimovsky

Так, той самы, які гадамі быў галоўным рупарам рэжыму, адзін зь ягоных слупоў, старшыня Белтэлерадыёкампаніі, сэнатар і іншае, і іншае.

Яшчэ пасьля сьнежаньскіх выбараў у тэлеперадачы на расейскім тэлеканале ён бравіраваў сваім цынізмам, брудна і зьняважліва выказваючыся пра ўдзельнікаў маніфэстацыі 19 сьнежня. Тады вядучы перадачы Павал Селін спытаўся ў яго, ці не давядзецца і спадару Зімоўскаму праз кароткі час, як і многім іншым апальным чыноўнікам, атабарыцца ў Расеі.

Як у ваду глядзеў. Не прайшло і паўгода — Зімоўскага з пасады зьнялі, прычым зьнялі, гледзячы па ўсім, зьняважліва, ён жыве і працуе ў Піцеры (як Скарына:) ), ну і завёў сабе сайт, дзе, як той казаў, адцягваецца па поўнай. Стылістыка пазнавальная, якой сп. Зімоўскі вызначаўся і на БТ у гады праграмы «Рэзананс», і ў сваім блогу ў «Беларускіх навінах», які вёў апошнія гады. Але цяпер ужо без эўфэмізмаў, з мацярком. «У мяне не кампрамат, а мат», — кажа былы «ахраніцельны» журналіст.

Брыдка? Ну так. Але таленавіта, а галоўнае эфэктыўна. У «Беларускіх навінах», рэсурсе зусім не афіцыёзным, блогі Зімоўскага былі самымі папулярнымі.

Я тут нават не пра крутыя павароты лёсу былога галоўнага тэлекілера краіны, а пра тыпаж. Дарэчы, і ў цяперашніх сьцёбных пастах Зімоўскага, напрыклад, у зьедлівым камэнтары, як варта было б інфармацыйна ўпакоўваць крызіс, праглядаецца, што ён не зьмяніўся і зусім не пачаў барацьбу

з рэжымам, часткай якога быў, не на жыцьцё, а на сьмерць. Не, і тое было гульня, і цяпер гульня. Прапануюць што-небудзь цікавае, смачнае, вернецца, ізноў надзене маску «ахраніцеля». Ну а не — дык і далей будзе насіць маску сьцёбнага разбуральніка.

Так, разбуральніка, можа нават насуперак сваёй волі. Бо шмат для каго, у тым ліку і з намэнклятуры, менавіта Зімоўскі, як і было сказана, гадамі быў тварам ідэалёгіі і прапаганды. І калі ўжо ён зьдзекуецца з таго, чаму служыў, то відаць і сапраўды падгніла нешта ў дацкім каралеўстве.

А які ён без набору масак, які насамрэч? Мяркую, што наш герой шчыра б парагатаў над такім пытаньнем. Ды ніякі. І ўсялякі, любы. Славалюбства, цынізм, талент — гэта сваё, уласнае, а ўсё астатняе — толькі маскі. Як старажытнагрэцкі бог Пратэй, які мог прымаць любыя формы.

Эвалюцыя Аляксандра Зімоўскага — магчымы сцэнар пераменаў у Беларусі. Зьменіцца расклад, прамахнецца Акела, і тысячы айчынных пратэяў імгненна памяняюць маскі на іншыя. І на крыўду таго Акелы, на горкія словы пра здраду адкажуць ці зьедлівым сьцёбам у стылі Зімоўскага, ці шчырым зьдзіўленьнем — а ў чым справа, у чым праблема, раней такі быў час, а цяпер іншы, жыцьцё. Tempora mutantur et nos mutamur in illis (мяняецца час і мы мяняемся разам зь ім), як казалі старажытныя рымляне.

І ня згубяцца гэтыя пратэі і ў новым жыцьці. Калі ня стануць, дакладней, не застануцца яго гаспадарамі.

## Камэнтары:

**прохараў, менск**: Дзякуй спадар Дракахруст ўсё вельмі трапна і да часу. Вось я не мог зразумець, чаму ў мяне не выклікае эйфарыі перафарбоўка Зімоўскага. А і то праўда, ня згубяцца яны, гэткія прыстасаванцы. Таму трэба нагадваць, пра сапраўднае аблічча гэтых цынікаў, бо 17 год напрацягу якіх яны будавалі свае «прыўладные кар'еры», апынуліся для Беларусі страчаным часам.
А асабіста ў мяне да «зімоўскіх» няма нічога акрамя нянавісьці і агіды.
**Ананім**: «Таленавіта» ?
А ў чым талент?
Брыдота адна.

## Хто меў рацыю?

**А. Зімоўскі ўладкаваўся палітычным кансультантам у Расеі, пісаць пра Беларусь стаў радзей, фактычна спыніў супрацоўніцтва зь незалежным беларускім інтэрнэт-выданьнем «Беларускія навіны», дзе яго блогі былі аднымі з самых папулярных. Ня выключана, што яго даволі крытычныя тэксты адносна беларускага чынавенства (але не самога прэзыдэнта) былі своеасаблівай спробай даказаць сваю карыснасьць уладзе. Але прапанова не была пачутая. Аднак наўрад ці ў свой час самы знакаміты прапагандыст рэжыму спыніў усе сувязі з Радзімай: ён не вярнуўся ва ўладу, не пайшоў у апазыцыю і, магчыма, чакае зручнага моманту, каб вярнуцца ў беларускую палітыку.**

**14.11.2011**

## Міхаіл Мясьнiковiч як люстэрка беларускай рэвалюцыі

У ацэнках некаторых падзеяў галоўнае — правільны ракурс погляду. Здаецца, што да гэтага шэрагу належаць і «паўстаньне ўраду» супраць прэзыдэнцкай адміністрацыі, і разнос, учынены Лукашэнкам урадоўцам.

Тут той выпадак, калі веданьне дэталяў насамрэч замінае разуменьню. Дасьведчаныя людзі кажуць пра асабістыя і функцыянальныя супярэчнасьці паміж прэм'ерам Міхаілам Мясьніковічам і прэзыдэнцкім дарадцам Сяргеем Ткачовым. Цалкам магчыма, што такія сапраўды ёсьць, але раней падобныя «бойкі пад дываном» ніколі з-пад дывана не выходзілі. Канстанцін Міхееў у нядаўнім «Праскім акцэнце» прыгадаў, што ўсе ўдалыя рэвалюцыі ці наагул кардынальныя перамены заўсёды суправаджаліся расколамі ўнутры ўладнай эліты. І зразумела, што часам (калі не пераважна) матывам гэтых расколаў была банальная прага ўлады.

Ёсьць гордая пазыцыя, паводле якой «чума на абодва вашы дамы», абодва бакі — лукашысты, брыдкія і гадкія. Не без таго, але, скажам, Хрушчоў і Берыя ў момант іх канфлікту абодва былі сталіністамі, а Дэн Сяопін і «банда чатырох» — маоістамі. Дый і Гарбачоў, пачынаючы перабудову, быў яшчэ прававерным камуністам, як і яго апанэнты. Але ці можна сказаць, што прыгаданыя канфлікты ня мелі ніякага значэньня для наступнага разьвіцьця падзеяў у СССР і ў КНР? Самая наяўнасьць гэтых

канфліктаў была больш значнай, чым ступень грэшнасьці і нават матывы бакоў.

Да таго ж ацэнка іх залежыць ад часу. Спрэчкі ў палітбюро ў 1990-91 гадах былі ўжо прынамсі не адзіным фактарам, які вызначаў працэс — ужо існавалі і дзейнічалі іншыя грамадзкія і палітычныя сілы. Але ў 1986-87 гадах ад гэтых спрэчак і канфліктаў, ад вынікаў сутыкненьня паміж Гарбачовым і Лігачовым залежала значна больш, калі ня ўсё. У якой аналягічнай кропцы гісторыі знаходзіцца сучасная Беларусь — мяркуйце самі.

Гэта, дарэчы, дзіўны аспэкт сытуацыі. Як той казаў, нічога ж, здаецца, «не предвещало», народ і сапраўды ніякай схільнасьці да масавага пратэсту не дэманструе (пра прычыны можна спрачацца, галоўнае, што не дэманструе), самая вострая фаза эканамічнага крызісу, здаецца, пройдзеная. І раптам такі ўнутрыапаратны выбух.

Тут прыгадваецца думка расейскага палітоляга Дзьмітрыя Фурмана, што падчас пугачоўскага бунту, які стаў выклікам і ўзрушэньнем для Расейскай імпэрыі, эліта ня мела ніякіх сумневаў у легітымнасьці існага парадку. Але ўжо ў 1848 годзе першай рэакцыяй праўнука Кацярыны II Мікалая I на тагачасную «вясну народаў», на каскад рэвалюцый, які ахапіў усю Эўропу, было: «Трэба скасоўваць прыгон». Чаму, з чаго? Нічога ж падобнага ў Расейскай імпэрыі не адбывалася, дый сацыяльная і палітычная прырода краіны была зусім іншай, чым у ахопленых полымем рэвалюцыі краін Эўропы. А вось нешта, зь нечага, у паветры нешта лунала — нейкае адчуваньне, што трэба нешта мяняць, што па-ранейшаму жыць нельга.

Праўда, у цяперашняй Беларусі гэтага пакуль публічна ня кажа першая асоба. Але хто кажа? Патрыярх намэнклятуры, звышасьцярожны доўгажыхар аўтарытарнай сыстэмы, здольны праходзіць сухім паміж струменямі дажджу. А хто такія Румас, Снапкоў, Ярашэнка? Што яны — з апазыцыі, з вулічных мітынгаў ва ўладу прыйшлі? Ды не — плоць ад плоці гэтай, лукашэнкаўскай сыстэмы. І хто іх прызначаў? Ды Лукашэнка сваёй неабмежаванай воляй. Мог бы прызначыць іншых, не паўстаў бы народ. А прызначыў гэтых. А яны...

І чым скончыўся для ўрадавых «рэвалюцыянэраў» «бунт на караблі»? Нічым. Выпрабавальным тэрмінам да 9 траўня — Дня перамогі. Так і карціць спытаць у гэтым кантэксьце — чыёй?

Дык значыць або ўсеўладзьдзе не такое ўсеўладнае, ужо абмежаванае прынамсі аб’ектыўнымі ўмовамі (напрыклад, тым, што іншых няма). Або абмежаванае тым, што і ў самога архітэктара «беларускага цуду» ў галаве стукае — трэба нешта мяняць.

Надзвычай цікавая расейская рэакцыя на гэтыя беларускія ўладныя дзівосы. Бадай што ўпершыню па такім пытаньні выказаўся расейскі пасол Аляксандар Сурыкаў, сказаўшы, што «ўрад, яго маладое крыло, занадта захапіліся шокавай тэрапіяй, гэта чыста гайдараўскія мэтады». Шчыраваньні пасла гучалі асабліва дзіўна на фоне заявы, якую ў той самы дзень зрабіў прэзыдэнт Расеі Дзьмітры Мядзьведзеў: «Давайце паглядзім, што ў нашых суседзяў адбываецца, у нашых блізкіх суседзяў, сяброў-беларусаў: у іх 100% інфляцыя. Чаму? Таму што трэба своечасова рэформы рабіць». Дык трэба

ці ня трэба? А калі трэба, то ці варта вуснамі пасла аблайваць тых, хто якраз іх і спрабуе рабіць?

Можа быць, у Маскве правая рука ня ведае, што робіць левая, і ў спадара пасла проста спрацаваў рэфлекс «крэпкага гаспадарніка», для якога, як і для многіх расейцаў, «гайдараўцы» — сымбаль і прычына ўсякага ліха. Ірвануў пасольскую кашулю на грудзях і ўрэзаў праўду-матку. Але ня выключаная і больш тонкая гульня — своеасаблівая «апэрацыя прыкрыцьця». Падазронасьць, барацьба з рознымі «рукамі», што Вашынгтону, што Варшавы, а Масквы бадай што найперш — асноўная рыса кіраўніка Беларусі. І добрае слова на адрас беларускіх урадавых «младатуркаў» з вуснаў расейскага пасла было б насамрэч цьвіком у іх кар'ерную і палітычную труну. А так Аляксандар Рыгоравіч даў ім у косьці, а расейскі пасол яшчэ дадаў. А прэзыдэнт Мядзьведзеў пра рэформы наагул сказаў, абстрактна, яны ж розныя бываюць. «Рукі Масквы» ніякай няма, падазрэньні да простага рашэньня не падштурхоўваюць.

Так, канфлікт ураду з адміністрацыяй прэзыдэнта ня варта перабольшваць, казаць, што гэта пачатак канца, што заўтра «бацькі» «рынкавай эканомікі Мясьніковіча-Румаса» на чале рэвалюцыйных масаў будуць штурмаваць прэзыдэнцкі палац, яўна ранавата. Таго хутчэй за ўсё і ня будзе ніколі. І Мясьніковіч — не сама беларуская рэвалюцыя, а яе люстэрка. Гэта проста прыкмета, чыньнік, і, магчыма, не апошні.

Вось прачытае Лукашэнка гэтыя мае недарэчныя развагі (ці ня толькі іх), захоча даказаць, што ён усё яшчэ гаспадар у Беларусі і пазвальняе ўсіх

гэтых «гора-рэфарматараў», стваральнікаў «рынкавых выкрунтасаў». Цалкам магчыма. Толькі ня ў іх справа. А ў ціхім, а часам, як бачым, нават і гучным «так жыць нельга», якое ўжо гучыць ня толькі на кухнях, у мэтро, у курылках і крамах, але пратачылася і ва ўладныя кабінэты. Як яго хаця б адтуль вывесьці?

Калі яно зьявілася, то ў пэўным сэнсе ўсе рашэньні рызыкоўныя. Франка вось у свой час крута зьмяніў курс эканамічнай палітыкі, паклікаўшы для рэформаў тэхнакратаў з Opus Dei — тагачасных гішпанскіх румасаў і снапковых. Ну і ўратаваў рэжым, памёр спакойна ў сваім ложку, пры сваёй пасадзе каўдыльё. Хаця рэформы маладой каманды і там былі балючыя, зьвязаныя са зьменай прыроды сацыяльнай падтрымкі рэжыму. Лібэралізм — гэта наагул не раздача мядовых пернікаў.

Хоць, зразумела, ёсьць спакуса нічога не мяняць, з пэўнага пункту гледжаньня гэта нават самае разумнае. Але насамрэч і гэта нічога не гарантуе. А часам наўпрост вядзе да раптоўнага выбуху, які хавае рэжым цалкам — з усімі яго «галубамі» і «ястрабамі», лібэраламі і кансэрватарамі.

## Камэнтары:

**Мікалай, Гродна**: Усё гэта вельмі абстрактныя і умоўныя разважанні. Можа быць так, а можа і наадварот. Адно магу сказаць са 100%-най упэўненасцю: Лука за 17 гадоў кіравання даказаў свае маладушша і баязлівасць. Ён увесь час абараняецца аб патэнцыйнай небяспекі (апазіцыі, Захаду, незалежных прафсаюзаў, прадпрымальнікаў, працоўных і.г.д.) Не пойдзе ён шляхам Франка, пабаіцца. Ды і рынкавай эканоміцы ён не давярае, не разумее яе.

Біць дубінай па галаве, забараняць, не дапушчаць — гэта больш надзейна.
**Sefef**: Вообще непонятно, что за размышлялки такие. Такое ощущение автор начитался старых советских газет со свалки... Неинтересно совершенно, занудно, нету мысли, извините, это желтая пресса какая-то.
**Ананім**: он еще и исторические книги читал, чего и вам желаю
**Алесь**: Давайце не будзем параўноўваць Лукашэнку — атэіста і беларусафоба, з Франка — хрысьціянам і гішпанскім патрыётам.
Прырода гэтых рэжымаў абсалютна розная.

## Хто меў рацыю?

**У 2012 годзе «злы геній» беларускай эканамічнай палітыкі Сяргей Ткачоў пазбавіўся сваёй пасады. Аднак і многія спробы лібэральных пераўтварэньняў, ініцыяваных лібэральным крылом ураду, былі спыненыя ці прыпыненыя. Але пры гэтым, нягледзячы на вострую крытыку з боку прэзыдэнта на адрас урадавых лібэралаў, ніхто зь іх не пазбавіўся пасадаў. У пэўным сэнсе сытуацыю можна ахарактарызаваць як нічыю, як захаваньне пэўнага балянсу.**

**27.06.2012**

## Пераемнік Коля

Сэнсацыя — Аляксандар Лукашэнка падчас візыту ў Вэнэсуэлу намякнуў, што разглядае свайго малодшага сына Мікалая як пераемніка на прэзыдэнцкай пасадзе. На самой справе ніякай сэн-

сацыі няма, ці, дакладней, гэтай сэнсацыі гадоў так пяць.

У красавіку 2007 году на вялікай прэсавай канфэрэнцыі кіраўнік дзяржавы, адказваючы на пытаньне рэдактара «Народнай волі» Іосіфа Сярэдзіча, сказаў:

«Самага малодшага буду рыхтаваць у пераемнікі. Унікальны чалавек. Можа, мы не дачакаемся, але іншыя пакаленьні беларусаў дачакаюцца».

І праз год Лукашэнка паўтарыў, што прэзыдэнтам Беларусі стане яго малодшы сын.

І што новага ў параўнаньні з тымі заявамі было сказана ў Каракасе? Нічога. Тады было сказана нават больш пэўна.

Праўда, казаў і іншае, у пэўным сэнсе адваротнае. Напрыклад, 3 гады таму, у ліпені 2009 году ў інтэрвію аўстрыйскай Die Presse на пытаньне пра Колю-пераемніка Лукашэнка адказаў:

«У нас гэта немагчыма. І калі я гаварыў пра свайго малыша, то гэта быў звычайны жарт. Але журналісты гэта ўспрынялі чамусьці сур’ёзна».

Прасьцей за ўсё сказаць, што шчыры быў, калі казаў пра пераемніка ўсур’ёз, а аўстрыйцу проста дурыў галаву, кажучы тое, што замежнік хацеў пачуць. Але неабавязкова так.

Хутчэй за ўсё гэтыя супярэчлівыя заявы — такія пробныя шары і адначасна вынік унутраных супярэчнасьцяў кіраўніка Беларусі.

Праблема пераемнасьці, спадкаемства — самая складаная і балючая для аўтарытарнай неманархічнай улады. У манархіі прасьцей — мэханізм перадачы ўлады асьвячаны стагодзьдзямі : «кароль памёр, хай жыве кароль». Хоць і там, калі мэханізм псуецца, часам ліюцца рэкі крыві, як тое было, на-

прыклад, падчас вайны Чырвонай і Белай Ружаў у сярэднявечнай Англіі.

Ну дык, здаецца, у чым праблема? Мянялі Канстытуцыю колькі разоў, хіба складана памяняць на манархію? Праблема ў тым, што моц манархіі — у яе традыцыйнасьці, у масавай сьвядомасьці — адвечнасьці: гэта так, бо гэта было так заўсёды. А ня ў хутка, ad hoc, прынятай паперцы.

З другога боку, тое, што думка ўсіх аўтарытарных уладароў схіляецца да перадачы ўлады менавіта сынам, радні, зусім невыпадкова. Гэтыя ўладары ўпарта выпустошваюць ня толькі палітычную, але і грамадзянскую прастору. У выніку ў грамадзтве зьнікаюць ці робяцца вельмі слабымі так званыя «даўгія» сувязі, людзі не давяраюць адно аднаму, пакладаючыся толькі на сваіх, на вузкае кола сяброў і сваяцтва.

Але ж уладары — ня толькі архітэктары, але і частка свайго грамадзтва, яны ж такія самыя. Яны таксама лічаць, што нікому нельга давяраць, што нож у сьпіну ўсадзіць самы блізкі, каму ты паверыў. Сябры? Ну, на ўладным Алімпе з гэтым і пры дэмакратыі праблематычна, а ўжо пры дыктатуры... Застаецца адно: сваё семя, свая кроў. Таксама могуць здрадзіць бацьку і ягонай справе, але ня можа чалавек ужо нікому ня верыць. І вось бачым ужо трэцяга правадыра з дынастыі Кімаў у Паўночнай Карэі, Ілхама Аліева ў Азербайджане, Башара Асада ў Сырыі і многіх іншых. І развагі іх калегаў — Назарбаева, Карымава і ім падобных пра адно: каму зь людзей сваёй крыві перадаць уладу? Прычым, перадаць, каб трывала, каб ня скінулі празь месяц ці праз паўгода. Бо ж сапраўднай манархічнай шматвяковай легітымнасьці няма.

Так што Лукашэнка ў сваіх развагах зусім не ўнікальны ні ў кепскім ні ў добрым сэнсе, звычайны дэспат, заклапочаны звычайнай для дэспатаў праблемай. Абцяжаранай яшчэ і асаблівасьцямі грамадзтва, якім давялося кіраваць. Памятаеце фразу з інтэрвію Die Presse: «У нас гэта немагчыма». Ня тое, што неканстытуцыйна, недэмакратычна ці што ён сам гэтага ня хоча. Дарэчы, у верасьні 2007 году падчас апытаньня НІСЭПД у рэспандэнтаў высьвятлялі, як яны ставяцца да таго, каб пераемнікам А. Лукашэнкі на пасадзе прэзыдэнта праз пэўны час стаў ягоны сын. Станоўча адказалі 16%, адмоўна — 68%, больш за дзьве трацiны. Пры гэтым электаральны рэйтынг самога А. Лукашэнкі ў тым годзе складаў паводле апытаньня НІСЭПД 46%. Гэта значыць, што нават сярод яго прыхільнікаў ідэю перадачы ўлады ад іх куміра ягонаму сыну падтрымліваў толькі прыблізна кожны трэці. Малавата будзе. Праз год, у 2008-м, пытаньне было паўторанае, а лічбы атрымаліся, як укапаныя: за — 16%, супраць 67%.

Ну так, пярэчаньні вядомыя — апытаньні лухта, Лукашэнка ўсім кіруе, усім загадае і ўсё будзе так, як ён хоча. З такім вычварным абагаўленьнем цяжка пагадзіцца і цяпер. Але ж размова не пра цяпер. А пра потым, калі яго ня будзе. А народны настрой — будзе. І прычым вось такі. І настрой уладнай эліты будзе.

Усё ж пляны азіяцкіх уладароў перадаць уладу дзецям маюць больш трывалы грунт у тамтэйшых культурах. Мяне ўразіў нядаўні расповед грузінскага калегі, як сын кіраўніцы нацыянальнага цэнтру іспытаў праваліўся на іспыце ў магістратуру. Дык прэзыдэнт Саакашвілі яе запрасіў і сказаў на ўсю

краіну: «Вы кепская маці, але выдатны чыноўнік — прыклад для ўсіх». Зьвярніце ўвагу на першую частку ўхвалы, крыху іранічную. А крыху і не. Не ўяўляю, дарэчы, такую ўхвалу ў вуснах беларускага прэзыдэнта. Не Лукашэнкі асабіста, а любога. Прэзыдэнт, хай ён будзе сто разоў рэфарматар, як шчыра ён ні жадаў бы зламаць народныя забабоны і традыцыі, ён усё роўна іх дзіця.

Там гэта натуральна, як паветра і шчодрая грузінская зямля: ну зразумела ж, што трэба цягнуць радню, што радня — гэта сьвятое. Іншых паводзінаў людзі не зразумеюць. Дырэктар базы гародніны думае, як перадаць пасаду радні, ну а прэзыдэнт... Як атрымаецца, зразумела, але памкненьне ператварыць уладу ў спадчынную ўспрымаецца публікай арганічна.

На думку многіх расейскіх экспэртаў прычынай тамтэйшага выбуху пратэсту сталі нават ня вынікі студзеньскіх думскіх выбараў (ну так — фальсыфікаваных, але што за дзіва і навіна), а публічнае нахабнае «вяртаньне ўлады» Мядзьведзевым Пуціну на зьезьдзе «Единой России». А, здавалася б, чаму? Улада і яе перадача — гэта ж справа ўлады, а вы, быдла, тут пры чым і што вам да таго? А вось аказалася пры чым і да таго.

Так што неабавязкова Лукашэнка быў зусім ужо няшчырым з аўстрыйскім журналістам, калі казаў «у нас гэта немагчыма». Але і інакш, зь яго пункту гледжаньня, немагчыма. Вось і пакутуе, небарака, над гэтай невырашальнай дылемай.

Так што, мяркую, яшчэ не адзін раз пачуем і намёкі на Колю-пераемніка, і тлумачэньні, што гэта жарт. «Кергуду, бамбарбія... шутка» — як казаў герой «Каўкаскай паланянкі».

## Хто меў рацыю?

**Так і выйшла, пазьней Лукашэнка чарговы раз адмаўляў свае мары ці намеры зрабіць малодшага сына сваім пераемнікам. Пры гэтым кіраўнік дзяржавы працягвае ўсе афіцыйныя візыты рабіць з малодшым сынам, нярэдка ён зьяўляецца на людзях з сынам і ў Беларусі. Не пазбаўленая рацыі вэрсія Валера Карбалевіча наконт таго, што заявы пра будучае прэзыдэнцтва Колі — своеасаблівае пасланьне ўладнай эліце, што як там будзе з Колем — невядома, але вось ужо бацька яго будзе кіраваць да сваёй сьмерці. Хаця ў гэтую схему не зусім упісваюцца і рэгулярныя абвяржэньні плянаў Колевага «ўвацарэньня». Так што ўсё ж падаецца больш імаверным, што падобныя цыклі намёкаў і іх абвяржэньняў — вынік спробаў вырашыць невырашальную дылему пераемнасьці.**

## 05.07.2012

## Плюшавая бомба

Гісторыя з палётам Матыяса Руста паўтарылася ў незалежнай Беларусі. Швэдзкі пілёт прыляцеў у Беларусь, скінуў над Івянцом «дэсант» плюшавых мядзьведзяў з заклікамі за свабоду і адляцеў, не заўважаны магутнай СПА. Ня выключана, што як з палётам Руста, плюшавы дэсант — своеасаблівае «мэнэ, тэкэл, фарэс» для беларускай сыстэмы.

Найперш, варта парадавацца за лётчыка — досьвед паветраных шароў, зьбітых над Беларусьсю ў

1995 годзе, нагадвае, што тут жартаваць ня любяць. Вось у гэтым, дарэчы, і ўся справа. Калі засяродзіцца толькі на бачным зьмесьце, то гэта такі постмадэрнісцкі жарт — закідаем дыктатуру цацкамі. Што б зрабіла ўлада, не настолькі загіпнатызаваная адчуваньнем сваёй мэгаляманічнай велічы і бясхібнасьці? Найперш адразу ж прызнала б факт, інцыдэнт. А па-другое ці нават па-першае — пасьмяялася б над па-хлапечы сьмелым палётам. І ўсё.

Але гэта была б ужо іншая ўлада. І чым больш будзе хлусьні і спробаў схаваць факт, што самалёцік-такі прашляпілі, чым больш будуць надзімаць шчокі важныя начальнікі ў пагонах і бязь іх, чым гучней будзе гучаць балбатня пра спэцапэрацыю заходніх спэцслужбаў, пра агрэсію, тым больш гучным будзе рогат у адказ у Беларусі і ва ўсім сьвеце.

Гэта тое, што экспэрты называюць «камбінаторнай зброяй», пра што ўжо даводзілася пісаць: справа ня ў першасным удары (ды і які ўдар? — цацкі скінулі), а ў тым, што рэагуючы на яго, сыстэма, дзейнічаючы па сваіх унутраных альгарытмах, працуе на самадыскрэдытацыю ці нават самазьнішчэньне. Бо ня можа інакш.

Яшчэ адзін аспэкт сытуацыі, ужо не зусім гульнявы — гэта сапраўдны ўдар па грозных запэўніваньнях, што мяжа на замку, што тут усялякім патэнцыйным агрэсарам не Ірак і ня Лібія, тут сучасны баявы шчыт, аб які хвалёныя ваякі абломяць свае крыважэрныя іклы. Ну іклы, здаецца, на Беларусь ніхто ня шчэрыць, але на фоне плюшавага дэсанту ўсе гэтыя прыгажосьці ваяўнічай рыторыкі выглядаюць сьмешна.

Прычым, у дурное становішча патрапіла ня толькі ўласна беларуская СПА. Якая, нагадаем, цяпер ужо частка супольнай беларуска-расейскай. Да таго ж ёсьць РЛС у Ганцавічах, цалкам расейскі вайсковы аб’ект, які, па ідэі, і павінен адсочваць гэткія ўварваньні ў паветраную прастору саюзнай дзяржавы Беларусі і Расеі. Ну, вось так адсачылі.

Тут, зразумела, ёсьць і небясьпечны момант. Як той казаў, а калі б ён вёз патроны? Што-небудзь сур’ёзьнейшае за мядзьведзікаў. Мала беларусам выбуху ў мэтро.

Але галоўнае — усё ж ня гэта, гэта больш-менш вядома і зразумела, як пераадольваць. Спрабаваць, прынамсі. У гэтым сэнсе дзеяньні любой дзяржавы — хоць дэмакратычнай, хоць таталітарнай — былі б прыкладна аднолькавымі.

А вось у псыхалягічную пастку дыскрэдытацыі, якую стварыў гэты палёт, беларуская ўлада, так выглядае, будзе заганяць сябе ўсё глыбей, рэагуючы так, як рэагавала на падобныя выклікі заўсёды.

## Камэнтары:

**Юрась**: Вось вам і самая магутная СПА, і новыя комплексы, якія ўжо купілі і яшчэ купяць, і тэрытарыяльная абарона — усё рухнула. Цяпер уся гэта рыторыка будзе выклікаць толькі смех. На сам рэч, гэта моцны ўдар па рэжыму, бо яго вайсковы складнік да гэтуль быў вельмі вялікі. А што цяпер? Як цяпер праводзіць усе гэтыя парады і вайсковыя вучэнні для самазаспакаення, калі ў галаве так ці інакш будзе зноў і зноў паўставаць гэты вобраз прастага аднаматорнага самалёта. А калі «за справу» возьмуцца сапраўдныя прафессіяналы з «ненавіснага» НАТО. Ці ўратуюць нашы

вайскоўцы? Яно то і раней было зразумела, што наўрацці, а цяпер дык і ўвогуле жах нейкі.

**ПРОХОЖИЙ, МИНСК**: Самолетик со Швеции привез не только плюшевых медведиков а обеспечил работой целую толпу писак Юрий . Вот хороший повод побалагурить. Не признают власти Беларуси факт полета — плохо. А шведские власти признают? Это хорошо или плохо ? Если признают, значит прошляпили и нужно наказать воздушных хулиганов, не признают — значит, они соучасники этой провакации. Ну а вы ерничайте, только сначало чуть — чуть почитайте про специфику работы РЛС в Ганцевичах и работы ПВО, особенно с легкомоторными самолетами. Не уверен, что мальчик был, а если б был и сбили? Вот бы залили Юрий все слезами и праведным гневом . Невинные люди, диктатура, случайно залетел, варвары, пилоту стало плохо, и тд. Так что в любом случае повод есть.

**Шведский медведь...**: Шведский медведь... не попавший в десант, но находящийся в готовности на вылет. Ха-ха-ха-ха расскажите нам байки про белого бычка, про РЛС в Ганцевичах, беларуское ПВО и «прохожих» из КГБ. Что, крепка оборона страны только на словах, а на деле всё российское бабло давно уже украли, и теперь пытаетесь нам на уши комитетские макароны вешать? Этаким барабанным боем лозунгов заглушить свой страх и голос разума? Смешно читать! Здесь в Швеции за такое не то что не накажут — на лучшего по профессии выдвинут, чтобы в следующий раз чем-нибудь по тяжелее не промахнуться!

## Хто меў рацыю?

**Так выглядае, што «плюшавы дэсант» ня стаў занадта моцным ударам па беларускай уладнай сыстэме. Пасьля тыдня абвяржэньняў улада прызнала палёт, некалькі высокапастаўленых вайскоўцаў былі зьнятыя з пасадаў. У адрозь-**

**неньне ад досьведу з палётам Руста беларускія ўлады накіравалі свой гнеў на заходнія краіны, у першую чаргу, на Швэцыю, адкуль прыляцелі «мядзьведзяроўшчыкі». Менск адклікаў сваё пасольства ў Стакгольме і прымусіў пасольства Швэцыі пакінуць Беларусь.**

**Нельга сказаць, каб грамадзкая думка ў значнай сваёй частцы апынулася на баку арганізатараў акцыі, паводле апытаньня НІСЭПД, праведзенага ўвосень 2012 году «сьмелым пратэстам супраць парушэньня правоў чалавека» яе назвалі 23% апытаных, «правакацыяй заходніх спэцслужбаў» палічылі 14%, а «дурным учынкам» — 32% рэспандэнтаў.**

**06.11.2012**

## Толькі Сідорскі!

Гэта я да чарговых спробаў пошуку адзінай альтэрнатывы на прэзыдэнцкія выбары 2015 году.

Працэс, як казаў незабыўны Міхаіл Сяргеевіч, пайшоў, напрыклад, палымяныя піліпікі Зянона Пазьняка — менавіта пра гэта і да гэтага.

Але, паклаўшы руку на сэрца, скажыце, ці можна чакаць ад самага ідэальнага выбару ў апазыцыйным коле нечага, адрознага ад таго, што было ў 2006 годзе? Ну быў адзіны — кумір апазыцыйнай публікі. Ці меў ён шанцы перамагчы? Не.

Дый досьвед усіх удалых «каляровых» рэвалюцый на постсавецкай прасторы паказвае, што яны былі нічым іншым, як унутрынамэнклятурным пераваротам, аформленым пад электаральную рэ-

валюцыю. Рэвалюцыі таксама былі, але без расколу эліты не было б нічога і там, былі б свае жахлівыя 7 з паловай хвілінаў, як у Менску 19 сьнежня 2010 году. Што да вызначэньняў, то пад элітай маюцца на ўвазе ня тыя, хто лічыць сябе ёй, а тыя, хто зьяўляецца ёй сацыялягічна — гэта значыць, начальства.

Хто такія былі Юшчанка і Цімашэнка? Былыя прэм'ер і віцэ-прэм'ер Кучмы. Хто такія былі Саакашвілі і Жванія? Былыя міністар юстыцыі і былы генэральны сакратар партыі Шэварднадзэ. Хто такі быў Бакіеў? Былы прэм'ер Акаева. Так і ніяк інакш.

Калі ў 2011 годзе я браў інтэрвію ў Віталя Рымашэўскага, які толькі выйшаў з-за кратаў, то спытаў у яго, на што разьлічвалі лідэры Плошчы-2010 — што АМАП разьбяжыцца, а яго кіраўнік прызнае ўрад нацыянальнага выратаваньня? Вы лічыце мяне дурнем? — спытаў у адказ Рымашэўскі. Не хацелася крыўдзіць чалавека, які толькі выйшаў зь вязніцы, але лічыць дурнямі не выпадала б якраз людзей, якія мелі падставы разьлічваць менавіта на нешта падобнае. Прынамсі ва ўсіх «каляровых» рэвалюцыях яно было дакладна так. Але гэта магчыма пры зусім іншых лідэрах Плошчы. Ці наагул бяз Плошчы.

У электаральным сэнсе самымі ўдалымі выбарамі ў Беларусі ў гэтым стагодзьдзі былі самыя першыя — у 2001 годзе. Можа, постаць спадара Ганчарыка многім падавалася і падаецца маланатхняльнай, але выбары праводзяцца не адно сярод наведнікаў прагрэсіўных сайтаў. А сярод насельніцтва, як гэта ні дзіўна для некаторых, Уладзімер Ганчарык паказаў найлепшы вынік па-

раўнальна ня толькі з кандыдатамі 2010 году, але і з Казуліным і Мілінкевічам у 2006 годзе. Прычым, і паводле афіцыйных зьвестак ЦВК, і паводле апытаньняў незалежных сацыялягічных цэнтраў.

Чаму? Ну таму. Таму што клясычны апазыцыйны электарат прагаласаваў за яго, можа і скрыгочучы зубамі, але прагаласавалі і іншыя, тыя, для каго і Саньнікаў, і Някляеў, і Статкевіч, і Мілінкевіч, і нават Казулін — ня проста не свае, а марсіяне. А Ганчарык — не.

Але затое тады не было Плошчы — скажа крытычны чытач. Так, а потым была. І што прынесла?

А чым кепскі Сідорскі? На час ягонага прэм'ерства прыпалі залатыя дзянькі беларускага prosperity. Дык гэта ж за кошт падступнай «шчодрасьці» імпэрскай Расеі. А гэта — ізноў жа для наведнікаў надта разумных сайтаў. А для электарату — пры ім, значыць, дзякуючы яму. І яшчэ — як Сідорскі сышоў, так крызіс і наваліўся. А пры ім жа не было. Ёсьць яму і што адказаць на пытаньне — а хто ты такі, чым ты займаўся, з чаго вынікае, што здолееш кіраваць? Дык кіраваў ужо. І някепска. Ну і зь сябе не карузьлік нейкі, не інтэлігент у капелюшы.

І з Масквой стасункі кандыдата будуць будавацца ў зусім іншым ракурсе, для Пуціна Сідорскі — зусім ня чорцік з табакеркі. А самае галоўнае — для народа і начальства гэта нешта нармальнае, не катастрафічнае. Сідорскі ўсё зломіць, усіх перарэжа, чыноўнікаў на кол пасадзіць, Захаду ўсё прадасьць? Сьмешна, ды вы на яго паглядзіце: ён і такія жахі — гэта ж несумяшчальна. Усё будзе добра, як пры «бацьку», але значна лепш. І па справядлівасьці.

Можна прыгадаць і тое, што на Плошчу-2010 апазыцыянэры ішлі на перамовы менавіта зь Сідорскім. Мо ён пра тое ня ведаў і нічога такога ня думаў. А мо нешта ведаў і нават думаў. І нават плянаваў. Ішлі ж чамусьці.

Ну і нарэшце нелюбімыя многімі цяпер лічбачкі апытаньняў: паводле закрытага рэйтынгу апошняга апытаньня НІСЭПД, героі мінулай кампаніі Саньнікаў — 6,1%, Някляеў — 5,3%, наш герой Сідорскі — 5%. Сувымерна і як стартавая пазыцыя зусім няблага.

Іншая справа, што можа сам спадар Сідорскі пра такое — ні сном ні духам. І дзякуй мне за гэты опус ня скажа. Як у анэкдоце — Сарачка згодная, засталося ўгаварыць Ракфэлера. І зусім невідавочна, хто тут Сарачка, а хто Ракфэлер.

Хоць і не пра Сідорскага асабіста насамрэч гаворка. А можа Макей, а можа Снапкоў, а можа... Словам, Сідорскі ці хто іншы — але калі зьявіцца такі, постаць такога тыпу, які рызыкне, уступіць у гульню з найвышэйшай стаўкай, то гэта і будзе азначаць, што бурчэньне эліты (яшчэ раз паўтару — рэальнай уладнай эліты існага беларускага грамадзтва) ператварылася, увасобілася ў нешта пэўнае, што беларускае грамадзтва гатовае да пераменаў. А калі ні ён і ніхто іншы такога кшталту не насьмеліцца — значыць, не гатовае і ўсе камбінацыі і перамовы тытульнай апазыцыі будуць мець той самы вынік, што і раней. Пры ўсёй асабістай павазе да шаноўных удзельнікаў гэтых перамоваў.

Патэр Браўн, герой брытанскага парадаксаліста Чэстэртона, казаў: «Значна натуральней паверыць у тое, што за межамі нашага розуму, чым у

тое, што не пераходзіць гэтых межаў, а проста супярэчыць яму. Калі вы скажаце мне, што вялікага Глэдстана *(прэм'ер Вялікабрытаніі ў часы каралевы Вікторыі. — Ю.Д.)* у яго сьмяротную часіну перасьледаваў прывід Парнэла *(адзін зь лідэраў змаганьня за незалежнасьць Ірляндыі. — Ю.Д.)*, я аддам перавагу таму, каб быць агностыкам, і не скажу ні так, ні не. Але калі вы будзеце запэўніваць мяне, што Глэдстан на прыёме ў каралевы Вікторыі ня зьняў капялюш, паляпаў каралеву па сьпіне і прапанаваў ёй цыгару, я буду рашуча пярэчыць. Я не скажу, што гэта немагчыма, я скажу, што гэта неверагодна. Я ўпэўнены ў тым, што гэтага не было, больш цьвёрда, чым у тым, што не было прывіда, бо тут парушаныя законы таго сьвету, які я разумею».

Перамога Сідорскага над Лукашэнкам — немагчымая, гэта цуд. Хаця цуды часам здараюцца. Заднім лікам Віктар Юшчанка ўзору 2004 году выглядае зусім не тытанам, а патрэбным чалавекам у патрэбны час і ў патрэбным месцы. Перамога запіснога апазыцыянэра (любога) над Лукашэнкам — зьява неверагодная, бо яна, як адзначаў мудры патэр, «парушае закону сьвету», у якім мы жывем.

Так што — толькі Сідорскі!

## Камэнтары:

**путнік**: Пакуль у дзейнага тэрмінатара не дрыжаць рукі ні Сідорскі, ні Макей, ні якаясь іншая істота з наменклатуры на гэтае месца нават і не падумае патрапіць. А таму тэма падкінутая Дракахрустам амаль што пустая. Ну, можа трошкі і карысная каб паказытаць нервы у тэрмінатара і

памарыць некаторай частцы сенняшняй правячай эліты Беларусі

**Powala, Minsk**: Выборы в нашем случае не способ, а повод. И Юрий, по большому счету, прав. Кто, по-вашему, может иметь в настоящее время достаточно сил и для свержения диктатора и для удержания после этого власти? Только тот, кто входит в нынешнюю политическую элиту. Кстати, если бы появился первый, пусть и неудачный прецедент, он бы мог послужить первым камнем в лавине.

**Сергей, Минск**: У меня периодически возникает ощущение, что Дракохруст бредит.

Это всё не про Беларусь, протрезвейте и спуститесь на землю.

**Ю-ю, Минск**: Как странно. А у меня стойкое ощущение, что бредит кто-то другой. Причем, не первый год уже. Боюсь, и не последний. Речь не о личности Сидорского, это метафора, речь о том, что в этой стране (как, впрочем, во всех постсоветских) революция, идущая «снизу» невозможна — только «сверху». Господа, ну это же так понятно. Хоть немножко внимания уделите не тирадам оппозиционных политиков (ибо это не более, чем сотрясение воздуха и продажа дождя), а той реальной ситуации, которая сложилась в нашей стране, в иных странах «постсовка» и, наконец, в СССР. Ну неужели опыт ничему не учит? Неужели камлания и вопли перевешивают желание жить в нормальной стране? А для того, чтобы жить в ней, надо прекратить выдавать желаемое за действительное и раскинуть, наконец, мозгами. Или, по крайней мере, прислушаться к серьезной и доказательной аналитике. Спасибо г-ну Дракохрусту, дающему эту возможность.

**Алёна**: А мне спадабалася, як Юрый, у чарговы раз, расказаў нам пра «незалежнае апытанне грамадскай думкі» у нашай краіне і пра гэты «НІПІСІ» . Якому ніхто не верыць.

Юрый малайчына. У яго не было ні аднаго артыкулы ў якім ён бы не нагадаў нам пра гэта «НІПІСІ» .

Думаю, што гэта ад таго, што ў Юрыя вельмі жаласлівае сэрца. Ён заўсёды абараняе тых каму ніхто не верыць.
**Дракахруст, Прага**: Алена, а ніхто ня верыць — гэта сярод каго? Сярод вашых знаёмых? Сярод чальцоў ордэну «бенедзікцінцаў», так шырока прадстаўленых у нашай дыскусіі? Ці сярод 7 мільёнаў дарослых беларусаў? Калі апошняе, то падзяліцеся мэтодыкай, як вы вызначаеце меркаваньне ўсіх гэтых 7 мільёнаў. Ці вы такая камунікабэльная, што яны ўсе паведамляюць вам сваё меркаваньне?
**Ананім**: «Можна прыгадаць і тое, што на Плошчу-2010 апазыцыянэры ішлі на перамовы менавіта зь Сідорскім».

---

Гэта якія такія апазыцыянэры? Гэта тыя самыя, якія праз трэція рукі атрымалі лукоўскія грошы ды пайшлі цугам туды дзе «жалеза ды шкло» на «перамовы зь Сідорскім»? Бач ты! Аказваецца галоўным тады Сідорскі быў! Як надакучыла ўжо гэтая фальш! Фальшывых апазыцыянэраў і фальшывых публіцыстаў!

## Хто меў рацыю?

**Нават за год да выбараў 2015 году сярод патэнцыйных кандыдатаў не зьявілася ніякай постаці, падобнай на постаць умоўнага Сідорскага. Тым ня менш аўтар гэтых радкоў застаецца пры меркаваньні, што толькі фігура такога тыпу магла б разьлічваць на посьпех, і яе зьяўленьне сьведчыла б пра тое, што Беларусь сасьпела да пераменаў.**

# ЛЁГІКА ГРАМАДЗТВА

- Беласьнежка і сем гномаў
- Падарожжа зь віртуалу ў рэал
- Гучнае маўчаньне
- Байкот ці ўдзел: успамін пра будучыню
- Дух часу
- Як плённа прайграць выбары
- Аўдыт замежнай дапамогі як скрыня Пандоры
- Вецер для апазыцыі
- Хто абіраў Майсея?

26.05.2009

## Беласьнежка і сем гномаў

Да прэзыдэнцкіх выбараў яшчэ далёка, а вылучэньне апазыцыйных кандыдатаў ідзе ўжо поўным ходам.

БХД вылучыла сваім кандыдатам Віталя Рымашэўскага адкрыта, у каляпалітычных кулюарах гаворыцца, што зьмена назвы ПКБ — важны ход у перадвыбарчай кампаніі Сяргея Калякіна, Мікола Статкевіч нікому ня кажа, але ўсе здагадваюцца, каго чэрвеньскі кангрэс праэўрапейскіх сілаў, прыняўшы стратэгію Статкевіча, вылучыць кандыдатам. Нарэшце, Аляксандар Мілінкевіч, таксама выступіўшы з ініцыятывай свайго, іншага праэўрапейскага кангрэсу, сьціпла заяўляе, што гэта кангрэс «зусім не пад Мілінкевіча», і сваёй сьціпласьцю нібыта падкрэсьліваючы, што менавіта пад яго. Нават Андрэй Саньнікаў у інтэрвію з упэўненасьцю распавядае, як урад дэмакратычнай Беларусі будзе будаваць адносіны з Расеяй і што будзе рабіць з лукашэнкаўскім чынавенствам. Словам, старт дадзены.

Ці не зарана? Не, усе ведаюць, што да наступных выбараў трэба рыхтавацца на наступны дзень пасьля папярэдніх. Але, па-першае, раней раскачваліся значна пазьней, а па-другое, ізноў жа раней ад пачатку прыдумлялася нейкая схема вылучэньня адзінага кандыдата. Потым гэтыя схемы шмат ра-

зоў карэгаваліся, пасьля выбараў шмат хто (калі ня ўсе) абраную схему вылучэньня ганіў, але і напярэдадні 2001 году, і напярэдадні 2006 году такая схема была.

Цяпер — ніякіх схемаў адзінага. Ці дакладней — кожны сам сабе адзіны. І цікава чаму. Тут сышліся прынамсі тры тыпы фактараў: унутрыапазыцыйныя, агульнаграмадзкія і вонкавыя.

## Заклятыя паплечнікі

Партыям крыху надакучыла роля «шufля» для беспартыйных кандыдатаў, якія выкарыстоўвалі рэсурсы партыяў, каб узьляцець на Алімп беларускай палітыкі і забыць, чым яны партыям абавязаныя. Самі гэтыя кандыдаты — былыя і патэнцыйныя будучыя, таксама ўражаныя здольнасьцю партыяў зьядаць былых супольных кандыдатаў.

У прынцыпе мэтай вылучэньня адзіных магла б быць (акрамя перамогі) і пераканфігурацыя палітычнага поля краіны, набыцьцё апазыцыяй выразнага твару. Памятаю, як у 2001 годзе пасьля выбараў вядомы расейскі палітоляг Глеб Паўлоўскі сказаў, што цяпер прынамсі вядома, да каго зьвяртацца, калі спатрэбіцца даведацца меркаваньне беларускай апазыцыі — да Ўладзімера Ганчарыка. Тады спадар Паўлоўскі відавочна пасьпяшаўся. Пасьля сакавіка 2006 году такую ролю «твару апазыцыі» ў Аляксандра Мілінкевіча так ці інакш (хутчэй інакш) атрымлівалася гуляць больш за год, да кангрэсу дэмсілаў, на якіх партыі яго «извергли из сана». Правільна тады зрабілі ці не — можна спрачацца, але патэнцыйны ненулявы вынік вылучэньня адзінага быў пахаваны менавіта тады.

## Няправільны крызіс

Да агульнаграмадзкіх чыньнікаў варта аднесьці рэакцыю грамадства на эканамічны крызіс і нармалізацыю стасункаў Беларусі з Эўропай. Крызіс, прынамсі пакуль што, абвастрэньня сацыяльнай напружанасьці не спарадзіў, хіба што наадварот — паглыбіў атамізацыю і апатыю грамадства. Заклапочаным уласным выжываньнем людзям не да высокіх палітычных матэрыяў. Што да нармалізацыі стасункаў паміж Брусэлем і Менскам, то гэта, як ні кажы, стала пэўным шокам ня толькі для арганізаванай апазыцыі, але і для апазыцыйнага, дэмакратычнага электарату.

Іншымі словамі, сытуацыя і раней, па шчырасьці, ня надта нагадвала рэвалюцыйную, а цяпер, у разгар крызісу, нагадвае яе яшчэ менш. Магчыма, пакуль што. Але як далей будзе разгортвацца крызіс — дакладна ня ведае ніхто. Не, палітыкі дакладна ведаюць: адны — што ён (вы будзеце сьмяяцца) Беларусь не закране, іншыя — што вось-вось усё абрынецца. Выклікае сумнеў ня толькі сапраўднасьць гэтых мантраў-прагнозаў, але і тое, ці вераць у іх самі аўтары гэтых заклінаньняў.

## Туман «каляровай» пэрспэктывы

Ну і нарэшце — вонкавыя чыньнікі. Цяпер цяжка сказаць, якія практычныя наступствы будзе мець для Беларусі «Ўсходняе партнэрства». Але вельмі імаверна, што адным зь іх будзе адмова Захаду ад прыхільнасьці да сцэнару «каляровых» рэвалюцыяў у шасьці краінах-партнэрах.

Наколькі раней такая прыхільнасьць існавала, наколькі менавіта пазыцыя Захаду была чыньнікам

спробаў іх зрабіць, а наколькі яны былі вынікам унутранага разьвіцьця тых краінаў, дзе яны адбываліся — тут можна доўга спрачацца. Але тое, што, скажам, напярэдадні выбараў і 2001 і 2006 гадоў заходнія палітыкі і дыпляматы публічна выказваліся наконт пажаданасьці адзінага кандыдата апазыцыі ў Беларусі — гэта факт. І тое, што такога кандыдата Аляксандра Мілінкевіча падчас кампаніі 2006 году прымалі ў самых высокіх эўрапейскіх кабінэтах — гэта таксама факт.

А цяпер такіх фактаў, магчыма, і ня будзе. Але ня будзе і парадаў, што някепска было б прыбраць у кішэню амбіцыі і дамовіцца наконт адзінага.

## Кожны за сябе

Ну і якую выснову з сукупнасьці гэтых чыньнікаў могуць зрабіць палітыкі? А тую, што гэтым разам кожны за сябе. Не, тлумачыцца гэта можа вельмі прыгожа, што трэба ўзьняць выразны сьцяг, што кааліцыйная працэдура рабіла адзінымі кампрамісных і таму самых бляклых асобаў і г. д. Але ў подбіўцы — просты разьлік. Што губляецца ў выпадку паразы? Ды нічога. А што набываецца?

Вось на адным інтэрнэт-рэсурсе нейкі наведнік на маю сьціплую заўвагу, што прапанова Мілінкевіча пра кангрэс па меншай меры цікавая, строга адчытаў мяне за ўяўленьне пра Мілінкевіча «як безумоўнага пераможцу, яўнага фаварыта ў дэмакратычным асяродзьдзі, як адзіна рэальную альтэрнатыву Лукашэнку». Зусім няма ў мяне такога ўяўленьня. Проста статус палітыка не вычэрпваецца круглым нулём і безь пяці хвілінаў прэзыдэнтам. Можна быць проста вядомым, уплывовым палітыкам, за якім стаіць больш-менш шырокае кола

ягоных прыхільнікаў. Вось і мэта Мілінкевіча зь ягоным кангрэсам — стаць больш вядомым, больш уплывовым і пашырыць кола сваіх прыхільнікаў. А ў Статкевіча, Рымашэўскага, Калякіна, Саньнікава, і шматлікіх іншых «адзіных», якіх яшчэ ўбачым, калі жывыя будзем, мэта іншая? Хіба? Не, я не пра прамовы з трыбунаў, я пра тое, што яны пра сябе думаюць, робячы так, як яны робяць.

### Чым сэрца супакоіцца

Праўда, вынікам гэтага па-свойму лягічнага выбару сапраўды стане выбарчая канфігурацыя паводле назвы вядомай казкі «Беласьнежка і сем гномаў». «Беласьнежцы»-Лукашэнку не давядзецца нават надта напружвацца, плойма «адзіных» зьесьць сама сябе.

Часам можна пачуць меркаваньне, што электаральны вынік ня можа быць горшым і больш горкім за 2001 і 2006 гады. Чаму ж — можа. 80% за Лукашэнку і па адсотку кожнаму з «гномаў» — і 2001 і 2006 гады пададуцца яскравымі дэманстрацыямі моцы апазыцыі. І вялікіх фальсыфікацыяў не спатрэбіцца. Праўда, і крыўдаваць ня будзе на каго. І на 2015 год назапасіцца надзвычай карысны досьвед.

## Камэнтары:

**Radykal**: Гаварыць увесь час пра мітычныя «электоральныя вынікі» у краіне, дзе ўжо 15 гадоў не было нефальшаваных выбараў з вольным і роўным доступам кандыдатаў да перадвыбарчых рэсурсаў — гэта сьвядомая дзейнасьць на дэмаралізацыю той часткі грамадзтва, якая не прымае лукашызму. 80% за дыктатара — гэта фальш і хлусьня, што зафіксавана міжнароднай супольнасьцяй.

Сьвядома паўтараючы, мусіруючы гэтую хлусьню як неаспрэчную праўду, Дракахруст ужо шмат гадоў даводзіць беларусам, што няма чаго й «рыпацца». Што тычыцца сутнасьці пытаньня, то лічба ці нават пэрсоналіі кандыдатаў ня маюць ніякага значэньня, пакуль не забясьпечаная абсолютна свабодная перадвыбарчая кампанія ды абарона вынікаў ад фальшаваньня.
**Цэнтрыст**: 20-50 чалавек на апошніх акцыях апазіцыі — чым не электаральны вынік? Больш за 10 тысяч у 2мільённым горадзе за апошнія 10 год апазіцыя ніколі не збірала, якія яшчэ доказы 'папулярнасці' патрэбныя?
**Беларускі украïнець, Менск**: На маю думку, спадар Друкахруст не дэмаралізуе беларусаў, а ўжо шмат гадоў безпаспяхова спрабуе пераканаць, што спачатку трэба аб'яднацца, а толькі пасля будуць змены. А ніяк не наадварот, як кажа каментатар Radykal, каб спачатку былі змены заканадаўства, а пасля ўлада сама ў рукі папрасілася. Так не бывае і не будзе!
Толькі ідучы на выбары, нават фальшаваныя, адзіным моцным кулаком, можна чакаць разбурэнне апатыі, недаверу, рост падтрымкі, і у выніку, для прыкладу, вялізарны мітынг, аднадзённы пераход сілавых структураў на бок мітынгавальнікаў і падзенне рэжыму. Ніякія фальсіфікацыі не перашкодзілі бы! Але чакаем, што Лукашэнка стане добранькім, зразумее, як дрэнна нячэсна падлічваць галасы, і сам аддасць уладу...
Што ж, так і будзем чакаць, пакуль калі-небудзь не паразумнеем і не навучымся, у рэшце рэшт, адрозніваць іранічную крытыку стомленага народным глупствам Друкахруста ад міфічных довадаў, што «няма чаго й «рыпацца».
Тлумачу тым, каму не хапіла розуму нават мае тлумачэнні зразумець: рыпацца ёсць чаго! Але толькі не так, як гадамі дагэтуль!
**Serge, Mensk**: «Чаму ж — можа. 80% за Лукашэнку і па адсотку кожнаму з «гномаў» — і 2001 і 2006 гады пададуцца яскравымі дэманстрацыямі моцы апазыцыі.»

---

А чаму вы так ўпэўнены ў гэтым, спадар Дракахруст? А можа наадварот атрымаецца? Гэтыя «гномы» адцягнуць ад лукашэнкаўскага электарату па 5-7%, глядзіш, і другі тур намалюецца. Ну ведаю, ведаю я, як у нас лічаць. А пры «адзіным» што, лічыць будуць па-іншаму? Можа хопіць ужо нам «адзіных», двойчы ўжо наступілі на гэтыя граблі? Беларусь — па духу парляманцкая краіна, хай змагаюцца ўсе хто можа. Лукашэнка вось у 1994 ня быў адзіным, а перамог.

**Drakakhrust**: Serge

Мой прагноз — просты вынік законаў масавай сьвядомасьці. Паводле апытаньняў апазыцыйны электарат складае прыкладна 20-25%. Прыкладна столькі набралі разам ў 1994 годзе Пазьняк і Шушкевіч, паводле незалежных апытаньняў нешта каля гэтай лічбы набраў у 2001 годзе Ганчарык і ў 2006 годзе Казулін і Мілінкевіч. Адзін «адзіны» (ці два «адзіных») здолелі тады змабілізаваць амаль увесь (калі ня ўвесь) апазыцыйны электарат. Але нават яны ня здолелі вырвацца з гэтага «электаральнага гета», прыцягнуць да сябе частку «сярэдзіны», ня кажучы ўжо пра тое, каб перацягнуць на свой бок частку перакананых лукашэнкаўцаў. Эфэкту «сьнежнага камяка» не атрымалася, «адзіны» (адзіныя») і іх электарат(-ы) аказаліся слабымі «магнітамі». Калі ж апазыцыйных кандыдатаў зь вельмі падобнымі праграмамі будзе плойма, гэта дэзарыентуе апазыцыйны электарат. У выніку ён ня толькі расьцярушыцца, ён ня ўвесь і змабілізуецца, і сэгмэнцікі электаратаў кожнага са шматлікіх апазыцыйных кандыдатаў будуць мець яшчэ меншую «магнітную» моц, чым мелі электараты «адзіных» у 1994, 2001 і 2006 гадох.

**Radykal**: «Электорат» нязгодных складае толькі 20%? Цудоўна. Пакажэце мне гэтыя 20% у палатцы. Што, няма? Як так — электорат ёсьць, а выбраных гэтым электоратам няма? Выбары-ж адбываліся, так? Ці не?

Паказальна, што з адказу сп. Дракахруста на комэнтар Serg'а вынікае, што й раней ніякай асаблівай розьніцы, колькі кандыдатаў, не было. Ну, быў адзін Ганчарык замест шасьцёх ганчарыкаў. І што? Толькі пры гэтым сп. Дракахруст мае на ўвазе, што адбываліся выбары, а я ўважаю, што ніякіх выбараў пасьля выбараў ВС 13 скліканьня ў краіне не было.
З пункту гледжаньня здаровага ґлузду ўсе размовы пра «электорат» у краіне бяз выбараў — пустая балталогія без эмпірычнай базы. Ніхто ня ведае, як беларусы галасавалі-б на вольных выбарах, бо ў аўторытарных рэжымах вельмі цяжка рабіць вартыя даверу соцыёлёґічныя дасьледваньні, зьвязаныя з палітыкай. У Польшчы 1989 году вялізная большасьць была за комуністых (паводле сакрэтных соцыёлёґічных апытаньняў для ЦК) — але чамусьці на першых адносна свабодных выбарах усе галасы, якія не былі зарэзэрваваныя для комуністых, узяла «Солідарнасьць».
**Drakakhrust**: Radykal
Не ламіцеся ў адчыненыя дзьверы. Я не казаў, што ў беларускіх умовах электаральная перавага — неабходная і дастатковая ўмова посьпеху. Я казаў, што неабходная. Я ня веру, што купка рашучых малайцоў можа ў сучаснай Беларусі зрабіць тое, што зрабіў Кастра са сваімі байцамі ў 1958 годзе. На што ўплывае маўклівая большасьць — выдатна прадэманстравалі апошнія падзеі ў Малдове. А наконт Польшчы — наўрад ці вынікі тых апытаньняў засталіся сакрэтнымі і дагэтуль. Няцяжка будзе спасылачку прывесьці?

## Хто меў рацыю?

**Прагноз цалкам спраўдзіўся. «Гномаў» аказалася нават больш, чым 7, электаральныя вынікі — надзвычай сьціплымі, прычым ня толькі паводле дадзеных ЦВК, але і паводле незалежных сацыялягічных апытаньняў. Часткова гэтым**

**тлумачацца падзеі ў Менску 19 сьнежня 2010 году, якія Аляксандар Фядута назваў «плошчай адчаю». На жаль, усе пералічаныя ў блогу фактары, якія супрацьдзейнічалі адзінству апазыцыі тады, робяць свой уплыў і цяпер. Выбары 2015 году пагражаюць стаць паўтарэньнем выбараў 2010 году, дай Бог, каб без трагічнага сцэнару Плошчы.**

**15.03.2010**

## Падарожжа зь віртуалу ў рэал

«Першае ў гісторыі Беларусі вылучэньне кандыдата ад вэб-сайту» — гэткі іранічны камэнтар да заявы Андрэя Саньнікава аб намеры балятавацца на прэзыдэнта Беларусі давялося прачытаць днямі. Прычытаць, дарэчы, таксама ў інтэрнэце, ў Фэйсбуку. Зразумела, перабольшаньне, але так выглядае, што і будучая кампанія Саньнікава, і цяперашняя кампанія Яўгена Ліпковіча па выбарах у Менскі гарсавет — сапраўды цікавыя тэсты ня толькі і ня столькі палітычнай сытуацыі ў краіне, колькі ролі новых мэдыяў у беларускім грамадзтве.

Кандыдат ад вэб-сайту — гучыць сьмешна, але а чаму б і не? Паводле лічыльніка «Акавіта», сайт «Хартыі-97» — адзін з самых папулярных: скажам, за апошні тыдзень на яго прыйшло 50 тысяч наведнікаў. Нямногія незалежныя выданьні могуць пахваліцца такімі накладамі. Ну а Ліпковіч — «тысячнік», яго блог у ЖЖ стала наведвае тысяча чалавек, а колькасьць тых, хто яго чытае, перавы-

шае колькасьць сталых фрэндаў у разы. Таксама сувымерна з аўдыторыяй уплывовага СМІ.

Інтэрнэт-СМІ і блогасфэра, дзякуючы іх інтэрактыўнасьці, спараджаюць цікавую ілюзію: здаецца, што чытачы і аўтары камэнтаў, асабліва калі іх дзясяткі і сотні, гэта ўласна ўся Беларусь і ёсьць. Ну ў горшым выпадку Беларусь у мініятуры. Гэта структурная асаблівасьць блогасфэры накладаецца яшчэ і на даволі распаўсюджаную ў беларускім грамадзтве здольнасьць адчуваць сябе ўтульна ў сваім культурным ці інтэлектуальным гета: вось мы і ёсьць Беларусь, мы — прасунутыя, мы — эліта. А астатнія хто? А Бог ведае, бадзяюцца нейкія па нашай зямлі. Але пры вяртаньні на тую самую зямлю гэтыя высакародныя ўяўленьні часам прыносяць іх носьбітам вялікія расчараваньні.

Каб патлумачыць, чаму і як гэта адбываецца, варта зьвярнуцца да тэорыі «двухкрокавай камунікацыі» (two-step flow communication), сфармуляванай яшчэ у 1944 годзе амэрыканскім дасьледчыкам мэдыяў Полам Лазарсфэлдам. Паводле гэтай тэорыі, пераважная большасьць людзей успрымае ідэі ды інфармацыю не наўпрост ад мэдыяў, а праз лідэраў думак. Іншымі словамі, звычайны чалавек ці наагул не зьвяртаецца да каналаў масавай інфармацыі, ці іх паведамленьні для яго на першым этапе ўспрыманьня не нашмат больш значныя, чым шум. Інфармацыяй для чалавека робіцца тое, што яму скажа ці пацьвердзіць з пачутага сусед, калега па працы, прыяцель, які карыстаецца ў вачах чалавека аўтарытэтам, той, хто ведае, як разумець сьвет. Зразумела, гэтыя лідэры думак, тыя, праз якіх інфармацыя фактычна рэтрансьлюецца астатнім, іншым, больш ангажаваныя ў інфармацыйную

прастору. Але гэта толькі неабходная ўмова. Яны яшчэ павінны быць і аўтарытэтнымі, астатнія павінны лічыць іх такімі, павінны быць гатовымі ўспрыняць гэты «другі крок» менавіта ад іх.

І тады нашае пытаньне пра ўплыў інтэрнэту і блогасфэры можна сфармуляваць проста — ці зьяўляюцца іх спажыўцы лідэрамі думак, ці перадаецца, разьлятаецца інфармацыя і ідэі ад іх да астатніх, зь віртуалу ў рэал. І справа тут не ў памерах аўдыторыі, напрыклад, Байнэту, а ў тым, наколькі яна аўтарытэтная, уплывовая для астатняга грамадзтва.

Скажу адразу, што дакладнага адказу ня ведаю. Але даволі часта даводзіцца сутыкацца з сытуацыяй, калі нават адукаваныя людзі ня тое, што не падзяляюць думкі пераважнай большасьці інтэрнаўтаў, а проста ня ведаюць пра прадмет, вакол якога ў віртуальнай прасторы віруюць неабыякія жарсьці. Яна жыве сваім жыцьцём, астатняе грамадзтва — сваім. Не, калі гутарка ідзе пра тое, што гэтае астатняе грамадзтва цікавіць, то двухкрокавая камунікацыя працуе, як тое было, скажам, са «сьвіным грыпам» летась. Тут ужо і лідэры думак лезьлі ў інтэрнэт, каб даведацца, што ж там з грыпам адбываецца, а ад іх ужо інфармацыя разьляталася, як лясны пажар. Але ня факт, што гэта тыя самыя людзі, якія стала «прапісаныя» ў інтэрнэце.

Днямі на сайце «Наше мнение» я прачытаў дыфірамб наконт кампаніі Яўгена Ліпковіча: «На працягу апошняга месяца ўлада, мэдыі і грамадзтва з усё большай напругай і ўвагай назіраюць за шоў хаджэньня ва ўладу аднаго чалавека».

Ілюзія значнасьці інтэрнэт-фэномэнаў у дзеяньні. Ну мэдыі — часткова так. Ну ўлада, як ні пара-

даксальна, таксама часткова так, бо ўлада — яна ж таксама інтэрнаўт, а значыць, нявольнік гэтай няшчаднай ілюзіі. Але вось жа пра грамадзтва паважаны аўтар «Нашего мнения» адкуль даведаўся, пра яго напругу і ўвагу да кампаніі Ліпковіча? Ну зразумела адкуль — з інтэрнэту, адкуль жа яшчэ?

Але вось абвясьціў «каляradзкі зубр» хэпэнінг са спаленьнем кніг Чаргінца, і ...

Не, пра зьмест акцыі я наагул маўчу, гэта трэба ж было прыдумаць хіба не адзіны выкшталцоны ход, які ставіць Чаргінца ў адзін шэраг з Томасам Манам, Гайнрыхам Гайнэ і іншымі волатамі духу, творы якіх у 30-я гады палілі тагачасныя нямецкія постмадэрністы. Колькі ж Чаргінец заплаціў Ліпковічу?

Але тут цікава, што ў хэпэнінгу ўзялі ўдзел, кажуць, 10 чалавек. Вось так: у віртуале — тысячнік, а у рэале...

Андрэй Саньнікаў сваю першую прэсавую канфэрэнцыю таксама правёў для блогераў. Гэта пасьлядоўна. І кампанія, магчыма, там і пройдзе. І перамога там жа і будзе атрыманая.

Чытач, магчыма, падумае, што гэта — антыпіяр супраць шаноўных спадароў Ліпковіча і Саньнікава. Зусім не. Дай ім Бог здароўя і шчасьця. Проста сумнеў маю. Небеспадставаўны, на мой погляд. І ня толькі наконт іх. Я нават рады быў бы памыліцца. Калі пэўна памылюся, абавязкова, як шчыры чалавек, пакаюся.

У інтэрнэце. А дзе ж яшчэ?

## Хто меў рацыю?

**Такі памыліўся. Прынамсі часткова. Што і прызнаю. Трэцяе ці нават другое месца, якое Андрэй Саньнікаў заняў у кампаніі 2010 году, апярэдзіўшы кандыдатаў ад партый — сьведчаньне таго, што інтэрнэт у Беларусі ўсё ж мае пэўнае значэньне. Але адпаведны вынік, прадэманстраваны сп. Саньнікавым, дае дакладнае ўяўленьне пра маштаб гэтага ўплыву — 5-7%.**

**24.06.2011**

## Гучнае маўчаньне

Прыгадваецца анэкдот савецкіх часоў. Чалавека дапытваюць у КДБ. Вы разумееце, што вы зрабілі? — Так, я раскідаў на плошчы ўлёткі. — Але ж гэта аркушы чыстай паперы. — А што пісаць, і так усё зразумела.

Маўклівыя акцыі, якія ініцыявала інтэрнэт-супольнасьць «Рэвалюцыя ў сацыяльных сетках», проста фатаграфічна дакладная пастаноўка гэтага анэкдота.

І колькасьць тых, хто дэманструе па серадах, што ім усё зразумела, павялічваецца раз ад разу.

Праўда, разьлік на тое, што нельга ж хапаць людзей толькі за тое, што яны моўчкі гуляюць па сваім горадзе, калі і быў, то спраўдзіўся не зусім. Хапаюць, і жорстка, і менавіта толькі за тое.

Лукашэнка на сваёй прэсавай канфэрэнцыі агучыў магчымы доўгатэрміновы сцэнар акцыі — каб раз ад разу на яе прыходзіла ўсё больш людзей,

а потым, калі набярэцца крытычная маса — скінуць уладу. Менавіта таму з удзельнікамі маўклівых акцый ужо цяпер абыходзяцца гэтак, як абыходзіліся б з удзельнікамі таго, у што гэтыя акцыі могуць ператварыцца.

Але ў любым выпадку ідэя выдатная. Яе вынікам зьяўляецца хаця б тое, што яна пераадольвае роспач першых месяцаў пасьля выбараў. Зразумела, не апошнюю ролю ў гэтым адыграў востры эканамічны крызіс, але і знойдзеная форма мае значэньне — калі б не яна, невядома, як і калі ўвасобіўся б у дзеяньне патэнцыял незадаволенасьці, якая цяпер ахапіла зусім ня толькі палітычных актывістаў.

Але насуперак перасьцярогам уладаў і чаканьням іх апанэнтаў, не любая ініцыятыва, якая расьце, як сьнежны камяк, здольная вырасьці да тых крытычных памераў, пра якія казаў Аляксандар Лукашэнка.

Беларускія маўклівыя акцыі паводле мэханізму сапраўды падобныя на пачатак сёлетніх падзеяў у Эгіпце, калі ініцыятыва інтэрнэт-суполак ператварылася ў сапраўдную рэвалюцыю. Але ператварылася таму, што першапачатковы імпульс быў падхоплены простым людам, «рэвалюцыя блогераў» перайшла з віртуалу ў рэал, калі да яе далучыліся тыя, хто, можа, інтэрнэту ў жыцьці ня бачыў, калі супалі некалькі сацыяльных імпульсаў.

А вось у Беларусі з гэтым пакуль ня ўсё зразумела. Розныя групы насельніцтва пакуль маюць розныя інтарэсы і да рознага гатовыя. Як вобразна сказаў у інтэрвію «Свабодзе» лідэр руху аўтааматараў «За аўто» Арцём Шаркоў, ёсьць СТА для легкавікоў, ёсьць для МАЗаў, і яны ня могуць замяніць адзін аднаго і не павінны.

Вобраз прыгожы, але калі высілкі авангарду ня будуць падхопленыя асноўнымі сіламі, ён будзе проста разьбіты. У свой час Леў Троцкі называў моладзь барометрам рэвалюцыі. Але барометар — гэта ня сама рэвалюцыя.

Але ў любым выпадку ўзьнікла нешта такое, чаго ў адных ёсьць падставы баяцца, а ў іншых — на што спадзявацца. Справа яшчэ і ў кантэксьце, у крызісе, які зрабіў сытуацыю няўстойлівай у цэлым. Гэта раздарожжа, разьвілка, у ёй нават невялікі штуршок можа незваротна вызначыць траекторыю разьвіцьця падзеяў.

І нават маўчаньне можа быць гучнейшым, чым любыя словы, сказаныя ў іншы час.

## Хто меў рацыю?

**Маніфэстацыі «маўклівых воплескаў» дасягнулі свайго піку на пачатку ліпеня 2011 году, у дзень сьвяткаваньня Дня Незалежнасьці, пасьля чаго пайшлі на спад і ўжо ў жніўні фактычна скончыліся. Сваю справу зрабіла спалучэньне жорсткага здушэньня маніфэстантаў, супрацьдзеяньня, арыштаў і запалохваньня каардынатараў суполкі «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі», нарэшце, барацьба спэцслужбаў з актывістамі ў інтэрнэце. Аднак, як выглядае, акцыі «маўклівых воплескаў» сапраўды дапамаглі грамадзтву пераадолець шок ад катастрофы 19 сьнежня 2010 году.**

## 15.03.2013

## Байкот ці ўдзел: успамін пра будучыню

Спрэчкі пра байкот-удзел абрыдлі, здаецца, усім. Што не зьніжае іх імпэту і палкасьці. Сваю аргумэнтацыю на карысьць удзелу выказаў нядаўна калега Валер Карбалевіч. Пры гэтым ён прывёў шэраг мэтафарычных аналёгіяў, патрывожыўшы нават цень князя Астроскага, пераможцы ў бітве пад Воршай.

Між тым, здаецца, нашмат больш дакладныя аналёгіі можна знайсьці значна бліжэй — у нашай найноўшай гісторыі. У чым асноўныя аргумэнты прыхільнікаў байкоту? Выбараў няма (бо пры Лукашэнку іх не было), належнага доступу да СМІ ў незалежных і апазыцыйных кандыдатаў няма, атмасфэра рэпрэсій і гвалту перашкаджае свабоднаму волевыяўленьню, і нарэшце — у выбарчых камісіях прадстаўнікоў апазыцыі ці нават проста незалежных людзей няма, усім кіруе Ярмошына — «чалавек прэзыдэнта» — паводле яе самавызначэньня, якая выдае на гара патрэбны, загадзя вызначаны вынік. Удзел у такіх выбарах — фарс і легітымізацыя рэжыму. Усе пералічыў, нічога не забыў?

А зараз перанясемся ў 1989-1990 гады, у часы абраньня народных дэпутатаў СССР і Вярхоўнага Савету БССР XII скліканьня, імем і зьдзяйсьненьнямі якога клянуцца цяперашнія прыхільнікі байкоту. І пойдзем па пунктах.

Доступ да СМІ: цяпер кандыдатам у дэпутаты хоць па 5 хвілінаў даюць, а кандыдатам у прэзыдэнты дык нават і больш, на апошніх прэзыдэнцкіх выбарах дык нават і ў жывым эфіры ТБ. Было

гэта тады? Не, не было. Тая або іншая газэта магла недзе надрукаваць інтэрвію, маглі «нефармалаў» як нейкае дзіва запрасіць разок падчас выбараў у нейкую перадачу на ТБ, але рэгулярнага, абавязковага доступу да СМІ ў спаборнікаў за мандаты не было і блізка. І нават не ў галаве было, што нехта тое абавязаны даць. Атрымалася праравацца са сваім словам хоць у заводзкую шматтыражку — і дзякаваць Богу.

Атмасфэра выбараў: калі хто забыў — красавік 1989 году, Тбілісі, сапёрныя лапаткі, студзень 1990 году, Баку, танкі, кінутыя супраць Народнага Фронту Азербайджану, студзень 1991 году, Вільня, танкі на вуліцах і людзі, што загінулі пад іх гусеніцамі. А дзяржава, між іншым, тады была адна, ў яе склад тады ўваходзілі і Вільня, і Баку, і Тбілісі, і Менск. Праўда, надзвычай была спрыяльная, свабодная грамадзкая атмасфэра выбараў?

Ну і пра выбарчыя камісіі, пра працэдуру, пра падлік. Цяпер хоць жменьку апазыцыянэраў дэкаратыўна ўключаюць у парачку камісій, дзе яны, зразумела, ніякага надвор'я ня робяць. А тады, калі хто забыў ці ня ведае, і ў думках такога не было — уключаць нейкіх староньніх асобаў у склад камісій. Маглі, зь недагляду партыі, патрапіць нейкія недастаткова правераныя людзі, але прынцып, што альтэрнатыва павінна неяк быць прадстаўленая ў тых камісіях, не адстойваўся нават той самай альтэрнатывай.

Што да досьведу, то зноў жа нагадаю тым, хто забыўся ці ня ведае, што не 19 гадоў, як цяпер, а прынамсі 70 доўгіх гадоў да 1989 году выбарчая машына ў СССР працавала так, як і ня сьнілася Лідзіі Ярмошынай, яна проста ўзор сумленнасьці на тле

сваіх савецкіх папярэднікаў. Дык і ў 1989-1991 гадах галасы лічылі тыя самыя людзі, што і раней. Так — як высьветлілася a posteriori, менавіта ў гэтыя гады ў працы той машыны нешта разладзілася. Але гэта высьветлілася потым, калі апазыцыянэры пайшлі на выбары і атрымалі перамогу.

І нарэшце наконт легітымнасьці. Тут задняй датай наагул выдатная нагода для практыкаваньняў у сучаснай прабайкотнай рыторыцы. Цяпер размовы пра ўладу Масквы над Беларусьсю — збольшага мэтафары. А тады, ізноў жа нагадаю, БССР і палітычна, і юрыдычна, і ўсяляк інакш была проста правінцыяй адзінай краіны, кіраванай з Масквы. І вось людзі, якія называлі і называюць сябе беларускімі патрыётамі, пнуліся пралезьці ня тое, што ў марыянэткавы орган імпэрскага кіраваньня — ВС БССР, а ў самае, што называецца, імпэрскае кубло, на зьезд дэпутатаў крыважэрнага СССР. Ну і хіба гэта не было легітымізацыяй усіх імпэрскіх жахаў, хіба не было прызнаньнем, замацаваньнем імпэрскага панаваньня над Беларусьсю, і хіба не заслугоўвалі людзі, якія ішлі на гэта, званьня псэўдаапазыцыянэраў і здраднікаў?

Не, не заслугоўвалі. На мой погляд. А на погляд шаноўных апанэнтаў — ня ведаю. Ад іх тут патрабуецца спрытны інтэлектуальны кульбіт. Калі тыя, хто ідзе на выбары цяпер — здраднікі, дурні і легітыматары рэжыму, то ўсіх гэтых тытулаў з поўным правам вартыя за ўдзел у выбарах 1989-1990 гадоў Зянон Пазьняк і яго паплечнікі. А калі тагачасны БНФ і іншыя дэмакраты ішлі на выбары, каб скарыстацца магчымасьцямі, якія даваў савецкі рэжым, каб яго зьмяніць — то такі матыў апраўдвае і сучасных апазыцыянэраў, якія спрабуюць скарыс-

тацца магчымасьцямі, якія дае цяперашняя ўлада, з тымі самымі прыкладна мэтамі.

О, зусім забыўся — пра паўнамоцтвы тагачасных парлямэнтаў. А разьмеркаваньне паўнамоцтваў (да выбараў) тады было простае, як аглобля — 6-ты артыкул Канстытуцыі, кіруючая і накіроўваючая роля партыі. А ўсе Саветы — банцік збоку ў партыі. Так, пасьля абраньня тых Саветаў сытуацыя зьмянілася, але хто мог гарантаваць, што так будзе?

А вось уявіце сабе, каб тады апазыцыя горда сказала — не, мы ў гэтых фальшывых выбарах ня ўдзельнічаем (а яны сапраўды паводле ўмоваў, як было паказана вышэй, былі фальшывыя, умовы тады былі горшыя, чым цяпер у Беларусі), толькі байкот, Буш, Коль, дзе вашы каштоўнасьці, мы патрабуем, каб вы націснулі на Гарбачова і прымусілі яго правесьці сапраўды свабодныя і справядлівыя выбары. Вось тады ўжо мы... У несвабодных жа выбарах удзельнічаць — гэта ганьба, фарс і легітымізацыя, хіба ня так?

Ну і як бы глядзелі ўсе — і народ, і КПСС, і тыя самыя Буш з Колем — на тых прынцыповых людзей? Пэўна, плячыма б сьцепанулі ў самым лепшым для гэтых маральных рыгарыстаў выпадку. Дык можа і цяпер рэакцыя насамрэч такая самая?

## Камэнтары

**Рыгор**: «Усе пералічыў, нічога не забыў?» — не
«А зараз перанясемся ў 1989-1990 гады, у часы абраньня народных дэпутатаў СССР і Вярхоўнага Савету БССР XII скліканьня» А вось тут нахлусіў спадар

Друкахруст(менавіта так бо упэўнены — розум і памяць ён мае)
Галоўнае адрозненне той сытуацыі ад цяперашняй — людзі.
Напрыканцы 80-х, у пачатку 90-х у грамадстве быў вялікі уздым,
людзі прагнулі свабоды. За 18 год Лукашенка растаптаў усё жывое. Ён усталяваў сваю вэртыкаль, павялічыў непамерна карныя органы, увёў кантрактную сістэму, павыціскаў актыўных людзей за межы краіны(многія прайшлі праз рэпрэсіі), і галоўнае ён панізіў маральныя якасьці вялікай колькасьці насельніцтва.
**Ананім**: Так-та яно так.
Але што, Вы хочаце сказаць, што калі «Лукашенка растаптаў усё жывое», значыць усё гэта й уздымаць-уваскрашаць ня варта? Нават спрабаваць ня трэба, так?!
Дыванна-канапавы байкот — і сядзьма па кватэрах далей, так?
**Рыгор**: Хачу сказаць, што час змяніўся, таму і тактыку трэба мяняць.
А Вы што, гарачы вы наш, у партыі якой-небудзь змагаецесь, ці так у адзіночку?
**Ананім**: Дыванна-канапавы байкот — і сядзьма па кватэрах далей, так?

---

ну идите снова на плошчу. няхай вас там снова отметелят. лучше на канапе чем на окрестина.
**Віктар Карнеенка, Фаніпаль**: Пералічыў ня ўсё. Галоўнае адрозніванне ў заканадаўстве тых часоў тое, што ВЫЛУЧАЦЬ кандыдатаў можна было толькі працоўным калектывам на іх канферэнцыях. Уявіце, колькі б сёння мела апазіцыя кандыдатаў пры гэтай працэдуры? Але ў сутнасці Юры малайчына! Палітык павінен дасягаць выніку ў тых умовах, якія ёсць! А патрабаваць ад партнераў з-за межжа «стварыць нам нейкія належныя ўмовы» проста смешна! Такая «стратэгія» прывяла да таго, што на Захадзе сення ў Беларусі проста не бачаць

партнераў для супрацоўніцтва, а толькі шкадуюць пабітых і пакрыўджаных. І за гэта дзякуй, але гэта не палітыка, а нешта іншае. Зразумела, сення не канец 80 гадоў, умовы іншыя. Але як і тады шукаць падтрымкі трэба ў гэтага самага народа. А ён гатовы падтрымаць самаахвярных, гатовых на сур'ёзныя дзеянні лідэраў, а не маралістаў, якія вельмі добра могуць знайсці тлумачэнні сваіх параз.
**мінак**: «Дык і ў 1989-1991 гадах галасы лічылі тыя ж самыя людзі, што і раней. Так — як высьветлілася aposteriori, менавіта ў гэтыя гады ў працы той машыны нешта разладзілася.»

---

тады не панавала яшчэ ў нашай краіне дыктатура. Гарбачоўская перастройка «Гластность, свобода слова, перестройка» — настроіла народ Расеі і Беларусі на перамены, на свабоду, на дэмакратыю. А таму і адбыўся ў той час разлад фальсіфікацыйнай машыны.
Цяпер, каб дабіцца справядлівага падліку галасоў, павінна таксама адбыцца нешта спрыяльнае гэтаму,
альбо загад з верху, альбо ўключэньне ў ЦВК незалежных людзей.
**1-2**: Згодны таварыш Дракахруст з Вамі, будзем хадзіць на выбары, як хадзілі ў СССР і гадоў праз 70, дасягнем узроўню дэмакратыі 1991 года. Таму прэмся на выбары, пакуль жывая Ярмошына, і Віця Лукашэнка не паставіў замест яе некага іншага, хто праваронiць выбраньне якога тузіна беларускіх патрыётаў.
**Рыгор**: Пераняcемся у 80-90 годы.
Я прымаў удзел у выбарах Вярхоўнага Савета 12-га склікання у якасьці даверанай асобы аднаго з сяброў сойму БНФ. Спачатку нашага кандыдата не зарэгістравалі — незаконна. Што мы зрабілі? — мы аб'явілі байкот.
Мы тлумачылі людзям чаму нашага кандыдата не зарэгістравалі, заклікалі людзей не ісці на галасаванне.
Зрабілі групу падтрымкі якой хапіла накрыць усе выбарныя участкі(па аднаму чалавеку), і мы жа былі назіральнікамі. Праводзілі мітынгі, пікеты і галоўнае

хадзілі па хатах і кватэрах. Выбары не адбыліся, здаецца у адзінай акрузе па Мінску.
На наступны тур нашага кандыдата зарэгістравалі. Зноў мы хадзілі па хатах, распаўсюжвалі лістоўкі. Я зайшоў у кожную хату, амаль у кожную кватэру.Мяне ведалі людзі. Мяне, як даверануую асобу кандыдата, ведалі сябры выбарчай камісіі, з якімі я падтрымоўваў добрыя адносіны. У дзень выбараў, у вечары, старшыня камісіі паслала мяне з урнай на машыне камісіі збіраць галасы пажылых людзей якія не змаглі прыйсьці самастойна.
Выбары адбыліся, мой кандыдат перамог.
Пра што кажа сп.Дракахруст?
**Ананім**: А теперь Рыгор вы ничего не добьетесь. Народ положил с прибором на власть и на оппозицию. Мы никому не верим.
**Сяргей, Менск**: Некарэктнае параўнаньне: жорсткая дыктатура ў цяперашней Беларусі і мяккая партакратыя ў БССР канца 80-х — аналагічна і выбары будуць зусім розныя.
**Севярын- Глеб, Бярозаўка**: Довады спадара Дракахруста пра ўмовы палітычнай дзейнасьці ў 80-ыя гады разьлічаныя на тых, хто тады ня жыў ці ў лепшым выпадку пад стол пеша хадзіў. Тыя ж, хто тады, па яго яхідным вызначэньні, легітымізаваў рэжым, праз удзел у магутнай хвалі Адражэньня, такую лёгіку і довады ўсур'ёз ніколі не прымуць.
А вось адносна байкоту... На сёньня гэта адзіна маральная пазыцыя — жыць не па хлусьні.
Зрэшты, з сумам наглядаю, што гэты адзіны сапраўды варты ўвагі аргумэнт увогуле не гучыць і не разглядаецца. Значыцца, яшчэ няпэўна доўга грамадства будзе плюхацца ў багне і «выбіраць» насьледніка гітлера-сталіна.
Што ж, вольнаму — воля.. Толькі не чакайце, што напляваўшы на мараль, вы застанецеся людзьмі...
**Simpson**: Ваша «жыць не па хлусьні» выглядае сьмешна. Вось сп. Дракахруст кажа праўду, сваю праўду. Дык чаму вы ня хочаце жыць па праўдзе?))))

**Ананім**: Сп. другахруст і ўся «каралеўская рацъ» больш за ўсё баяцца кансалідацыіі беларускага грамадства.,баяцца ПРАЎДЫ.
Постаць Зянона Пазьняка,нашага беларускага лідара не дае ім спакою.не адбудзецца ў вас нічога,за Зянонам Пазьняком беларускі народ!А хто за вамі?
**Крывіч**: І гэты, прапагандуе прагматычную палітыку! Сумна, што для бальшыні пісак, маральнасьць — уласьцівасць што замінае ім жыць чалавеччымі нормамі!
**Ганусуя, Мінск**: Штучнае параўнанне, якое не ўлічвае феномен часу і змену светапоглядаў. Для такога разумнага чалавека, як аўтар, — недаравальнае. Нават у «даравальную нядзелю».
**СВЕТА**: Дракахруст : А тады, ізноў жа нагадаю, БССР і палітычна, і юрыдычна, і ўсяляк інакш была проста правінцыяй адзінай краіны, кіраванай з Масквы. І вось людзі, якія называлі і называюць сябе беларускімі патрыётамі, пнуліся пралезьці ня тое, што ў марыянэткавы ворган імпэрскага кіраваньня — ВС БССР, а ў самае, што называецца, імпэрскае кубло....

---

яны (Пазьняк і інш.) скарысталі тую палітычную адлігу й імгненна рэагавалі,
яны мелі вялікія спадзяваньні, што будуць абранымі, што нарэшце прыйшлі зьмены
- і працавалі на поўную моц : Праводзілі мітынгі, пікеты і галоўнае хадзілі па хатах і кватэрах, кантралявалі падлік галасоў. (Усё было дазволена, нікога не перасьледвалі, не запалохвалі)
умовы тады былі НЕ горшыя, а лепшыя, сп. Дракахруст. Кантролю і загаду з Масквы не было і абіралі не адну асобу а ВС.
**вадзя**: Цяпер жа склалася зусим иншая ситуацыя, а спадар Дракахруст усё цягне и цягне нас у минулае.Як у склеп Нясвижскага фарнага касцёла...
**сапляк**: Дракахруст цягне ў будучыню. А ў будучыні — адзіная і непадзельная Беларусь. Дэмакратычная. Без

Пазнякоў і Лукашэнкаў. Зусім іншая краіна. Няўжо гэта цяжка зразумець?

## Хто меў рацыю?

**Крытыкі майго блогу не абверглі асноўную тэзу — што фармальныя юрыдычныя ўмовы выбараў у БССР у канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў былі прынамсі ня лепшыя, чым цяпер у Беларусі. Яны самі пацьвердзілі, што справа — зусім у іншым. У чым? Пра гэта — наступны блог.**

**19.03.2013**

## Дух часу

Найперш хачу шчыра падзякаваць усім сваім крытыкам, якія выказалі рашучую нязгоду з тэзамі, што я выклаў у апошнім блогу. Яны, спрабуючы аспрэчыць мяне, дакладна сфармулявалі тыя высновы, якія хацеў выкласьці я сам. Але значна больш прыемна, калі твае высновы вымушаныя сьцьвярджаць твае апанэнты.

Калі б я ад пачатку сказаў, што фармальныя, інстытуцыйныя ўмовы выбараў — справа больш чым другасная, што галоўнае — дух часу, настрой народу, настрой, які перадаецца і людзям улады, што менавіта дух часу і робіць «нявыбары», якія ладзяць аўтарытарныя рэжымы, сапраўднымі выбарамі і нават такімі, на якіх перамагае апазыцыя — колькі б цікавага пра сябе даведаўся. І наймітам Лукашэнкі б аказаўся, і агентам Лубянкі, і носьбітам яшчэ безьлічы грахоў.

Але я сам пра тое казаць ня стаў, проста параўнаў тыя самыя фармальныя, юрыдычныя ўмовы выбараў — у 1989-1990 гадох і цяпер. І паказаў, што калі даваць ацэнку ўдзелу ў выбарах на падставе гэтых умоваў, то і тагачасны, і цяперашні ўдзел павінны ацэньвацца адной меркай: калі цяпер гэта здрада і ганьба, то значыць, і той удзел быў здрадай і ганьбай, калі тады гэта было гераічным чынам і змаганьнем за дэмакратыю і незалежнасьць, то і цяпер… ну, прынамсі, ня здрада і ня ганьба. І што ж пачуў у адказ?

А тое, што тады быў іншы дух часу, іншы настрой народу, які перадаваўся і людзям улады і які прымушаў, скажам, тагачасных ярмошыных, якія па жыцьці зусім не былі маці Тэрэзамі, лічыць галасы больш-менш сумленна. Залатыя словы. Сам бы так не сказаў, як мае апанэнты, справакаваныя той пасткай, у якую я іх запрасіў.

Але з гэтай абсалютна правільнай, дарэчы, канстатацыі насамрэч шмат што вынікае. Па-першае, што ўсе размовы пра «выбараў няма» — размовы не пра тое. Не, юрыдычна іх сапраўды няма, але гэты чыньнік не перашкаджаў беларускім дэмакратам канца 80-х — пачатку 90-х удзельнічаць у такіх самых «нявыбарах» і нават перамагаць.

Па-другое, з думкі, што галоўнае — дух часу, настрой народу, вынікае недарэчнасьць усіх цяперашніх заклінаньняў, што рэжым ледзь трывае, трымаецца адно на штыхах, што перажывае агонію і крах (пра што вядомы рэвалюцыйны сайт паведамляе чытачам з частатой прыкладна раз на месяц). Трэба глядзець праўдзе ў вочы: гэта ня так. Той, савецкі рэжым часоў Гарбачова, сапраўды быў такі. Як высьветлілася задняй датай. Хоць штыхі

і тады былі, пра што сьведчаць прыгаданыя мной прыклады — Тбілісі, Баку, Вільня. Але дух народу ў цэлым тады быў іншы — не такі, як цяпер. А цяпер ён такі, як цяпер. І рэжым мае на сваім баку ня толькі штыхі, але і пэўны драйв, давер ці хаця б абыякавасьць пераважнай часткі народу.

Ня хоча народ пераменаў. Ці, дакладней, хоча, але не абавязкова зьвязвае іх з альтэрнатывай існай уладзе. Ці не любой цаной хоча. Вось у 1989-1990 годзе хацеў, а цяпер ня надта. І менавіта таму (і толькі таму) сьціплая чыноўніца Лідзія Ярмошына выглядае цяпер д'ябаліцай-дэміюргам. Ды як жа ўдзельнічаць у выбарах, калі страшная і ўсёмагутная Ярмошына ўсё сфальсыфікуе? Ды ня ў ёй, шаноўнае спадарства, справа. А ва ўсё тым самым духу часу. Будзе ён іншым, і будзе спадарыня Лідзія трэскай у бурным палітычным патоку. І абвесьціць перамогу «сапраўдных народных дэмакратычных сілаў», і распавядзе нават, як пакутавала пад пятой дыктатуры. Не яна першая — тады, напрыканцы перабудовы, такія «прасьвятленьні» (ці сапраўды прасьвятленьні) мелі масавы характар. А спадарыня Ярмошына — хто заўгодна, толькі ня дура.

Словам, усё паводле ленінскага вызначэньня рэвалюцыйнай сытуацыі — «нізы ня хочуць жыць па-старому, вярхі ня могуць кіраваць па-старому». Прычым, тут важныя абодва чыньнікі: тое, што ў 1989-1990 гадах тагачасныя ярмошыны раптам (упершыню за прынамсі 70 гадоў) пачыналі лічыць галасы больш-менш сумленна, было проста адной з праяваў другой часткі ленінскай формулы — дух часу ахапіў ня толькі нізы, але і вярхі, ножкі трону, тых, на кім трымаўся рэжым.

Але ў гэтым кантэксьце прэтэнзіі да сучаснай улады выглядаюць недарэчнымі. Хто — Лукашэнка павінен арганізаваць грамадзкі пад'ём, спарадзіць дух часу позьняй перабудовы? А ён можа, калі б нават хацеў? А зь якой радасьці мусіць хацець? Ён жа дыктатар, а не самагубца. Ну ня хоча ён быць Гарбачовым.

У дыскусіях на гэтую тэму на розных пляцоўках ужо неаднойчы даводзілася спасылацца на працу беларускага палітоляга Віталя Сіліцкага «Выбары ва ўмовах аўтарытарных рэжымаў — фарс ці шанец для пераменаў?», якая ўяўляе сабой камэнтар да кнігі клясыка амэрыканскай палітАлёгіі Самуэля Гантынгтана «Трэцяя хваля: дэмакратызацыя напрыканцы XX стагодзьдзя». Абодва аўтары аналізуюць шмат прыкладаў у самых розных краінах сьвету — ад Чылі і Паўднёвай Карэі да Польшчы і перабудовачнага СССР, калі наладжаныя аўтарытарнымі ўладарамі псэўдавыбары сканчаліся іх, уладароў, частковай ці нават поўнай паразай. І чаму тое адбывалася? Ці таму, што там насамрэч былі лібэральныя выбарчыя сыстэмы, а Лукашэнка зь Ярмошынай — змрочныя геніі фальсыфікацыі? Піначэт, паводле самых сьціплых падлікаў, толькі забіў больш за 2 тысячы чалавек — куды да яго Лукашэнку (прынамсі, пакуль), але галасы на выбарах лічыў, дурань, сумленна? Лухта гэта. Адказ у сваіх пярэчаньнях мне далі мае шаноўныя апанэнты, гаворачы пра савецкія выбары 1989-1990 гадоў: у духу часу справа. Аўтарытарыі на 4 кантынэнтах праводзілі і праводзяць выбары прыкладна гэтак жа, як і іх беларускі калега — адрозьненьні насамрэч непрынцыповыя. І пакуль усё ціха, дык і ў тых краінах выбары адбываліся «элегантна», лаціна-

амэрыканскія, азіяцкія, афрыканскія і эўрапейскія ярмошыны сваю справу ведалі.

Тут ёсьць яшчэ адзін важны чыньнік: што дух часу вызначаецца пасьля. А ўнутры працэсу — гэта немагчыма прадказаць. Ці маглі быць выбары 1989-1990 году ў БССР пасткай, ці мог стаць іх вынікам круглы нуль незалежных, апазыцыйных кандыдатаў? А маглі. Вось кандыдатуру Зянона Пазьняка на выбарах дэпутатаў СССР «зарэзалі» на акруговым сходзе (было тады такое электаральнае вынаходніцтва). Маглі і іншых «зарэзаць», маглі інакш не прапусьціць, маглі і прайграць недзе апазыцыйныя кандыдаты (а некаторыя і прайгралі). Гэта потым, па выніках, стала вядома і зразумела, што прыйшлі новыя часы.

У нас на радыё за пару дзён да выбараў у Сэрбіі ў 2000 годзе на нарадзе дырэктар югаслаўскай службы (чалавек добра абазнаны ў справах сваёй краіны) ўпэўнена казаў, што, на жаль, усё на прэзыдэнцкіх выбарах перадвызначана — пераможа Мілошавіч. Там усё «схоплена», там такая сыстэма фальсыфікацыі, там такая кругавая парука чыноўнікаў, вайскоўцаў, бізнэсоўцаў і крымінальнікаў, казаў знаўца. Ну, а Каштуніца і Джынджыч рызыкнулі. Хто меў рацыю — цяпер мы ведаем. Грукалі ў дзьверы — і аднойчы яны адчыніліся. А на папярэдніх выбарах — не адчыніліся. А чаму адчыніліся на гэтых і не адчыніліся на тых? Ну, да Бога пытаньне. Ці да народу. А ня грукалі б — дык і пэўна не адчыніліся б. Калі дзьверы адчыняцца — гэта не акадэмічнае пытаньне, яно вырашаецца практыкай, грукам.

## Камэнтары

**Рыгор**: І наймітам Лукашэнкі б аказаўся, і агентам Лубянкі, і носьбітам яшчэ безьлічы грахоў. — так і ёсьць.
**Ох**: дажыліся, што Дракахруст называе каментатараў і чытачоў апанентамі і ставіць нам «пасткі» :)))
**vox**: Нет подготовленного общества — не будет и изменений. +100
Общество всё это время готовил правящий режим.
А оппозиция хочет халявы — 1 раз в 5 лет участвуют в выборах, чтобы заработать себе на следующие 5 лет свой паёк.
Благодаря развитию интернета, на Плошчу вышло много протестующих. А не благодаря участию политиков-халявщиков в «выборах.» Даже если бы голоса и честно считали, то в реале никто из них не набрал даже 5%...
**xov**: Они что, эти протестующие, хотели чтобы Лукашенко отдал власть Интернету?
**Віктар**: байкот — гэта і ёсць дух часу! ад выбараў ужо смярдзіць!
**Ветка, Полоцк**: О выборах в СССР говорить бессмысленно.С одной стороны, их не было.Был ритуал, который абсолютное большинство по инерции,без особых размышлений соблюдало. С другой стороны, именно поэтому, число проголосовавших и «за»,реально приближалось бы к данным официальным даже при самом честном подсчете.
Горбачев взбудоражил общество,заставил думать и принимать решения. Причем, это нахлынувшее вольнодумие затронуло все слои общества и придало характер реальной демократичности выборам,при слабом сопротивлении старой системы. Последующие события укрепили этот дух свободы и возможностей, накрыв с головой и Беларусь 1994. Единственные демократические выборы в стране выиграл Лукашенко-44,82%. Кебич-17,33%. Позняк-12,18%. Шушкевич-9,91%. Дубко-5,98% и

Новиков-4,29%. В первом туре. Во втором туре Лукашенко получил 80,34% голосов.
Почему я это вспомнила подробно? К мнению некоторых о большой популярности в народе других кандидатов. Не похоже, что их авторитет с тех времен сильно вырос,не взирая на то, что и авторитет Лукашенко далеко не тот. И сегодня даже не в демократичности выборов проблема, а в кандидатах. Бойкот или нет — не в этом суть,а потому,думаю, ни одна тактика большой поддержкой у народа пользоваться не будет. Необходим ЛИДЕР,который поймет,почувствует, с чем и как надо идти к народу, а не только декларировал бы свои взгляды и приверженность, которые большинство не разделяет. Тогда проявилась бы и гражданская активность.
**тутэйшы зомбі, красный агцябар**: Юры, я шчыра не ведаю ці здымаецца яшчэ Санта Барбара, але калі так — вам абавязкова трэба прыняць у ёй удзел. Ваш талент «пастак» там ацэняць.
Усякія росказьні пра тое, што наш Народ да нечага не гатовы — гэта ўсё качка ад КДБ. Адным тлумяць мазгі замбаваньнем аб тым што у нас фсе харашо, а іншым аб тым што народ — быдла, таму забейце. Таму першае што трэба рабіць гэта здымаць замбаваньне. Дасягаецца гэта проста — павагай да ЎСІХ Беларусаў. Трэба каб людзі паважалі сябе, як народ, а Вы тут разводзіце казкі, пра тое што людзі пасыўныя і нічога не хочуць рабіць. Вы не агент КДБ, Вы проста яшчэ адзін зомбі, які купіўся на абсалютна дишовую качку. І застанецеся ім, пакуль не зразумееце гэта.
Што датычыцца выбараф. Дух часу быў іншы, але гэта не залежала толькі ад Народу Беларусі. Справа ў тым, што тады савецкая сістэма рушылася, і гэта было ўсім зразумела. Ва ўсіх краінах былога СССР адбываліся зрухі, і паўсюль была прага да свабоды. Такія падзеі як падзеньне Берлінскага муру, або адкрыдцё Курапатаў, не маглі не даць імпульсу да зменаў. І тое што ўлада зьменіцца таксама было, калі не відавочна, то больш чым верагодна.

Таму і была тады вергоднасьць, што выбары пройдуць калі не сумленна, то ўсё ж без татальнай фальсіфікацыі, так і адбылося. Да таго ж я не разумею, аб якой фальсіфікацыйнай машыне СССР Вы кажаце. Навошта ўвогуле патрэбна была б такая структура ў сітуацыі, калі ўвогуле не існуе незалежнай прэсы, і людзі татальна ўсяго баяцца? Таму, прабачце, але гэта спрэчнае пытаньне, бо чыноўнікі таго часу дакладна не былі падрыхтаваныя да больш менш вольных выбараў. Перамогу можна атрымаць толькі калі для яе існуюць нейкія падставы ці магчымасьці, якія тады былі, а цяпер іх няма.
Таму, тое што нам застаецца — гэта байкот, як сымбаль непрызнаньня гэтай улады. І ён павінен праяўляцца не толькі ў дзень выбараў. Людзі павінны дурыць бюракратычную сістэму, якая хоча, каб усе рабілі ўсё па інструкцыі. Усе іх даведкі, паліклінікі, прызыўныя мерапрыемствы, кантролі, праверкі, сходы, суботнікі і іншая лухта. Усяму гэтаму трэба аб'явіць байкот. Распаўсюджвайце беларускую мову, трымайце як магу большую дыстанцыю ад сыстэмы окнэшакул-а, усвядомце і даводзце сваякам і блізкім тое, што мы адзіны магутны Беларускі Народ. І працэс вельмі марудна, але пачне рухацца ў бок нашай перамогі.
**Aleg**: Тут ёсьць яшчэ адзін важны чыньнік: што дух часу вызначаецца пасьля. А ўнутры працэсу — гэта немагчыма прадказаць.

---

не заўсёды. Гарбачоўскую перабудову дык толькі гультай не заўважыў
Наадварот, добры палітык здолее многае прадбачыць, нават нешта перадухіліць ці наблізіць. А дрэнны палітык будзе ўдзельнічаць дзеля ўдзелу, а потым думаць.
Вось нашыя ўдзельнікі выбараў грукалі ў дзьверы кожныя выбары, але ім не адчынілі.
Хай цяпер думаюць, чаму так. Калі няма падтрымкі ў іх ні ў вярхах (ЦВК, ваенныя), ні ў нізах...

**Наталля**: Не будзе ніякага байкоту. Усіх хто робіць на дзяржпрадпрыемствах, бюджэтнікаў і іншых прымусяць галасаваць. А гэта вельмі шмат народу.... Нават і некаторыя прыватнікі, бяруць пры прыёме на працу распіску якія абавязвае работніка ўдзельнічаць у выбарах(сама такую падпісвала). Так што спадар Юры Дракахруст можа быць спакойны, не трэба нікога ні ў чым пераконваць — ўсе прыйдзем на выбары.
**Simpson**: На дзяржпрадпрыемствах асабліва і не прымушаюць. Нават размоваў пра гэта не вядуць, не пайшоў — ну і не трэба. А ўжо пра прыватнікаў, то ім увогуле па барабану.
**Вінцэнт, Слонім**: Simpson! Не сцвярджайце лухту! На дзяржпрадпрыемствах Беларусі амаль суцэльна папярэджвалі работнікаў у час мінулагодніх парламенцкіх выбараў прагаласаваць не толькі ў абавязковым парадку, але і пажадана, каб папярэдне. Нават былі тэлефанаванні кіруючых работнікаў дзяржпрадпрыемстваў (як у Мінску, так і ў рэгіёнах, па ўсёй краіне) жанчынам, якія знаходзіліся ў дэкрэтным адпачынку па догляду за дзіцяці з патрабаваннем абавязкова не толькі прагаласаваць, але і далажыць (зноў жа па тэлефоне), што яны канкрэтна і калі прагаласавалі. Такія тэлефонныя званкі былі зроблены амаль усім жанчынам — жонкам маіх родзічаў. Асабіста мяне гэта вельмі ўразіла. што датычыць парламенцкіх «выбараў» восенню 2012 года і тым БОЛЬШАЙ у гэтых адносінах бачыцца сапраўдная ПЕРАМОГА беларускай апазіцыіі, здзейснены ёю сапраўдны БАЙКОТ «выбараў»! Менавіта таму ЎСЕ свае сілы так званая «ЎЛАДА» ў Беларусі і накіроўвае зараз на максімальна магчымую ДЫСКРЭДЫТАЦЫЮ беларускай апазіцыіі, шырока выкарыстоўваючы для гэтага, у прыватнасці, і сваю пэўную АГЕНТУРУ,якая, без сумнення, ёсць у яе радах!
**Лаўрэн**: Вінцэнт, сёння апазіцыя — чорная дзірка якая сасе заходнія рэсурсы а ў Беларусі цалкам нябачна. Звычайна апазіцыя мае аднаго ну, крайне, двух яскравых лідараў. Быў некалі Пазняк, але ён з’ехаў, быў Казулін,

але яго адсунулі (ды і сам ужо, відаць, не хоча гэтай гульні). А чалавек жа вельмі годны! Таму абяром таго, на каго пакажа Лукашэнка. Ён за 19 гадоў не здаў краіну. У наступным годзе яму на пенсію і я думаю, што ён скарыстае гэты шанец.

**Вінцэнт, Слонім**: Не згодны з Вашымі меркаваннямі, што датычыць «лідараў» апазіцыі! У прыватнасці,лічу, што як Зянон Пазьняк, так і Казулін, на жаль, ніколі не складалі, ды і ў будучым не могуць скласці канкурэнцыю таму ж Лукашэнку. І, прытым,лічу, вялікая памылка,і, магчыма, самая галоўная памылка беларускай апазіцыі заўсёды была перш за ўсё ў тым, што яна (беларуская апазіцыя) спрабавала вылучыць у якасці лідараў людзей, якія ў прынцыпе НЕ маглі (нават з цягам часу) стаць лідарамі ў цэлым БЕЛАРУСКАГА НАРОДА!

**Лаўрэн**: Пагаджаюся з вамі толькі часткова. Лукашэнка ў свой час таксама не выказваў волю ўсяго народа, але яго абралі. Гэтак жа абяруць і іншага. Але тут правы Дракахруст, што пакуль для гэтага няма ніякага народнага жадання. Найбольш балючыя для любой краіны пытанні: беспрацоўе, барацьба з карупцыяй, забеспячэнне жыллём, сацыяльная абарона ў нашай краіне вырашаюцца. Што тычыцца культуры, то яна мае важнае значэнне для старажытных нацый. Наша нацыя яшчэ пакуль не сфармавалася. Таму ўсе заклікі пра мову, выкладанне яе ў школах, пра беларускамоўнае тэлебачанне, газеты і г.д. — ніяк не закранаюць насельніцтва. Усё гэта належыць рабіць наступным прэзідэнтам. А імі будуць асобы, якія працягнуць курс на незалежнасць краіны.

## Хто меў рацыю?

**Паўтару тое, што пісаў вышэй: плён байкотаў парлямэнцкіх выбараў 2000 і 2012 гадоў быў па меншай меры сумнеўным, у любым выпадку апазыцыя ня здолела скарыстаць іх як інструмэнт палітычнай барацьбы. Байкот прэзыдэнц-**

**кіх выбараў бессэнсоўны — яўка на іх заўсёды была найвышэйшай, людзі ўсьведамлялі гэта як паваротны момант, пра што ўскосна сьведчаць і дастаткова шматлюдныя пасьлявыбарчыя маніфэстацыі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у 2006 і 2010 гадах.**

**23.05.2013**

## Як плённа прайграць выбары

*Выступ на канфэрэнцыі «Выклік Эўразіі для эўрапейскай пэрспэктывы Беларусі» ў Таліне.*

Некаторы час таму адзін мой калега на падобнай канфэрэнцыі заявіў: я ведаю, як перамагчы на прэзыдэнцкіх выбарах у 2015 годзе. Мая прапанова больш сьціплая, але, на мой погляд, больш рэалістычная — я ведаю, як плённа прайграць гэтыя выбары.

Мая прапанова недарэчная, калі на 2015 год прыпадзе крызіс, супастаўны з 2011 годам, калі з шэрагаў намэнклятуры вылучыцца ўмоўны Сідорскі — аўтарытэтны прадстаўнік кіроўнай эліты, што нядаўна пакінуў яе шэрагі, які кіне выклік Лукашэнку. Гэта будзе індыкатарам таго, што пратэстныя настроі і праўда высокія, гэта забясьпечыць магчымасьць камунікацыі паміж альтэрнатывай і кіраўніцтвам сілавых структур. Бяз гэтых індыкатараў наўрад ці можна прыдумаць нешта лепшае, чым прапанаваны сцэнар плённай паразы.

Да гэтага варта дадаць, што зьяўленьне ў 2015 годзе спрыяльных фактараў па меншай меры невідавочнае. Затое гарантавана зьяўленьне на гэтых

выбарах фактару, які ўскладніць і так вельмі малаверагодны посьпех альтэрнатывы. Гаворка ідзе аб намечаным на 2015 год утварэньні Эўразійскага саюзу. Стаўленьне да гэтага саюзу стане праблемнай восьсю выбараў 2015 году і фактычна на іх апазыцыйным кандыдатам давядзецца супрацьстаяць ня толькі А. Лукашэнку, але і У. Пуціну.

На сцэнар плённай паразы могуць запярэчыць — трэба ставіць амбіцыйныя мэты, тады атрымаецца хоць нешта, будзе выкананая хаця б праграма-мінімум. Гэта не заўсёды так. Гульня па найвышэйшых стаўках нярэдка адбываецца ў адпаведнасьці з прынцыпам «усё або нічога», і часта гулец атрымлівае менавіта другое.

## Кандыдаты ў нішто

Барацьба за перамогу (электаральную) патрабуе заваёвы 50%. Гэта азначае зрушэньне перадвыбарных пазыцый да цэнтру, да сярэдзіны.

Калі меркаваць па паводзінах беларускіх апазыцыйных палітыкаў, яны ніколі і не імкнуліся да гэтай найвышэйшай мэты. Калі людзі, якія разглядаюць сябе як кандыдатаў у прэзыдэнты, удзельнічаюць у кампаніі за тое, каб адабраць у Беларусі чэмпіянат сьвету па хакеі, калі яны не саромеюцца ў выразах для характарыстыкі палітыкі Расеі — гэта азначае, што ў іх няма ніякага жаданьня быць прэзыдэнтам сваёй краіны, няма ніякага жаданьня падзяляць хаця б базавыя ўяўленьні, каштоўнасьці і забабоны свайго народу, а ня кола актывістаў і фэйсбучнай тусоўкі.

Мая прапанова як раз для іх. Вы ня хочаце быць прэзыдэнтам? Выдатна, тады і не імітуйце, што хочаце, усё роўна ня станеце. Так зрабіце пры

дапамозе выбараў нешта карыснае, станьце выразьнікамі інтарэсаў сваіх аднадумцаў, прычым ня толькі згаданай фэйсбучнай тусоўкі. На самай справе гэта не такая простая задача.

## Замест прэзыдэнта выбраць лідэра апазыцыі

Калі казаць не пра электаральную арытмэтыку, а пра гэтак званую рашучую меншасьць, якая творыць гісторыю, то варта нагадаць, што нават падчас катастрафічнага эканамічнага крызісу 2011 году ў Беларусі не было сур'ёзных масавых пратэстаў. З чаго ім быць у 2015 годзе? Адкуль возьмуцца палкі і дывізіі пераможнай арміі Плошчы?

Выбары прэзыдэнта варта ператварыць у выбары лідэра апазыцыі. Як казаў Глеб Паўлоўскі пасьля выбараў у РБ ў 2001 годзе, цяпер мы ведаем, каму патэлефанаваць, калі захочам пагаварыць з беларускай апазыцыяй.

Бяда Беларусі ня ў тым, што Лукашэнка рэалізуе тую палітыку, якую лічыць патрэбнай. Бяда ў тым, што меркаваньне тых, хто зь ёй нязгодны, наагул ніяк ня ўлічваецца. Для зьмены гэтай сытуацыі патрэбная палітычная кансалідацыя гэтай меншасьці, здабыцьцё ёю палітычнага твару. Нядаўна я пачуў ад аднаго заходняга экспэрта словы, якія сам пісаў падчас выбараў 2001 году: рэальная мэта — каб рэйтынг хаця б аднаго апазыцыйнага палітыка на працягу досыць доўгага часу перавышаў 10%. Ужо тады Беларусь будзе іншай краінай.

Дарэчы, Лукашэнка ня лічыцца зь нязгоднай зь ім меншасьцю ня толькі з прычыны кепскіх якасьцяў яго натуры, але і таму, што ня бачыць прадстаўніка гэтай меншасьці.

Выбары і могуць стаць інструмэнтам вызначэньня гэтага прадстаўніка.

У рамках такога сцэнару робіцца не настолькі катастрафічным мноства кандыдатаў, паўтор схемы «Беласьнежка і 7 гномаў» 2010 году. Самі выбары будуць проста працягам працэсу вылучэньня адзінага — але ўжо не кандыдата, а лідэра.

## Як прыгожа сысьці з Плошчы

У чым прычына таго, што не ўдаецца дамовіцца аб адзіным? У тым, што на самой справе палітыкі далёка ня ўпэўненыя, што перамогі дамогся б нават адзіны нават на свабодных выбарах. Пры тым, што разьлічваць на свабодныя выбары не даводзіцца, іх не было нават у 2010 годзе, у разгар «мядовага месяца» паміж Менскам і ЭЗ.

Казаць яны могуць усё што заўгодна, але іх паводзіны, іх падтрымка акцый накшталт адмены чэмпіянату па хакеі ў Беларусі, гавораць аб іх сапраўдных ацэнках становішча рэчаў лепш, чым іх упэўненыя заявы. А ў сытуацыі, калі няма веры ў перамогу нават адзінага, адмова ад каапэрацыі ўяўляецца вельмі рацыянальным рашэньнем.

Канцэпт выбараў — мы патрабуем, каб з намі лічыліся. Гэта збольшага вырашае і праблему Плошчы, якая на самой справе ёсьць праблема прыгожага сыходу зь яе. Калі разьлічваць на перамогу, то ўзьнікае забойчая дылема: або ганебны сыход, як у 2006 годзе, або радыкальныя дзеяньні, асуджаныя на паўтор 2010 году. Дарэчы, на самай справе ў 2010 годзе менавіта Лукашэнка сваімі брутальнымі паводзінамі вырашыў за апазыцыю праблему прыгожага сыходу з Плошчы. Сыход атрымаўся

прыгожы сваёй пачварнасьцю і трагізмам. Свайго прыгожага рашэньня апазыцыя ня мела.

## Не разгубіць заваяваны капітал

Праўда, у рамках гэтага сцэнару цяжар рашэньня ў пэўным сэнсе пераносіцца на пасьлявыбарчы пэрыяд. Ёсьць досьвед, як апазыцыя з апэтытам «зьядала» сваіх «адзіных»: пасьля 2001 году — Ганчарыка, пасьля 2006 году — Мілінкевіча. Тым самым зьнішчаўся той невялікі, але ненулявы капітал, які на выбарах быў усё ж заваяваны. Магчыма, таму, што мэтай на выбарах абвяшчалася перамога. І тады апазыцыйны адзіны аказваўся і сапраўды няўдачнікам, нават горшым, чым той, хто ня ўдзельнічаў у выбарах. Калі ўспрымаць выбары як выбары лідэра апазыцыі, то і Ганчарык, і Мілінкевіч былі на іх пераможцамі, яны мелі хоць нейкую народную падтрымку.

Магчыма, мае сэнс папярэдняе пагадненьне апазыцыйных сілаў аб прэрагатывах і статусе таго апазыцыйнага палітыка, які на выбарах набярэ больш за іншых.

Ужо зусім з вобласьці фантастыкі — складаньне базы дадзеных тых, хто галасаваў за апазыцыю, спроба неяк арганізацыйна аформіць іх.

## І не паўтарыць 2001, 2006 і 2010

Мінусы схемы відавочныя. Адсутнасьць перамогі як мэты дэмабілізуюць актыў. Плошча можа ў выніку быць нешматлікай, а колькасьць Плошчы — гэта адзінае, што цікавіць CNN. Хоць на самай справе матыў людзей, якія выходзілі на Плошчу ў 2001, 2006, 2010 гадах, быў зусім ня гнеў з

нагоды «скрадзенай» перамогі, думаю, што наконт гэтага ў людзей, якія выходзілі на яе, былі вялікія сумневы. Прырода абурэньня заключалася ў тым, што яшчэ 5 гадоў улада ня будзе лічыцца з намі, што яшчэ 5 гадоў мы будзем для яе нікім і зваць нас будзе ніяк.

Прадухіленьне менавіта гэтага і прапануецца вылучыць і сфармуляваць відавочна як мэту выбараў Так што ня факт, што ў рамках прапанаванага сцэнару Плошча, калі ў ёй будзе патрэба, будзе меншай лікам, чым падчас папярэдніх выбараў.

Але ня будзе катастрафічнага расчараваньня. Да таго ж магчымая дамоўленасьць з уладай. Калі апазыцыя мае на мэце замяніць дзейную ўладу, то, незалежна ад важкасьці яе прэтэнзій на гэта, дамовы ня можа быць паводле вызначэньня. Калі ж выбары для апазыцыі — апазыцыйныя праймэрыз, вызначэньне першага ў сваёй, другой лізе, то пагадненьне ў прынцыпе магчымае.

## Прайграць элегантна

Камусьці прапанаваны сцэнар падасца маланатхняльным, пэсымістычным, баязьлівым. Я сам гатовы палічыць яго такім, калі за час, што застаўся да выбараў, адбудуцца кардынальныя зьмены ў грамадзка-палітычнай сытуацыі, вышэй я ўжо апісаў, якія менавіта.

Але калі сытуацыя будзе разьвівацца паводле трэнду, калі ў 2015 годзе эканамічнае становішча, гатовасьць людзей да пратэсту, ступень маналітнасьці істэблішмэнту будуць прыкладна такія самыя, як цяпер, то цяжка прыдумаць нешта больш рацыянальнае і рэалістычнае, чым прапанаваны сцэнар.

Фактычна, усе іншыя «пераможныя» сцэнары на самой справе «зьедуць» да гэтага, толькі моцна сапсаванага дадатковай рызыкай, непатрэбнымі высілкамі і неадэкватнай інтэрпрэтацыяй выніку: спробы прыцягнуць на свой бок тых, хто вагаецца, скончацца нічым і толькі выклічуць раздражненьне ў прыхільнікаў апазыцыі, намаганьні па вылучэньні адзінага не прывядуць да мэты і толькі спародзяць вялікае мноства скандалаў і узаемных крыўдаў, воклічы, што ўсё вырашыць Плошча, прывядуць да таго, што з Плошчы людзей давядзецца весьці або ўскладаць кудысьці кветачкі або на штурм чагосьці афіцыйнага з наступным разгромам і масавымі рэпрэсіямі, палітыка, які зойме другое пасьля А. Лукашэнкі месца на выбарах, будуць трактаваць як няўдачніка, а не як прадстаўніка нязгоднай часткі беларускага грамадзтва.

І выбары будуць прайграныя ня толькі горка, але і марна і бессэнсоўна.

## Камэнтары

**Ананім**: Это похоже на сценарий для калек, которые есть и которых никто никуда не выбирает, а не сценарий победы, под который нужно искать лидеров или лидеры появятся сами, когда прочитают хороший сценарий.

**Ветка**: Если бы Сидорский выставил свою кандидатуру, а еще убрать Ермошину, для которой поражение в выборах Лукашенко — «личная трагедия», то это была бы победа! Думаю, что Сидорский устроил бы многих. Только вот он сам почему-то такой инициативы пока не проявляет.
В среде нынешней оппозиции,по-моему, серьезной угрозы для Лукашенко нет,при всем моем уважении к некоторым.
А для совсем нового лица,осталось слишком мало времени. Или должно произойти что-то невероятное.

**Ананім**: С большинством граждан нужно договариваться в демократическом государстве, что упорно не хочет делать оппозиция. Очередной сидорский что собирается делать для граждан? Реакцию на свои действия и получит, дело не в личности, если эта личность не генерирует какие-то идеи, овладевающие массами, что в цивилизованных обществах выражается в удачных решениях текущих проблем, которые поддерживает большенство граждан. Невероятное — это хорошие предложения для граждан, что просто демонстартивно на зло не хочет делать никто, а не из-за непонимания что именно это нужно делать.
**Шелудивая Масса, Нцк**: Пенсионерское брюзжание или горькая правда? Неужели Дракахруст прав и нам не жить в нормальной Беларуси?
**Віктар Карнеенка, Фаніпаль**: Прынцыпова не згодны з тым, што плануючы паразу (няхай сабе і «элегантную») можна правесці эфектыўную кампанію. Хто сам удзельнічаў у выбарах, перакананы, пагодзяцца з гэтым. Але не гэта, як я зразумеў, асноўная думка ў Юрыя. Галоўная праблема апазіцыі ў тым, што яна не можа, ці не хоча, ісці да перамогі крок за крокам, замацоўваючыся на паступова «адваяваных» плацдармах. І ў выніку кожная прэзідэнтская кампанія пачынаецца з нуля. Сваю ролю тут адыгрываюць карпаратыўныя інтарэсы груповак, амбіцыі не прызнаных «геніяў», а таксама і безадказнасць саміх лідэраў, што з’явілісь і ў 2001 і ў 2006 годзе ў выніку нейкіх працэдур. Сапраўды, і з Ганчарыкам і з Мілінкевічам, пасля іх кандыдавання ў прэзідэнты, пачалася жорсткая барацьба часткі апазіцыйнага палітыкуму. Асабліва выразна гэта праявілась з Мілінкевічам. Але гэта не падстава пакрыўдзіцца і адысці ў бок! Перакананы, што большасць актывістаў і дэмакратычна арыентаванага грамадства безумоўна падтрымалі б дзейнасць у будучым экс-кандыдатаў. Толькі гэтыя лідэрскія якасці, разам з адказнасцю і жаданнем працаваць на перамогу яны былі абавязаны штодня дэмастраваць! Няхай сабе гэта мінулае, а праблема ўзнятая Юрыем актуальна і сёння.

Пытанне я б сфармуляваў так. Ці ў стане сённяшнія лідэры арганізаваць барацьбу з рэжымам на перамогу (камбінацыйную, працяглую — любую! Але рэальную!), альбо будуць працягваць змаганне з бліжэйшымі канкурэнтамі «за месца пад сонцам»? Хто хутчэй дабяжыць да Брусэлю, апярэдзіць іншых з шыкоўнай ініцыятывай, атрымае больш лайкаў? Па-моему ў сенняшняй апазіцыі большасць пакуль складаюць людзі прынцыповыя, сумленныя, адказныя і арыентаваные на барацьбу за перамогу. Але і разнастайных фікцый усе больш і больш.
**ladzia**: «..ніякага жаданьня падзяляць хаця б базавыя ўяўленьні, каштоўнасьці і забабоны свайго народу..»

---

гэта самая важная фраза тэксту. але замяню слова «падзяляць» (бо ў выніку тое самае) — на «разумець».
разумець.
каб затым СПАКОЙНА, паступова і пазітыўна пераадольваць адмоўнае. ментальных рэвалюцый не бывае. выключна эвалюцыйны гэты працэс.
спробы рэвалюцыінізаваць падсажаны (і старанна сэлекцыянаваны акупантамі стагодзьдзямі) мэнталітэт падчас выбарчых кампаній АДЗІНАЯ прычына сёньняшняй комы.

## Хто меў рацыю?

**На момант выданьня гэтай кнігі мы ня ведаем, як пройдуць прэзыдэнцкія выбары 2015 году, якую стратэгію на іх абярэ апазыцыя. Калі яна адкіне сцэнар, выкладзены ў маім блогу, з тае прычыны, што беларускае грамадзтва зьмянілася і гатовае да пераменаў — я буду апошні, хто будзе перажываць з нагоды таго, што мае прапановы аказаліся недарэчнымі.**

09.06.2013

## Аўдыт замежнай дапамогі як скрыня Пандоры

У канцы траўня старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька прапанаваў правесьці аўдытарскую праверку дапамогі, якую выдзяляюць дэмакратычныя краіны на падтрымку грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі. Падобныя думкі выказаў таксама вядомы грамадзкі дзеяч, лідэр кансорцыюму «ЭўраБеларусь» Ўладзімер Мацкевіч.

Значная частка, калі ня большасьць, прадстаўнікоў той самай грамадзянскай супольнасьці і палітыкаў паставіліся да гэтай ідэі, мякка кажучы, скептычна. Скажу па шчырасьці, я гэты скепсіс цалкам падзяляю.

Дзеля аб'ектыўнасьці варта ўсё ж сказаць, што ў прапанове спадара Лябедзькі прывабная самая ідэя — магчыма, заходняя дапамога сапраўды разьмяркоўваецца неэфэктыўна, часам трапляе да, паводле выразу спадара Мацкевіча, «мыльных бурбалак» грамадзянскай супольнасьці, што безумоўна кепска, і было б лепш, каб яна разьмяркоўвалася з большым розумам.

Але аналіз разнастайных практычных наступстваў прапановы лідэраў АГП і «ЭўраБеларусі» сьведчыць супраць яе.

Па-першае, магчыма, Анатоль Лябедзька і Ўладзімер Мацкевіч забылі, што яшчэ ў 2011 годзе ў Крымінальны кодэкс быў унесены артыкул 369 (2), які трактуе як злачынства атрыманьне любой замежнай дапамогі на грамадзка-палітычныя мэты.

**Артыкул 369(2). Атрыманьне замежнай бязвыплатнай дапамогі ў парушэньне заканадаўства Рэспублікі Беларусь**

Атрыманьне, а таксама захоўваньне, перамяшчэньне замежнай бязвыплатнай дапамогі для ажыцьцяўленьня экстрэмісцкай дзейнасьці ці іншых дзеяньняў, забароненых заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, або фінансаваньня палітычных партый, саюзаў (асацыяцый) палітычных партый, падрыхтоўкі або правядзеньня выбараў, рэфэрэндумаў, адкліканьня дэпутата, члена Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, арганізацыі або правядзеньня сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, дэманстрацый, пікетаваньня, страйкаў, вырабу або распаўсюджаньня агітацыйных матэрыялаў, правядзеньня сэмінараў або іншых формаў палітычнай і агітацыйна-масавай работы сярод насельніцтва, учыненыя на працягу года пасьля накладаньня адміністрацыйнага спагнаньня за такія ж парушэньні, -

караюцца штрафам, або арыштам на тэрмін да трох месяцаў, ці абмежаваньнем волі на тэрмін да трох гадоў, або пазбаўленьнем волі на тэрмін да двух гадоў.

У суседняй Расеі прыняты закон, паводле якога ажыцьцяўляць грамадзка-палітычную дзейнасьць на замежныя грошы могуць толькі арганізацыі, якія зарэгістраваныя як «замежныя агенты». Досьвед апошніх месяцаў паказаў, наколькі шырока там пры гэтым трактуюць паняцьце грамадзка-палітычнай дзейнасьці. Ёсьць усе падставы не сумнявацца ў тым, што ў Беларусі гэта можа трактавацца прынамсі гэтак сама шырока. Так — пакуль, здаец-

ца, адпаведны артыкул КК РБ ніколі не ўжываўся. Але ці варта будзіць ліха?

Прапановы спадароў Лябедзькі і Мацкевіча з пункту гледжаньня літары закону гучаць так — трэба правесьці аўдыт дзейнасьці, якая забароненая законам. Дык у краіне ўжо ёсьць інстытуцыя, якая штодзень займаецца гэтым «аўдытам», называецца КДБ. Аўдыт, прапанаваны спадарамі Лябедзькам і Мацкевічам, можа стаць карыснай дапамогай гэтаму ведамству. Гэты аўдыт, як можна меркаваць, прадугледжвае істотна большую, чым цяпер, адкрытасьць і галоснасьць заходняй дапамогі. А айчынныя «аўдытары» ў пагонах газэты чытаюць і інтэрнэтам карыстаюцца. Калі ў выніку аўдыту, за які выступаюць названыя палітык і грамадзкі дзеяч, нехта з прадстаўнікоў беларускай грамадзянскай супольнасьці пойдзе шляхам Бяляцкага праз артыкул 369(2) КК, ініцыятары кампаніі ня будуць адчуваць ніякай сваёй віны за ягоны лёс? Ці рэжым — унівэрсальнае алібі?

Па-другое, а якія крытэры ацэнкі? І хто іх вызначае? З тлумачэньняў спадара Лябедзькі вынікае, што ён вядзе размову ня толькі і ня столькі пра выпадкі, калі заходняя дапамога аказваецца проста тупа раскрадзенай. Старшыня АГП гаворыць пра эфэктыўнасьць канцэптуальную. А тут варта прыгадаць айчынны грамадзка-палітычны кантэкст. Калі б спадар Лябедзька перамог Лукашэнку на выбарах (ці скінуў на чале народнага паўстаньня або заняў ягонае крэсла нейкім іншым шляхам) ці калі б фракцыя АГП была самай вялікай у парлямэнце, то слушнасьць ягоных падыходаў была б неаспрэчна даказаная жыцьцём. Як вядома, нічога такога ў рэчаіснасьці няма. А што ёсьць — дык

гэта жорсткі канфлікт паміж вялікімі часткамі палітычнага поля, канфлікт у тым ліку ці нават пераважна наконт таго, як трэба дзейнічаць. І калі спадар Лябедзька даволі грэбліва характарызуе дзейнасьць некаторых грамадзкіх і палітычных арганізацый, якія спрабуюць заваяваць аўтарытэт сярод насельніцтва шляхам вырашэньня будзённых, «дробных» праблемаў гэтага самага насельніцтва — ён, зразумела, мае поўнае права на такое стаўленьне і такое меркаваньне. Але ці ёсьць падставы пакласьці меркаваньні спадара Лябедзькі ў аснову крытэру эфэктыўнасьці, на падставе якога будзе правярацца дзейнасьць іншых арганізацый? Так, апанэнты старшыні АГП не даказалі, што іх падыходы больш слушныя, але і спадар Лябедзька не даказаў адваротнага.

Дык як жа можна ў прынцыпе ацэньваць эфэктыўнасьць чаго-небудзь, калі крытэры эфэктыўнасьці — прадмет палкіх спрэчак і пры гэтым рацыя кожнага з бакоў спрэчкі зусім не відавочная, прынамсі, не даказаная аб'ектыўнымі аргумэнтамі посьпеху?

Па-трэцяе, ступень прыцягальнасьці як апазыцыі, гэтак і грамадзянскай супольнасьці ня варта перабольшваць. Пра тое, што яна невысокая, слушна пісаў нядаўна ў сваім блогу якраз Уладзімер Мацкевіч. І вось уявіце сабе, што пачынаецца той самы аўдыт. І колькі цэбраў памыяў і бруду выльюць адзін на аднаго шаноўныя прадстаўнікі грамадзянскай супольнасьці, колькі скандалаў будзе віраваць пры высьвятленьні, хто «мыльная бурбалка», а хто не. Афіцыйныя прапагандысты проста застануцца бяз працы, дастаткова будзе проста без камэнтароў трансьляваць па БТ тое,

што прадстаўнікі «трэцяга сэктару» гавораць адзін пра аднаго. А будзе ж менавіта так. Ну і якое стаўленьне звычайных, неангажаваных у грамадзкую дзейнасьць (а нават і ангажаваных) беларусаў будзе да найлепшых сваіх прадстаўнікоў?

Прычым, каб пралічыць усё сказанае вышэй наконт рэалізацыі прапановы Лябедзькі-Мацкевіча, ня трэба быць вялікім знаўцам «кухні» беларускай палітыкі і грамадзкай дзейнасьці. Патрэбныя мінімальныя веды пра сытуацыю. Чаму гэта прапануюць людзі, глыбока абазнаныя ў ёй — для мяне загадка, на якую я ня маю адказу.

## Камэнтары

**Ананім**: Як звычайна, спадар Дракахруст панапускаў бурбалак, у сваіх развагах.
Аўдыт грантаў, заходнія грантадаўцы, не будуць праводзіць разам з КГБ — гэта відавочна. Праблема бачыцца ў іншым — немагчымасьці правесьці аўдыт сродкаў, якія выдзяляе Масква.
**кінік, Менск**: Прапанова правесьці аўдыт — красамоўнае сьведчаньне, што нават лідары (калі яны, увогуле, лідары) слаба сабе ўяўляюць рэальныя ўмовы дзейнасьці ў краіне. Дзеля справедлівасьці варта сказаць, што яны ня першыя з марсыянаў, якія наведваюць Беларусь. Раней некаторыя знаныя апазыцыянэры выказвалі інтэнцыі зьвярнуцца ў справядлівы беларускі суд для вырашэньня спрэчак зьвязаных з грантамі. Адсутнасьць здольнасьці адаптавацца да рэальных умоваў робіць такіх асобаў надзвычай небясьпечнымі для ўсіх тых, хто яшчэ рэальна працуе.

## Хто меў рацыю?

**Гледзячы па ўсім, прапановы спадароў Лябедзькі і Мацкевіча не былі рэалізаваныя, прынамсі, публічна пра падобную праверку эфэктыўнасьці замежнай дапамогі з удзелам беларускіх грамадзкіх дзеячоў і палітыкаў не паведамлялася. Магчыма, пры гэтым былі ўзятыя пад увагу аргумэнты, выкладзеныя ў гэтым блогу.**

**23.09.2013**

## Вецер для апазыцыі

Калі няма ветру, то карабель зь ветразямі не плыве. І ў пэўным сэнсе ўсё роўна, чым падчас штылю займаюцца чальцы каманды: нехта ром жлукціць, іншы Біблію чытае, трэці ветразі спрабуе пераставіць, каб злавіць хаця б лёгкі ветрык, яшчэ нехта сам у ветразі дзьме. Кожны род дзейнасьці можа быць карысным для наданьня сэнсу свайму існаваньню чальцом каманды ці ў якасьці падрыхтоўкі да таго часу, калі ветразі напоўняцца ветрам. Але кожны зь іх і бескарысны з пункту гледжаньня руху карабля — бязь ветру ён не плыве і каманда ня ў стане на гэта паўплываць.

Гэтая горкая мэтафара прыйшла ў галаву пры назіраньні за ўстаноўчай канфэрэнцыяй новай кааліцыі «За свабодныя выбары». Ну зразумела, што літаратурны прыём не зусім дакладны: сацыяльны, палітычны «вецер» — ня зьява прыроды, ён якраз і залежыць ад людзей. Але ад усіх разам, ад грамадзтва ў цэлым. Ці можа адзін чалавек або

група людзей гэты вецер стварыць — гэта вялікае пытаньне.

Агульны тон камэнтароў да чарговага палітычнага ўтварэньня — хутчэй кіслы: ну вось, тыя самыя людзі, тыя самыя словы, свабодныя выбары — добрая справа, але ж як прымусіць Лукашэнку іх правесьці. Не скажу, што сам надта ўражаны глыбінёй палітычных ідэяў, што прагучалі на ўстаноўчай канфэрэнцыі. Але, можа, ня варта сьпяшацца кідаць камяні.

Прыгадваю гутарку з кіргіскім палітолягам у 2005 годзе, падчас першай кіргіскай рэвалюцыі. Даўно гэта было, тады яшчэ Курманбек Бакіеў быў не палітуцекачом і скінутым дыктатарам, а правадыром рэвалюцыйных масаў. Дык вось, калі там краіна выбухала масавымі пратэстамі, я спытаўся ў свайго суразмоўцы зь Бішкеку: «Ваша ж апазыцыя ня ўчора ў палітыцы зьявілася. Яна шмат гадоў дзейнічае, шмат гадоў гаворыць. Дык што цяпер здарылася — слоўца чароўнае вынайшлі, прыём, ход да сэрца кіргіза, якога не знаходзілі гадамі?» «Ды не, — адказаў калега. — У прынцыпе гавораць цяпер тое, што і раней гаварылі. Толькі раней іх ня чулі, а цяпер як бы пачулі, пайшлі за імі. Яны самі нават зьдзіўленыя».

Павучальная была гутарка. Але калі паглядзець навокал, не на далёкі Кіргізстан — хіба ў правадыроў «аранжавай» рэвалюцыі быў дакладны, у дэталях расьпісаны плян той самай рэвалюцыі? Менавіта адсутнасьцю такога пляну фэйсбучныя рэвалюцыянэры і папракаюць айчынную апазыцыю. Але задняй датай так выглядае, што ня быў «аранж» рэалізацыяй шматхадовай пралічанай камбінацыі. Быў набор дастаткова стандартных

прыёмаў палітычнага ўзьдзеяньня, а па сутнасьці менавіта плян Майдану быў нічым ня лепшым за плян беларускай Плошчы-2010. Было б на Майдане столькі ж людзей, колькі і ў Менску ў сьнежні 2010 году, быў бы настрой украінскага АМАПу ў 2004 годзе такім самым, як і ў беларускіх калегаў праз 6 гадоў (гэта фактары зьвязаныя, але ня тоесныя), дык і меў бы ўкраінскі плян той самы вынік, што і беларускі.

Сяргей Навумчык у сваёй кнізе «Дзевяноста першы» апісвае дзейнасьць тагачаснай беларускай апазыцыі як надзвычай пісьменную, майстэрскую і мэтанакіраваную. Ня тое, што такія ацэнкі зусім ужо няпраўда, але можна спытаць, куды падзелася майстэрства і здольнасьць складаць пераможныя пляны тых самых людзей усяго толькі праз пару гадоў? Ну і тыя ж правадыры ўкраінскага Майдану — калі ўся справа ў плянах, стратэгіях, хітрых палітычных тэхналёгіях, то куды зьнікла ўсё гэтае багацьце, скажам, на прэзыдэнцкіх выбарах ва Ўкраіне ў 2010 годзе, дзе яно хаваецца цяпер? Цімашэнка ў турме, але ад грамадзтва яна не ізаляваная, Юшчанка на волі, усе тагачасныя «камісары Майдану» на волі. Дык калі ўся праблема — у складаньні і рэалізацыі талковых плянаў, то чаму ў 2004 годзе здольнасьць да гэтага была, а потым некуды сплыла?

А каскад зусім ужо нядаўніх арабскіх рэвалюцый — ну якія і ў каго там былі пляны? Не, канспіролягі, вядома, распавядуць, што былі, ды яшчэ якія. Але калі іх складалі амэрыканцы, то якое шчасьце маюць ад рэалізацыі тых плянаў цяпер? Калі браты-мусульмане, то куды, скажам, у Эгіпце падзелася цяпер іх нібыта здольнасьць маніпуля-

ваць падзеямі і людзьмі? Калі людзі ў пагонах, то нейкім занадта складаным шляхам яны прыходзіць да таго самага, што мелі і раней.

Гісторыю немагчыма сплянаваць. І не бывае (ну амаль што) кепскіх плянаў — любая дурасьць можа стаць выбітнай стратэгіяй перамогі ў пэўных умовах.

Так што можа і ня варта сьпяшацца пасьля любой апазыцыйнай ініцыятывы адразу з сумам, а тое і зларадн асьцю канстатаваць — ды нічога чарговы раз не атрымаецца. Мо і не. А мо і атрымаецца. І не таму, што пляны, ідэі і прапановы такія ўжо геніяльныя. А таму, што такімі іх робіць час, які мяняецца. Але ў адрозьненьне ад карабля зь ветразямі, на якім вецер адчуваюць усе і адразу, у грамадзтве часам толькі потым, a posteriori, высьвятляецца, што штыль скончыўся.

## Камэнтары

**абэцэда**: сцверджанні спрэчныя, амаль усе
схіляюць пачакаць ветру — але ж мы жывем не ў 19 стагоддзі, калі караблі пад ветразямі хадзілі, а ў эпоху тэхналогіяў
галоўная бяда палітыкаў апазіцыйных — занадта падкантрольныя
вось атрымаюць загад — і будзе рэвалюцыя
**George**: Очень тонко подмечено.
Выдавать желаемое за действітельное — любімое занятіе многіх політіков. Одін «дал дождь», другіе путём хітроумных комбінацій і сістемных політіческіх действій развалілі СССР і добілісь незавісімості РБ, но уже через пару лет не смоглі справітся с 40летнім бывшім председателем совхоза.
Для успеха в політіке нужен ветер іли волны, а также уменіе этім ветром пользоваться. Что в начале 90х

продемонстріровал Лукашенко. В штіль же нужно очень много гресті с мінімальнымі відімымі результатамі. Чего наші ленівые політікі не хотят делать да і не умеют.
Как говоріл Сенека «Удача — это когда подготовка встречает возможность» (Preparation meets opportunity).
В прінціпе всем, чем могут і должны занятся політікі сегодня, это подготовкой к будуўім ветрам. Но оні судя по всему заняты не подготовкой, а імітацией бурной деятельності. Кое-кто подался в мемуарістіку.
**Аксана, Менск**: Ну, калі менавіта так падыходзіць да пытання і лічыць, што ўдзел у выбарах, усялякія народныя і анцінародныя рэферэндумы — гэта проста такі спосаб «бавіць час», пакуль вецер не наляціць — то і ладна. Толькі ня трэба тады распавядаць пра стратэгію пераменаў і г.д. Так бы і сказалі: народ, рабіць няма чаго, на моры штіль, пайшлі рому жахнем.

## Хто меў рацыю?

**Украінскі Эўрамайдан — яскравая ілюстрацыя зьмены духу часу. Такія важныя для ўкраінскага грамадзтва падзеі, як абраньне прэзыдэнтам у 2010 годзе Віктара Януковіча і арышт ды турэмнае заключэньне Юліі Цімашэнкі, ня выклікалі нічога сувымернага з пратэстамі канца 2013 году, у якіх узялі ўдзел сотні тысяч людзей і якія ў 2014 годзе прывялі да зьмены ўлады.**

**07.01.2014**

## Хто абіраў Майсея?

Ці цяжка цяпер прадказаць, што будзе на другі дзень пасьля сёлетніх мясцовых выбараў? Зусім не.

Як стала вядома, з 65 вылучэнцаў ад апазыцыйных партыяў у чальцы тэрытарыяльных выбарчых камісіяў патрапілі толькі 5 чалавек. Для параўнаньня — ў 2010 годзе падчас мясцовых выбараў прадстаўнікоў апазыцыйных партыяў у выбарчых камісіях было 18 чалавек. І тады на прыкладна паўтары тысячы тэрытарыяльных камісіяў быў мізэр, але цяпер мізэр, так бы мовіць, яшчэ дэманстратыўна мізэрней.

### Ці абавязкова заўтра будзе як сёньня?

Так што паводле трэнду можна, не рызыкуючы моцна памыліцца, сьмела прагназаваць, што толькі жменька прадстаўнікоў незалежнага грамадзтва будзе і ва ўчастковых выбарчых камісіях, што незалежным назіральнікам будуць рабіць шматлікія перашкоды, што ў выніку з апазыцыйных і нават проста непраўладных кандыдатаў у мясцовыя саветы патрапіць у самым лепшым выпадку дзясятак-другі. Ня выключана, што нават доступ кандыдатаў да СМІ, які быў адносна шырокі і на прэзыдэнцкіх выбарах 2010 году, і на парлямэнцкіх 2012 году, будзе сёлета надзвычай сьціплы.

Як у жарце пра прагноз надвор'я, які можна рабіць, наагул нічога ня ведаючы і памыляючыся пры гэтым менш, чым у 50% выпадкаў: заўтра надвор'е будзе такім самым, як і сёньня. Адносная

стабільнасьць, інэрцыя прыроды забясьпечвае тое, што памылкі пры такім прагнозе здараюцца ня так і часта. Але ўсе дзяржавы раскашэльваюцца на ўтрыманьне бюро надвор'я, бо зьмены яго ўсё ж адбываюцца, часам і нечакана.

Ці могуць гэтыя зьмены адбыцца ці хаця б пачацца ў Беларусі падчас ці з нагоды сёлетніх мясцовых выбараў? А хто прагназаваў, што лякальная праблема гарадзкога парку ў Турэччыне спародзіць палітычны землятрус нацыянальнага маштабу? Хто прадбачыў, што самаспаленьне даведзенага да адчаю туніскага дробнага гандляра напрыканцы 2010 году адгукнецца рэвалюцыяй, якая скіне шматгадовую дыктатуру? Чаму, скажам, арышт і зьняволеньне Юліі Цімашэнкі не спарадзілі ніякага Майдану, а адмова ўкраінскага ўраду падпісаць пагадненьне аб асацыяцыі з ЭЗ спарадзіла? Чаму ад перадачы ўлады ў Расеі ў 2008 годзе ніхто не зварухнуўся, а ў 2011-м зваротная апэрацыя выклікала Балотную? А ніхто ня ведае насамрэч. Не, мысьляры-аглядальнікі потым (але менавіта потым) патлумачаць, што яны якраз усё прадбачылі і прагназавалі. Але ў лепшым выпадку, як зламаны гадзіньнік, які два разы на суткі паказвае дакладны час.

### Як лепш сустракаць навальніцу?

Вось дадзеныя апошняга апытаньня НІСЭПД сьведчаць, што пад вонкавым спакоем і маўчаньнем хаваецца незадавальненьне і «гронкі гневу». І што з гэтага вынікае? Ды наўпрост — нічога. Размова адно пра шанцы, пра імавернасьці. Выбары (нават мясцовыя) раптам (прычым менавіта раптам) могуць стаць каталізатарам пераменаў.

Дарэчы, кіеўскі Майдан, паводзіны яго лідэраў — важкі аргумэнт у спрэчках пра выключную ролю плянаў і стратэгіяў. Ну й які плян быў і ёсьць у Эўрамайдану? А які быў у 2004 годзе? Яно або выбухне або ня выбухне.

Тыя, хто адмаўляе магчымасьць, што нейкая грамадзка-палітычная падзея кшталту мясцовых выбараў можа спарадзіць, здэтанаваць непрадказальныя і непрадбачаныя наступствы, насамрэч нічым не адрозьніваюцца ад сваіх зацятых антаганістаў — афіцыйных прапагандыстаў, якія таксама выказваюць упэўненасьць у тым, што заўтра будзе, як сёньня.

І як, у якім стане лепш сустрэць выбух, калі ён здарыцца? Пасуючы, практыкуючы байкот ці няўдзел, ці вістуючы, хай сабе і з кепскімі картамі, разьлічваючы на тое, што ня толькі расклад, але самую гульню памяняе не Лукашэнка зь Ярмошынай, а народ?

Вось у 2012 годзе значная частка апазыцыі практыкавала байкот. Ня буду нават працягваць спрэчку пра тое, ці адбыўся ён. Ну хай сабе нават і адбыўся. І што — якія палітычныя наступствы меў? Праўда, можна сказаць, што і ўдзел меў нулявы вынік як у электаральным, гэтак і ў палітычным сэнсе. Але адсюль вынікае, што ўдзел як мінімум ня горшы за байкот — нуль роўны нулю.

## Хто абіраў Майсея?

Але ёсьць і яшчэ адна падстава ўдзельнічаць у спэктаклі, дзе ролі і вынік, здаецца, вызначаныя загадзя. Можна спытаць, а навошта, напрыклад, у прэзыдэнцкіх выбарах у ЗША ўдзельнічаюць кандыдаты ня толькі ад дзьвюх асноўных парты-

яў — дэмакратычнай і рэспубліканскай, але і з два тузіны іншых? Дык там жа сумленна падлічваюць галасы — скажа чытач. Ну і што? Менавіта сумленны падлік галасоў гарантуе, што ўсе кандыдаты, акрамя рэспубліканца і дэмакрата, прайграюць. Параза аўтсайдэрам гарантаваная. Дык нашто ж удзельнічаюць у безнадзейнай справе?

Адказ на гэтае пытаньне дазваляе зразумець, чаму ўдзел у беларускіх выбарах, дзе галасы ня лічаць, справа безнадзейная, але не бессэнсоўная.

Выбары і нават «выбары» — гэта магчымасьць камунікацыі палітыкаў з народам. Ну а што перашкаджае палітыкам камунікаваць зь людзьмі ў часе паміж выбарамі? Ды асабліва нічога, зразумела, але камунікацыя падчас выбараў асаблівая. Яна — наконт улады і наконт карэнных інтарэсаў.

У апошнім у мінулым годзе «Праскім акцэнце» я спытаўся ў суразмоўцаў — лідэраў найбуйнейшых палітычных арганізацый краіны — ці стала ў 2013-м больш беларусаў, якія б казалі пра апазыцыю: «Гэта нашы заступнікі, нашы прадстаўнікі, выразьнікі нашых інтарэсаў»? І мне падалося, што гэтае пытаньне было самым складаным для іх.

Можна, зразумела, запярэчыць на самое пытаньне, як гэта і зрабіў у перадачы Анатоль Лябедзька, што калі ў краіне няма выбараў, то як вызначыць, хто выразьнік, а хто не выразьнік, хто ўплывовы, а хто не? Але сучасная дэмакратыя — інстытуцыя гістарычна вельмі маладая. А палітыка — хіба што раўналетка з чалавецтвам як такім. І неяк паняцьці палітыкі, барацьбы за ўладу, уплыву і лідэрства існавалі задоўга да ўсялякай дэмакратыі. Хто абіраў біблійнага Майсея? Бог? А што перашкаджае яму і цяпер абраць, скажам, Анатоля Лябедзьку? Мо

нешта і перашкаджае, але выкажу сьціплае меркаваньне, што не адсутнасьць дэмакратыі.

І цяпер дэмакратыя часам, калі не заўжды, гэта проста інструмэнт фіксацыі, канстатацыі лідэрства, адносінаў прадстаўніцтва, якія сфармаваліся да дэмакратычнай працэдуры і па-за ёю. Калі ўлада зь нейкіх прычын дае пляцоўку для ўсталяваньня гэтых адносінаў, то чаму б ёй не скарыстацца?

## Нямудры Калюмб

Хто цяпер самыя папулярныя палітыкі ў краіне? Тыя, хто ўдзельнічаў у прэзыдэнцкіх «выбарах» («нявыбарах», фарсе, спэцапэрацыі псэўдаў і Лубянкі — патрэбнае падкрэсьліць). Можа, усе варыянты рэзкіх вызначэньняў справядлівыя і дарэчныя — толькі памятаюць людзі ўдзельнікаў менавіта гэтых брыдкіх мерапрыемстваў. І давяраюць найбольш ім жа, і галасаваць у найбольшай ступені гатовыя за іх жа. Ну а для палітыка гэта хіба ня мэта, прынамсі, прамежкавая? Як дасягнуць посьпеху нават у пэрспэктыве, калі цябе ніхто ня ведае і ніхто табе не давярае?

Ну ня кожнаму быць Някляевым, Саньнікавым ці Статкевічам, але і на сваім, мясцовым узроўні ўдзел у выбарах (і нават у «выбарах») — хіба што адзіны спосаб стаць вядомым і ўплывовым. Не дэпутатам, тут усё сапраўды схоплена туга, і дыктатура таму і дыктатура, што выбараў няма. Але непрадбачаныя наступствы сваіх схемаў не кантралюе і дыктатура.

Вось Калюмб паплыў адкрываць іншы шлях у Індыю. І не адкрыў, дарэчы. Але вынік атрымаўся някепскі. А быў бы ўпэўнены, што няма яго — іншага шляху ў Індыю (і сапраўды ж няма), дык і пра-

сядзеў бы ўсё жыцьцё ў Гішпаніі або нават у роднай Генуі. І лічыўся б мудрым чалавекам, які дакладна ведае, што магчыма, а што немагчыма.

## Камэнтары:

**Навак:** Усе ўжо прызвычаіліся да думкі, што Калюмб «неспадзявана» адкрыў Амерыку. А можа ён мэтанакіравана плыў адкрываць новы мацярык? Ну хіба даў бы яму гішпанскі манарх грошы на адкрыццё «нейкай там Амерыкі»? А вось «пад Індыю» з вялікай ахвотай. Ці патрэбна асноўнай масе нашага народу «Амерыка»? Можа ён аб «Індыі» марыць?
**Вадзя:** Ды не. Зыходзячы з логики спадара Дракахруста, ихни кароль абвясциу Год адкрыцця Амэрык. Ну, и у Калюмба не было выбару.Ат, падумау ен, паплыву. Кали ничога и не адкрыю,дык хоць з ким-небудзь у камуникацыю уступлю.Будзе што успомниць...
**Simpson:** У артыкуле не ўлічваюцца ўсе фактары, якія спрыяюць пераменам. Дый што будзе пасьля аўтара не цікавіць. Напрыклад, тое, што Балотная прывяла толькі да ўзмацненьня рэжыму, а цяперашні Майдан нават не скончыўся. Не ўлічваюцца і магчымыя дзеяньні ўлады ў выпадку блізкай паразы. Так, пратэсты дзеля пратэстаў.
**Дракахруст:** Шаноўны Сімпсан, гарантыю ў 100% дае, як вядома, толькі страхавы поліс :-) Развагі пра тое, чым скончацца пратэсты, якіх пакуль няма і блізка — занятак даволі спэкулятыўны.
**Simpson:** Паважаны Юры, з вамі згодны, але крышачку больш разгорнута патлумачу свой погляд. Я разумею, што вы зьвяртаецесь да палітыкаў, але мне важна,якія перамены адбудуцца. Зыходжу з таго, што ў цэнтры пераменаў павінен быць асоба чалавека. Сёньняшні ж рэжым разбурае асобу, і вось калі такая разбураная асоба прыйдзе да ўлады з «галоўнае — мова» ці з «галоўнае — эканоміка», то мне гэта не патрэбна. Хай ужо канае.

## Хто меў рацыю?

**За год да выбараў 2015 году большасьць апазыцыйных палітычных сілаў і дзеячоў выказвалі намер узяць у іх удзел, у тым ліку і тыя, хто ў 2012 годзе практыкаваў байкот парлямэнцкіх выбараў.**

# ПАМІЖ РАСЕЯЙ І ЗАХАДАМ

- Школьная задачка пра Сашу і Вову
- Калі маўчаньне — золата
- Ці трэба трэсьці пальму?
- Чаўшэску, 1968 — Лукашэнка, 2008
- Скандал як форма братэрства
- З вайны нэрваў — у вайну эканамічную
- Ці патрэбныя Лукашэнку замежныя войскі?
- Лукашэнка пра Эўразійскі саюз

16.12.2007

## Школьная задачка пра Сашу і Вову

«Ух, абышлося», — кажуць адны, маючы на ўвазе тое, што Ўладзімір Пуцін прыехаў і паехаў, а ніякіх саюзных дзяржаваў пасьля яго не засталося. «І някепска атрымалася», — заўважаюць іншыя, беручы ў рукі калькулятар. Высьветлілася, які сэнс маюць загадкавыя словы Пуціна пра тое, што цэны на газ для Беларусі зьмяняцца ня будуць, і адначасна будуць падвышацца, але ў межах кантракту. Наўздагон візыту, у суботу, «Газпром» паведаміў, што цана для Беларусі складзе 119 даляраў за тысячу кубамэтраў. Варта адзначыць, што менавіта такую лічбу назваў два тыдні таму першы віцэ-прэм'ер Беларусі Ўладзімер Сямашка. У той самы час расейскія прадстаўнікі называлі лічбы значна большыя — ад 125 да 165 даляраў. Такім чынам атрымліваецца, што цана для Беларусі застаецца ня толькі самай нізкай сярод краінаў, якім Расея прадае газ, яна аказваецца роўнай той, якую агучыў беларускі ўрад як сваю перамоўную пазыцыю.

Што гэта азначае ў грашах?

Калі ўлічыць, што аб'ём спажываньня газу Беларусьсю — прыкладна 20 мільярдаў кубоў за год, то атрымліваецца, што ў наступным годзе краіне давядзецца плаціць за газ на 400 мільёнаў даляраў болей, чым сёлета. Была б цана 165 даляраў — давялося б плаціць больш на 1 мільярд 300 мільёнаў

даляраў. Чыстая эканомія — амаль мільярд. А з улікам таго, што Беларусь атрымлівае крэдыт памерам 1,5 мільярда даляраў, сытуацыя выглядае сапраўды значна лепшай, чым магла б быць.

Праўда, дакладна не вядома, чым за ўсе гэтыя даброты заплаціў Лукашэнка: ці чарговымі «пацалункамі», ці абяцаньнем ня ўлазіць на расейскае палітычнае поле, пакуль у іх там усё не ўстаканіцца пасьля апэрацыі «Наступнік», ці згодай паўдзельнічаць у расейскіх вайсковых гульнях са Злучанымі Штатамі, ці абяцаньнем прадаць ласыя кавалкі беларускай уласнасьці. Але падкрэсьлім, што гэта менавіта невядома, больш таго, калі такія абяцаньні і даваліся, то, у адрозьненьне ад публічна абвешчанай цаны на газ, цалкам непублічна. І проста варта дадаць, што стаўленьне кіраўніка Беларусі да сваіх абяцаньняў, дадзеных непублічна, гэтак жа як і публічна, надзвычай дыялектычнае — колькі разоў высьвятлялася, што тыя, каму абяцаньні даваліся, нешта «ня так зразумелі».

Але пагаварыць хацелася б нават не пра Лукашэнку, а пра тых, каго калега Цыганкоў дасьціпна назваў Касандрамі.

Што пісалі беларускія нашчадкі траянскай прарочыцы напярэдадні пуцінскага візыту? Што падпісаньне Канстытуцыйнага акту падчас візыту непазьбежнае (яны пэўна ведалі), а калі не, то выставяць расейцы Беларусі цану на газ 200 даляраў (гэта яны таксама ведалі пэўна). І так Лукашэнку (а разам зь ім і краіне) — труна, і гэтак.

Калі ў пятніцу ўвечары гэтыя прагнозы бліскуча «спраўдзіліся», па тварах Касандраў не прабегла ані цяню засмучэньня, пайшлі размовы пра тое, што Беларусь патрапіла ў крэдытную кабалу, што

Лукашэнка падчас начных размоваў з Пуціным усё роўна здаў нешта важнае і дарагое кожнаму беларусу (яны пэўна ведаюць).

Аднак праблема нават ня ў гэтых «дакладных» прагнозах і ацэнках, а ў тым, што іх вельмі ўпрыгожыў бы працяг — «дурны Лукашэнка зрабіў надзвычай па-дурному, а трэба было б зрабіць так, так і гэтак». Адсутнасьць такога працягу спараджае сумныя думкі.

Каб альтэрнатыва займела нейкія шанцы на посьпех, яна мусіць быць сапраўды альтэрнатывай, гэта значыць, мець і прапаноўваць альтэрнатыўныя рашэньні праблемаў, якія стаяць перад краінай і грамадзтвам і якія нікуды ня зьнікнуць, калі зьнікне Лукашэнка (а ён напэўна зьнікне, так ці інакш, раней ці пазьней). Прычым, калі ўлада забараняе правесьці мітынг, арганізаваць партыю ці рух і перашкаджае чытаць незалежныя газэты, то забараніць ці перашкодзіць думаць, забараніць знаходзіць рашэньні складаных і рэальных праблемаў, якія давядзецца вырашаць любой уладзе, цяперашняя ўлада ня ў стане. Але менавіта ў гэтым пытаньні нібыта дзейнічае самая строгая забарона.

Між тым беларускі народ складаецца зусім ня толькі з тых, для каго Лукашэнка — ўвасабленьне Бога або д’ябла. Стаўленьне большасьці да ўлады наагул і да Лукашэнкі ў прыватнасьці па сутнасьці рацыянальнае: матэматык — ня той, хто любіць матэматыку, а хто ўмее рашаць задачы, шахматыст — той, хто выйграе́ партыі з моцнымі праціўнікамі, палітык — той, хто… Ну зразумела.

Сытуацыя напярэдадні 13 сьнежня — як задачка са школьнага падручніка кшталту: «У хлопчыка Сашы ёсьць тры яблыкі (тэрыторыя, транзыт і г. д.),

у хлопчыка Вовы — 7 ігрушаў (газ, нафта і г. д.). Патрабуецца знайсьці…»

«Саша» нейкае рашэньне знайшоў (пагодзімся, ня самае ўдалае). Хто ведае лепшае рашэньне? Прыз у студыі чакае пераможцу.

## Камэнтары:

**Юрий Воронежцев**: Достаточно хорошо знаю тех людей, которые могли бы иметь план эффективных действий по выводу нашей страны на дорогу к светлому будущему. Или хотя бы на тропу к общемировому большаку. И так же хорошо знаю, что такого плана у них нет. И не потому, что они не слишком серьезные люди для таких интеллектуальных свершений, а в силу сложности ситуации. Пожалуй, нигде в Европе подобного не было. Одновременно лечить больного от рака, алкоголизма, наркомании и фатального отсутствия трех конечностей можно только в условиях большой клиники с использованием ежедневных консилиумов многих специалистов. А мы имеем акушерский пункт...

**drakakhrust**: To Voronezhtsev Паважаны Юры, маё пытаньне было ўсё ж больш тэхналягічным і ad hoc. Праверка якасьці плянаў пабудовы сьветлай будучыні — справа наўрад ці вырашальная. Праверка хаця б праўдападобнасьці рашэньня канкрэтнай і ўсё ж лякальнай задачы (назавем яе задачай 13-14 сьнежня) — справа ў прынцыпе магчымая. І калі цяпер ніхто, акрамя Лукашэнкі, не прапануе рашэньня нават у тэорыі, то як безь яго будуць вырашаць гэтую задачу ў рэале? Бо глядзець у халодныя вочы Пуціна (ці ягоных наступнікаў) — гэта няўмольны лёс Лукашэнкі і любых ягоных наступнікаў. Толькі Джордж Буш у свой час убачыў там душу, дык таму ён і прэзыдэнт Злучаных Штатаў.

**Жаночая лёгіка**: Ёсьць альтэрнатыўны шлях. Правесьці справядлівыя выбары. Вярнуць дзейсны парлямант. Даць вольны доступ усім палітычным сілам у грамацкія сродкі

масавай інфармацыі, на дзяржаўнае радыё і тэлебачаньне. Даць магчымасьці разьвівацца бізнесу. І тады само сабою вырашыцца пытаньне закупак расейскага газу, без усялякіх ільготаў. Не цалуюцца ж эўрапейскія лідары з Пуціным і не шушукаюцца на перамовах, каб купляць іх расейскі газ. Проста, спакойна купляюць. Не правільна гэта калі Вова і Саша вырашаюць толькі ўдвух лёсы народаў.
**drakakhrust**: То Жаночая лёгіка: Плян выдатны. Я — за. На жаль, журы конкурсу — ня я, а беларускі народ. А ён можа заўважыць, што досьвед Заходняй Эўропы, гэта, зразумела, добра, але браты-ўкраінцы зрабілі ўсё тое, што Вы прапаноўваеце, але цалавацца ім даводзіцца нават ня з Пуціным, а Бердымухамедавым, атрымліваць газ па 179, і пры гэтым праз «Росукрэнэрга», што, як кажуць, ня ўзор празрыстасьці.
**Radykal**: Адкажэце на пытаньне: які толк эканоміць грошы, калі за гэтыя грошы будуюць стратныя аграгарадкі ды закупляюць супэрдарагія ракеты «Іскандэр» у варунках мірнага часу? Так, Вы маеце рацыю: ніхто лепей за Лукашэнку не выцыганіў бы з Крамля гэтых грошай. І што з таго?
**Drakakhrust**: То Radykal Любая ўлада робіць тую або іншую дурату (пры гэтым купля сучаснай зброі па ня самай высокай цане — дурата невідавочная), але чым больш у краіне грошай, тым больш пасьля дураты застаецца на добрыя справы. А вось тое, што нават такі Radykal, як Вы, лічыць, што грошы з Масквы лепш за Лукашэнку ніхто ня выб’е — гэта і ёсьць адно з тлумачэньняў, чаму ён трымаецца ва ўладзе. Але нават калі Вы і маеце рацыю, хацелася б, каб тыя, хто прэтэндуе на ягонае месца ці наагул цікавіцца палітычнымі пытаньнямі, папрактыкаваліся з добрай нагоды хаця б тэарэтычна, як гэта — сядзець на Маркса, 38, і за нешта адказваць.
**Жаночая лёгіка**: Ну, дык, спадар Дракахруст, дэмакратыя — ня ёсьць найдасканалейшы спосаб існаваньня, але лепшага, пакуль ніхто яшчэ не прыдумаў. А чаму Вы

Украіну прыводзіце да прыкладу. Прывядзіце Чэхію, Польшчу, Літву, Латвію, тую ж Эстонію, што вырваліся з расейскіх абдымкаў... Няўжо там людзі горш жывуць чымсі ў Беларусі? Акрамя расейскіх крэдытаў, існуюць жа яшчэ іншыя «замежныя» інвестыцыі. Любая манаполія параджае бязвыходныя становішчы. Зрабі Лукашэнка дэмакратыю— усе яго палюбяць, а не толькі расейскі брат.

**За Беларусь!**: Вельмі трапны дыягназ. Няўменне сфармуляваць пазітыўную, лёгказразумелую, матэрыяльна выгадную перш за ўсё простаму чалавеку альтэрнатыву — амаль што невылечная хвароба апазіцыі. Альтэрнатыва быццам бы і прапануецца, аднак яна настолькі супрацьлеглая існуючаму задавальняючаму многіх парадку, настолькі ўтапічная, выцягнутая з падручнікаў па паліталогіі, што ў магчымасць яе ажыццяўлення не вераць, мабыць, і тыя, хто яе прапаноўвае. Ну і заўсёдны комплекс уласнай непаўнавартасці: ужо колькі разоў крычалі важдзі і вождзікі на мітынгах «Будзь гаспадаром сваёй зямлі», а пры набліжэнні барына ва усіх (і важдзей у т. л.) адразу пачынаецца ломка і гістэрыка ў стылі Казладоева з «Брыльянтавай рукі» : «Шеф, всё пропало!»

## Хто меў рацыю?

**Лукашэнка дагэтуль дэманструе здольнасьць вырашаць усё тую ж «школьную задачку». Можна пагадзіцца з тым, што тым самым ён павялічвае залежнасьць Беларусі ад Расеі, да таго ж у рэшце рэшт даводзіцца расплачвацца за расейскую падтрымку не адно абяцаньнямі і пацалункамі — дастаткова прыгадаць продаж «Белтрансгазу». Але ў рэшце рэшт беларуская эканоміка застаецца на плыву ў значнай ступені дзякуючы расейскай дапамозе, якую забясьпечвае менавіта Лукашэнка.**

**14.08.2008**

## Калі маўчаньне — золата

Пра што маўчаў Лукашэнка? Не, ня ў сэнсе, што хаваў, а ў тым, што хацеў сказаць сваім маўчаньнем.

Як толькі Расея ўступіла ў вайну, шмат хто зь беларускіх мысьляроў заўважыў, як чарговы раз чорт варожыць беларускаму кіраўніку, якія козыры самі плывуць яму ў рукі. Маўляў, такой канфрантацыі Расеі з Захадам не было за ўвесь постсавецкі пэрыяд, каштоўнасьць адзінага саюзьніка ўзьлятае да нябёс, ад яго адно і патрабуецца цяпер, што зрабіць пару жэстаў саюзьніцкай вернасьці і падстаўляць кішэні.

А ён маўчаў. А МЗС выдаў заяву, якую, паводле дасьціпнай заўвагі Андрэя Фёдарава, мог бы выдаць (і выдаў) генсек НАТО, маўляў, шкадуем загінулых і заклікаем да міру. І кропка. Ну і беларускі МЗС мог бы выдаць такое — наконт, скажам, вайны паміж, ну ня ведаю, Танзаніяй і Кеніяй. А тут жа, здавалася б — вялікі саюзьнік, «старэйшы брат», крыніца ўсякіх дабротаў, між іншым, а з другога боку — страшны празаходні Саакашвілі, правадыр «аранжу», гадавальнік славутага дохлага пацука генэрала Сухарэнкі нарэшце. Але — маўчаньне. Больш красамоўнае, чым словы.

Пра што? Ну, і пра козыры, якія сапраўды ўзьніклі, але зусім ня ў тым, у чым убачылі іх паважаныя калегі, і пра, так бы мовіць, «някозыры», пра небясьпекі і рызыкі, якія нясе ў тым ліку і Беларусі вайна на Каўказе.

Існуе традыцыя называць імпэрыялізмам любыя крокі Расеі адносна яе суседзяў, якія з тых або

іншых прычынаў падаюцца кепскімі. І дае танны газ — імпэрыялізм, і падвышае цану — імпэрыялізм. Між тым да апошняга часу адносна, скажам, Беларусі гэта калі і было імпэрыялізмам, то вельмі неклясычным. Чаму Аляксандар Салжаніцын яшчэ у 1990 годзе ў сваім праграмным артыкуле «Как нам обустроить Россию?» пісаў, што Беларусь, Украіну, паўночны Казахстан (а ня ўвесь, дарэчы) трэба захаваць, а астатніх — прэч, фактычна выгнаць з Расеі? Скажам, Азербайджан, які стаіць на лужыне нафты, Туркменістан зь ягоным газам, Балтыя са стратэгічным выхадам да мора — тэрыторыі ня менш, калі ня больш каштоўныя. Чаму ж нават на ўзроўні прынцыпу, ідэі, а не практычнай магчымасьці, гэтых пакінуць, а тых — выгнаць?

Таму што для расейскай сьвядомасьці беларусы і ўкраінцы — ня проста свае, а гэта мы, рускія, і ёсьць, толькі нейкія дзіўныя. Можна вельмі крыўдзіцца на такое стаўленьне, але варта зафіксаваць, што яно — адрознае ад стаўленьня расейцаў, скажам, да літоўцаў ці туркменаў, якіх ніводзін расеец ніколі не лічыў рускімі.

Дык вось наконт Грузіі. Пад расейскімі снарадамі і бомбамі гіне вельмі шмат, гінуць песьні Акуджавы, стужкі Данэліі, «Хванчакара», «Баржомі», гіне гіганцкі пласт грузінскай культуры, як духоўнай, гэтак і матэрыяльнай, які стаў арганічнай часткай расейскай культуры. А ня трэба, а прэч. Сапраўдны, клясычны імпэрыялізм, калі і пачынаецца, то менавіта цяпер. Няма ніякіх братоў, ніякіх сваіх, ёсьць (будуць) толькі трафэі.

І гэта Лукашэнка зразумеў. Калі ён у 2004 годзе крычаў, што адключэньне газу — «тэрарызм на найвышэйшым узроўні», дык гэтая рыторыка была па

сутнасьці бясьпечнай, гэтую бясьпеку гарантавалі тыя самыя асаблівасьці расейскай масавай сьвядомасьці: ну свае ж, ну палаяліся, чаго не бывае. А цяпер можна і нарвацца. І сапраўды наклікаць тое самае. Прычым менавіта на найвышэйшым ўзроўні.

Калі б адразу пасьля пачатку вайны афіцыйны Менск стаў поруч са сваім саюзьнікам, гэта магло б даць насамрэч невялікі і кароткачасовы выйгрыш. А ў доўгатэрміновай пэрспэктыве зьмена лёгікі, зьмена бачаньня сьвету Крамлём, спароджаная вайной — гэта небясьпека для Беларусі, і лукашэнкаўскай у тым ліку. І ўсьведамленьне гэтай небясьпекі патрабавала адказу з дальнім прыцэлам.

Нездарма яшчэ зь мінулага году афіцыйны Менск пачаў упарта заляцацца да Эўропы. Бо лёгіка Крамля, лёгіка Расеі пачала мяняцца ня ўчора, вайна — гэта, з аднаго боку, і скачок у гэтай зьмене, а з другога — вынік працяглай эвалюцыі ў гэтым кірунку. У сваіх спробах спакусіць Эўропу Менск прапаноўваў рознае — спачатку палітзьняволеных, потым, апошнім часам — выбары, абяцаньне правесьці іх больш-менш прыстойна. Але раптам усясьветны расклад сапраўды выкінуў Лукашэнку козыр, тавар, які каштуе надзвычай дорага.

У свой час знакаміты францускі палітоляг Рэймон Арон прапанаваў трапнае параўнаньне міжнароднай палітыкі з грашовай сыстэмай. Заявы, перамовы, нарады, усе гэтыя «мы выказваем глыбокую занепакоенасьць» — гэта ўсё крэдытныя грошы палітыкі, і невядома, што за імі стаіць, ці гэта сапраўды грошы ці пустыя паперкі. Забесьпячэньнем гэтага «крэдыту», паўнаважным золатам палітыкі зьяўляецца сіла, а час расплаты гэтым золатам —

вайна. На жаль, ніхто гэтую праверку не адмяняў, і вось яна і прыйшла. І як у гэтай сытуацыі расплаціўся (здолеў, змог, рашыўся расплаціцца) сапраўднай валютай Захад, мы выдатна бачым.

Прычым, гэта нават не ў асуджэньне Захаду. Вайна на Каўказе паводле даты амаль супала з гадавінай бамбаваньня Хірасімы. Ёсьць, на жаль, такая штука, як бомба. І пралічваючы варыянты дзеяньняў, у Вашынгтоне і Брусэлі не маглі ня браць гэта пад увагу, не маглі не задаваць сабе пытаньне, як ні цынічна і па-блюзьнерску яно ні гучыць, ці вартая Грузія нават малой імавернасьці ядзернага Армагедону.

Паводзіны Захаду ў гэтым крызісе нагадалі, што мы жывем у сьвеце пасьля Хірасімы і што стаўкі, калі размова ідзе пра адносіны з Расеяй, вызначаюцца менавіта гэтым.

Вяртаючыся да беларускай сытуацыі, трэба адзначыць, што і вокрык расейскага пасла, і роў расейскага друку, які ахрысьціў Лукашэнку «здраднікам», у пэўным сэнсе згулялі на яго, сталі, так бы мовіць, тлумачэньнем да пасланьня Лукашэнкі Вашынгтону і Брусэлю, што, колькі і чым ён заплаціў. І тут ужо выціснутыя Сурыкавым спачуваньні Мядзьведзеву і прапанова гуманітарнай дапамогі значаць насамрэч вельмі мала — ну ўжо нельга шмат патрабаваць.

Дэмакратычны лад, свабодныя выбары, правы чалавека — гэта рэчы самыя важныя. З адной маленькай папраўкай — калі вайны няма, калі няма гэтага часу праверкі сапраўдных і ўяўных каштоўнасьцяў. А вайна, на жаль, ёсьць.

Калі прыгадваць гісторыю, то Лукашэнка — проста анёл у параўнаньні з колішнім дыктатарам

Румыніі Чаўшэску. Але ў савецкім уварваньні ў Чэхаславаччыну у 1968 годзе бухарэсцкая пачвара ня ўдзельнічала (менавіта пытаньне вайны), з Ізраілем Румынія адзіная з савецкага блёку дыпадносіны не разарвала (ізноў пытаньне вайны і міру) і быў Чаўшэску калі не саюзьнікам Захаду, але сёе-тое (і нямала) за такую сваю пазыцыю ад Захаду атрымліваў. У сябе ў Румыніі ён рабіў суцэльныя жахі. Ну гэта кепска, ну ўсясьветная супольнасьць, зразумела, і тады рашуча гэта асуджала і выказвала глыбокую занепакоенасьць. Але ж вайна...

Ці прачытаюць у Вашынгтоне і Брусэлі гэтае пасланьне менавіта так, ці прымуць у якасьці аплаты Лукашэнкава маўчаньне? Могуць прыняць. Бо вайна. Сапраўды чорт варожыць.

## Камэнтары:

**Алеся, вашынгтон**: Re: Існуе традыцыя называць імпэрыялізмам любыя крокі Расеі адносна яе суседзяў, якія з тых або іншых прычынаў падаюцца кепскімі. І дае танны газ — імпэрыялізм, і падвышае цану — імпэрыялізм. Між тым да апошняга часу адносна, скажам, Беларусі гэта калі і было імпэрыялізмам, то вельмі неклясычным.

---

Юра, імпэрыялізм можа выкарыстоўваць розныя метады ўзьдзеяньня, у тым ліку эканамічныя — газ. Вам гэта арыфметыка добра вядома. Расея з Беларусьсю не газам гандлюе, а лаяльнасьцю на ўзроўні аўтаномнай Расейскай губерніі з мясцовай атрыбутыкай. Так што гэта вельмі клясычны імпэрыялізм прыпраўлены на «братэрскі» густ. Што да маўчаньня, дык Лукашэнка па натуры гандляр. А тут такая магчымасьць! Вось у Сочы паедзе атрымліваць найбольшую цану за свой «тавар». З Захадам гандаль у яго ніколі не атрымліваўся і не атрымаецца, бо ён,

Лукашэнка, не разумее правілаў гульні па-заходняму і ня ўстане гэтаму навучыцца. Таму ён заўсёды будзе імкнуцца гуляць толькі ва ўсходнім кірунку. Заходнія гульні — так, одно баловство. Таму, параўнаньне з Чаўшэску тут ня надта прыдатнае.
**drakakhrust**: Паважаная Алеся! Мне ў Вашым падыходзе бачыцца лягічная хіба. Усе ж імпэрыя, паводле вызначэньня, высмоктвае рэсурсы са скораных тэрыторый на карысьць народу мэтраполіі, яна вядзе зь імі неэквівалентны эканамічны абмен на карысьць сабе. Ці шмат Вы прыгадаеце імпэрый у Вашым разуменьні, якія б прытрымліваліся наўпрост адваротнай палітыкі? Мне ўяўляецца абсурдным аб'ядноўваць пад адным паняцьцем дзьве цалкам процілеглыя палітыкі незалежна ад іх матывацыі. Даваць даброты за ляяльнасьць — гэта не імпэрыялізм, хаця гэта таксама можа быць кепскай зьявай. Калі, скажам, ЗША даюць Ізраілю пэўную колькасьць даляраў штогод, гэта наўрад ці можна назваць імпэрыялізмам, хоць і яны, пэўна, чакаюць, што атрымальнік дапамогі будзе неяк сувымяраць свае мэты і дзеяньні з тым, хто дае гэтую дапамогу.
Што да заходніх правілаў гульні, то ў Вас, мне здаецца, пра іх крыху ідэалістычнае ўяўленьне. Той самы Чаўшэску ў брэжнеўскую Маскву езьдзіў не радзей, чым Лукашэнка цяпер — у путведзеўскую. Таксама знаўцу «правілаў гульні па-заходняму» знайшлі. А можаце і іншых знайсьці — напрыклад, Кадафі, якіператварыў сваю краіну ў суцэльны Гулаг, але якому за невялічкую плату дараваныя ўсе грахі, або Хусэйна, якому ў 1982 годзе зь мілай усьмешкай паціскаў руку Дон Рамсфэлд, або цяперашніх цэнтральназіяцкіх прыгажуноў, якія таксама не забываюць шлях у Маскву. Усе яны, значыць, былі і ёсьць вялікія знаўцы заходняга палітычнага палітэсу, адзін небарака-Лукашэнка ня ў стане гэтай хітрай навуцы навучыцца? У Вас адносна яго атрымліваецца, як у старым анэкдоце. Жонка мужу кажа:

-«Ты такі дурань, што на ўсясьветным конкурсе дурняў заняў бы другое месца!»
–«Чаму?»
– «Таму што ты — дурань»
**Алеся, вашынгтон**: Шаноўны Юры, загадзя выбачаюся да доўгі адказ.
Як вы ведаеце, існуе мноства дэфініцый імперыіі і імперскай палітыкі. Калі карыстацца вашай дэфініцыяй, дык ніякай лягічнай хібы я ня бачу — расейскі танны газ гэта ёсьць неэквівалентны палітычны абмен на карысьць Расеі з выкарыстаньнем эканамічнага рычагу высмоктваньне эканамічнага і палітычнага рэсурсу Беларусі на карысьць мэтраполіі. Дзе вы бачыце карысьць Беларусі? У дэградацыі эканамічнай пэрспэктывы? А дзе страты Расеі? У Беларусі Расея выкарыстоўвае газ у палітычных мэтах, а не проста, каб грошы зарабляць. Мне гэта нагадвае гандляра наркотыкамі, які трымае ахвяру на ігле, каб тая адчувала кайф пакуль не стане цалкам залежная. Першыя дозы можна і задарма ці са скідкай даць, а пазьней кантраляваць цану, як заўгодна. На чыю карысьць такі «неэквівалентны эканамічны абмен», наркадылера ці наркамана? І славяна-братэрскі сэнтымент тут ролі асаблівай ня мае. Так, многія расейцы падзяляюць сэнтымэнт «адзінага русскага народу». Існаваў таксама і сэнтымент «праваслаўны рускі — брат хрысьціяніну грузіну». Але ўсе гэтыя сэнтыменты хутка выпараюцца, калі «браты» заяўляюць пра зьмену «сям'і» і тады брутальнасьці хоць адбаўляй. Так што ня бачу я тут ніякай перакручанай братэрскай ласкі з газам — сучасная імпэрская палітыка з выкарыстаньнем сучаснай зброі. Што да заходніх правілаў гульні, дык я з вамі пагаджаюся, аб'ектыўна нічога Лукашэнку не замінала б іх ужыць, ды толькі ён вучыцца іх ён ня мае вялікага жаданьня, хоць і навука, як вы прадэманстравалі, тут невялікая. Калісьці, здаецца, Фядута згадаў першыя месяцы прэзыдэнцтва Лукашэнкі ягоным пошукам эканамічнай будучыні Беларусі. Параспытаўшы розных урадоўцаў пра рыначную

эканоміку, Лукашэнка сказаў, будзем будаваць, што ведаем. Вось пра гэта я і вяла. Лукашэнка робіць, што ведае. А ведае ён толькі як гандлявацца з Расеяй за іглу.
**drakakhrust**: Паважаная Алеся, я абараняю не Расею, а лёгіку. І мне здаецца ня вартым падмяняць мэтафарамі эканамічны аналіз. Чаму ўсе краіны б'юцца за тое, каб атрымліваць танныя энэргарэсурсы? Яны ўсе наркаманы? Чаму суседняя Ўкраіна таксама атрымлівае газ значна таньней, чым яго атрымлівае, скажам, Польшча, і ня скардзіцца на гэтую «нарказалежнасьць» а наадварот — моліцца, каб яна працягнулася як мага даўжэй? Ну гэта ж падручнік эканоміксу — імкнуцца купляць таньней. Вось у гэтым і палягае «карысьць Беларусі», пра якую Вы пытаеце. Тое, што Беларусь выкарыстоўвае гэты рэсурс неразумна, магчыма і так, але гэта ж яе сувэрэннае рашэньне.
Тут да кожнага слова ў Вашым вызначэньні — пытаньні і пытаньні. «Неэквівалентны палітычны абмен»? Але звычайна ў сьвеце любая дапамога, калі гэта не дапамога людзям, якія паміраюць ад голаду, прадугледжвае нейкія крокі ад акцэптара ў адказ, часам і палітычныя. Нават Вы не рашаецеся назваць гэты абмен неэквівалентным эканамічна на карысьць Расеі.
«Высмоктваньне эканамічнага і палітычнага рэсурсу Беларусі»? Алеся, якога? Што менавіта Расея высмоктвае — МАЗы, калійныя ўгнаеньні, трактары «Беларусь», што з гэтага ці нечага іншага яна атрымлівае таньней, чым іншыя пакупнікі гэтых дабротаў, што на нармальнай, а не ідэалягізаванай мове і называецца «высмоктваньнем»?
Наконт «першых дозаў» — ну таксама. Гэтая «першая доза» цягнецца ўжо гадоў 17, у акурат столькі, колькі незалежнай Беларусі. Вам не здаецца, што для вытанчанай тактыкі «наркагандляра» гэта даўгавата?
Можа быць, Вы маеце на ўвазе, што Беларусь нясе страты ў параўнаньні з той палітыкай, у тым ліку і эканамічнай, якая б падабалася Вам. Ну, гэта, па-першае,

даволі спрэчны спосаб ацэнкі, а, па-другое, а чаму Вы так упэўнены, што мілая Вашаму сэрцу палітыка была б настолькі адназначна лепшай?
А дарэчы, Алеся, калі ўжо наркатычная залежнасьць такая кепская, Вы б параілі зараз беларусам горда заявіць Маскве, што ня трэба ім гэтай залежнасьці і яны гатовыя плаціць, скажам, як Польшча, даляраў 400? І які Ваш прагноз — што ў гэтым выпадку будзе з Беларусьсю?
Я, Алеся, пішу такі доўгі адказ таму, што па-першае, так, як Вы, разважаюць многія, а па-другое, менавіта стыль Вашых развагаў прымушае мяне з жахам думаць аб тым, што будзе пасьля Лукашэнкі. Цяпер можна цешыць сябе такімі, прабачце, сафізмамі, але рэальнасьць абыякавая да сафізмаў. І калі новая ўлада будзе разважаць і дзейнічаць у такім стылі, то праз паўгода беларусы паднімуць яе на вілы і на руках вернуць Лукашэнку ў прэзыдэнцкі палац. І па-свойму будуць мець рацыю. Але мне гэтая пэрспэктыва не падабаецца.
**Павал**: Аргумэнты Алесі больш слушныя, чым аўтара артыкулу. Расея пачала рэалізацыю імпэрскай палітыкі адразу пасьля 1991 году. Тут і прывязка да расейскага ВПК, і захоп маёмасьці, і прымусовая русіфікацыя (інструмэнт ня меньш магутны за танкі, калі казаць пра рэалізацыю геапалітычных інтарэсаў). І калі ўжо карыстацца аналёгіямі аўтара артыкула, дык 17 гадоў — вельмі «мала» для наркадылера, але нішто для геапалітыкі. Спадар аўтар, чаму Вы ўвесь час абараняеце Расею?
**Alesia, washington**: Юра, мне прыемна пачуць, што так як я разважаюць цяпер многія. Гэта дае добрую надзею. Вашыя аргумэнты ня новыя. Чула я іх яшчэ ў 90-х ад экспэртаў і прарокаў каляпсу Польшчы і балтыйскіх краін. Гэтыя аргумэнты ня мелі б пярэчаньняў, калі б можна было глядзець на іх у адрыве ад часу, суб’ектаў і матывацыі. Газам можна надзімаць балёнікі, а можна труціць людзей — важная матывацыя і намер. Выкарыстаньне Расеяй газавай манаполіі ў палітычных

мэтах ва ўсіх былых рэспубліках вельмі яснае. Узнаўленьне ўплыву і кантролю каштуе грошай. Траціць іх на войска ці на газавыя пастаўкі — пытаньне часу і суб'ектаў. Не сумняваюся, што калі Расея адчуе сур'ёзную пагрозу страты Беларусі, паспрабуе ўжыць ня толькі газ, але і вайсковую сілу, як гэта рабіла шмат разоў у мінулым. Тое ж з Грузіяй, Арменіяй ці Украінай. Чакайма Крымскай эпапеі. Так што давайце братэрскі аргумэнт не варушыць. Ён у расейскай палітыцы грае прапагандысцкую ролю. Тое, што Беларусь сувэрэнна пасадзіла сама сябе на іглу — сьцьвярджэньне часткова справядлівае. (Балтыйскія краіны таксама сувэрэнна дазволілі сябе акупаваць). Частковасьць у слове сама і сувэрэнна. Палітычная ўлада, якая кантралюецца іншай дзяржавай у пытаньнях палітыкі, эканомікі, бясьпекі і абароны не прымае сувэрэнных рашэньняў. Яна проста мае нейкую ступень свабоды манэўра. У нашым выпадку — большую, чым расейскія губерніі і аўтаноміі, але меншую, чым сувэрэнная дзяржава. Тое, што беларусы прагандлявалі гэтую сувэрэннасьць на залежнасьць — і наша віна і мэтанакіраваны палітычны курс Расеі. Расея ў гэтым туры ізноў перамагла ў 1994 і ўмацавалася ў 1996. Гэта аднак не здымае з беларусаў адказнасьці пазбавіцца залежнасьці і пачаць варушыць неЛінгаўскімі і неЛукашэнкаўскімі мазгамі пра тое, як рабіць эканоміку канкурэнтназдольнай. Так, канкурэнтназдольная эканоміка — мілая майму сэрцу і на мой густ адназначна лепшая за неканкурэнтназдольную кантраляваную з дзяржаўных кабінетаў, якую мае Беларусь цяпер. Ваш густ можа быць іншы, але які ён, вы не напісалі. Выздараўленьне — доўгі і часта балючы працэс. Над ім трэба працаваць, а ня роста наркотыкі глытаць. Іначай застаецца альтэрнатыва ўскраіннай губэрніі, якая, як казаў Лукашэнка памерці гатова за Расею (ясна, што паміраць ён не сьпяшаецца). Але вы ў сваіх адказах любіце ўтрыраваць. Я не прапаноўвала беларусам нічога горда заяўляць Маскве. Гаворка не пра гордасьць, а пра палітычную і

эканамічную пэрспэктыву Беларусі і адукаваную палітыку ў нацыянальных інтарэсах сваёй дзяржавы, а не сябе пэрсанальна ці суседняй дзяржавы. А калі хочаце майго прагнозу, дык трэба яшчэ пралічыць, што б каштавала нам даражэй, польская гордасьць ці беларускае смактаньне. Након вашага жаху пра тое, што будзе пасьля Лукашэнкі... калісьці мая бабка вохкала на сьмерць Сталіна «Што будзе!...канец сьвету наступае!» Гэтак жа палохалі нас палякамі, літоўцамі, латышамі, эстонцамі, калі яны будавалі сваю незалежнасьць. Народ на вілы не падыме, калі будзе хацець гэтага іншага жыцьця. Пакуль значная частка народу хоча таго, што ведае, як Лукашэнка.
Але ж нават у Беларусі час рухаецца. Усё справа часу, настойлівасьці і працы, бо ж альтэрнатыва надта плюгавая...

## Хто меў рацыю?

**Пасланьне Менску Захад прачытаў дакладна і адказ даў адпаведны. Лукашэнку не запрасілі ні ў НАТО, ні ў ЭЗ, але рэакцыя беларускага аўтарытарыя на вайну на Каўказе была важкім чыньнікам для паляпшэньня стасункаў паміж ім і Захадам. Геапалітычныя разьлікі, на жаль ці на шчасьце, ніхто не адмяняў, і вайна прадэманстравала іх актуальнасьць**

**22.08.2008**

### Ці трэба трэсьці пальму?

Амаль у кожным з камэнтароў цяперашняга стану адносінаў паміж «Беларусьсю без палітвязьняў» і Захаду сутыкаесься з думкай, што, маўляў,

цяпер галоўнае пытаньне — ці прызнае Захад верасьнёўскія выбары ў палату прадстаўнікоў?

Рызыкну выглядаць поўным прафанам у пытаньнях высокай міжнароднай палітыкі, але не магу пазбавіцца ад дзіцячага пытаньня — а што гэта такое, «прызнаньне парлямэнту»? Калі мне ня здраджвае памяць, скажам, сяброўства палаты прадстаўнікоў у Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ было адноўленае яшчэ ў 2003 годзе і з тае пары не перапынялася. Хіба гэта не прызнаньне? Можа быць, маецца на ўвазе сяброўства беларускага парлямэнту ў Радзе Эўропы? Але ў Раду Эўропы прымаюць не беларускі парлямэнт, а беларускую дзяржаву, гэта ж зусім іншае пытаньне.

Да таго ж, літаральна ўсе без выключэньня выбары ў краінах постсавецкай прасторы выклікаюць у заходніх назіральнікаў, скажам так, пэўныя пытаньні. Вось, скажам, апошнія леташнія выбары ў Дзярждуму Расеі, на якія Масква нават не дапусьціла назіральнікаў АБСЭ, яны прызнаныя заходняй супольнасьцю ці не? Калі не, то які рэальны сэнс мае гэтае непрызнаньне? Расея як была да выбараў у Радзе Эўропы, так і застаецца. Ці, напрыклад, Казахстан, дзе на цудоўных выбарах па партыйных сьпісах у парлямэнце аказалася 0 прадстаўнікоў апазыцыі. Там як было з прызнаньнем? І калі не прызналі, то наколькі моцна пакутаваў ад гэтага спадар Назарбаеў?

Здаецца, што ўсе гэтыя размовы пра прызнаньне/непрызнаньне грунтуюцца на памылковай ідэалягічнай пазыцыі, што палітыка, і міжнародная ў тым ліку, зводзіцца да права і ягонай абароны. Прыяжджаюць у нейкую краіну назіральнікі АБСЭ, прыкладаюць да выбараў, якія там праводзяцца,

дэмакратычны стандарт, гэткі пракрустаў ложак, а заходнія ўрады выконваюць адно ролю выканаўцаў вэрдыкту гэтага высокага «суду»: адпавядаюць выбары стандартам — раскрываюць абдымкі, не адпавядаюць — не прызнаюць з незразумелымі, але кепскімі для краіны наступствамі. Нягледзячы на ўсю прыгажосьць гэтай карціны, яна мае той маленечкі недахоп, што не адпавядае рэчаіснасьці. Высновы назіральнікаў — важны, але далёка не адзіны чыньнік, які вызначае стаўленьне заходніх краінаў да той або іншай дзяржавы.

Прыклад — ну той самы Казахстан, дзе надзвычай экзатычныя выбары ні на мілімэтар не зьмянілі палітыку Захаду адносна гэтай краіны. Ці яшчэ больш яскравы — Лібія. Нармалізацыя адносінаў Захаду зь ёй ідзе поўным ходам, хаця Кадафі адно і зрабіў, што адмовіўся ад ядзерных праектаў і заплаціў кампэнсацыю за зробленыя ім у свой час тэракты. Ужо якія ў яго там правы чалавека і празрыстасьць выбараў, дык лепш не распавядаць, каб ноччу спалася спакойна. Але ж размова не пра тое, каб прыняць «ільва пустыні» ў Эўразьвяз, а аб нармалізацыі. Дык і зь Беларусьсю ідзе пакуль размова менавіта пра тое самае.

І праблема парлямэнцкіх выбараў — частка гэтай размовы. Але ў якім сэнсе? У тым сэнсе, што павінен быць відавочны прагрэс у параўнаньні з папярэднімі выбарамі, што паказьнікам гэтага прагрэсу зьяўляецца, ці патрапяць туды апазыцыянэры і колькі. Гэта — палітычная пастаноўка пытаньня, гэтыя зрухі сапраўды можна ўлічыць разам зь іншымі зрухамі ў палітычнай сыстэме, скажам, з тым самым вызваленьнем вязьняў. А як улічваць? А як, ён, Захад палічыць патрэбным.

Вось гэта рэальна будзе, а не мітычныя прызнаньні/непрызнаньні.

«Ну вось, Захад, і асабліва гэтая мяккацелая Эўропа, ізноў нам здрадзяць», — скаланецца пільны чытач. А яны нам і не прысягалі. Спрыяць разьвіцьцю дэмакратыі — ну так, прынамсі абяцалі. А вось кідаць усе свае рэсурсы на вызваленьне Беларусі — не, не абяцалі і на тое не прысягалі. Так, сваёй палітыкай Захад дамогся, што беларускія ўлады пайшлі на саступкі. Але гэта не азначае, што працяг ціску наўпрост прывядзе да поўнай капітуляцыі, да поўнага краху. Гэта як мінімум пары́, пытаньне.

Да таго ж варта ўлічыць, што мы часам вельмі зацыкліваемся на ўласна беларускай сытуацыі. У Захаду, які дзейнічае на ўсясьветнай геапалітычнай дошцы, гарызонт плянаваньня і бачаньня крыху больш шырокі. Ну добра, працягне Захад ціснуць, а здарыцца, скажам, узімку новая нафтагазавая вайна, прычым вайна з новай Расеяй, з Расеяй пасьля грузінскай вайны. Дык тыя, хто цяпер гучней за ўсіх крычыць: «Патрабуем працягу ціску на Менск», гучней за ўсіх будуць крычаць: «Захад, ратуй ад рускага мядзьведзя». А каго, дарэчы, ратуй? Беларусь без Лукашэнкі? А гэта дзе? Ці з Лукашэнкам? А як жа ціск?

Не, калі б ціск Лукашэнку хуценька скінуў, то ўсё б было проста і зразумела. Але неяк так не атрымліваецца. І па ходу справы ўзьнікаюць такія малапрыемныя дылемы.

Насамрэч, вельмі верагодна, што Захад пасланьні зь Менску прачытае і на пэўную нармалізацыю адносінаў пойдзе. Яшчэ раз паўтаруся, на нармалізацыю, не ў Эўразьвяз запросіць, ня ўсё даруе і ня

ўсё дасьць. І гэта, дарэчы, можа адкрыць для апазыцыі новыя магчымасьці. Але можа атрымацца, як у старым анэкдоце.

*Запускаюць у лябараторыю малпу. Там стаіць пальма, на ёй — банан. Малпа пачынае трэсьці пальму. Гіпнатызёр робіць пасы: «Думай, малпа, думай». Жывёліна падымае галаву, азіраецца, бачыць, ляжыць палка, бярэ яе і зьбівае ёй банан.*

*Далей у тую самую мадэльную сытуацыю запускаюць... ну, у першапачатковай вэрсіі — прапаршчыка СА. Ён таксама пачынае трэсьці пальму. «Думай, прапаршчык, думай», — робіць пасы гіпнатызёр. Прапар падымае галаву: «А што тут думаць, трэсьці трэба!!!»*

А можа ня трэба? Можа, з паўтарэньнем таго, што рабілася і ўчора і пазаўчора, мэта недасягальная, можа, варта паглядзець, ці няма нейкага іншага варыянту дасягнуць той самай мэты, можа, зьмена сытуацыі адкрывае такую магчымасьць? Хаця можа і дарма гэта гаворацца, бо ўпартасьць і мэтанакіраванасьць — якасьці, уласьцівыя далёка ня толькі некаторым вайскоўцам былой Савецкай Арміі.

## Хто меў рацыю?

**Вынікі верасьнёўскіх 2008 году выбараў у парлямэнт, у выніку якіх ніводзін апазыцыйны ці незалежны кандыдат не патрапіў у парлямэнт, былі скрытыкаваныя назіральнікамі АБСЭ і непрызнаныя Захадам у тым сэнсе, што такія інстытуцыі, як Эўрапарлямэнт і Парлямэнцкая асамблея Рады Эўропы, адмовіліся мець стасункі з новым складам Нацыянальнага сходу Беларусі.**

**Гэта, аднак, не перашкодзіла працэсу нармалізацыі стасункаў паміж Беларусьсю і Эўразьвязам, які спыніўся значна пазьней, пасьля драматычнага завяршэньня прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году. Аднак варта сказаць, што апазыцыя не знайшла сваёй ролі ў гэтым працэсе, безьліч альтэрнатыўных кандыдатаў, вылучаных на выбары-2010, сьведчылі пра што заўгодна, толькі не пра адказны падыход. Больш спрыяльныя ўмовы палітычнай працы прывялі да таго, што альтэрнатыва на выбарах 2010 году была прадстаўленая нават менш выразна, чым на папярэдніх выбарах 2001 і 2006 гадоў.**

**28.08.2008**

## Чаўшэску, 1968 — Лукашэнка, 2008

Адказ Аляксандра Лукашэнкі на прапанову Масквы прызнаць сэпаратысцкія аўтаноміі Грузіі сьведчыць пра тое, што кіраўнік Беларусі займае сваю пасаду ўжо 15-ты год невыпадкова. Палітык, што ні кажы.

Большасьць назіральнікаў схілялася да таго, што ну хай сабе не адразу, хай сабе патаргаваўшыся, але ж прызнае, стане ў расейскі фарватэр, куды ж падзенецца, павязаны па руках і нагах. Але — не прызнаў.

Не, фармальна кажучы, рашэньне як бы адкладзенае, прапанавана разгледзець пытаньне на Радзе дамовы аб калектыўнай бясьпецы. Але гэта проста бюракратычны хітрык — Казахстан зь яго вялікай расейскай меншасьцю, Кіргізстан са сваімі міжэ-

тнічнымі праблемамі ды іншыя чальцы дамовы зусім не дэманструюць намеру падтрымаць Расею ў гэтым пытаньні. Ну абмяркуюць, і што? Як прымаць рашэньне будуць — большасьцю галасоў? Так што ветлівая прапанова зь Менску — гэта адмова і нішто іншае.

Можна ўявіць сабе, што далося гэтае рашэньне Лукашэнку няпроста. Бо пытаньне — сапраўды найважнейшае, пытаньне вайны і міру, пытаньне жыцьця і сьмерці. Лукашэнка ня мог не разумець, што за ягонае рашэньне ў вачох Масквы, асабліва ў тым псыхалягічным стане, у якім яна знаходзіцца, ён будзе здраднікам.

І тое, што ініцыятыву Расеі не падтрымаў ніхто іншы, ад гэтага прысуду яго не ўратуе. Ну Кітай адмовіўся, ну нават Вэнэсуэла з Кубай маўчаць — гэта ж далёка, у іх свае расклады. А тут — Беларусь, ды колькі грошай ёй дадзена, ды колькі ад таго самага Лукашэнкі пра спрадвечнае адзінства выслухана — пра танкі, пад якія беларусы будуць класьціся, калі НАТО на Маскву пойдзе. Ну вось і пайшлі — ва ўяўленьні расейцаў цяперашняя сытуацыя — менавіта нешта падобнае. А Лукашэнка кажа — не. На словы ён шчодры, у Сочы, праўда, пад прымусам разьліваўся пра тое, як мудра, спакойна і прыгожа дзейнічала Расея ў Грузіі, сустрэўся нават зь лідэрамі Паўднёвай Асэтыі і Абхазіі. І ў сёньняшняй тэлеграме Мядзьведзеву Лукашэнка таксама аддае даніну рыторыцы, маўляў, Расея ня мела іншага маральнага выбару, як прызнаць. Словы, словы, словы... Але калі прыйшоў час прымаць канчатковае адказнае рашэньне, яно прымаецца.

Гэта я да таго, што кіраўнік Беларусі мусіў уяўляць маштабы расейскай помсты за тое, што там

палічаць здрадай. У гэтым сэнсе і сёньняшняе рашэньне, і вызваленьне палітвязьняў, і новыя ўмовы правядзеньня выбараў укладаюцца ў адзін ланцуг — у ланцуг вялікага павароту, у спадзеў, што на Захадзе ён знойдзе абарону і падтрымку ад расейскага ўдару ў адказ. У свой час Захад вельмі падтрымліваў дыктатара Румыніі Нікалае Чаўшэску фактычна за некалькі крокаў, зробленых ім, за некалькі дэманстрацыяў таго, што ён — ня поўная марыянэтка Крамля. Сярод такіх крокаў была і адмова 40 гадоў таму далучыць румынскія войскі да ўварваньня ў Чэхаславаччыну сілаў Варшаўскай дамовы.

Сёньняшняе рашэньне Лукашэнкі вельмі падобнае на тагачаснае рашэньне Чаўшэску.

І мяркую, што за яго Лукашэнка атрымае ад Захаду спаўна, як тады Чаўшэску. А беларускай апазыцыі давядзецца прыняць, прызнаць рэальнасьці сучаснага сьвету, у якім рашэньні прымаюць сапраўдныя палітыкі, а ня проста добрыя людзі з добрымі намерамі.

## Камэнтары:

**Ясь**: Чаўшэску праводзіў сталініскую ўнутраную палітыку і гэта галоўнае чаму Крэмль яму дараваў некаторую самастойнасць у знешняй палітыцы: адмову ў інтэрвэнцыі 1968, добрыя стасункі з Кітаем, Ізраілем, удзел у Лас-Анджелескай Алімпіадзе 1984,крытыку СССР за напад на Аўганістан. А вось чэхам «сацыялізм з чалавечым тварам» не даравалі, хоць і Дубчак запэўніваў Маскву, што не збіраецца пакідаць Варшаўскі Пакт. Тое ж самае і з Лукашэнкам. Яго ўнутраная палітыка поўнасцю задавальняе Крэмль: ніякай дэмакратыі, як і ў Расеі +

русіфікацыя. Як кажуць расейцы :» Ворон ворону глаз не выклюет «
**drakakhrust**: Ясь, я і не кажу, што Лукашэнка — анёл. Я кажу толькі, што ён палітык. Вы, магчыма, і правільна тлумачыце матывы, чаму Масква цярпела самастойнасьць Чаўшэску. Хаця і тут можна запярэчыць — у Ціта ці Мао была прыкладна такая самая сталінісцкая ўнутраная палітыка, але іх самастойнасьць Крэмль успрымаў надзвычай хваравіта. Але тут цікавейшае пытаньне, чаму Захад Чаўшэску «ўсяляк прываблівaў і заахвочваў» (паводле выразу Бжэзінскага)? У Вас ёсьць тлумачэньне гэтага? Вы ня лічыце, што з тых самых прычынаў заходняя палітыка можа стаць такой самай і адносна Лукашэнкі?
**Лысевіч, Ліда**: Паважаны Юры. Усе што Вы сказалі ляжыць у полі прагматыкі, альбо ў полі таго, што асабіста я называю «палітыкай у стылі Макіявеллі». Аднак я прашу Вас адказаць на адно пытаньне. Зараз ранак 29 жніўня (7.40). Я працую у канструктарскім аддзеле прадпрыемства. Тут нас 14 чалавек у дадзеным кабінэце. Сярэдні ўзрост каля 30 год, асабіста мне 40. Дык вось, адзін хлопец раптоўна кажа: «Беларусь прызнала незалежнасьць Асэтыі і Абхазіі». Я запярэчыў, што гэта на сеньня зусім ня так, што Лукашэнка хутчэй хітруе, чым прызнае. І вось 10 чалавек (адукаваных і маладых) мне ў голас (на падвышаных танах) заявілі: «Расея вялікая страна, скора ЗША капец. Расея маладзец, гэдак і нада». На мае пярэчаньні адносна Косава, Ічкерыі, Баскаў і г.д., на мае пярэчаньні аб міжнародным праве, аб недапушчальнасьці выкарыстаньня бруднай моцы ў міжнароднай палітыкі, аб тым, што Расеі да лямпачкі незалежнасьць згаданых тэрыторый, а галоўнае нафта Каўказа — толькі выкрыкі супраць. Сьмех, альбо маўчаньне. Заўважце: 1 спраць 13. Дык колькі на Ваш погляд Лукашенка пратрымаецца, і ці здолее ен хоць трошкі нагадаць Чаушеску?
**drakakhrust**: Лысевічу

У свой час Юры Шаўцоў трапна заўважыў: «Беларускае нацыянальнае не маніфэстуецца, а праяўляецца». Калі рабіць высновы пра беларусаў толькі на падставе таго, што яны кажуць, дык абавязкова памылісься. Вашы калегі кажуць... Дык і Лукашэнка кажа — і пра «мудра, спакойна і прыгожа», і пра «ня мела іншага маральнага выбару». Проста калі прыходзіць час прымаць рашэньне, яно атрымліваецца не зусім адпаведным гэтай балбатні. Гэтак і роўна 6 гадоў таму і Лукашэнка, і, пэўна, Вашы калегі казалі, як яны любяць Расею і жадаюць аб'яднацца зь ёй. І ўвесь народ казаў тое самае, апроч зразумела, «купкі агалцелых нацыяналістаў». Але калі ў жніўні 2002-га Пуцін і запрасіў Беларусь у РФ — шасьцю губэрнямі, то «раптам» і Лукашэнка сказаў «не», і што самае галоўнае — ніякага ня тое што пратэсту, а нават зьдзіўленьня гэта ні ў кога ня выклікала (хіба ў той самай «купкі»): «А як жа ж, ну пэўна ж не, навошта нам туды».

## Хто меў рацыю?

**Сьвет, безумоўна, зьмяніўся з часоў «халоднай вайны», пуцінская Расея — не СССР, які ўяўляў пагрозу ўсяму сьвету. І адпаведна паводзінаў Чаўшэску, які дазваляў сабе пэўныя крокі насуперак палітыцы Масквы, для Захаду ўжо мала, каб прылашчваць яго, заплюшчваючы вочы на суцэльнае пекла, усталяванае ім унутры краіны. Аднак пэўныя сюжэты, падобныя на палітыку Захаду адносна Чаўшэску, прасочваліся ў адносінах паміж афіцыйным Менскам і Захадам у пэрыяд 2008-2010 гадоў. Магчыма, катастрофа 19 сьнежня 2010 году адбылася з-за ўзаемнага непаразуменьня: Лукашэнка лічыў, што зь ім будуць будаваць стасункі, як з Чаўшэску, Эўразьвязу гэта бачылася інакш.**

**Элемэнты гэтай жа гульні назіраліся і ў 2014 годзе, больш памяркоўная, чым расейская, пазыцыя афіцыйнага Менску адносна падзеяў ва Ўкраіне — новае пасланьне А. Лукашэнкі Захаду пра гатоўнасьць ва ўмовах новай «халоднай вайны» выканаць ролю Чаўшэску ўзору 1968 году.**

## 02.01.2010

## Скандал як форма братэрства

Deja vu-2007. Ізноў як тады: пачатак году — нафтавая вайна. Ну пакуль яна не выходзіць з вэрбальнай стадыі, але на гэтай стадыі бакі ня выбіраюць выразаў, карыстаючыся ваеннай тэрміналёгіяй. Расейскі бок пасьля зрыву перамоваў у апошні дзень мінулага году паведаміў пра «адсутнасьць неабходных дырэктыў і паўнамоцтваў у прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь» і пра тое, што «беларускі бок фактычна па-ранейшаму працягвае прытрымлівацца нічым не абгрунтаванай запытальнай пазыцыі, паводле якой Расея, па сутнасьці, павінна працягваць субсыдыяваньне беларускай эканомікі, працягваючы бязмытныя пастаўкі нафты ня толькі для ўнутранага спажываньня, але й на ўвесь аб'ём пастаўлянай расейскай сыравіны». На наступны дзень зь Менску прагучаў «адказ Чэмбэрлену»: «на чальцоў беларускай дэлегацыі, склад і паўнамоцтвы якой былі зацьверджаны адпаведнай пастановай Савету міністраў Рэспублікі Беларусь, рабіўся беспрэцэдэнтны ціск, што, на меркаваньне беларускага боку, зьяўляецца абсалютна неабгрунтаваным і недапушчальным... фактычна беларус-

каму боку было прапанавана парушыць базавую дамову пра стварэньне адзінай мытнай тэрыторыі і фармаваньне Мытнага саюзу... Адыход ад гэтых дамоўленасьцяў і вывад цэлага энэргетычнага сэктару Беларусі за межы падпісаных дамоваў па стварэньні Мытнага саюзу шмат у чым падарвалі б усе дасягнутыя дамоўленасьці па далейшай інтэграцыі нашых дзяржаў».

Напрошваецца яшчэ адна аналёгія — зь леташняй малочнай «вайной», калі беларускі бок зрабіў асымэтрычны ход, фактычна прыпыніўшы вайсковае супрацоўніцтва з Расеяй у межах АДКБ. Гэтак жа і цяпер — у адказ на крамлёўскія «прошукі» ставіцца пад сумнеў удзел Беларусі ў мытным саюзе. Сказаў жа Лукашэнка на прэсавай канфэрэнцыі напрыканцы году, што калі Беларусь у мытным саюзе будуць моцна ціснуць, дык можа і няма чаго там краіне рабіць.

Наконт ціску — як у ваду глядзеў.

Напачатку — па сутнасьці. Хто ж мае рацыю ў гэтым канфлікце? Абодва ж бакі спасылаюцца на папярэднія дамоўленасьці, на заключаныя раней пагадненьні (ці на іх адсутнасьць). Калі падыходзіць аб'ектыўна, то найбольш праўдападобнай выглядае выснова, што ніхто, дакладней, што ў кожнага з бакоў — свая праўда. Калі мне ня здраджвае памяць, то тры гады таму, па выніках тагачаснай нафтавай вайны, было прынятае пагадненьне, паводле якога мыта на пастаўляную ў Беларусь нафту сапраўды мусіла штогод падвышацца. Новы год прыйшоў, яно і падвышаецца. Зь іншага боку, калі ўжо бакі вырашылі заключыць мытны саюз, то неяк дзіка выглядае гандляваць адным з ключавых тавараў у межах саюзу на такіх самых умовах, як

зь Нямеччынай ці Польшчай. Яно, праўда, частку нафты расейцы Беларусі і даюць наагул бязмытна, але чаму б і ня ўсю, калі ўжо саюз. Зь яшчэ аднаго боку і Мядзьведзеў, і Пуцін казалі, што якраз газ і нафта не зьяўляюцца таварамі мытнага саюзу.

Але зь цягам часу іх зьбіраліся ўключыць ва ўмовы саюзу. З чацьвёртага боку, на апошнім пасяджэньні Рады саюзу Беларусі і Расеі ішлося пра тое, што нафту ў 2010 годзе Расея будзе прадаваць Беларусі «па-братэрску». Праўда, братэрскія абяцаньні тады даваў прэзыдэнт Мядзьведзеў, а пры «шматвежавай» канструкцыі ўлады ў сучаснай Расеі такія абяцаньні — далёка ня ўсё. Ну і гэтак далей. Разблытаць гэты клубок узаемных абяцаньняў, саступак, дамоўленасьцяў, паправак да іх і выключэньняў зь іх, няма аніякай магчымасьці.

І ў гэтым, дарэчы — самая сутнасьць беларуска-расейскіх адносінаў. Тое, што Расея — краіна, якая мае вялікія амбіцыі, што яна імкнецца дамінаваць у рэгіёне, што часам выкарыстоўвае эканамічныя рычагі для дасягненьня палітычных мэтаў — гэта так і ёсьць. Але яе стасункі з Польшчай, Літвой, Нямеччынай, Турцыяй, нават з Грузіяй, зь якой Масква нават ня мае дыпляматычных адносінаў, менавіта такімі эканамічнымі скандаламі не азмрочаныя. Неяк дамаўляюцца бяз бразганьня дзьвярыма. А зь Беларусьсю — увесь час.

Хутчэй за ўсё, сапраўды скандал — такая своеасаблівая форма двухбаковага супрацоўніцтва. Для Беларусі зь яе аб'ектыўна больш слабай перамоўнай пазыцыяй гэта хіба не адзіны спосаб вытаргаваць хаця б нешта, напрыклад, практычна дадатковыя 3 мільёны тон бязмытнай нафты. Разьлік на тое, што распачынаць поўнамаштабную чарговую на-

фтавую вайну Расеі цяпер надзвычай нявыгадна. Тым больш, што зрабіць так, каб яна не закранула Эўропу, наўрад ці атрымаецца, досьвед 2007 году паказаў, што перакрыць нафтавы кран на Эўропу ў Лукашэнкі рука ня задрыжыць.

У прынцыпе, вайны можа і ня быць. Расейскі бок заявіў, што калі пагадненьня да 31 сьнежня ня будзе (а яго няма), то з 1 студзеня ўся нафта пойдзе з поўным мытам. Але грошы (з разьлікам бязмытных паставак) за студзень ужо заплачаныя, пакуль можна пастаўляць нафту, а потым на працягу студзеня дамаўляцца і вызначаць, у прыватнасьці, зь якой стаўкай мыта гэтая студзеньская нафта ідзе. Але гэта калі хацець мірнага вырашэньня. Аднак ёсьць стратэгія сьвядомага абвастрэньня сытуацыі ў спадзеве, што Расея ў апошні момант адверне, не жадаючы рызыкаваць рэпутацыяй эўрапейскага пастаўніка. Для яе нафта для Беларусі — пытаньне ў эканамічным сэнсе некрытычнае. А для Беларусі — крытычнае і таму магчыма вар'яцтва зьяўляецца, як ні дзіўна, самай рацыянальнай палітыкай.

І дарэчы — да палкіх спрэчак у апазыцыі, якія віравалі ўвесь апошні год. Дык ёсьць пагроза незалежнасьці Беларусі ці няма? Гэта пагроза Беларусі ці рэжыму? Зразумела, калі ўся нафта, акрамя той, што для ўласнага спажываньня, пойдзе з поўным мытам, то даходы ад экспарту нафтапрадуктаў калі ня зьнікнуць, то істотна скароцяцца. А чые даходы — рэжыму ці Беларусі? Дзякаваць Расеі за тое, што спыняе субсыдыяваньне рэжыму ці бэсьціць за намер паставіць Беларусь на калені?

Дарэчы, цяперашняя сытуацыя адкрывае новыя магчымасьці для Эўропы. У нашых краях гэта як закон прыроды: чым больш жорстка канфліктуюць

Менск з Масквой, тым больш у Менску ўзьнікае патрэба ў Брусэлю. Быліны пра тое, што Беларусь дэмакратыяй можа яшчэ і падзяліцца з Эўропай, зручна распавядаць, калі Масква лагодная і робіць каштоўныя падарункі. А калі адвешвае поўхі, дык Брусэлю накіроўваецца сыгнал SOS. Брусэль, ну і Захад наагул, дапамагчы могуць, як тое было ў чэрвені летась, калі рашэньне аб дадатковым крэдыце МВФ аказалася ў разгар малочнай «вайны» звышдарэчным. Ну і чым такім добрым заплаціў Менск за тагачасны своечасовы прыезд МВФаўскай, а па сутнасьці, эўрапейскай «хуткай»? Да нічым асабліва. Ну дык у цяперашняй сытуацыі «хуткая» можа і не сьпяшацца, пакуль ня высьветліцца, што Эўропа атрымае за свой выратавальны спрыт. Праўда, дамоўленасьці зь Менскам... Масква ж таксама пра нешта дамаўляецца. А потым атрымліваюцца сюрпрызы пад елачку. А чым Брусэль лепшы?

## Хто меў рацыю?

**Пасьля перадвыбарчага замірэньня паміж Масквой і Менскам ў 2010 годзе не было падобных адкрытых і вострых канфліктаў. Пэўныя былі — скандал вакол беларускага экспарту «растваральнікаў-разбаўляльнікаў», гульні вакол прыватызацыі расейскім капіталам «Беларуськалія» і МАЗа, але ніводная з гэтых спрэчак не дасягала напалу сутыкненьняў 2010 году. Ня выключана, што Расея зрабіла выснову, што лабавы, публічны канфлікт з выразным палітычным вымярэньнем дае Лукашэнку магчымасьць скарыстаць свае таленты. І таму перавага аддадзеная паступоваму эканамічнаму ціску, пазьбяганьню палітычнага**

**«клінчу». Шматлікія заявы прэзыдэнта Беларусі пра спробы неназваных суседзяў «нахіліць» краіну сьведчаць пра наяўнасьць гэтага ціску, характар якога, аднак, не дае магчымасьці пераводзіць яго ў палітычную плоскасьць.**

**20.06.2011**

## З вайны нэрваў — у вайну эканамічную

Чаму эўрапейскія санкцыі былі ўведзеныя менавіта супраць гэтых кампаніяў, чаму Пефціеў? Як мы памятаем, абмяркоўваліся розныя варыянты. Але, відаць, былі выбраныя мішэні, агонь па якіх найменш ударыць па простых людзях, але прынясе найбольшы палітычны эфэкт.

Бізнэс Пефціева — высокатэхналягічны, працазьберагальны, ад санкцыяў супраць яго пацярпяць ня сотні тысяч людзей. Удар нанесены па бізнэсах, рэпутацыя якіх у вачах насельніцтва ня самыя высокая — гандаль зброяй ды лятарэя. Не малако і не трактары. Да таго ж удар па кампаніях, якія належаць беларускаму фігуранту сьпісу Форбса — самых тлустых «буржуінаў» сьвету — напамін беларусам, што іх краіна — не такое ўжо царства роўнасьці, як часам здаецца.

Але незалежна ад адрасата санкцыяў і ад маштабаў шкоды, якую яны зробяць, куды больш важным зьяўляецца самы пачын — упершыню ЭЗ увёў прамыя эканамічныя санкцыі супраць беларускіх кампаніяў. Гэта, безумоўна, пераход канфлікту ў новую фазу, больш глыбокае ўцягваньне Эўропы ў канфлікт з афіцыйным Менскам. Цяпер Эўропе

яшчэ цяжэй будзе задаволіцца чым бы там ні было, акрамя перамогі.

Чаму ўвялі? Ну, таму што ранейшыя санкцыі разам з угаворваньнем не далі плёну, рэпрэсіі працягваліся, момант завяршэньня большасьці працэсаў у справе 19 сьнежня 2010 году, які быў удалым для таго, каб усіх вызваліць шырокім жэстам, быў страчаны.

Тут ужо справа ня толькі ў лёсе беларускай дэмакратыі, а ў гонары Эўропы.

Да таго ж, на мой погляд, меў значэньне і міжнародны кантэкст.

Эўропа цяпер шырока ўводзіць эканамічныя санкцыі супраць паўночнаафрыканскіх і блізкаўсходніх дэспатаў, якія топяць у крыві пратэсты. Парог увядзеньня санкцыяў зьнізіўся. І аказаўся ніжэй, чым беларуская сытуацыя.

Беларуская ўлада апынаецца ў няпростым становішчы. Яна, безумоўна, адкажа на гэты ход і пастараецца зрабіць адказ максымальна балючым. Але крок Брусэлю пагаршае стратэгічную пэрспэктыву канфлікту для Менску, рашучасьць ЭЗ абясцэньвае козыры беларускага боку — магчымасьць балянсу паміж Усходам і Захадам, магчымасьць частковых саступак, у прыватнасьці, гандлю палітвязьнямі ўраздроб.

Калі рашучасьць абодвух бакоў аказваецца роўнай, то пры лабавым сутыкненьні эўрапейскага самазвала МАН і беларускага жыгулёнка апошні ня мае шанцаў. На крокі Менску ў адказ будуць новыя крокі Брусэлю. Так што ня выключана, што ў Менску сёньняшняе рашэньне будзе ўспрынятае, як сьведчаньне таго, што вайна нэрваў скончылася, а пачалася вайна эканамічная. А для гэтай вайны

ў афіцыйнага Менску малавата снарадаў, асабліва ўлічваючы гаротны стан айчыннай эканомікі.

## Хто меў рацыю?

**Санкцыі адносна Пефціева і іншых «кашалькоў» Лукашэнкі, якія былі ўведзеныя пазьней, былі прыкладам «разумных» (smart) санкцый, якія практычна не ўплываюць на дабрабыт насельніцтва, але ўзьдзейнічаюць на ўплывовыя мэтавыя групы ў беларускім грамадзтве, якія могуць уплываць на палітычнае кіраўніцтва. Цяжка сказаць, які эфэкт мелі менавіта гэтыя санкцыі, хоць варта адзначыць, што неўзабаве пасьля ўвядзеньня санкцый супраць кампаній Пефціева, у верасьні 2011 году была вызваленая самая вялікая група палітычных вязьняў. У кастрычніку 2013 году ЭЗ зьняў санкцыі з кампаніяў Уладзімера Пефціева, хаця сам прадпрымальнік застаўся ў сьпісе неўяздных у краіны Эўразьвязу.**

**07.09.2011**

## Ці патрэбныя Лукашэнку замежныя войскі?

Скандал з заявамі пра тое, што Масква не зьбіраецца дапамагаць Лукашэнку здушваць народныя паўстаньні, сапраўды вельмі важны і паказальны. Толькі яго важнасьць і паказальнасьць — зусім ня ў тым, у чым яны бачацца на першы погляд.

Сапраўды, на адным з апошніх самітаў АДКБ кіраўнік Беларусі казаў пра магчымасьць ужы-

ваньня корпусу сілаў апэратыўнага рэагаваньня (КСАР) АДКБ у выпадку ўнутраных забурэньняў у той або іншай краіне. Але каго пры гэтым ён меў на ўвазе і чаму наагул пачаў пра гэта гаварыць? Рэальныя просьбы аб вайсковай дапамозе з боку АДКБ гучалі насамрэч двойчы, і абодва разы — ад Кіргізстану летась: першы раз у красавіку ад прэзыдэнта Бакіева, калі ён прасіў абараніць яго ад паўстаньня, і другі раз — у чэрвені, ад часовага прэзыдэнта Атунбаевай, якая прасіла дапамогі падчас этнічных пагромаў на поўдні краіны.

Ніякіх іншых просьбаў не паступала. Калі ацэньваць сытуацыю аб'ектыўна, то патрэба ў такой дапамозе можа ўзьнікнуць зусім не ў Беларусі. У многіх краінах Цэнтральнай Азіі ёсьць ваяўнічае ісламісцкае падпольле, там ужо здараліся ўзброеныя бунты, да таго ж у хуткім часе амэрыканцы сыдуць з Аўганістану, і што там будзе і ці ня выплюхнецца гэта на поўнач, якраз на тэрыторыю паўднёвых удзельнікаў АДКБ — гэта вялікае пытаньне.

Што да сытуацыі ў Беларусі, то меркаваньні наконт яе могуць быць розныя, але варта прывесьці думку расейскага дыплямата, якога «Известия» працытавалі ў артыкуле, прысьвечаным скандалу.

Паводле дарадцы расейскай амбасады ў Беларусі Ўладзіміра Марчука, «у Лукашэнкі дастаткова сілаў беларускай арміі, каб прадухіліць любую «арабскую вясну», а яго заява адносна АДКБ усяго толькі прапагандысцкі выкрут, каб паказаць важнасьць Беларусі і міжнароднае значэньне яе лідэра. Унутры краіны Лукашэнку нічога не пагражае. Друго-

га Эгіпту або Лібіі тут ня будзе. Занадта розныя ўмовы».

Ёсьць шмат падставаў лічыць, што расейскі дыплямат меў рацыю і ў ацэнцы сытуацыі ў краіне, дзе ён прадстаўляе сваю дзяржаву, і ў ацэнцы матываў, на падставе якіх Лукашэнка зрабіў заяву пра ператварэньне КСАР у міжнароднага жандара. Ужо сытуацыя з прытулкам Бакіеву паказала наяўнасьць у беларускага кіраўніка палітычных амбіцыяў у Цэнтральнай Азіі, жаданьне паказаць сябе гульцом, пасярэднікам, ідэолягам змаганьня з рэвалюцыйнай «заразай» — кім заўгодна, абы ўплывовай фігурай.

І тут тое самае. Напярэдадні саміту АДКБ у Астане не Лукашэнка, а Назарбаеў казаў пра неабходнасьць пабудаваць «непрыступны мур», каб прадухіліць пашырэньне рэвалюцый у Цэнтральнай Азіі. Дык прапанова Лукашэнкі гучала проста як практычнае ўвасабленьне страхаў і перасьцярогаў Назарбаева і яго суседзяў.

Але чаму ж тады Масква перавяла стрэлкі на Лукашэнку, зрабіўшы выгляд, што ён для сябе, для абароны сваёй улады прапанаваў пашырыць функцыі і паўнамоцтвы АДКБ? Дакладна таму ж, чаму раздражненьне ў Маскве выклікаў і прытулак, дадзены Лукашэнкам Бакіеву. Паводле схемы маскоўскай палітыкі, яе саюзьнікі і суседзі павінны камунікаваць паміж сабой празь яе, праз Маскву. Ну, магчымыя максымум рэгіянальныя кантакты, але калі беларус Лукашэнка лезе ў цэнтральнаазіяцкую палітыку — гэта, на погляд Крамля, зусім не ягоныя сані, што яму ў дастаткова грубай форме і было паказана. Для Лукашэнкі грубай, а для Захаду (дробязь, а прыемна) вельмі прыгожай:

аскепак «саўка» Лукашэнка ледзь ня сам заклікае да сябе расейскія войскі для абароны ад народу, а Расея, пазбаўленая, як вы ведаеце, якіх бы там ні было імпэрыялістычных памкненьняў, яму ў гэтым адмаўляе, ускосна займаючы бок дэмакратыі, якая так падабаецца Захаду :-)

Ёсьць і яшчэ адзін, бадай што галоўны матыў, паводле якога разыграны гэты спэктакль — гэта тое, што ступень гатовасьці беларускага кіраўніка ісьці насустрач пажаданьням Крамля ў эканамічнай сфэры ніжэйшая, чым Крамлю хацелася б. Адсюль і вынікае агучаны ананімнай крамлёўскай крыніцай загад «мачаць» дарагога саюзьніка. Яшчэ (ці ўжо) не «мачыць» — «хросных бацькаў» і іншых войнаў, можа, найбліжэйшым часам і ня будзе — усё ж у мытны саюз уступіў, адзіную эканамічную прастору падпісаў. Але «мачаць», каб разумеў, што ад яго дамагаюцца большага.

Вось гэта якраз і ёсьць адзінае важнае і паказальнае.

## Хто меў рацыю?

**Ніякіх прэцэдэнтаў выкарыстаньня сілаў АДКБ дзеля падаўленьня рэвалюцыяў не назіралася. Расея для барацьбы з пратэстамі 2011-2012 гадоў абыходзілася без замежных войскаў. Гледзячы па ўсім, аўтарытарныя рэжымы абыходзяцца ўласнымі сіламі, а калі гэта робіцца немагчымым, то ўмяшаньне палітычна немагчымае ўжо для тых, хто гэтыя сілы мог бы даць аўтарытарыю, які цярпіць палітычнае бедзтва. Прычына таго, што ў адрозьненьне ад Сьвятога саюзу, утворанага манархіямі Эўропы пасьля**

**перамогі над Напалеонам, які быў злучаны ідэалёгіяй манархічнай легітымнасьці, постсавецкі аўтарытарызм ня мае настолькі глыбокага ідэалягічнага падмурку. І насамрэч, «каляровыя» рэвалюцыі не нясуць прынцыповай пагрозы «матрыцы» постсавецкай палітыкі як такой, вядома, якімі вялікімі дэмакратамі сталі пераможцы «каляровых» рэвалюцый Саакашвілі і Бакіеў. Інтарэсы, да таго ж каньюнктурныя і контравэрсійныя, недастатковае апірышча для ўзброенага ўмяшаньня зь няпэўным вынікам ва ўнутраныя палітычныя забурэньні ў іншай краіне. Цар Мікалай I дапамагаў Вене душыць рэвалюцыю 1848 году дзеля хай на нечы погляд і кепскіх, але прынцыпаў і ідэалаў. У постсавецкіх аўтарытарыяў іх няма. Умяшаньне Расеі ўва ўнутраныя справа Ўкраіны ў 2014 годзе таксама толькі на самым пачатку адбывалася пад сьцягам аднаўленьня «легітымнасьці» прэзыдэнта Януковіча, потым прэзыдэнт-уцякач быў забыты і была аддадзеная перавага чыста шавіністычным матывацыям умяшаньня.**

**17.10.2011**

## Лукашэнка пра Эўразійскі саюз

Навошта Лукашэнка апублікаваў у «Известиях» адказ на праграмны артыкул Пуціна пра Эўразійскі саюз?

У першую чаргу — гэта спроба паказаць, што гэты інтэграцыйны праект калі і будзе рэалізаваны, то для гэтага мала жаданьня і ўзмаху рукі Пуціна,

што яго, Лукашэнкі, меркаваньне мае ня меншае значэньне. У адрозьненьне ад ранейшых часоў ён ужо не настойвае на сваім аўтарстве інтэграцыйных ідэй, а налягае ў асноўным на хваласьпевы на адрас Пуціна, але самы факт зьяўленьня такога артыкулу павінен паказаць, што Лукашэнка — суаўтар, а не выканаўца.

З другога боку, гэта безумоўна дэманстрацыя ляяльнасьці нова-старому гаспадару Крамля. Тандэм даваў магчымасьць Лукашэнку гуляць на супярэчнасьцях паміж Мядзьведзевым і Пуціным, лібэральныя рухі цела дзейнага прэзыдэнта Расеі дазвалялі беларускаму кіраўніку пазыцыянаваць сябе як змагара зь «лібэральнай заразай». Цяпер беларускі лідэр пазбаўляецца гэтых магчымасьцяў.

Поўны гаспадар у Расеі будзе толькі адзін, прычым схільнасьць яго да лібэральных спакусаў будзе прыкладна роўнай схільнасьці Лукашэнкі.

Адсюль вынікае, што калі Масква палічыць патрэбным ціснуць на Менск, то працістаяць гэтаму ціску будзе цяжэй, чым раней. Але Эўразійскі саюз, мяркуючы па ўсім — адна зь любімых цацак Пуціна. І падыгрываючы яму, прынамсі ў рытарычнай сфэры, можна нечага дамагчыся.

У свой час падобны праект быў у Ельцына, што і абумоўлівала патрэбу ў Лукашэнку. Калі цяпер гэта стала патрэбна Пуціну, чаму б не пагуляць і зь ім?

Паварот Лукашэнкі да Расеі — гэта наступства і крызісу, і пагаршэньня адносін з Захадам. Умовы паляпшэньня гэтых адносін патрабуюць ад Менску калі не небясьпечных для захаваньня ўлады, то прынамсі непрыемных саступак. Але бязь іх з Захаду ня будзе грошай, а без (і да) нармалізацыі

стасункаў з Захадам адзінай крыніцай дапамогі застаецца Расея.

Але калі расейцам ізноў спатрэбіўся партнэр па гульні «пацалункі ў абмен на газ, нафту і іншыя даброты», дык яны могуць абысьці сьвет, але ня знойдуць лепшага, чым беларускі прэзыдэнт.

Бо пакуль гаворка ідзе аб рытарычнай падтрымцы інтэграцыі, што заўсёды было каньком беларускага лідэра. На самай справе ў артыкуле рассыпаны шэраг намёкаў на тое, што рэальная інтэграцыя, калі Лукашэнка ў ёй наогул зацікаўлены, бачыцца яму крыху інакш, чым Пуціну.

*«У Беларусі рэакцыя на ізьвесьцінскую публікацыю (Пуціна) таксама неадназначная ... ёсьць частка грамадзтва, якая шчыра заклапочаная, паколькі на коне лёс дзяржавы. Ад гэтага меркаваньня нельга проста адмахнуцца».*

*«Толькі роўнасьць партнэраў, у тым ліку роўнасьць умоваў гаспадараньня з роўным доступам да адзінай энэргетычнай і транспартнай сыстэмы, дасьць магчымасьць стварыць надзейную аснову для нашага саюзу ... На няроўнай аснове саюз аднадумцаў і партнэраў не пабудаваць. Гэта аксіёма! Веру, што менавіта такая ідэалёгія закладваецца ў наш новы саюз».*

*«Кажучы па праўдзе, стварэньне АЭП стала для нас нялёгкім кампрамісам. А калі яшчэ больш прама: за адзіную эканамічную прастору Беларусь заплаціла дорага».*

*«Скажыце, навошта, напрыклад, на агульнай інтэграцыйнай прасторы выціскаць прадукцыю партнэраў са сваіх рынкаў нярынкавымі мэтадамі? ... Навошта штучна садзіць дублюючыя вытворчасьці там, дзе попыт можа быць задаволены з значна*

*меншымі выдаткамі і на высокім узроўні якасьці дзейнымі прадпрыемствамі?»*

*«Пэрспэктыва магутнай і глыбокай інтэграцыі, якая адкрываецца сёньня, на самай справе захоплівае. Але нарожны камень усяго таго, што мы зьбіраемся пабудаваць — сувэрэнітэт нашых дзяржаў, які не адмяняе нават самая шчыльная інтэграцыя».*

Як самая шчыльная інтэграцыя можа захаваць у недатыкальнасьці сувэрэнітэт дзяржаваў, якія ўдзельнічаюць у інтэграцыі — над гэтай загадкай расейскія партнэры Лукашэнкі ломяць галаву ўжо 18-ты год. Як у прынцыпе магчымы раўнапраўны саюз, у якім адна з частак амаль роўная цэламу — гэта таксама галаваломка, не разгаданая за тыя самыя 18 гадоў.

Сэнс гэтых шпілек Лукашэнкі ў тым, што практычныя крокі па рэалізацыі праекту Пуціна могуць і абавязкова сутыкнуцца зь пярэчаньнямі з боку беларускага кіраўніка. Ну і ў тым, што за асалоду быць інтэгратарам трэба плаціць, і ня вартымі жалю грашыма з фонду ЭўрАзЭС і «паніжальнымі каэфіцыентамі».

У тэксьце артыкулу Лукашэнкі зьвяртае на сябе ўвагу новая ідэя «інтэграцыі інтэграцыі» — інтэграцыі Эўразійскага саюзу і Эўразьвязу. Гэта — сыгнал Захаду, Эўропе, што Лукашэнка ўсё ж не абмяжоўвае сваю палітычную пэрспэктыву шашой Менск-Масква, што ва ўсім саюзе ён — можа, адзіны эўрапеец. Своеасаблівы. Але які саюз, такія і эўрапейцы. Сэнс сыгналу не ў стварэньні інтэграванай прасторы ад акіяну да акіяну, а ў тым, што Лукашэнка і Беларусь, якую ён узначальвае, усё ж

ня супраць мець іншыя геапалітычныя альтэрнатывы, акрамя Эўразійскага саюзу.

## Хто меў рацыю?

**Прысяга на вернасьць інтэграцыйным памкненьням Пуціна, спалучаная з намёкамі на ўмоўны характар вернасьці, дала свой плён — літаральна праз месяц пасьля зьяўленьня ў «Известиях» артыкулу Лукашэнкі Расея дала Беларусі істотныя палёгкі ў выглядзе нізкіх цэнаў на энэрганосьбіты і спрыяльных умоваў доступу на расейскі рынак. У далейшым беларускі кіраўнік неаднаразова выказваў незадавальненьне ўмовамі інтэграцыі ў межах праекту Эўразійскага саюзу. Часткова ягоныя патрабаваньні былі задаволеныя новымі эканамічнымі саступкамі і прамой дапамогай, аднак плян Пуціна паступова рэалізуецца — у траўні 2014 году была падпісаная дамова паміж Беларусьсю, Казахстанам і Расеяй аб ўтварэньні Эўразійскага саюзу.**

# НЕЧУЖЫ ДОСЬВЕД

- «Сем худых гадоў»
- Паміраць за Кіеў?
- Атамны ўрок газавага канфлікту
- Інтэрвію з д’яблам
- Беларусь і Нарвэгія ў люстэрку тэрактаў
- Навальны па-беларуску

**27.01.2008**

## «Сем худых гадоў»

Насуперак чаканьню чытача, размова гэтым разам — не пра беларускі крызіс, які адны ва ўпор ня бачаць, іншыя ўжо гадоў 15 канстатуюць, трэція ад яго беларускі народ самаахвярна ратуюць, а чацьвертыя абяцаюць нават паглыбіць. У выніку слоўца страціла свой першапачатковы сэнс і стала сынонімам ці то эканамічных праблемаў наагул, ці то незадавальненьня агульным станам рэчаў і жаданьня пераменаў. Але размова не пра гэта, а пра глябальны, усясьветны эканамічны крызіс.

Варта заўважыць, што якраз гэтая тэма ўсе гады незалежнасьці ляжала па-за межамі беларускіх інтэлектуальных даляглядаў, горача спрачаліся пра шляхі і якасьць нацыянальнага капіталізму ды пра ўплыў на яго здароўя і хваробаў расейскай эканомікі. Разам з тым у дачыненьні да эканомікі ўсясьветнай, а тым больш заходняй, назіраўся кансэнсус па змаўчаньні: для апанэнтаў улады яна ўяўлялася наагул «зьзяючым горадам на ўзгорку», але і ўлада, вуснамі сваіх прапагандыстаў млява папікаючы «грязный мир чистогана», па сутнасьці менавіта ў ім бачыла ўзор эканамічнай эфэктыўнасьці і дабрабыту. Літаральна ў кожнай прамове Аляксандра Лукашэнкі прарываецца — «зрабілі па-эўрапейску» (гэта значыць добра), «атрымалася ня горш, чым на Захадзе» і г. д.

Між тым закон цыклічнага разьвіцьця капіталізму, адкрыты нямодным цяпер Марксам, ніхто не адмяняў. Праўда, з часоў прарока камунізму і нават з часоў вялікага крызісу канца 20-х — пачатку 30-х гадоў мінулага стагодзьдзя капіталізм істотна зьмяніўся, роля дзяржавы істотна павялічылася, зьявіліся сродкі, каб не даваць крызісам набываць катастрафічныя формы.

Наша ўпэўненасьць, што «гэта ня можа быць, бо ня можа быць ніколі», грунтуецца не ў апошнюю чаргу на тым, што пры нашым жыцьці нічога падобнага не было. Перажыўшы крах камуністычнай сыстэмы, якая здавалася тысячагадовым царствам, мы ўжо цяпер ведаем, як гэта бывае і што наагул такое магчыма. З 30-х гадоў крызісу, сувымернага зь Вялікай дэпрэсіяй, у сьвеце не назіралася. Стагфляцыя (спалучэньне імклівай інфляцыі і спаду) канца 70-х была ўсё ж зьявай менш катастрафічнай, да таго ж мы, жывучы за «жалезнай заслонай», не маглі па-сапраўднаму ацаніць яе маштабы і наступствы.

Але калі нешта не адбывалася даўно, а пры нашым жыцьці — і ніколі, то гэта не азначае, што гэта ніколі і не адбудзецца.

Усясьветны капіталізм сапраўды навучыўся лякалізаваць крызісы, але ў ім зьявіліся і новыя чыньнікі, на якія выпрацаваныя «лекі» могуць і не паўзьдзейнічаць. Знакаміты фінансавы «пірат» Джордж Сорас тлумачыць крызіс, які цяпер насоўваецца на сьвет, не праблемамі на амэрыканскім рынку нерухомасьці — гэта, на ягоны погляд, падстава, а не прычына, а зьяўленьнем новых фінансавых інструмэнтаў і інстытутаў, якія практычна немагчыма кантраляваць, якія зрабілі ўсясьветны

фінансавы рынак больш канкурэнтным, больш цікавым для спажыўцоў у добрыя часы, але і менш устойлівым.

На гэтым тыдні рэкордны абвал азіяцкіх фінансавых рынкаў мог бы стаць пралёгам надзвычай непрыемных рэчаў, калі б Фэдэральная рэзэрвовая сыстэма ЗША ня зьбіла панічныя настроі, рэзка зьнізіўшы ўліковую стаўку. Можа і абышлося, можа і наагул абыдзецца. Але, на думку экспэртаў, усё толькі пачынаецца.

І што ж будзе? Для Беларусі на першым этапе — нічога. І яе шчасьцем стане як раз яе няразьвітасьць, слабая ўключанасьць ва ўсясьветны найперш фінансавы рынак. На Расеі, чыя прысутнасьць на гэтым рынку значна большая, азіяцкая паніка адбілася наўпрост — абвалам каціровак самых лепшых і стабільных кампаній («блакітных фішак»). Ну а што беларусам гэтыя жарсьці? Наша, так бы мовіць, «блакітная фішка» — свая бульба ў гародзе ды кабанчык, на ёй выгадаваны.

Гэта і сапраўды так, але толькі на першым этапе сцэнару. Эканоміка Беларусі — не аўтаркічная, міжнародны гандаль складае ледзь не палову яе. А вось умовы гэтага гандлю ад крызісу, калі ён сапраўды надыдзе, залежаць будуць наўпрост. Ужо і цяпер знаходзіць зьнешнія рынкі для збыту беларускай прадукцыі робіцца ўсё цяжэй. У крызісным сьвеце яны проста закрыюцца і падзеньнем попыту на імпарт і высокімі мытнымі тарыфамі. Праўда, патаньнее і імпарт у Беларусь, але як складзецца баланс гэтых падзеньняў, ня ведае ніхто.

Усясьветны крызіс, калі ён адбудзецца, будзе мець і шматлікія палітычныя наступствы. Ідэалягічна крызіс можа надаць другое дыханьне

беларускай уладзе, ідэалёгія свабоднага рынку ў сьвеце і бяз крызісу апошнія гады адступае пад ціскам этатысцкіх дактрынаў. Досьвед глябальнага крызісу 30-х гадоў падказвае, што такі час — час менавіта апошніх поглядаў, час спадзеву людзей на дзяржаву. У пэўным сэнсе крызіс 30-х прывёў да ўлады Гітлера.

Хаця і ў палітычным пляне магчымы ўплыў крызісу — рэч неадназначная, азіяцкі крызіс канца 90-х зьмёў у Інданэзіі дыктатуру Сухарта (які дарэчы якраз сёньня памёр), якая здавалася вечнай і пры гэтым цалкам этатысцкай.

Крызіс — рэч бязьлітасная, але ў нейкім сэнсе справядлівая, гэта судны дзень пераацэнкі каштоўнасьцяў. Праўда, ягоная мудрасьць ніколі не супадае з чаканьнямі людзей і часта — з прагнозамі экспэртаў, тут ацэнка — толькі a posteriori, зьнішчыў нешта крызіс, ну значыць і не жылец тое было.

Як «ацэніць» усясьветны крызіс сучасную Беларусь — невядома. Але выпрабаваньні будуць цяжкімі, і зьмена «сямі тлустых гадоў» на «сем худых» уяўляецца вельмі імавернай.

## Камэнтары:

**Сіліцкі**: Пра «шчасце неразвітасці і слабой уключанасці». Апошні крызіс 1998 году прывеў да дваццаціразовай дэвальвацыі беларускага рубля за год. Нават у Расеі дэвальвацыя была чатырохразовай.
**Drakakhrust**: Віталь, ты забыў, што ў сакавіку 1998 году ў Беларусі быў ўласны валютны крызіс, на які прыпала львіная доля гадавога абвалу беларускага рубля. Я не кажу, што беларуская сыстэма застрахаваная ад паўтарэньня гэтага, я пра тое, што на яе, па меншай меры

на першым этапе, слаба дзейнічаюць зьнешнія фінансавыя крызісы.
**123**: Во где нехер делать!!! Вот где крисис жанра!!!

## Хто меў рацыю?

**Наконт «крызісу жанру» — адказ даў час:-) Прагноз аўтара гэтых радкоў аказаўся збольшага верным — і наконт сусьветнага крызісу, і наконт мэханізму яго распаўсюду на Беларусь: не празь неразьвіты валютны рынак, а праз пагаршэньне ўмоваў зьнешняга гандлю. Справядлівым аказалася і меркаваньне пра моду на этатызм і дырыжызм, якая суправаджала надыход крызісу. Ну а наконт «сямі худых» гадоў... Крызіс 2011 году быў у пэўнай ступені працягам эканамічнага «ўрагану» 2009 году, хаця ў большай ступені меў унутраныя чыньнікі. У 2012 годзе наступіла пэўная стабілізацыя, па некаторых пазыцыях, напрыклад, па ўзроўні сярэдняга заробку ў далярах, сытуацыя вярнулася на ўзровень сьнежня 2010 году. Але пакуль не вядома, ці стала гэта прыкметай сталага выздараўленьня нацыянальнай эканомікі ці ўсяго толькі зацішшам перад новай эканамічнай бурай.**

**07.04.2008**

## Паміраць за Кіеў?

«Ці варта паміраць за Данцыг?», — задавалі пытаньне многія ў Францыі і Вялікай Брытаніі ў 30-х гадах, калі фашысцкая Нямеччына пачала аг-

рэсію супраць Польшчы. Нарэшце паміраць-такі давялося, высьветлілася, што бясьпека ў Эўропе — паняцьце непадзельнае.

Вынікі саміту НАТО, дзе Грузіі і Ўкраіне адмовілі ў Плянах дзеяньняў па далучэньні да альянсу, пабяцаўшы ў абстрактным пляне, што калі-небудзь яны стануць сябрамі НАТО, нагадалі, што ляжыць у падмурку гэтай арганізацыі. Сяброўства ў НАТО– гэта сьведчаньне высокіх дэмакратычных стандартаў і знак далучэньня да эўраатлянтычнай цывілізацыі і шмат іншых прыгожых і карысных рэчаў, якія, праўда, Паўночнаатлянтычны альянс падзяляе з шэрагам іншых, ня менш паважаных арганізацый, напрыклад, з тым самым Эўразьвязам. Але ёсьць адно кардынальнае адрозьненьне — толькі НАТО, артыкул 5 яе статуту, прымушае кожную з краінаў-удзельніц разглядаць напад на любую зь іх як напад на ўсіх, гэта значыць абавязак у выпадку нападу на любую з натаўскіх краін паміраць за яе.

І рашучая адмова Нямеччыны і Францыі дазволіць Грузіі і Ўкраіне атрымаць хаця б папярэдні Плян дзеяньняў, прайсьці пэўны этап на шляху да альянсу азначае, на мой погляд, вельмі простую рэч — Бэрлін і Парыж у рэшце рэшт не гатовыя паміраць за Кіеў і Тбілісі.

На першы погляд здаецца парадаксальным, што НАТО здолела праіснаваць 59 гадоў, грунтуючыся на статутным прынцыпе, паводле якога ўсе рашэньні ў альянсе прымаюцца шляхам кансэнсусу. Ды якая арганізацыя ў сьвеце можа гэтак існаваць і дзейнічаць? Прычынаў, чаму НАТО пры такім дзіўным прынцыпе ўсё ж дзейнічала, было дзьве — першае, агульнае ўсьведамленьне краінамі-сябрамі

пагрозы, якую несла ім камуністычная імпэрыя, і другое, выключная роля, якую адыгрываў у альянсе яго лідэр — Злучаныя Штаты. Усе, як сябры альянсу, гэтак і патэнцыйны агрэсар, разумелі, што менавіта моц ЗША, у тым ліку і ядзерная, робіць напад на Эўропу справай зь няпэўнымі шанцамі. Ня будзь ЗША — і Эўропа была б безабароннай перад ударам савецкіх дывізій. Таму ЗША і маглі праводзіць у НАТО збольшага свае рашэньні — бо ізноў жа збольшага НАТО было формай амэрыканскага парасона бясьпекі для Эўропы, Амэрыка была донарам бясьпекі, Эўропа — атрымальнікам. Груба, але проста.

Крах камунізму і распад СССР зьмяніў першы чыньнік і паўплываў на ўспрыманьне другога.

На думку вельмі многіх, посткамуністычная Расея, нават сёньняшняя пуцінская, не ўяўляе сабой такой абсалютнай і рэальнай пагрозы, якой быў СССР. Разладзіўся першы складнік — супольнае і аднолькавае разуменьне пагрозы. А гэта ў сваю чаргу паўплывала і на другі — калі няма пагрозы, ад якой у рэшце рэшт толькі ЗША могуць абараніць, то чаму іх слова заўсёды павінна быць у НАТО вырашальным?

І «старая» Эўропа адчула права і густ для самастойных рашэньняў. Пры гэтым, так выглядае, вырашальнае значэньне мела ня столькі пазыцыя Масквы, колькі ўяўленьне «старой» Эўропы пра цывілізацыйныя межы. Калі некалькі гадоў таму ў НАТО прымалі балтыйскія краіны, а яшчэ раней Польшчу, Крэмль быў ад гэтага таксама, мякка кажучы, не ў захапленьні. Але тады ні Парыж, ні Бэрлін не лічылі, што рацыі Масквы хоць у якой ступені трэба браць пад увагу. Не лічылі, бо былі

ўпэўненыя, што гэта — Эўропа, гэта сваё, і непадзельнасьць бясьпекі Эўропы распаўсюджваецца на іх. А вось Украіна і Грузія — ну ня ведаем, ня ведаем...

Шмат хто стаў гнеўна асуджаць Бэрлін і Парыж, прыгадваць Мюнхен 1938 году. Але варта задаць пытаньне — ці азначала падтрымка амэрыканскай пазыцыі многімі сябрамі НАТО іх мужную гатовасьць паміраць за Кіеў?

Паралельна з пытаньнем Грузіі і Ўкраіны бухарэсцкі саміт разглядаў хаду апэрацыі НАТО ў Афганістане. Здаецца, пытаньні розныя, але насамрэч пытаньне адно і вынікі абмеркаваньня другога шмат што гавораць пра першае.

Варта нагадаць, што адносна Афганістану НАТО ўпершыню ў сваёй гісторыі ўжыла прыгаданы 5 артыкул статуту, расцаніўшы тэрарыстычную атаку на Амэрыку ў 2001 годзе як напад на ўсіх удзельнікаў НАТО. Ну і як наконт гатовасьці паміраць за Кабул? Ды па шчырасьці ня надта, што і прадэманстраваў яскрава саміт у Бухарэсьце. Вялікае дасягненьне саміту: Нікаля Сарказі, прэзыдэнт Францыі — Францыі напалеонаўскай Вялікай Арміі і нязломных салдат Першай Усясьветнай — урачыста выдзеліў на вайну ў Афганістане адзін (!) батальён салдат.

Ну Сарказі хоць кагосьці паслаў. А ці шмат салдатаў паслалі ў Афган тыя краіны, якія ў Бухарэсьце падтрымлівалі пляны дзеяньняў для Грузіі і Ўкраіны? А, зразумела — яны палітычна падтрымліваюць апэрацыю, іх салдаты сымбалічна прысутнічаюць там. А на талібаў і алькайдаўцаў гэтыя маральныя жэсты ня дзейнічаюць, яны

страляюць, узрываюць і забіваюць. І каб забіць іх, трэба больш салдат. Груба, але проста.

Дык можа і наконт Украіны і Грузіі ўхвальная пазыцыя многіх натаўскіх краін азначае тое самае: мы іх прымем, а ў выпадку чаго паміраць за Кіеў і Тбілісі будуць… ну вядома хто, тыя, хто і заўжды.

Тут, дарэчы, варта прыгадаць, што адным зь першых крокаў «аранжавых» трыюмфатараў 2004 году стаў вывад украінскага кантынгенту з Іраку. Да апэрацыі ў Іраку можна ставіцца па-рознаму, але амэрыканскі ўрад лічыць яе важнай, вартай таго, каб яго салдаты гінулі за Багдад. Пры гэтым цяпер далёка ня толькі амэрыканскі ўрад разумее, што калі амэрыканцы зараз выйдуць з Іраку, то наступствы гэтага будуць велізарнымі для ўсясьветнай бясьпекі.

Віктар Юшчанка і Юлія Цімашэнка вывелі ўкраінскі кантынгент з Іраку, паказаўшы, што ўкраінцы не гатовыя гінуць за Багдад. Добра, але як жа цяпер патрабаваць ад амэрыканцаў гарантый бясьпекі? Украінцы за Багдад не гатовыя, а амэрыканцы за Кіеў павінны? Ды яны што, наняліся?

Пра гэта, дарэчы, ішлі спрэчкі яшчэ на пачатку стварэньня НАТО — той факт, што ЗША зьяўляюцца канчатковай гарантыяй бясьпекі, псыхалягічна ператвараецца ва ўпэўненасьць, што яны — адзіная гарантыя бясьпекі: яны — лідэр, хай і ваююць, хай плацяць за гэтае лідэрства.

На жаль, спалучэньне на бухарэсцкім саміце тэмы Грузіі і Украіны з тэмай Афганістану паказала, што перасьцярогі амаль 60-гадовай даўніны былі зусім ня марныя.

## Камэнтары:

**Кіеў**: Так,і за Кіеў. Ня толькі ж за Маскву.
**drakakhrust**: То Кіеў
Вашае «так» — ад чыйго імя? Ад Вашага асабіста, ці ад імя, скажам, палякаў, немцаў, французаў?
Баюся, што яны будуць вызначаць гэта бяз Вашых парадаў. Прынамсі паміраць за Кабул (а дакладней, за Нью-Ёрк, бо падставай натаўскай апэрацыі ў Афгане было 9/11) яны настроены ня надта.
Што да «паміраць за Маскву», то не выключаю, што абвешчаная Лукашэнкам гатовасьць зьдзейсьніць гэта каштуе яшчэ менш, чым гатовасьць некаторых натаўскіх краінаў паміраць за Нью-Ёрк.

## Хто меў рацыю?

**Той саміт НАТО быў, відаць, пераломным момантам, апошняй магчымасьцю інстытуцыяналізаваць праэўрапейскія памкненьні прынамсі значнай часткі грузінскага і ўкраінскага грамадзтва. Дагэтуль застаецца загадкай — калі б Грузія мела Плян дзеяньняў па далучэньні да альянсу, гэта прадухіліла б вайну з Расеяй ці ператварыла б тую вайну ў сусьветную. Але ў любым выпадку выглядае вельмі імаверным, што менавіта пасьля адмовы, якую атрымалі Кіеў і Тбілісі на саміце НАТО 2008 году, рух абедзьвюх краін да эўраінтэграцыі спыніўся, калі не павярнуўся ў адваротны бок. Праграма ЭЗ «Усходняе партнэрства», якая зьявілася неўзабаве, таксама адпавядала гэтаму трэнду, бо ўяўляла сабой плян зьбліжэньня, які выключаў сяброўства Украіны і Грузіі ў Зьвязе нават у пэрспэктыве. Тое, што НАТО амаль ад пачатку выключыла сілавы адказ на расейскую анэксію Крыму і распальваньне**

**забурэньняў ва Ўкраіне, таксама сьведчыць пра нежаданьне дзяржаваў, якія ўваходзяць у Паўночнаатлянтычны альянс, паміраць за Кіеў.**

## 19.01.2009

## Атамны ўрок газавага канфлікту

Сёлетні газавы канфлікт паміж Расеяй і Ўкраінай — ужо не званочак, а вялікі звон па энэргетычнай бясьпецы Эўропы ў цэлым і Беларусі ў прыватнасьці. Праўда, што тычыцца канкрэтна Беларусі, то яна была хіба не адзінай краінай Эўропы, якая ў дні крызісу не адчувала недахопу паліва і наагул здолела атрымаць ад сваркі суседзяў кароткатэрміновыя дывідэнды. Хутчэй за ўсё пэўны час Масква будзе ставіцца да Беларусі ў газавым пытаньні больш лагодна, чым ставілася б, калі б крызісу з Украінай не было. Але ж праз гэты самы пэўны і непрацяглы час новы стыль расейскай палітыкі адчуе на сабе і Менск.

Недахопу ў адказах на пытаньне «што рабіць» няма. Але ў адказах, якія маглі б сапраўды вырашыць пытаньне, недахоп адчуваецца істотны. Адсутнасьць дэмакратыі кепская ня толькі тым, што ўрадавая палітыка абвяшчаецца адзіна правільнай і ўсе альтэрнатывы адкідаюцца. Аднак і самыя гэтыя альтэрнатывы, якія вылучаюць людзі, шмат гадоў пазбаўленыя дзяржаўнай адказнасьці, часам нагадваюць адно летуценьні і развагі кшталту таго, што лепш быць багатым і здаровым, чым бедным і хворым. Гэта безумоўна так, але дылемы рэальнай

палітыкі, на жаль, ня зводзяцца да гэтага няхітрага выбару.

Таму зьвернемся да досьведу краінаў, дзе пануе дэмакратыя, дзе ўсе разумныя альтэрнатывы падлягаюць уважліваму разгляду і ў выніку дэталёвага публічнага абмеркаваньня рэалізуецца самы лепшы варыянт.

Першы званочак наконт энэргетычнай нестабільнасьці прагучаў 5 гадоў таму, 18 лютага 2004 году, калі «Газпром» адключыў падачу газу ў Беларусь і транзыт праз ье. Другі звон, крыху большы і гучнейшы, грымнуў 3 гады таму, падчас першай газавай «вайны» паміж Расеяй і Ўкраінай. І не сказаць, каб тады, 3 і 5 гадоў таму, не было ўсьведамленьня важнасьці пагрозы. Толькі пра гэта тады і казалі.

Памятаю, здаецца, у 2004 годзе нашае радыё як вялікую сэнсацыю падавала заяву польскіх урадоўцаў, што, зразумеўшы сутнасьць расейскай энэргетычнай палітыкі, Польшча будзе купляць нарвэскі газ. З тае пары прайшло 5 — ня тыдняў, ня месяцаў, а гадоў. Ну й дзе той паток нарвэскага газу ў Польшчу?

Прыкладна тады зьявіліся і больш амбітныя пляны, я маю на ўвазе праект газаправоду «Набука», які дастаўляў бы ў Эўропу газ з краінаў Цэнтральнай Азіі ў абыход Расеі. Ізноў жа прайшло 5 гадоў. Ну й дзе «Набука»? У пэўным сэнсе яго менш, чым няма. Гэта значыць, што, па-першае, яго дагэтуль няма, а па-другое, што Расея тым часам ня спала ў шапку, а дамовілася з Туркменістанам і Казахстанам і цалкам перакупіла іх газ. Так што калі б зараз нейкім цудам зьявіўся той «Набука», было б праблемай, чым яго напаўняць.

Хада цяперашняга крызісу паказала, што за 5 гадоў пасьля першага званочка ў Эўропе было зроблена ня тое што мала ці недастаткова, каб прадухіліць паўтарэньне крызісаў 2004 і 2006 гадоў, каб зрабіць гэтае паўтарэньне менш балючым і небясьпечным — не было, па сутнасьці, зроблена нічога. Эўропа пакутуе ад сёлетняга крызісу значна мацней, чым пакутавала ў 2006 годзе.

Ну і пра што загаварылі ў Эўропе падчас сёлетняга крызісу, якой была як імгненная рэакцыя, гэтак і агучаныя пляны, што ж рабіць, каб застрахаваць кантынэнт ад пагрозы паўтарэньня шоку «замарозкі»? Адказ кароткі — атамная энэргетыка.

Некалькі гадоў таму мне на вочы патрапіўся артыкул у нямецкай газэце, дзе аўтар пісаў, што за цяперашнюю прывязку палітыкі Бэрліну да Расеі нямецкая грамадзтва павінна сказаць «дзякуй» айчынным «зялёным» зь іх высакароднымі і гуманнымі памкненьнямі. Пасьля Чарнобыльскай катастрофы менавіта з ініцыятывы нямецкіх «зялёных», пад ціскам грамадзтва, натхнёнага гэтымі барацьбітамі, нямецкая атамная энэргетыка была практычна згорнутая. Праўда, прыгожа? Толькі цаной гэтай прыгажосьці стала моцная залежнасьць Нямеччыны ад Расеі, і прычым ня толькі ў эканамічнай, але і ў палітычнай сфэры. І нягледзячы на ўсю моц нямецкай эканомікі, на праекты ветраной энэргетыкі, гідраэнэргетыкі, на альтэрнатыўныя крыніцы энэргіі і яе дастаўкі (якія ў Нямеччыны ўсё ж ёсьць), па вялікім рахунку і для яе рэальная дылема аказалася надзвычай брутальная — або атам, або залежнасьць ад Масквы. Ну не атрымалася быць багатымі і здаровымі.

Зь іншага боку, у часы, калі «Саюдзіс» змагаўся за літоўскую незалежнасьць, колькі было праклёнаў на адрас Саветаў, якія ў цудоўныя літоўскія краявіды насадзілі гэтую брыдоту — Ігналінскую АЭС. Незалежнасьць была заваяваная, дык, здавалася б, у чым праблема: літоўцы — гаспадары на сваёй зямлі, зачыніць хутчэй гэтую спадчыну імпэрскага панаваньня. Але не, «спадчына» жыве і квітнее, захавалася і ў эўразьвязаўскай Літве. Толькі цяпер, праз 18 гадоў пасьля вяртаньня незалежнасьці, Ігналіну зьбіраюцца цалкам зачыняць, але замест яе будуць будаваць новую АЭС.

Можа, і цынічна гучыць, але думаю, што я не самотны ў спадзеве, што АЭС Лукашэнка ўсё ж збудуе. Сваю папулярнасьць ён на гэтым істотна страціць (ну, гэты дадатковы палітычны матыў больш уласьцівы апанэнтам дзейнай улады), але ягонай папулярнасьці і волі хопіць, каб гэта зрабіць. А потым, калі станцыя будзе, то хай прэзыдэнтам стане хоць Зянон Пазьняк, хоць паважаны беларускі эколяг Валер Дранчук — зачыніць беларускую АЭС будзе немагчыма. Гэтак жа, як немагчыма Літве адмовіцца ад ядзернай энэргіі, як немагчыма зачыніць украінскія АЭС. І наадварот, наўрад ці ў наступніка Лукашэнкі, хто б ім ні быў, будзе палітычная магчымасьць збудаваць АЭС, калі яна ня будзе збудаваная цяпер. Павінна ж ад дыктатуры быць хоць якая карысьць?

Рэальнасьць абыякавая да летуценьняў і мрояў. І любы чалавек, які стаіць на чале дзяржавы, ня можа і ня зможа ігнараваць вострыя вуглы гэтай самай рэчаіснасьці. Расейцы ж не блякаду робяць, яны гатовыя свой газ у любы момант даць у любых аб’ёмах, нават банцікам абвязаўшы. Адна толькі

«драбяза» — пачым? Калі ёсьць грошы плаціць — дык няма праблемы. А вось калі няма грошай, тады няма нічога, акрамя суцэльнай праблемы.

## Хто меў рацыю?

**Будаўніцтва Беларускай АЭС пачалося ў 2013 годзе. Матывы яе стварэньня былі менавіта такімі, як гэта апісвалася ў маім блогу. Праўда, той факт, што станцыя будуецца за расейскі крэдыт, што працаваць яна будзе на расейскім ядзерным паліве, робіць АЭС даволі двусечным інструмэнтам вызваленьня ад энэргетычнай залежнасьці ад Расеі. Аднак паток таннай энэргіі з АЭС ў любым выпадку зьнізіць патрэбы ў спажываньні найперш газу.**

**19.01.2010**

## Інтэрвію з д'яблам

Пасьля амаль 30-гадовага зьняволеньня выйшаў на волю Мэхмэд Алі Агджа. Той самы, які ў траўні 1981 году страляў у папу рымскага Яна Паўла II. Цяпер няўдаламу забойцу намесьніка Бога на зямлі прапануюць за ягоныя інтэрвію 7 мільёнаў даляраў.

«Ясна, аўтар хоча сказаць — куды коціцца сьвет?» — адразу сьцяміць іранічны чытач. Ну ў прынцыпе так. Але ж і сапраўды коціцца. Недзе давялося прачытаць тэрмін «камбінаторная зброя». Гэтая зброя не разбурае сыстэму сама, яна ўносіць у яе маленькую зьмену, а далей ужо самая сыстэма

шляхам свайго нармальнага функцыянаваньня разбурае сама сябе. Кампутарны вірус разносяць па сеціве тыя самыя каналы, якія павінны разносіць карысную інфармацыю.

А тут хіба ня тое самае? Чалавека, які падняў руку на вярхоўнага пантыфіка, робяць мільянэрам свабодныя СМІ свабоднага хрысьціянскага сьвету. Нават ня так — робяць прынцыпы функцыянаваньня свабодных мэдыяў. Гэта ж сэнсацыя, гэта ж цікава, гэта будуць чытаць, за гэтую сэнсацыю можна падняць наклады, сарваць шалёныя грошы, хто хутчэй, хто першы, хто больш. І ўсё ў поўнай адпаведнасьці з законамі свабоднага рынку.

Насамрэч, дарэчы, ня надта цікава. Агджа некалькі разоў мяняў свае паказаньні: ён то абвінавачваў у замове і падрыхтоўцы ягонага замаху спэцслужбы краін камуністычнага блёку, то адмаўляўся ад абвінавачаньняў. Што ён можа распавесьці цяпер, і дзе гарантыя, што гэта ня будзе чарговай хлусьнёй? Ці проста трызьненьнем — пасьля вызваленьня ён абвясьціў сябе Ісусам Хрыстом і заявіў, што «сьвет загіне да канца стагодзьдзя». Мала было паглуміцца над Хрыстовай верай стрэлам у папу, спатрэбілася працягнуць. А што — усё ж зьядуць. Яшчэ ж цікавей, яшчэ смачней.

Парадокс, але тое, што аўтарытэт папы ў сьвеце яшчэ хоць неяк захоўваецца, запускае мэханізм прамоцыі шчыраваньняў таго, хто хацеў яго забіць. Камбінаторная зброя ў дзеяньні.

Прыйшла ў галаву думка — калі КГБ СССР сапраўды меў дачыненьне да таго стрэлу Агджы 13 траўня 1981 году, то колькі заплаціў за гэта? Я ня спэц у расцэнках, але здаецца, што ня 7 мільёнаў — дарагавата будзе. Адкуль у таталітарнай

сыстэмы такія грошы на важнае, але ўсё ж ня лёсавызначальнае спэцмерапрыемства? Нічога, такія грошы натуральным чынам знаходзяцца ў свабодным сьвеце, каб зрабіць рэкляму выканаўцы гэтага злачынства.

І яшчэ падумалася — а колькі б свабодныя мэдыі заплацілі д'яблу за інтэрвію зь ім?

А можа ў тым і палягае бессаромная моц свабоды — што яна самая моцная камбінаторная зброя, што яна разбурыць любую сыстэму, якая падымаецца на барацьбу зь ёй? І нават д'ябал, даўшы інтэрвію, уцягнецца ў the only game in town — адзіную гульню, у якую гуляюць у горадзе?

## Хто меў рацыю?

**Неўзабаве пасьля вызваленьня Агджа зрабіў чарговае сэнсацыйнае «прызнаньне» — замах на папу замовіў кардынал Казаролі, на той момант другая асоба ў Ватыкане. У 2013 годзе выйшла аўтабіяграфія тэрарыста, ў якой ён паднёс чытачам іншую «праўду» — Яна Паўла ІІ загадаў яму забіць аятала Хамэйні. Д'ябльскі тлум працягваецца.**

**25.07.2011**

## Беларусь і Нарвэгія ў люстэрку тэрактаў

У красавіцкага тэракту ў менскім мэтро і выбухаў і расстрэлу людзей у Нарвэгіі ёсьць важнае падабенства — паводле афіцыйных вэрсіяў абодва злачынствы зрабілі тэрарысты-адзіночкі.

У тое, што бомбу ў менскім мэтро ўзарваў адзіночка, верацъ, паводле апытаньняў, толькі каля траціны беларусаў. У Нарвэгіі даюць веры афіцыйнай вэрсіі таксама ня ўсе, многія экспэрты выказваюць меркаваньне, што за выбухам каля рэзыдэнцыі прэм’ера і расстрэлам у летніку на востраве Ўтэя павінны стаяць нейкія сілы і арганізацыі. У прынцыпе гэта, відаць, асаблівасьць чалавечай псыхалёгіі — паводле яе сур’ёзныя, важныя падзеі павінны мець такія самыя падставы. Кансьпіралягічныя вэрсіі з ускладаньнем ускоснай ці нават прамой віны на ўлады луналі ў самых розных краінах пасьля бадай што ўсіх буйных тэрарыстычных нападаў.

Такім чынам сьвядомасьць абараняецца ад страшнай ісьціны аб прынцыповай уразьлівасьці сучаснага масавага грамадзтва, і ад нападу менавіта тэрарыста-адзіночкі — у найбольшай ступені. Экспэрты па барацьбе з тэрарызмам прызнаюць, што прадухіліць такі напад практычна немагчыма. Прычым, абарону, як бачым, не гарантуе ні рэпрэсіўны, кантраляваны характар беларускага грамадзтва, ні адкрыты і дэмакратычны — нарвэскага. Дарэчы, паводле сусьветных рэйтынгаў дабрабыту і свабоды, Нарвэгія займае адно зь першых ці нават чыстае першае месца. Але гэта не прадухіліла масавай разьні.

Такое было б немагчымым у дамадэрным грамадзтве: адзін чалавек не ўзарве вёску, без сучаснай зброі не пераб’еш за лічаныя хвіліны дзясяткі людзей. А і беларускае, і нарвэскае грамадзтвы — мадэрныя, масавыя, з высокім узроўнем тэхналёгіяў, дзе зь бясшкодных рэчываў, якія можна легальна набыць, можна зрабіць бомбу.

Тое, што Андэрс Брэйвік, у адрозьненьне ад беларускага забойцы, падводзіў пад свае злачынствы нейкую палітычную базу, ня мае насамрэч вялікага значэньня. У любым грамадзтве ёсьць пэўныя праблемы і канфлікты — тыя або іншыя, але толькі ў своеасаблівай сьвядомасьці яны ператвараюцца ў намер масава забіваць сваіх суайчыньнікаў. Здаецца, менскі досьвед асабліва яскрава дэманструе бессэнсоўнасьць спробаў шукаць у шматстаронкавых шчыраваньнях Брэйвіка нейкае тлумачэньне таго, што адбылося — матывацыя магла б быць і зусім іншай, магла б і наагул ня мець палітычнага характару. Мусульманская грамада ў Нарвэгіі, дарэчы, не такая вялікая, як, скажам, у Францыі ці Нямеччыне, дзе падобных праяваў не было. Тут рацыянальнае тлумачэньне вядзе ў тупік, бо адказ абсалютна не адпавядае моцы стымулу і па сутнасьці не залежыць ад яго.

Тэракт, дакладней, рэакцыя на яго — своеасаблівае люстра грамадзтва. Прычына, чаму беларускае грамадзтва аказалася пасьля тэракту ў мэтро настолькі схільным да кансьпіралягічных вэрсіяў — ня толькі ў асаблівасьцях нападу, але і ў закрытасьці грамадзтва, у тым, што беларусы кожны дзень чуюць ад афіцыёзу пра злавесныя змовы ворагаў. Ну як жа магло і тут абысьціся бязь іх? Да таго ж і стаўленьне да ўлады амбівалентнае: ад яе многія чакаюць дабротаў і ўратаваньня, але пры гэтым лічаць гатовай амаль на ўсё, а на хлусьню — хіба ня ў першую чаргу. І часам гэта тыя самыя людзі.

Партрэт грамадзтва — і ў адказах на пытаньне, што рабіць далей. Тэза пра тое, што адказам нарвэскага грамадзтва на злачынства павінна стаць большая адкрытасьць, якая цяпер вельмі папулярная ў

Нарвэгіі, выглядае на першы погляд дзіўнай: Нарвэгія і цяпер — адзін з сусьветных лідэраў у гэтым сэнсе. І чым бы дапамагла большая адкрытасьць, калі б яна была ў Нарвэгіі да трагедыі? Нічым. Тут рацыя хіба ў тым, што калі б рэакцыяй на тэракт стала, напрыклад, абмежаваньне іміграцыі, гэта азначала б, што Брэйвік дасягнуў сваёй мэты. Што стварае кепскі прэцэдэнт таго, як сваіх палітычных мэтаў можна дамагацца.

Беларуская рэакцыя, прынамсі рэакцыя ўладаў, падаецца больш лягічнай: умацоўваць кантроль. Той, хто мусіў прадухіліць тэракт, яго не прадухіліў, значыць, павінен атрымаць магчымасьці працаваць лепш. Хаця насамрэч і такая рэакцыя мае няшмат сэнсу. Тэракты здараліся і ў СССР, і нацысцкай Нямеччыне (дастаткова прыгадаць замахі на Гітлера і Брэжнева), да якіх у сэнсе татальнага кантролю сучаснай Беларусі, на шчасьце, яшчэ далёка.

Некаторыя бачаць у пашырэньні ролі спэцслужбаў доказ таго, што за менскім тэрактам стаялі ўлады. Але гэта зусім не абавязкова. Проста абодва грамадзтвы — і беларускае, і нарвэскае — рэагуюць на такі экзыстэнцыйны выклік зваротам да сваіх базавых асноваў.

Бо, магчыма, чыста рацыянальны адказ такі — нічога па сутнасьці ня зробіш, гэта плата за мадэрн, за тэхналягічны ўзровень, за сталы стрэс інфармацыйнага грамадзтва. Але людзі — не кампутары, яны ня могуць так.

Грамадзтву важна ня толькі прадухіліць паўтарэньне падобнага ў будучыні (невідавочна, што гэта наагул магчыма), але і знайсьці сэнс працягу жыцьця пасьля трагедыі. Салідарнасьць, узаемада-

памога — гэта насамрэч галоўны адказ на такі выклік, бо толькі гэта дае магчымасьць жыць далей.

## Хто меў рацыю?

**Тэракт у 2013 годзе ў Бостане стаў чарговым прыкладам нематываванага нападу індывіда на грамадзтва. Так выглядае, што іслам быў ілжывай матывацыяй для Тамэрлана Царнаева, як блытаная філязофія чысьціні белай расы — для Брэйвіка. Мэдыя надаюць такім падзеям важкасьць і значнасьць, робяць іх выканаўцаў сусьветна вядомымі. І гэта спакуса. А грамадзтва аказваецца асабліва ўразьлівым ад такога тэрору адзіночкі, уразьлівым у тым ліку і маральна. Бо на пытаньне, што рабіць, каб прадухіліць паўтарэньне, па сутнасьці няма адказу.**

**18.07.2013**

## Навальны па-беларуску

18 ліпеня суд расейскага гораду Кірава агучыў прысуд у справе апазыцыянэра Аляксея Навальнага. Прысуд быў вядомы да вынясеньня, як вядома і тое, што нават калі Навальны і апынецца за кратамі, з расейскага палітычнага жыцьця яго выключыць не атрымаецца.

Але куды больш цікавы фэномэн Навальнага, новы тып палітычнага лідэра, які ўвасабляе гэты расейскі палітык.

Былы канцлер Нямеччыны Вілі Брант у сваіх мэмуарах цытаваў думку свайго настаўніка, вэтэ-

рана нямецкай сацыял-дэмакратыі Юліюса Лебэра: «Лідэры вельмі рэдка нараджаюцца пры сапраўдным парадку, заўсёды — пры хаосе, і ніколі — дзякуючы ўпартай працы». Можна з тэзай спрачацца, але найноўшая гісторыя і Беларусі і Расеі падказвае: хаос — сапраўды найбольш спрыяльныя ўмовы для зьяўленьня народных правадыроў. Цікава, што Лебэр даваў свой урок юнаму Бранту ў часы Ваймарскай рэспублікі, нехлямяжай і некансалідаванай, але ўсё ж дэмакратыі. Міжваенную Нямеччыну царствам парадку лічыць не выпадала, хаос спарадзіў Гітлера, які ўпэўнена вырашыў пытаньне лідэрства ажно да 1945 году.

Што такое цяперашняя Расея? Хутчэй парадак, чым хаос. Таму лідэры і не зьяўляюцца. А калі і зьяўляюцца, то робяцца ахвярамі адмысловай оптыкі грамадзкай думкі ва ўмовах аўтарытарнай сыстэмы. Гэтая оптыка прымяншае, зьмізарняе ўсе постаці, акрамя адной. Калі казаць не пра Расею, а пра Беларусь, то на пытаньне «А хто, калі ня ён?» існуе адказ, нават калі пакінуць у баку апазыцыю — Сямашка, Макей, Снапкоў, Сідорскі, Мясьнікові і шмат іншых асобаў, тыя самыя старшыні аблвыканкамаў і кіраўнікі буйных прадпрыемстваў. «Не, ну вы ж разумееце...». Так, разумеем, разумеем. І пра сябе, і пра ўсходніх суседзяў.

Так, Навальны — кумір расейскай Плошчы, але калі глядзець у маштабе ўсёй краіны, то ня Ельцын часоў позьняй перабудовы.

Даволі сьціпленька так. Вось і гадай — ці то калібар ня той, ці то час ня той — ня позьняя перабудова, а пачатак дзясятых.

На канстатацыі наконт сьціпласьці вынікаў можна было б паставіць і кропку і вярнуцца да

гуманітарнага, праваабарончага аспэкту існых і будучых пакутаў змагара з карупцыяй, калі б ня некалькі чыньнікаў. Сярод «нязгодных», «беластужачнікаў», «балотных» Навальны — абсалютны лідэр. Тое паказваюць і апытаньні, і «народнае» галасаваньне за кандыдатаў у чальцы каардынацыйнай рады апазыцыі. Дый у масавай сьвядомасьці Навальны сярод апазыцыйных расейскіх палітыкаў — ізноў жа першы. У сваёй лізе (так, нават па Маскве дзейны мэр Сабянін перасягае Навальнага паводле рэйтынгу ў разы). Але ў сваёй лізе першы зноў жа Навальны.

І вось тут цікава чаму. У тых, хто памятае беларускія падзеі пачатку і сярэдзіны 90-х, напрошваецца аналёгія — малады Лукашэнка. Ну, можа яшчэ адна аптычная ілюзія, надзвычайны аванс: Лукашэнка тады перамог і дагэтуль — прэзыдэнт, Навальнаму да перамогі ня блізка, але параўнаньне не пазбаўленае рацыі. Пэўна таму, што адрозьніваецца ад іншых прадстаўнікоў як уладнага, гэтак і апазыцыйнага істэблішмэнту. І адны і другія маюць свае ідэалягічныя канцэпты, спароджаныя супрацьстаяньнямі яшчэ 90-х гадоў. А Навальны ім, так бы мовіць, пэрпэндыкулярны. А вы за дэмакратыю, за Эўропу, за рынак, спадар Навальны? Ды лухта гэта ўсё, злодзей павінен сядзець у турме — вось і ўся праграма. Плюс дамешак памяркоўнага, але выразнага нацыяналізму — хопіць карміць Каўказ, рускіх крыўдзяць і г. д. Для лібэралаў гэта фэ, шокінг. А для выбарцаў?

У гэтым і падабенства з маладым Лукашэнкам — у адсутнасьці буйнога ідэалягічнага праекту і ў няспынным інстынктыўным падладжваньні пад народны настрой. У параўнаньні з Лукашэнкам

узору 1994 году ў нечым пазыцыі супрацьлеглыя, але таму, што грамадзтвы і часы розныя. Пасыл, імкненьне аднолькавае — быць рэтрансьлятарам памкненьняў большасьці. Праўда, як непрыгожа і неінтэлігентна. А хто сказаў, што палітыка мусіць быць інтэлігентнай? І што перамагаць у ёй павінны інтэлігенты?

Заўсёды былі і ёсьць, канечне, у Расеі людзі, якія шчыра пераймаюцца адсутнасьцю дэмакратыі. Але, як бы дакладней сфармуляваць, ня ўсе. А вось наконт таго, што злодзеі паўсюль паселі, што крадуць больш, чым за ўсе часы з прыходу на Русь Рурыка, што не па праўдзе, не па справядлівасьці Расея жыве — дык пра гэта ж гавораць і думаюць усе. Кожны. Як у Высоцкага, «да дело в общем не в гусях, а все неладно». Вось пра тое Навальны і крычыць. Нездарма яго можа і няшмат хто любіць, але яго выкрываньням верыць выразная большасьць, у тым ліку і прыхільнікі Пуціна.

Ну і што? А тое, што, як ні дзіўна, Навальны — кумір вінэраў, крэатыўнай ці сярэдняй клясы, кумір Балотнай. Ці яна сама такая, бо народ жа адзін, ці яна падсьвядома разумее, што мужык цісьне на тыя болевыя кропкі, якія адны і могуць закрануць маўклівую большасьць. «Нязгодныя» падтрымліваюць яго, нават калі зь ім нязгодныя — адзначаюць расейскія дасьледнікі.

Аднак жа ўсё роўна ня Ельцын яго лепшых часоў, не Лукашэнка і не Пазьняк іх лепшых часоў, карыстаючыся беларускімі аналёгіямі. Ну так, сапраўды. «Лідэры вельмі рэдка нараджаюцца пры сапраўдным парадку», як адзначаў мудры настаўнік Бранта.

Але Пуцін нездарма імкнецца пасадзіць менавіта Навальнага, а не Нямцова, Рыжкова ці Касьянава. Можа таму, што разумее: калі з тых або іншых прычын парадак зьменіцца хаосам, Навальны — гэта ўзор, лякала, паводле якога тады лідэр будзе зь неабходнасьцю спароджаны.

І пры чым тут Беларусь? «Даеш беларускага Навальнага» — лёзунг пошлы і да таго ж недакладны. Іншая краіна, іншае грамадзтва, ужо іншая і найноўшая гісторыя. Як у таго самага Высоцкага, «колея эта только моя». Дык вось і ў кожнага народу яна свая. Тут хіба што ўзор, прынцып, варты запазычаньня — злавіць народны запыт і стылістыку менавіта 2010-х, не ўспрымаючы іх, як папсаваны пачатак 1990-х.

## Хто меў рацыю?

**Магчыма, зь лёгкай рукі аўтара гэтых радкоў, ідэя пошуку «беларускага Навальнага» набыла пэўную папулярнасьць у палітычных і аналітычных колах Беларусі. У спалучэньні з ідэяй пошуку намэнклятурнага кандыдата (таксама, магчыма, навеянай маім блогам «Толькі Сідорскі») гэтыя два праекты былі асноўнымі праектамі альтэрнатывы за паўтара года да прэзыдэнцкіх выбараў 2015-га. Абодва яны прадугледжвалі выхад за межы звыклага кола апазыцыйнага электарату і апазыцыйных парадыгмаў.**

# РЭВАЛЮЦЫЯ: PRO ET CONTRA

- Улада — гэта дзе?
- Неаксамітная рэвалюцыя
- Час, які баіцца пірамід
- Ці абароніць войска Лукашэнку?
- Рэха Трыпалі

## 16.04.2009

## Улада — гэта дзе?

Даволі даўно, здаецца, у 1998 годзе, ідучы на Марш Свабоды, пачуў размову двух маладзёнаў. «Куды ідзем?» — спытаў адзін. «Уладу браць!» — упэўнена адказаў суразмоўца. «А гэта дзе?» — спытаў першы. Я быў уражаны глыбінёй гэтага пытаньня. Хлопец жа, магчыма, нічога асаблівага ў яго не ўкладаў, проста ўдакладняў, маўляў, куды ўсё ж ідзем. Але атрымалася...

Ніякай улады беларускія маніфэстанты не ўзялі ні тады, ні потым. Але пытаньне засталося, і для мяне яго чарговы раз надзвычай яскрава актуалізавалі падзеі 6 — 7 красавіка ў Кішынэве.

### Ліст з Парыжу 1968 году

У траўні 1968 году ў разгар студэнцкіх хваляваньняў знакаміты філёзаф і публіцыст Рэймон Арон у сваім чарговым артыкуле ў «Фігаро» ня толькі абрынуўся на парыскіх бунтаўнікоў — дасталася ад яго і ўраду Жоржа Пампіду, які, на думку Арона, прадэманстраваў бездапаможнасьць, саступіўшы перад мітынговай стыхіяй і аддаўшы маніфэстантам Сарбону. Аўтарытэт журналіста быў настолькі вялікі, што прэм'ер напісаў яму асабісты ліст, у якім прасіў не абнародаваць зьместу сваіх тлума-

чэньняў, а проста прыняць іх да ведама. Гэты ліст пададзены ў мэмуарах Арона, апублікаваных праз дзесяцігодзьдзі.

Пампіду тлумачыў, што «парыская грамадзкая думка цалкам падтрымлівала студэнтаў», а далей разгарнуў цэлую філязофію ўлады:

«*У справах такога кшталту стаўка ў гульні — грамадзкая думка; аддаючы ім Сарбону, я пазбаўляў маніфэстацыю яе стратэгічнай мэты, яна з гэтага часу не магла стаць бунтам, застаючыся толькі «дэманстрацыяй». Але галоўнае, зрабіўшы тое, чаго чакала грамадзкасьць, я здымаў адказнасьць з аднаго боку і перакладаў яе на другі. Цяпер ужо «студэнты» рабіліся вінаватымі, яны рабіліся правакатарамі, а не нявіннымі ахвярамі, якія абараняюцца ад урадавых і паліцэйскіх правакацый. Мне заставалася толькі выйграць час, лякалізаваць зло, а потым, калі грамадзкасьці ўсё гэта надакучыць, перайсьці да бязбольнага наступу.*

*У справах такога кшталту ёсьць толькі два выйсьця. Або адразу пайсьці на самыя бязьлітасныя і самыя рашучыя рэпрэсіі — да гэтага ў мяне няма схільнасьці, не было для гэтага і сродкаў. А калі б і былі, то абураная грамадзкая думка прымусіла б мяне адступіць, гэта значыць зьнікнуць. Дэмакратыя можа ўжываць сілу толькі маючы падтрымку грамадзкай думкі, а ў нас яе не было.*

*Або трэба саступіць, чымсьці ахвяраваць і выйграць час. Студэнты маглі стаміцца і стаць больш згаворлівымі. Маглі яны і заўпарціцца, што і адбылося. У такім выпадку яны рабіліся ўсё больш малалікімі і непапулярнымі. Менавіта так усё і адбылося. І калі настаў спрыяльны момант, я пачаў наступ*».

Унікальны дакумэнт, які прачыняе заслону над тым, як разважаюць і прымаюць рашэньні людзі ўлады.

## Кішынэўскі гамбіт

Наўрад ці малдоўскі прэзыдэнт Уладзімер Варонін чытаў гэты ліст даўно памерлага прэм'ера, а потым і прэзыдэнта Францыі. Але дзейнічаў так, нібыта чытаў і ўзяў за кіраўніцтва да дзеяньня.

У сваім гамбіце малдоўскі лідэр ахвяраваў нават значна большым — не будынкам галоўнага ўнівэрсытэту краіны, а асноўнымі сымбалямі ўлады — парлямэнтам і уласнай рэзыдэнцыяй. Але сымбалі — гэта не сама ўлада. Гэтай ахвярай Варонін, дакладна гэтаксама, як і 41 год таму Пампіду, памяняў ролі, ператварыў маніфэстантаў у пагромнікаў. Гэта была пастка? Ну дык ніхто не прымушаў у яе лезьці. І гэтаксама, як і францускі прэм'ер у 1968 годзе, малдоўскі прэзыдэнт выдатна разумеў, што стаўка ў масавых акцыях — гэта грамадзкая думка, думка тых, хто не стаіць на плошчы. Маніфэстанты грамілі, Варонін займаўся палітыкай. І, зразумела, выйграў. Калі грамадзтва жахнулася карцінкай парлямэнту і прэзыдэнтуры ў агні, калі маніфэстанты апынуліся ў ізаляцыі і ў роспачы (ну захапілі парлямэнт і прэзыдэнтуру, а што цяпер рабіць, улада — гэта дзе?), улада пайшла ў контранаступ.

Справа не ў дабрыні Вароніна і Пампіду, і не ў прыроднай крыважэрнасьці ці жорсткасьці, скажам, Карымава ці Лукашэнкі. Як бачым, і прэм'ер дэмакратычнай Францыі пісаў свайму адрасату, што «самыя бязьлітасныя і самыя рашучыя рэпрэсіі» — таксама варыянт, і, можа, нават найлепшы.

У аўтарытарных рэжымаў свабода дзеяньняў крыху большая, але і яны, паводле выразу Пампіду, «могуць ужываць сілу толькі маючы падтрымку грамадзкай думкі».

## Чаму Лукашэнка не расстрэльвае дэманстрацыі?

Вяртаючыся з гэтага падарожжа па сьвеце і часе ў Беларусь, зусім па-іншаму пачынаеш глядзець на драматургію масавых акцыяў айчыннай апазыцыі. Пайсьці на Кастрычніцкую ці згадзіцца на Бангалор, дэманстраваць рашучасьць ці сьціпласьць — усе гэта псэўдапраблемы, якія, можа, і надзвычай актуальныя і важныя для саміх актывістаў, але ня маюць амаль ніякага значэньня ў межах лёгікі сапраўднай палітыкі. Як уплываюць тыя або іншыя крокі, дзеяньні, жэсты ўлады і маніфэстантаў на тую самую грамадзкую думку — вось адзінае, што насамрэч мае значэньне.

І Лукашэнка, які нібыта можа зрабіць у сваёй злоснасьці ўсё што заўгодна, у сапраўднасьці ня вольны ад дыктату гэтага трэцяга. Ён жа не расстрэльвае маніфэстантаў з кулямётаў, як тое у 2005 годзе рабіў ягоны калега Карымаў. Ён такі добры? Ён ня добры і ня злы — ён палітык. Мог бы — расстрэльваў бы. Ня можа ня ў тым сэнсе, што кулямётаў няма, а ў тым, што вось гэтага грамадзкая думка ўжо не пацярпела б. І што б зрабіла? А ў яго няма жаданьня правяраць, ён не філёзаф, адчувае, што не пацярпела б, і яму гэтага дастаткова. А вось дубіны па сьпінах дэманстрантаў сьцярпіць, а тое нават і ўхваліць: «А чаго яны бузяць? Правільна ўлада парадак наводзіць». А што — ня так грамадзтва рэагуе на разгоны масавых акцыяў у Менску і іншых гарадах Беларусі?

«Ды якое грамадзтва, вось жа, скажам, мы, шматлікія наведнікі сайту «Свабоды», рэагуем зусім ня так», — запярэчыць абураны чытач. Ну ня ведаю, у Пампіду ўжо, на жаль, не спытаеш, што ён меў на увазе пад грамадзтвам.

Але ўсё ж падаецца, што ў гэтым самым няўлоўным грамадзтве — уся справа. І адказ на пытаньне «улада — гэта дзе?» насамрэч надзвычай просты — там, у грамадзтве, у галовах і душах беларусаў.

## Камэнтары:

**ВІТАЎТ, Менск**: Улада — гэта дзе? У — «PR». Для мяне клясічным прыкладам стала абраньне на другі тэрмін Б.Ельцына. З 4% рэйтынгу за 3 месяцы да дня галасаваньня. яго дэмакратычна абралі. Мы,палітыкі, добра памятаем прапаганду за Ельцына.Тых бабуль і дзядуль .якія скакалі і частушкамі агітавалі за Барыса. Сёньня . улада — гэта «Целевізар».
Дайце мне «целевізар» — будзе мая ўлада.
Канешне. у больш меньш дэмакратычных грамадзтвах ня так і проста і лёгка рабіць уладны «PR».Але паглядзіце на Італію. На Берлусконі. Ён мае ТБ — мае ўладу.
Сумна.Але зараз праз TV, Internet яшчэ прасцей маніпуляваць свядомасьцю людзей. кіраваць грамадзствам.
Той жа Лукашенко што робіць? Менавіта ў сваіх выступах і маніпулюе беларусамі.
Мог бы і растрэльваць і растлумачыць неабходнасьць.
Але ёсьць іншы чынннік- Europe ! А дыктатару такі хочаца быць эўрапейцам. Узбекістан — не Эўропа, Азія.
**Drakakhrust**: Вітаўту
Вера ў міт пра ўсясільнасьць мэдыяў ці піяру — тыповая ілюзія палітычных няздараў. І Вы сваім надзвычай зьмястоўным камэнтам гэтую ілюзорнасьць бліскуча прадэманстравалі. Ну а здарыўся б цуд і далі Вам тыя

самыя мэдыі — а ў Вас ёсьць што празь іх сказаць? Што «п’яных дурных беларусаў большасьць»? Ці Вы думаеце, што ў пражэктары мэдыяў здолелі б схаваць ад Вашых суайчыньнікаў сваё да іх стаўленьне? Вы дзякуй скажыце, што пры такіх Вашых «дэмакратычных» пачуцьцях Вас да тых мэдыяў не падпускаюць. Цяпер беларусам такі звышчалавек, як Вы, проста абыякавы, паслухаўшы Вашыя шчыраваньні, яны Вас ўзьненавідзелі б.

**ВІТАЎТ, Менск**: Drakakhrustu.

Паважаны спадар!

Вы мяне здзіўляеце. Вы ж медыйны воўк. Ці Палітык заўсёды гаворыць тоя што думае? Вядомы французскі культаролаг месье Гі напісаў кнігу, дзе растлумачыў чаму палітык мусіць падманываць народ і што народ ( электарат) жадае ( як жанчына) быць падманутым.

PR — гэта і ёсьць мастацтва падманываць нібыта гаворачы праўду. Я здіўляюся вашай прымітыўнасьці ( але не веру ў яе), калі вы робіце дубовую выснову з майго тэксту.

Я ж спадзяюся на адукаванага чалавека.

Чым займаецца Лукашэнка ? Падманам. А што гаварыў Геббельс? Чым большая хлусня- тым больш веры.

Адносна беларусаў. Гэта не я даў характэрыстыку беларусам- круглы кубік.

Гэта на сайце Радые даюцца сацыялаг. Звесткі, якія яшчэ раз даюць аргументы гэтаму.

Гэта не мая інфармацыя аб пьяных беларусах.

Нават Аніпадыстаў амаль усе вершы для песняў піша пра пьянку і г.д.

Вам та чаго праўда вочы коле ? Вы па за межамі....

А я асабіста, на прыватнай тэлевізіі (лакальнай) зрабіў некалькі эксперыментаў- усё працуе.

МНЕ ЁСЬЦЬ ШТО СКАЗАЦЬ і Я ЎЗЯЎ БЫ ЎЛАДУ.

**zmicer-licvin, Mensk**: Вітаут мае рацыю, а Вы Юры, сваім цынізмам і мнімасьцю апошнім часам прабачце робіціся прымітыуным, лука не такі разумны як Вы думаеце, але і не даацэньваць яго ня трэба...

**Drakakhrust**: to Вітаўту

За камплімэнт дзякуй. Але што Вы мяне пераконваеце? Вы са спасылкамі на Гі, Анемпадыстава ці каго іншага пераканайце не сваіх аднадумцаў, а тых самых «п'яных і дурных», і я здыму перад Вамі капялюш. Адзінае, што, як «стары мэдыйны воўк», магу сьціпла заўважыць, што публічныя характарыстыкі сваёй патэнцыйнай аўдыторыі як «п'янай і дурной» — гэта даведка, выпісаная самому сабе ў прафэсійнай непрыдатнасьці да палітыкі. Ні Лукашэнку, ні Гёбэльсу, ніякаму іншаму сапраўднаму палітыку і ў галаву б не прыйшло пісаць нешта падобнае нават у прыватным дзёньніку. Профі ніколі ня скардзіцца на матэрыял, зь якім працуе.
І чаго Вы так адразу — БТ Вам падавай. Можа на больш сьціплых пляцоўках патрэніравацца — ёсьць жа інтэрнэт-выданьні, ЖЖ ізноў жа. Вось у Фядуты, напрыклад, 1066 фрэндаў, а ў Вас колькі?
To Zmicer-licvin
Ну, цынізм дэманструе хутчэй паважаны Вітаўт, распавядаючы, як пры дапамозе сучасных PR тэхналёгіяў будзе «ўпарываць» свае ўлюбёныя ідэі пьяным і дурным беларусам. Я яго, дарэчы, не асуджаю, проста заўважыў, што чалавеку, які займаецца палітыкай, шкодна дэманстраваць гэтую якасьць так яўна. А наконт маёй «мнімасьці» (па-беларуску, відаць, уяўнасьці), то нават і спытаць баюся, што гэта такое, відаць, надзвычай брыдкае збачэнства. Каюся, калі зграшыў.
Што да разумовых здольнасьцяў Лукашэнкі, то я гатовы дапусьціць, што ён клінічны ідыёт, але неяк 15 гадоў ва ўладзе трымаецца, не дапускаючы да яе такіх волатаў інтэлекту, як, напрыклад, Вы ці спадар Вітаўт. Можа, такі глыбокі розум у палітыцы толькі перашкаджае?

## Хто меў рацыю?

**Пэўным аргумэнтам у спрэчцы пра падзеі красавіка 2009 году ў Кішынэве стала брутальнае здушэньне беларускай Плошчы 19 сьнежня 2010**

**году. Дарэчы, калі пачалі ламаць дзьверы ў Доме ўраду ў Менску, маёй першай думкай было, што паўтараецца кішынэўскі сцэнар, што Лукашэнка здасьць будынак, каб выйграць уладу. Паводле Пампіду, ён аддаў перавагу таму, каб «адразу пайсьці на самыя бязьлітасныя і самыя рашучыя рэпрэсіі» — былі да таго і схільнасьць, і сродкі.**

**А грамадзтва тыя рэпрэсіі праглынула. Таксама варта дадаць, што праз некалькі месяцаў пасьля штурму дэманстрантамі прэзыдэнтуры і парлямэнту Ўладзімер Варонін страціў уладу праз датэрміновыя выбары, праз год пасьля парыскага траўня 1968 году дэ Голь сышоў, прайграўшы рэфэрэндум. Аднак дзякуючы паводзінам Вароніна ў красавіку 2009 году Малдова застаецца дэмакратычнай краінай і лідэр камуністаў застаецца ключавым гульцом на палітычнай сцэне, ён можа яшчэ і вярнуцца да ўлады, прычым вярнуцца легітымна. А Пампіду, часткова і дзякуючы сваім паводзінам у траўні 1968 году, стаў наступнікам дэ Голя ў Элізэйскім палацы. А Лукашэнка сваімі дзеяньнямі ў сьнежні 2010 году загнаў сябе ў пастку: шлях Вароніна і Пампіду для яго закрыты.**

**17.12.2009**

## Неаксамітная рэвалюцыя

Усе рэвалюцыі 1989 году ва Ўсходняй Эўропе былі мірнымі і бяскроўнымі. Усе, акрамя адной — румынскай. У Румыніі скіданьне дыктатара суп-

раваджалася сапраўднай, хоць і хуткаплыннай, грамадзянскай вайной з морам крыві.

Але яшчэ адно, і вельмі істотнае, адрозьненьне тычылася «мэханізму» румынскай рэвалюцыі. І гэты сцэнар важны для асэнсаваньня таго, што і як можа здарыцца.

У сэнсе менавіта мэханізму рэвалюцыі супрацьлегласьцю скіданьню Чаўшэску быў прыход да ўлады «Салідарнасьці» ў Польшчы. У 1980 годзе зьявілася выразная, акрэсьленая апазыцыйная сіла, якая вяла змаганьне, якая за 9 гадоў зазнала спады і ўздымы, але ня страчвала сваёй акрэсьленасьці і нарэшце як такая масавая арганізаваная сіла і перамагла.

На піку папулярнасьці чальцом «Салідарнасьці» быў кожны чацьвёрты паляк. У іншых краінах апазыцыя да рэвалюцыі ня мела такой моцы, як «Салідарнасьць», але ўсё ж існавала і ў момант «Х» рабілася цэнтрам кандэнсацыі, кіраўніком пратэсту, сілай, што вяла палітычнае змаганьне, якое ня зводзіцца да наўпроставага сілавога сутыкненьня. Таму, дарэчы, сутыкненьняў і не было, уладзе, прынамсі памяркоўнаму крылу ў ёй, было з кім дамаўляцца. І невыпадкова ў Польшчы, там, дзе апазыцыйная сіла была найбольш моцная і арганізаваная, пераход адбыўся ці не найбольш гладка — праз знакаміты «круглы стол».

У Румыніі нічога падобнага не было нават у зародку. А калі ўзьнікала, то бязьлітасна вынішчалася — іншадумцы адпраўляліся ці за мяжу, ці ў турму, ці на той сьвет. У Румыніі не было нічога падобнага ня тое што да «Салідарнасьці», але нават да чэхаславацкай «Хартыі-77» — суцэльная пустыня. І у выніку сыстэма, фігуральна кажучы,

выбухнула ва ўсіх пунктах. Усе каналы выхаду пары былі абачліва зачыненыя. І таму пара вырвалася паўсюль.

Лякальныя хваляваньні ў правінцыйным горадзе Тымішаара, як лясны пажар, распаўсюдзіліся на ўсю краіну. І хто ж кіраваў гэтым выбухам народнай ярасьці? А ніхто па сутнасьці. Не, кіраўнікі знайшліся, але іх паводзіны дакладна адпавядалі крыху цынічнай формуле аднаго зь лідэраў француской рэвалюцыі 1848 году Аляксандра Ледру-Ралена, які, убачыўшы рэвалюцыйны натоўп, сказаў сябрам: «Я павінен ісьці зь імі, я ж іх правадыр».

### «Намэнклятура» на чале рэвалюцыі

Стыхія несла гэтых правадыроў, а не яны вялі яе. Ну і каго ж вынесла наверх? Зразумела каго. Самых спрытных, самых славалюбівых прадстаўнікоў таго самага рэжыму, на які была скіраваная ярасьць масаў. Контрэліта была вынішчаная, таму ў момант рэвалюцыйнага выбуху яна сфармавалася з таго, з чаго змагла сфармавацца — з уладнай эліты.

Дарэчы, ня выключана, што імклівы суд і неадкладны расстрэл дыктатара Чаўшэску тлумачыўся ня столькі маштабамі ягоных злачынстваў (хаця маштаб быў сапраўды бязьмежны), колькі перасьцярогай, што на нармальным судовым працэсе ён распавядзе шмат цікавага аб правадырах рэвалюцыі — сваіх учорашніх паплечніках і падначаленых. Ну а мёртвыя маўчаць.

З досьведу румынскай рэвалюцыі вынікае шмат урокаў. Ня тое, што запаяны з усіх бакоў кацёл абавязкова выбухне, але часам і выбухае. І мала тады нікому не падаецца. І запайшчыкам ці ня ў першую чаргу. Лёс Чаўшэску не напаткаў нікога зь

ягоных калегаў — кіраўнікоў іншых камуністычных краінаў.

З другога боку, такі сцэнар пераходу — ці ня самы кепскі з магчымых. Рэвалюцыя, калі надыходзіць яе час, адбываецца так ці інакш, нават без правадыроў і выразнай апазыцыі. А вось тое, што адбываецца потым, адбываецца так ці інакш у залежнасьці ад таго, з чым грамадзтва і яго эліты прыйшлі да рэвалюцыі. Калі з такім скарбам, як у Румыніі, то атрымліваецца ня надта, краіна хоць і ўступіла і ў НАТО, і ў Эўразьвяз, але застаецца ці ня самай праблемнай і беднай краінай рэгіёну. Рэха крывавай рэвалюцыі ня сьціхла дагэтуль.

Сваёй краіне такога лёсу не пажадаеш. Але і ўлада, якая запайвае кацёл, і стыхія, якая можа разарваць яго, наўрад ці палічацца з маімі пажаданьнямі.

## Хто меў рацыю?

**У Беларусі эканамічныя цяжкасьці 2009 і 2011 гадоў не спарадзілі колькі-небудзь значных грамадзянскіх пратэстаў. Затое эфэкт выбуху «запаянага катла» давялося назіраць у апошнія гады падчас «арабскай вясны», якая ў Лібіі і Сірыі прыняла форму поўнамаштабнай грамадзянскай вайны. Пострэвалюцыйнае разьвіцьцё гэтых краінаў прымушае прыгадаць горкія словы сучасьніка Францускай рэвалюцыі Жазэфа дэ Мэстра: «Урок уладарам — злоўжываньні спараджаюць рэвалюцыі. Урок народам — рэвалюцыі горшыя за любыя злоўжываньні». Прынцып можа і не ўнівэрсальны, але рэвалюцыі ў арабскім сьвеце яго пакуль пацьвярджаюць.**

**07.02.2011**

## Час, які баіцца пірамід

«Усё баіцца часу, але нават час баіцца пірамід» — кажа эгіпэцкая прымаўка. І сапраўды, піраміды — сымбаль нязьменнасьці самай старажытнай, разам з кітайскай, цывілізацыі на Зямлі. Але і там, здаецца, нешта мяняецца. Але ці мяняецца насамрэч?

Ня буду хлусіць, што, маўляў, я правёў тыднёвы адпачынак у Эгіпце ў разгар рэвалюцыі і ўсё там зразумеў. Не, не зразумеў, але хіба што больш выразна ўбачыў сёе-тое наконт Беларусі ў эгіпэцкім люстэрку. Гледзячы на чужое, лепш спазнаеш сваё, балазе сваю рэвалюцыю аддзяляе ад эгіпэцкай адзін месяц.

### Рэвалюцыя не паўсюль

Гэты кантраст кідаецца ў вочы незаангажаванаму назіральніку падчас усіх рэвалюцыяў: на галоўным пляцы, у сталіцы вiруюць жарсьці, ліецца кроў, а на суседняй вуліцы, не кажучы ўжо пра правінцыю і курортную зону — цішыня, працуюць крамы і кавярні, маці гуляюць з дзецьмі. Ніякай рэвалюцыі.

Вось і я, адпачываючы ў Хургадзе, адчуваў подых рэвалюцыі толькі ўскосна: у інтэрнэце, які быў адключаны амаль да апошняга дня, у скасаванай зь меркаваньняў бясьпекі экскурсіі ды ў вайсковым патрулі з расчахлёным кулямётам калі офіса банку. Нават пацьвярджэньня інфармацыі, што ў Хургадзе, як і ў іншых гарадах краіны, пачало ствараецца народнае апалчэньне для барацьбы са злодзеямі, таксама на свае вочы ня бачыў.

Хаця можа проста пашанцавала (ці не пашанцавала — у сэнсе ўражаньняў). Бо рэвалюцыя — як лясны пажар, пачалося ўсё ў сталіцы, у Каіры, але потым хваля перакінулася ў Александрыю, Суэц, Луксор, ахапіўшы фактычна ўсе буйныя гарады. І няма гарантыяў, што заўтра яна ня дойдзе і да курортнай зоны. Стыхія.

## І ўсё ж паўсюль

І ў размовах зь людзьмі яна сапраўды адчуваецца паўсюль. На ветравой шыбіне таксі, якое везла мяне да гатэля — партрэт Мубарака. Мудры гід Мухамад, які гаворыць на пяці мовах, кажа: «Ды не, Мубарак у прынцыпе быў някепскі, але трэба яму сыходзіць, бо гэтага хоча народ. Кепска, зразумела, што людзей забіваюць, што вось вы, турысты, бяжыце ад нас, але цяжарнасьць і роды дзіцяці — гэта таксама цяжка. Але потым добра». А гандляр крамкі, дзе я купляў кнігу пра Эгіпэт, на правакацыйнае пытаньне, чаму ж ён не на рэвалюцыі супраць Мубарака ці за, адказаў: «Ды яны вар'яты. Дубінкай атрымаю, свой бізнэс страчу — хіба я дурань».

Рэвалюцыя — гэта ня толькі натоўп на плошчы і бойкі з паліцыяй, гэта і сутыкненьне, раўнадзейная гэтых самых розных, часам супрацьлеглых меркаваньняў.

## 7 хвілінаў і 11 дзён

Як з гонарам казаў Лукашэнка, 19 сьнежня АМАПу хапіла 7 хвілінаў, каб разагнаць рэвалюцыйны натоўп (насамрэч разганялі ці ня ў дзесяць разоў даўжэй). На другі дзень на плошчу Незалежнасьці прыйшло пару дзясяткаў чалавек.

У Каіры пасьля першага дня маніфэстацый былі ня толькі зьбітыя, арыштаваныя і параненыя, але нават і забітыя. Але на другі дзень і далей на плошчы Каіру, а потым і іншых гарадоў Эгіпту ўпарта выходзілі дзясяткі і сотні тысяч людзей.

Відаць, не адкрыю таямніцу, калі скажу, што аўтарытарныя дэспаты — не будысты ні ў Беларусі, ні ў Эгіпце, ні ў Тунісе, ні дзе яшчэ. Ужыць сілу для захаваньня сваёй улады за імі, паводле выразу Лукашэнкі, «не заржавее».

Але ці заўсёды гэта атрымліваецца і ці заўсёды дапамагае? У Эгіпце, вось, ня надта. Бо калі народ гатовы несьці ахвяры, калі яго не спыняюць дубінкі і нават кулі, то... і не спыняюць. І гэтую рашучасьць адчувае і супрацьлеглы бок.

І вось міністар абароны, якога называлі «пудзелем Мубарака», заяўляе, што войска будзе ахоўваць банкі і іншыя аб'екты грамадзянскай інфраструктуры, але ня будзе ўмешвацца ў палітычны канфлікт ні на чыім баку.

Зразумела, што ў іншай сытуацыі такога «нэўтрала» Мубарак зьняў бы з пасады ўмомант, а то і пагоны сарваў бы і пасадзіў у турму. Але сытуацыя ня іншая, а тая самая, у якой Мубараку даводзіцца радавацца хаця б нэўтральнасьці свайго «пудзеля».

Сказанае — зусім не ў папрок людзям, якія выйшлі на плошчу ў Менску 19 сьнежня. Гэта проста факт: аўтарытарная ўлада саступае, або нават і прайграе, пачынае крышыцца і сыпацца, толькі сутыкнуўшыся зь велізарнай сілай — сілай духу і сілай кулакоў. А не сутыкнуўшыся... ну і не саступае.

## Натоўп на натоўп

Асаблівасьцю Эгіпту, адрозьненьнем тамтэйшых падзеяў і ад беларускіх, і наагул ад усходнеэўрапейскіх, і ад нядаўніх туніскіх стала тое, што ўлада празь некалькі дзён пасьля пачатку хваляваньняў змабілізавала на вуліцу сваіх прыхільнікаў. І многія эксцэсы апошніх дзён, у прыватнасьці, зьбіцьцё замежных журналістаў — на сумленьні гэтых праўрадавых дэманстрацыяў.

З пункту гледжаньня ўлады крок даволі разумны. Гэта і відавочная дэманстрацыя таго, што ўлада ўсё ж не згубіла народнай падтрымкі, і магчымасьць сьпісаць брутальнасьць сутыкненьняў на народную стыхію, і нават вобраз улады, як адзінага гаранта стабільнасьці і ўратавальніка ад грамадзянскай вайны.

Але ёсьць і відавочныя хібы гэтага рашэньня. Аўтарытарная ўлада грунтуецца не на актыўнай мабілізацыі, а на пасіўнай падтрымцы маўклівай большасьці. Людзі могуць і падтрымліваць уладу як найменшае зло, але зусім ня схільныя ахвяраваць сабой за яе. Да таго ж заклік да наўпроставай народнай падтрымкі разбурае створаную ўладай карціну сьвету — калі супраць «купкі адмарозкаў» не дапамагае ні паліцыя, ні АМАП, дык можа з уладай нешта ня так, а не з «адмарозкамі»?

## Прычыны і падставы

Тут прыгадваецца анэкдот пра размову прэм’ера нейкай краіны зь міністрам эканомікі. Ты разумееш, што адбываецца ў нашай эканоміцы? — Я зараз табе растлумачу. — Ды не, растлумачыць я і сам магу.

Чаму эгіпцяне, якія 30 гадоў цярпелі аўтарытарную ўладу Мубарака, а раней Садата, а раней Насэра, зь іх шматвяковой традыцыяй падпарадкаваньня ўладзе фараонаў, раптам паўсталі?

Тлумачэньняў не бракуе — ад кансьпіралягічных вэрсіяў аб «руках» Вашынгтону, Масквы, Ізраілю, ісламісцкага інтэрнацыяналу, да развагаў наконт эканамічных цяжкасьцяў, высокага ўзроўню беспрацоўя і карупцыі. Вось і ў Аляксандра Лукашэнкі ёсьць свая вэрсія, маўляў, галадуха настала ў Эгіпце. Словам, «я табе зараз растлумачу».

З гэтымі вэрсіямі можна спрачацца, ніякай галадухі насамрэч у Эгіпце не назіраецца, ВУП вось за 2010 год вырас на 6%. Краіна, безумоўна, бедная, але ня самая бедная ў рэгіёне. Яна і ўсе 30 гадоў кіраваньня Мубарака не была багатай і квітнеючай. Ну а кансьпіралёгія — заўсёды сумнеўнае тлумачэньне, тым больш, што ў выпадку Эгіпту зусім не зразумела, каму з замежных гульцоў патрэбныя забурэньні і зьмены ў краіне пірамідаў.

Гэта я да таго, што пэўнага, уцямнага адказу пра прычыны рэвалюцыі няма. А іх і ніколі насамрэч няма. Ёсьць падгонка рацыянальных аргумэнтаў пад факт, які ўжо адбыўся — калі народ паўстаў, то пэўна былі важкія падставы. А паколькі падставы для незадаволенасьці ёсьць у любой краіне, то аргумэнты і знаходзяцца.

Калі трымацца фактаў, то відаць важнасьць ролі прыкладу. Арабскія краіны — розныя, у кожнай свае праблемы, адрозьніваюцца і палітычныя сыстэмы, і стан эканомік. Але пасьля туніскай рэвалюцыі чамусьці адначасна загарэліся і Эгіпэт, і Емэн, і Ярданія. Такія «вёсны народаў», каскады

рэвалюцый назіраліся ў Эўропе, цяпер назіраюцца ў Афрыцы і Азіі.

Які іх мэханізм? Ну, відаць, назапашваецца пасіянарная энэргія, стома ад стабільнасьці, перапаўняецца «чара цярпеньня». Чаму цяпер? Як казалі раней, на долю кожнага пакаленьня выпадае свая вайна. Можа і з рэвалюцыямі тое самае?

## Чым сэрца супакоіцца?

А гэта — яшчэ адна загадка, адказу на якую ня ведае ніхто. У сувязі зь менскай плошчай 19 сьнежня шмат казалася пра тое, што ў апазыцыі не было пляну, ці плян быў, але не такі, што плян быў насамрэч уладаў, а дурная апазыцыя на яго павялася. З апазыцыяй і яе плянамі атрымалася магчыма і сапраўды ня надта, але вось у эгіпэцкіх рэвалюцыянэраў ніякага пляну не было наагул — выйсьці ды пратэставаць, вось і ўвесь плян. І ўсе выбітныя дзеячы апазыцыі насамрэч ідуць за падзеямі, за натоўпам, а не вядуць яго.

Што спараджае вялікія перасьцярогі. У найноўшай гісторыі першай рэвалюцыяй такога кшталту ў ісламскім сьвеце была іранская 1979 году. І ўсё дарэчы было гэтак жа прыгожа: рэвалюцыйны натоўп, моладзь з палымянымі вачыма, паліцыя, якая разьбягаецца, дэспат, які ўцякае з краіны. Потым стала менш прыгожа: эканамічныя рэформы і палітыка вэстэрнізацыі, якую вёў дэспат, былі згорнутыя, усталявался сярэднявечная тэакратыя. Па волі рэвалюцыйнага народу, заўважым. А адкуль наагул вынікае, што рэвалюцыя — гэта больш свабоды і ўжо тым больш бліжэй да Захаду? Адно з другога не вынікае.

Шмат аналітыкаў цяпер, здаецца, угаворваюць самі сябе, маўляў, у Эгіпце такога ня будзе, маўляў, не такія ўжо эгіпцяне і рэлігійныя. Дык іранцы да 1979 году таксама былі ня надта. Але радасныя канстатацыі, што ўдзельнікі рэвалюцыйных падзеяў не належаць ні да якіх партыяў, перасьцярогі хутчэй умацоўваюць. Яны не належаць, але самая ўплывовая партыя краіны — «Браты-мусульмане». Мубарак загнаў яе ў падпольле, але «браты» маюць разгалінаваную структуру, сродкі, міжнародныя сувязі. Яны нават асабліва ня ўдзельнічаюць у пратэстах, чакаючы свайго часу.

## Пра рэвалюцыю і мову

«Браты-мусульмане» прапаноўваюць саюз куміру каірскай інтэлігенцыі Мухамаду Эль-Барадэі, небеспадстаўна спадзеючыся, што той акажацца ў найлепшым для сябе выпадку пераходнай фігурай.

Бо хаця рэвалюцыя была калі не арганізаваная, то ініцыяваная маладымі інтэлектуаламі, яе ўдарная сіла, людзі на плошчах — гэта пераважна гарадзкія нізы і беспрацоўная моладзь. Як сказаў мне прыгаданы гід: «А што Барадэі? Паўжыцьця пражыў у Амэрыцы, жонка амэрыканка, выступаў тут, скончыў словамі — ready (анг. гатовы). Дык яго паўкраіны не зразумела».

А ў ісламістаў з мовай усё ў парадку.

Таму, магчыма, цяпер увесь сьвет прыглядаецца да прызначанага Мубаракам віцэ-прэзыдэнтам шэфа спэцслужбы Амара Сулеймана. Сьвецкі чалавек у пагонах прынамсі для Захаду лепшы, чым эгіпэцкае выданьне Хамэйні і Ахмадзінэжада.

Бо ісламісцкі сцэнар будзе мець незьлічоныя наступствы: Эгіпэт мала таго, што самая густанаселеная краіна арабскага сьвету, гэта заканадаўца інтэлектуальнай, духоўнай моды для гэтага сьвету. Як Насэр стаў у пэўным сэнсе бацькам арабскага нацыяналізму, так і пераможца цяперашняй рэвалюцыі можа стаць бацькам... ну паглядзім чаго.

Справа ў тым, што перашкодзіць такому разьвіцьцю падзеяў даволі складана. Банальная ісьціна, што народ сам абірае свой лёс, знаходзіць практычнае ўвасабленьне на вуліцах эгіпэцкіх гарадоў.

Час, можа, і сапраўды баіцца пірамід. А ўсё астатняе баіцца часу. Які немагчыма зрушыць, калі ён здаецца нерухомым і нязьменным, як піраміды, і які немагчыма спыніць, калі ён пачынае свой імклівы бег у невядомую будучыню.

## Хто меў рацыю?

**Прагнозы пра тое, што моладзь, якая білася з паліцыяй Мубарака на плошчы Тахрыр, брукуе шлях да ўлады «Братам-мусульманам», цалкам спраўдзіліся. Менавіта прадстаўнік гэтай партыі стаў у 2012 годзе прэзыдэнтам краіны. Ён здолеў нэўтралізаваць, магчыма на час, вайскоўцаў і сам спрабаваў падаўляць вулічныя пратэсты людзей, якія ня хацелі, каб краіна стала другім выданьнем Ірану. Парадаксальная рэч: у такіх краінах, як Эгіпэт, Турэччына, абсалютна недэмакратычны мэханізм уплыву вайскоўцаў на палітычны працэс зьяўляецца пэўнай гарантыяй захаваньня лібэральных парадкаў. Эгіпэцкая гісторыя зрабіла кола двойчы: ў 2013 годзе вайскоўцы пры падтрымцы Плошчы адхілілі прэзыдэнта-**

**ісламіста Мурсі ад ўлады, а ў 2014 годзе лідэр перавароту фэльдмаршал Абдэль Фатах ас-Сісі быў абраны кіраўніком дзяржавы.**

**21.02.2011**

## Ці абароніць войска Лукашэнку?

Аляксандар Лукашэнка не выключае прыцягненьня Ўзброеных Сілаў у выключных выпадках для навядзеньня канстытуцыйнага парадку.

Аб гэтым кіраўнік дзяржавы заявіў, выступаючы перад вайскоўцамі падчас наведаньня другой інжынэрнай брыгады Ўзброеных сіл РБ.

Заява прэзыдэнта пра тое, што ўзброеныя сілы могуць быць выкарыстаныя для абароны ад перавароту — ня толькі спроба чарговы раз застрашыць насельніцтва і сваіх апанэнтаў, маўляў, мала не падасца, за мной не заржавее, буду абараняць сваю ўладу ўсімі сродкамі. Гэта хутчэй спроба супакоіць уласны страх ад відовішча рэвалюцыйнага пажару ў арабскім сьвеце. Як і ў сытуацыі пасьля скіданьня Бакіева, Лукашэнка спрабуе ўпэўніць усіх, і найперш самога сябе, што зь ім такога ня здарыцца, што ягоная воля, рашучасьць і гатовасьць абараняць уладу любымі сродкамі дапамогуць яму здушыць любыя народныя выступы.

Ня будзем нават засяроджваць увагу на тым, што Канстытуцыя зусім не прадугледжвае выкарыстаньня рэгулярнага войска ва ўнутрыпалітычнай барацьбе, Лукашэнка мяркуе, што ён — гэта і Канстытуцыя, і наагул беларуская дзяржава як такая.

Але калі казаць у палітычнай плоскасьці, то варта заўважыць, што арабскім дэспатам, якіх цяперашняя хваля рэвалюцыяў зьмятае, як кеглі, ня надта тое войска дапамагло. У Тунісе войска, якое тамтэйшы прэзыдэнт трымаў на галодным пайку у адрозьненьне ад сілаў бясьпекі, перайшло на бок паўстаньня, чым і забясьпечыла яго посьпех.

Лукашэнка спаслаўся на Эгіпэт — паводле яго, там «ад праліцьця крыві выратавала войска — спакойнымі дзеяньнямі». Гэтыя спакойныя дзеяньні палягалі ў тым, што ў першыя ж дні рэвалюцыі тамтэйшы міністар абароны заявіў, што войска ня будзе ўмешвацца ў палітычныя забурэньні, гэта значыць адмовіўся страляць у народ.

Таго міністра раней называлі «пудзелем Мубарака», яго вернасьць прэзыдэнту была ня меншай, чым вернасьць ягонага беларускага калегі спадара Жадобіна. Але гэта да таго. А вось як пачалося, дык і «пудзель» аказаўся самастойнай постацьцю, а цяпер зьбегам абставінаў і наагул часовым кіраўніком дзяржавы.

Лібійскі «леў пустыні» Кадафі выкарыстоўваў супраць народу нават ракеты, 200 забітых за адзін дзень. І дапамагае гэта яму? Таксама ня надта.

Так што пагрозы Лукашэнкі насамрэч маюць мала сэнсу менавіта ў сьвятле цяперашніх падзеяў у арабскім сьвеце. Калі падзеі ідуць шляхам 19 сьнежня — дык хапае і АМАПу. А калі такім, як у Тунісе ці Эгіпце, то не хапае нічога — войска ці не выконвае крыважэрны загад, ці аказваецца ня здольным спыніць хвалю народнага гневу, якая змывае дыктатара ў нябыт.

## Хто меў рацыю?

**Варта сказаць, што Сірыя зьяўляецца прыкладам трэцяга сцэнару: нават войска ня здольнае перамагчы паўстанцаў, але ягоная вернасьць і гатовасьць абараняць уладара прадухіляе ягоную паразу. Аднак трэба адзначыць, што сірыйская сытуацыя адрозьніваецца ад многіх іншых тым, што там мае месца ня толькі і нават ня столькі супрацьстаяньне паўстанцы-рэжым, колькі барацьба розных рэлігійна-этнічных груп. У гэтым сэнсе Беларусь — практычна монаэтнічная краіна, а рэлігійныя падзелы ў ёй не набываюць палітычнага вымярэньня. Таму падаецца, што беларуская дылема ўжываньня войска дзеля абароны рэжыму зьяўляецца менавіта такой, як апісана ў блогу.**

**22.08.2011**

## Рэха Трыпалі

Кадафі паў. Нарэшце. Калі напрыканцы сакавіка апэрацыя заходніх краін у Лібіі толькі пачалася, многія меркавалі, што справа вырашыцца за месяц. Спатрэбілася паўгода. На некаторых этапах кампаніі здавалася, што яна зайшла ў тупік, што навідавоку — палітычны пат. Але мэта дасягнутая.

Гледзячы па ўсім, ад пачатку была моцна перабольшаная сіла паўстанцаў. Лічылася, што справа толькі ў авіяцыі Кадафі, якая не давала ім падняць галаву. Аказалася, што ўсё больш складана, нават у чыста ваенным пляне. І ў неваенным таксама.

Ісламісты, у тым ліку і вэтэраны вайны з амэрыканцамі ў Афганістане, у лібійскім супраціве былі пэрсанажамі не галоўнымі, але і не апошнімі.

З пэўнага гледзішча вайна стала сьведчаньнем ваеннай дэградацыі Эўропы, упершыню за шмат гадоў амэрыканцы сьвядома былі на другіх ролях. Можа і непаліткарэктнае параўнаньне, але 60 гадоў таму Ромэль з дзьвюма дывізіямі плюс дапаможныя часткі ганяў па ўсім афрыканскім узьбярэжжы Міжземнамор'я магутную брытанскую армію, а мясцовыя сілы — папярэднікі войска Кадафі — былі для яго наагул нечым кшталту цяжкасьцяў ляндшафту. А тут сілы грандаў эўрапейскай палітыкі з дапамогай амэрыканцаў 6 месяцаў не маглі даць рады нейкаму афрыканскаму бандыту.

Зразумела, можна сказаць, што гэта была гэткая паўвайна, НАТО так і не перайшла да поўнамаштабнай наземнай апэрацыі. Гэта выклікала перасьцярогі падчас кампаніі, была рызыка, што Захад можа атрымаць усе хібы паразы ў вайне, ведучы яе напаўсілы.

Хаця цяпер, пасьля перамогі, што каштоўна само па сабе, ён атрымлівае хаця б тую перавагу, што ня трэба будзе браць на сябе цяжар акупацыі і плаціць ня толькі грашыма, але і кроўю.

Ужо якая там дэмакратыя ўсталюецца ў Лібіі — гэта вялікае пытаньне, гледзячы па досьведзе Эгіпту і Тунісу — своеасаблівая, скажам так. Але гэта пытаньне заўтрашняга дня.

А цяпер навідавоку гармонія паміж высакароднымі мэтамі і рэчаіснасьцю: узьнялі зброю для абароны мірнага насельніцтва — атрымалі скіданьне тыраніі.

І гэтае натхненьне перамогі можа спарадзіць даволі гучнае міжнароднае рэха. Досьвед Эгіпту і Тунісу навучыў аўтарытарных уладароў, што за ўладу трэба трымацца да апошняга. Але досьвед Лібіі — таксама навука ім у тым сэнсе, што ў трыманьні трэба захоўваць пэўную памяркоўнасьць. Зь іншага боку, ня выключана, што лібійскі досьвед будзе проста паўтораны ў Сырыі. Калі гэта працуе, хаця і больш павольна, чым хацелася б, то чаму б і не?

Гэтае лібійскае рэха абяцае шмат выпрабаваньняў і афіцыйнаму Менску. Па-першае, псыхалягічна — быў Кадафі і няма яго. Па-другое — тое, што апошніх паўгода вайна ў Лібіі адцягвала ўвагу Эўропы ад падзеяў у іншых рэгіёнах, напрыклад, у Беларусі. А цяпер ня будзе адцягваць. Ну і патрэцяе — імпэт перамогі. Тут вельмі важны той чыньнік, што ў лібійскай кампаніі ключавую ролю адыгрывала менавіта Эўропа.

Ня ў тым справа, што зараз пачнуць бамбаваць Лукашэнку, як бамбавалі Кадафі. Не пачнуць. Але ціск можа ўзмацніцца, і хутчэй за ўсё так і будзе. І пытаньне пра больш жорсткія эканамічныя санкцыі можа вырашацца пасьля падзеньня Трыпалі значна лягчэй, чым вырашалася да гэтага.

Зь нейкага гледзішча ў канфлікце ЭЗ з афіцыйным Менскам цяпер таксама назіраецца тупік, у нечым падобны на той, які назіраўся (ці здаваўся) апошнія месяцы ў Лібіі. Пра тое, што палітвязьні ў Беларусі — гэта непрымальна, было сказана амаль адразу пасьля 19 сьнежня. Былі зробленыя адпаведныя крокі. Прайшло 8 месяцаў, а палітвязьні застаюцца ў турме. Як 6 месяцаў пасьля пачатку кампаніі ў Лібіі Муамар Кадафі заставаўся ва

ўладзе. Але ў рэшце рэшт высілкі прынесьлі плён. У гісторыі нічога не паўтараецца, але няцяжка здагадацца, якую выснову хутчэй за ўсё зробяць пераможцы Кадафі.

## Хто меў рацыю?

**Гвалтоўная сьмерць Кадафі і крах яго рэжыму выклікалі глыбокую занепакоенасьць Аляксандра Лукашэнкі. Праўда, зьвесткі, якія зьявіліся ў 2013 годзе, што некалькі соцень параненых паўстанцаў падчас грамадзянскай вайны ў Лібіі праходзілі лячэньне ў беларускіх шпіталях, сьведчаць пра тое, што Лукашэнка ў тым канфлікце ня складваў усе яйкі ў адзін кошык.**

## На шляху па пустыні рэальнасьці

### Пасьляслоўе

Жанр гэтай кнігі можна апісаць ангельскай граматычнай формай future in the past — будучыня ў мінулым. У яе ўвайшлі некалькі дзясяткаў блогаў, якія аўтар гэтых радкоў публікаваў на сайце Радыё Свабода на працягу апошніх сямі гадоў. У іх ня толькі водгук на бягучыя падзеі, але і спроба зазірнуць у будучыню, разгадаць загадкі як сэнсацыяў, гэтак і будзённасьці.

Прычым апошняе — бадай што важнейшае за першае. Хоць амаль пасьля кожнага тэксту я даю невялічкае пасьляслоўе «з вышыні» чэрвеня 2014 году, пішу, у чым патрапіў, а ў чым памыліўся. Калі памыляўся, дык, здаецца, тое і канстатую. Магчыма, уплывае базавая матэматычная адукацыя і дзесяцігадовыя акадэмічныя заняткі ёй: мяне вучылі, што факты і лёгіка — упартыя рэчы і што памылкі трэба прызнаваць. Нават калі ня хочацца.

Але палітычная аналітыка — гэта не таталізатар, дзе лепшы той, хто часьцей угадвае каня-пераможца. Усьведамленьне таго, што адбываецца, пошук сэнсаў далёка не заўсёды можна ацаніць у межах бінарнай лёгікі «так-не». Як казаў знакаміты фізік Нільс Бор, думку якога я цытую ў адным з блогаў,

«банальнай ісьціне супрацьстаіць хлусьня, глыбокай ісьціне супрацьстаіць таксама глыбокая ісьціна».

Мая папярэдняя кніга «Акцэнты свабоды» складалася з тэкстаў маіх перадачаў «Праскі акцэнт» — з дыялёгаў, у якіх я быў мадэратарам. У гэтай кнізе я гавару, так бы мовіць, ад першай асобы, але гэта таксама дыялёгі, амаль да кожнага тэксту дададзеныя камэнтары, якія наведнікі сайту пісалі пасьля зьяўленьня блогу на сайце Свабоды.

Цалкам даць усе камэнтары было немагчыма, але я імкнуўся адбіраць найбольш рэзкія, палемічныя, тыя, у якіх выказвалася рашучая нязгода са мной. Пагаджаўся я са сваімі шаноўнымі апанэнтамі, шчыра скажу, рэдка, але думцы, як і шпазе, каб не ржавела, патрэбны двубой. Ня ведаю, ці нараджаецца ў спрэчках ісьціна, але ў іх напэўна адлюстроўваецца дух, вобраз часу, прастора думак і жарсьцяў, якая будзе іншай у тых, хто прыйдзе пасьля нас.

Кніга інтэрвію з Рэймонам Аронам, знакамітым францускім палітолягам, публіцыстам, які 30 гадоў друкаваў свае калёнкі ў Figaro, мае назву «Ангажаваны глядач». Гэта тая роля, да якой я ў сваіх тэкстах імкнуўся і імкнуся.

Ангажаваны — ну зразумела ж, ангажаваны, я ведаю, хто для мяне свае, а хто — не, чыёй перамогі я хачу, а чыёй не, якога лёсу для Беларусі я хачу, а якога не. Дый наагул ці магчымая палітычная журналістыка «з пункту гледжаньня вечнасьці»?

Але і глядач, назіральнік, роля якога — аналіз, асэнсаваньне, рэфлексія у тым ліку і наконт сваёй пазыцыі. Прызначэньне люстэрка, мікраскопа, іншых дасьледных інструмэнтаў — у тым, каб бачыць сьвет такім, які ён ёсьць, а не такім, якім ён мусіць быць паводле перакананьня дасьледніка. Назіральнік, які здраджвае гэтаму свайму пакліканьню, робіцца проста яшчэ адным актарам, прычым, як правіла, актарам кепскім. І парадаксальным чынам выкананьне гэтага пакліканьня, пошук ісьціны, а не перамогі, урэшце спрыяе і перамозе.

Назвай гэтай кнігі стаў загаловак блогу, прысьвечанага прагнозу сусьветнага крызісу. Прагноз гэты, на жаль, цалкам спраўдзіўся. Дый наагул гады, пра якія ідзецца ў кнізе, сапраўды адпавядалі біблійнаму вызначэньню, дастаткова прыгадаць катастрофу выбараў 2010 году, эканамічны крызіс 2011 году, тэракт у менскім мэтро. Аднак зусім не відавочна, што на зьмену ім прыйдуць сем тоўстых гадоў, можа быць яны насамрэч — толькі частка доўгага шляху блуканьняў беларусаў па пустыні рэальнасьці. Але нарэшце ён прывядзе іх да беларускай Зямлі Абяцанай. Кніга, якую вы прачыталі, напісаная зь верай у гэта.

# Паказьнік асобаў

**А**



**Б**

**М**

**Ц**



**Ч**



**Ш**



**Э**



**Ю**

## Я

# Пра аўтара



Юры Дракахруст — журналіст. Нарадзіўся ў 1960 г. у Хабараўску (Расея). У 1964 г. з бацькамі пераехаў у Менск.

Скончыў мэханіка-матэматычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту (БДУ). У 1986 г. абараніў кандыдацкую дысэртацыю па альгебраічнай тэорыі лічбаў. У 1982—1991 гг. працаваў у Інстытуце матэматыкі Акадэміі навук Беларусі, у 1991—1994 гг. — у Інстытуце эканомікі Акадэміі навук Беларусі, у 1992—2000 гг. — у Незалежным інстытуце сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў.

Аўтар кнігі «Акцэнты Свабоды» ў сэрыі «Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе», артыкулаў пра палітычную сытуацыю ў Беларусі ў кнігах «Белоруссия и Россия: общества и государства» (Масква), «Будущее Беларуси. Взгляд независимых экспертов» (Санкт-Пецярбург), «Президентские выборы в Беларуси: от ограниченной демократии к неограниченному авторитаризму (1994–2006)» (Навасібірск) і «Independent Belarus: Domestic Determinants, Regional Dynamics, and

Implications for the West» (Harvard, Cambridge, MA).

У 1990—1991 гг. — сакратар управы Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». З 1991 г. працуе на Радыё Свабода, з 1996 г. — карэспандэнт Беларускай службы Радыё Свабода, з 2000 г. — супрацоўнік Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода ў Празе, аўтар перадачы «Праскі акцэнт».

Узнагароджаны мэдалём Акадэміі навук СССР за найлепшую дыплёмную працу (1982), ляўрэат прэміі Беларускай асацыяцыі журналістаў (1996).

## Summary

Collected in this book are commentaries by renowned Belarusian political analyst Yuri Drakakhrust which originally appeared on Radio Liberty's Belarus Service web site from 2008 to 2014. Among the topics Drakakhrust focuses on in the 63 pieces published here are the Ukraine/Russia conflict, Belarus between East and West, and the lessons of peace vs. revolution. Drakakhrust seeks not only to capture the essence of events as they occur but also to cast them in a broader light thereby illuminating the trends that they might foretell. Many of the pieces include the discussions they engendered on the Svaboda site as well as the author's concluding prognoses.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.

